В. І. Арцем'еў

# ПІСЬМЕННІКІ І КНІГІ




Магілёў
МДУ імя А. А. Куляшова
2015

УДК 821.161.3.09
ББК 83.3(4Беи)
А88

**Арцем'еў, В. І.**
А88 Пісьменнікі і кнігі / В. І. Арцем'еў. – Магілёў : МДУ імя А. А. Куляшова, 2015. – 244 с. : іл.
ISBN 978-985-568-089-6

У зборнік «Пісьменнікі і кнігі» Віктара Арцем'ева – беларускага пісьменніка і краязнаўцы, даследчыка жыцця і творчасці А. В. Пысіна – уключаны нататкі, успаміны і эсэ пра сустрэчы з многімі вядомымі пісьменнікамі, згадкі да юбілеяў паэтаў і празаікаў, артыкулы пра кнігі літаратараў-землякоў, тэксты арыгінальных аўтографаў беларускіх пісьменнікаў пра кнігу, лісты Аляксея Пысіна і Янкі Брыля, эсэ-фэнтазі «Магілёўская абласная бібліятэка ў пачатку XXII стагоддзя». Паэту Пысіну прысвечаны раздзел «У вянок Аляксею Пысіну».

Многія старонкі кнігі чытаюцца як летапіс літаратурнага жыцця магілёўскага краю, якія спрыяюць захаванню культурнай і гістарычнай спадчыны Бацькаўшчыны.

Кніга напісана яркай, жывой мовай, зразумелай шырокаму колу чытачоў, будзе карысна яна і вучням старэйшага ўзросту, студэнтам-філолагам і даследчыкам-літаратарам.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**



**ISBN 978-985-568-089-6**

# НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

## ШЧЫРАЯ ЎДЗЯЧНАСЦЬ ЯКУБУ КОЛАСУ



Жыла наша сям'я на шклоўскай зямлі, на хутары Чарэйцаў Круг. Было там шэсць сялянскіх хат. У нашай хаце штодня гучалі вершы – мае старэйшыя сёстры Надзея і Марыя вучыліся ў школе. Пазней даведаўся, што найбольш гэта былі вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа. Здаралася, іншы верш мне ўдавалася запомніць раней, чым сёстрам. Тады яны мяне праганялі на вуліцу. Не злаваўся, бо са мной новы цікавы верш:

*Уцякай, мароз-дзядуля!*
*Чуеш ты, стары, ці не?*
*На пагорках булі-гулі!*
*Песні чуюцца вясне...*

– гукаў я на ўсю моц свайго дзіцячага голасу. Неўзабаве збіралася чарада дзяцей, і мы разам дэкламавалі:

*А як слаўна каля хаткі*
*Нам пабегаць, пагуляць!*
*Ну, зіма, збірай манаткі,*
*Годзе нас табе ўшчуваць!*

Ад такіх слоў хацелася падскокваць, спяваць, што мы і рабілі. Да таго ж, верш так і называўся "Песня аб вясне". А праз год-два веснавую песню зноў сустрэў я ў школьнай "Чытанцы". Тады і даведаўся, што "Песню аб вясне" напісаў паэт Якуб Колас. Убачыў і запомніў яго партрэт.

Цікава, што і першая кніжка, якую я сам прачытаў, быў невялікі ілюстраваны зборнік вершаў Якуба Коласа. А "Міхасёвы прыгоды"

вучыў я “на памяць”, як гаварылі ў той час. Не думаў, не гадаў, што ў кастычніку далёкага 2007 года сустрэну героя кніжкі Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце і будзе ў мяне з ім цікавая шчырая гамонка і на вечарыне буду слухаць яго мудрае слова пра бацьку-песняра ды яшчэ й сам выкажу шчырую ўдзячнасць ім абодвум.

Піянерскім гімнам для многіх, у тым ліку і для мяне, стаў верш “Піянерам”. Вельмі ўжо здорава, як мне тады падалося, гучалі яго радкі:

*Шлях паказан вам шырокі,*
*Шлях прасторны,*
*Светлы, зорны.*
*Дык наперад, цвёрдым крокам,*
*Шум вясенні, яснавокі!*

І я, акцябронак, з нецярпеннем чакаў, калі стану піянерам, а потым з гонарам насіў піянерскі гальштук, імкнуўся вучыцца толькі на “выдатна” і “добра”.

А з верша “Іскры Ільіча” даведаўся, што ёсць і часопіс з такой назвай.

*Там аповесці, нататкі*
*Пра звяроў і пра калгас.*
*А рысункі, а загадкі!..*
*Вось дзе можна бавіць час!*

Упрасіў бацьку і атрымаў грошы на свой дзіцячы часопіс. Ганарыўся, бо паштальён прыносіў часопіс і піянерскую газету і ўручаў мне асабіста, а на іх штэмпель з маім адрасам, імем і прозвішчам. З самага Мінска дасылалі. Больш такіх штэмпелей на газетах і часопісах за ўсё сваё доўгае жыццё я не бачыў.

Напярэдадні 90-й гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа падзяліўся я ўражаннямі ад далёкіх дзіцячых светлых успамінаў пра любімага пісьменніка з А.В. Пысіным. І калі ён пачуў ад мяне радок “Пра звяроў і пра калгас”, то адрэагаваў бурна:

– Не можа быць, Віктар, каб Колас такое напісаў!

Я даў яму том пісьменніка з вершам пра часопіс, і ён сам упэўніўся, то пагадзіўся:

– Праўда, напісаў. Выходзіць, што і ў класікаў здараецца такое, – расчаравана сказаў Аляксей Васільевіч.

З прозай Якуба Коласа пазнаёміўся таксама даволі рана. Школьная сяброўка сястры Марыі суседка Ніна Іванова па дарозе ў школу вельмі

хораша расказала змест аповесці Коласа “На прасторах жыцця”. Мяне так зачаравала, што адшукаў кніжку. Чытаў як паэму, як казку. Праз некаторы час перачытаў яшчэ раз. І праз доўгія гады ад аповесці засталося пачуццё чагосьці светлага, радаснага, прыгожага. Творы пісьменніка заўсёды давалі мне зарад аптымізму. І не толькі творы Якуба Коласа. Любоў да кнігі ў пасляваенныя гады прывяла мяне на сцяжынку прафесіі бібліятэкара. І не шкадую аб гэтым.

Чытаў у дзіцячыя гады я многа. Часам, бадай, і залішне, бо аднаго дня ў бібліятэцы Радзішынскай пачатковай школы не аказалася непрачытаных кніжак. Вельмі ўдзячны сваім першым настаўнікам Вользе і Фёдару Лук’янавым. Яны клікалі мяне да сябе на кватэру і прапанавалі кнігі са сваёй бібліятэкі. А яна ў іх была на той час багатая. Першай кнігай з іхняй бібліятэкі была зноў-такі аповесць Якуба Коласа “Дрыгва”. З супервокладкай, з каляровай шаўковай стужкай-закладкай. Пазней, ужо як ішла вайна з фашыстамі, то не раз узгадваў эпізоды аповесці. Калі ж акупанты загадалі адкрыць у вёсцы нямецкую школу, то, успомніўшы народнага мсціўца дзеда Талаша, разам з суседам-сябруком Грышкам Міронавым ноччу мы прывялі печ, што абагравала вялікі будынак школы, у непрыгодны стан. І ў гэтай школе заняткаў болей не праводзілі.

Пасля вайны не раз чытаў і перачытваў паэмы “Новая зямля”, “Сымон-музыка”, іншыя творы любімага пісьменніка, але нават не марыў, што калі-небудзь убачу яго самога. Ды збылося і гэта.

Давялося два гады жыць у Мінску. Нават вячэрні ўніверсітэт марксізму-ленінізму скончыў там. Працаваў у адным з падраздзяленняў Міністэрства дзяржаўнай бяспекі. На кастрычніцкія святы ў 1950 годзе далі мне запрашальны білет на ніжнія трыбуны ля помніка Леніну. Вось там на ўрадавай трыбуне, якая была вышэй, сярод кіраўнікоў рэспублікі і ўрада ўбачыў Якуба Коласа: у паліто, шапцы-папасе з каракуля, у рукавіцах. Хаця снегу яшчэ не было, але даймаў сыры пранізлівы вецер. Да таго ж дэманстрацыя доўжылася гадзіны. Разы два пісьменнік па гранітных прыступках спускаўся ўніз і крочыў размеранай хадой да ўрадавага буфета. “Пагрэцца пайшоў”, – шэптам гаварыў мне напарнік-зямляк Васіль Герашчанка.

Праз лічаныя хвіліны Якуб Колас быў ужо на трыбуне. Запомнілася, што пісьменнік вельмі пільна ўглядаўся ў шарэнгі дэманстрантаў, быццам адшукваў постаці і твары знаёмых людзей. Быў засяроджаны, але часам твар свяціўся лагоднай усмешкай, тады вочы яго лучылі да-

брыню і зацікаўленасць. Я ўвесь час не зводзіў з яго вачэй: хацелася назаўсёды запомніць дарагія сэрцу рысы – перада мною быў жывы любімы пісьменнік.

У 1951 годзе пашчасціла ўбачыць пісьменніка ў другі раз. Толькі ўжо з больш сумнай нагоды. На аператыўным інструктажы чэкістаў была зачытана арыенціроўка, з якой вынікала, што Якуб Колас падазраецца ў сувязях з польскай і яшчэ адной краіны разведкай (англійскай ці французскай – тое запамятаў). Шпіёнам пісьменніка не называлі. Але з падазрэння гэта бачылася само сабой. За домам Якуба Коласа (ён непадалёк ад будынка Акадэміі навук БССР) устанавілі пільны нагляд. Мой сябрук Васіль Герашчанка, ён родам з Краснапольскага раёна, трапіў у тую каманду. Васіль ведаў, што я прыхільнік коласаўскага таленту. І праз дзень ці два (быў якраз пачатак лета) запрасіў мяне паглядзець дом паэта:

– А можа і самога ўбачыш, – сказаў ён мне.

Дом Якуба Коласа невялікі, драўляны. Звычайны вясковы, толькі добра дагледжаны. Агароджа ля дома невысокая, усё ў двары праглядваецца. На радасць мне неўзабаве адчыніліся дзверы і на двор выйшаў гаспадар. Я пазнаў яго адразу, бо бачыў не толькі на партрэтах, а летась і на ўрадавай трыбуне. Якуб Колас патупаў па двары, заглянуў нечага ў хлеў, а потым на хвілінку прыпыніўся і паглядзеў у бок агарода. І тут жа ціхаю хадою падаўся ў дом. Паглядзеў і я на агарод: там расла нешырокая дзялянка жыта. “Навошта ў горадзе жыта?” – міжволі ўзнікла ў мяне думка. Спытаў у Васіля, але і ён адказу не знайшоў. І толькі праз шмат гадоў пазней даведаўся, што расло ў коласавым агародзе не проста жыта, а элітнае жыта, новы ўраджайны сорт. Якуб Колас папрасіў у вучоных-селекцыянераў жменю зярнятак і вырошчваў на сваёй дзялянцы жыта, каб насенне перадаць у калгас вяскоўцам. Цудоўны быў пісьменнік, залаты Чалавек.

Крыху пазней, ужо пад восень, на чарговым інструктажы была агучана яшчэ адна сакрэтная арыенціроўка. У ёй згадвалася, што пісьменнік Янка Маўр, творамі якога я таксама зачытваўся яшчэ ў час вучобы ў сямігодцы, падазраецца ў сувязях з разведкамі трох краін: Польшчы, Англіі і Японіі. Янка Маўр таксама жыў у драўляным доме. Бачыў я і гэты дом, але ў той дзень (ды і ў іншыя таксама) гаспадар не выходзіў. Быў ужо стары і хворы чалавек.

Мне было над чым задумацца (і не толькі ад гэтых двух эпізодаў). Але думкамі дзяліцца з кім-небудзь было вельмі небяспечна. Даверыўся самаму блізкаму сябру Міхаілу Зубрыцкаму:

– Адразу ўдвух заяву аб звальненні падаваць нельга, западозраць нас. Спачатку ты, а я крыху пазней, – сказаў ён (Міхаілу хацелася прадоўжыць вучобу, а навучальны год ужо пачаўся – новага трэба яшчэ дачакацца).

У Мінску звольніцца было немагчыма, таму я падаў заяву аб пераводзе ў Магілёў. Маю заяву аб пераводзе ў Магілёў не адразу, але задаволілі. У Магілёве месяцы праз тры пачалося скарачэнне штатаў і ўдалося такі звольніцца ў запас. З таго часу маё жыццё і праца былі звязаны толькі з яе Вялікасцю Кнігай і літаратурай.

Праз нейкі час і мой сябра Міхаіл дамогся сваёй мэты: таксама звольніўся ў запас і паступіў на вучобу ў медыцынскі інстытут. Ён працаваў прафесарам у гэтым жа інстытуце, пазней – універсітэце. Наша сяброўства і сёння доўжыцца.

Пасля таго, як убачыў Якуба Коласа ў двары яго дома, пайшоў я ў кнігарню і аформіў падпіску на сямітомны збор яго твораў. Ён у мяне захоўваецца і па сённяшні дзень. Прыжыццёвае коласаўскае выданне. Вельмі памятныя тамы. Карыстаюся імі. Найчасцей перачытваю “Новую зямлю”. Якая цудоўная паэма! Для мяне, беларуса, “Новая зямля”, як для рускіх “Евгений Онегин” Пушкіна.

Што коласаўскія творы – litарадчык кнігалюба, то пераканаўся не адзін раз.

З Якубам Коласам пастаянна раіўся загадчык Трасцінскай сельскай бібліятэкі Хоцімскага раёна, краязнауца ад Бога, Міхась Ласоўскі. Ён нават напісаў згадку пра тое, як яго малога кніжка Якуба Коласа ад смерці ўратавала. Гэта мяне ўразіла.

А яшчэ прыгадаю такі выпадак. Аглядаў ён у маёй кватэры кніжныя паліцы. Убачыў творы Коласа і пытаецца:

– “Новая зямля” таксама ёсць?

– Вядома!

Дастаў яму чацвёрты том. Ён пагартаў, знайшоў патрэбныя радкі і гаворыць мне: – Прачытай:

*“Затое ж дзядзька хват і дока,*
*Набіў на косах сваё вока!*
*Другі лягчэй знаходзіць жонку –*
*Свой вечны лёс, сваю красу.*
*Чым дзядзька добрую касу”.*

Далей ішла гаворка пра тое, як дзядзька Антось “шчыра і ласкава касу на рынку выбірае”.

– Вось бы так нашы бібліятэкары кніжкі для чытачоў выбіралі, як дзядзька Антось касу! – сказаў мой сябар-бібліятэкар. А назаўтра ў абласной бібліятэцы на семінары прапагандыстаў кнігі М.А. Ласоўскі горача прадоўжыў думку і ў падмогу ўзяў коласаўскія радкі:

*Агледзьце, братцы, добра косы,*
*Каб не псаваць свае пракосы.*

Ад Міхася Аляксеевіча днямі атрымаў ліст. Ён з радасцю прызнаецца, што перачытвае “Новую зямлю”, іншыя яго творы – такім вось чынам сустракае яго юбілей.

І я таксама зноўку і зноўку перачытваю цудоўныя кнігі свайго любімага пісьменніка.

У першым класе пачатковай школы, як толькі стаў чытаць самастойна, прачытаў ілюстраваную кніжку для дзяцей “Міхасёвы прыгоды” Якуба Коласа, і яна запала мне ў душу на ўсё жыццё. Тады не ведаў, што герой твора Міхась – маладзейшы сын пісьменнніка. І ў снах не снілася, што сустрэнуся і з ім. 26 кастрычніка 2007 года меў радасць ад сустрэчы з героем кнігі майго дзяцінства – сынам Якуба Коласа – Міхаілам Канстанцінавічам Міцкевічам. Мне хораша з ім гаманілася ў прыёмнай рэктара ўніверсітэта імя А.А. Куляшова перад пачаткам літаратурнай вечарыны, прысвечанай 125-годдзю з дня нараджэння народнага Песняра. На той вечарыне студэнты і выкладчыкі, як зачараваныя, слухалі ўспамін сына пра бацьку. А потым і я коратка агучыў згадку пра свайго любімага пісьменніка Якуба Коласа.



Творы Якуба Коласа аказалі значны ўплыў на людзей майго пакалення. І сёння яны гучаць з новай сілай. Шчыра ўдзячны слаўнаму песняру беларускага народа за мужную і мудрую паэзію жыцця.

*1972, 2002, 2007 гг.*

## ЯКУБ КОЛАС НА ЗЯМЛІ МАГІЛЁЎСКАЙ

У народнага паэта Беларусі былі цесныя сувязі з нашым краем. Ён не раз бываў у поймах Дняпра і Бесядзі, Бярэзіны, сустракаўся з

рабочымі, сялянамі, інтэлігенцыяй. Так, у 1925 годзе Якуб Колас выязджаў у Горацкі, Мсціслаўскі, Клімавіцкі, Хоцімскі і іншыя раёны для чытання лекцый па беларусазнаўству. Літаратурныя выступленні паэта пакідалі добры след. Літаратар Міхась Няхай у артыкуле "Беларускі пясняр і Магілёўшчына" ("Магілёўская праўда" ад 3 сакавіка 1982 года) прыводзіць тэкст ліста пісьменніку ад сялян вёскі Шыркі (цяпер Мсціслаўскага раёна):



"Мы, грамадзяне вёскі Шыркі, шлём шчырае сялянскае дзякуй дзядзьку Якубу Коласу за тыя кніжкі, якія ён нам прыслаў. Мы з задавальненнем успамінаем тыя хвіліны, калі Я. Колас выступаў у нас і чытаў свае цікавыя вершы. Мы вельмі задаволены, што наша вялікая бацькаўшчына мае такіх песняроў, якія пішуць на нашай мове. Мы просім дзядзьку Якуба Коласа прыслаць свой партрэт, які мы хацелі б павесіць у школе, у якой вучацца нашы дзеткі.

Сяляне вёскі Шыркі."

Трасцінскі краязнаўца з Хоцімскага раёа Міхась Ласоўскі ў 60-х гадах мінулага стагоддзя быў у Маскве. У чытальні Усесаюзнай біблітятэкі праглядваў пажоўклыя ад часу старонкі Хоцімскай раённай газеты "Наш працаўнік". У № 28 ад 11 красавіка 1926 года яго ўвагу прыцягнуў невялікі артыкул пад назвай "Другі пленум Хоцімскага РВК". На першы погляд – звычайнае паведамленне аб чарговым пленуме, які адбыўся 3 красавіка 1926 года. Але пад артыкулам стаяў подпіс: Я. Колас.

Няўжо Якуб Колас быў на хоцімскай зямлі? – узнікла думка. Пачаліся пошукі. Ні ў бібліяграфічных даведніках, ні ў манаграфіях, ні ў гутарках са старажыламі краязнаўца пацверджання не знайшоў. Тады ён напісаў ліст сыну Якуба Коласа Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу, дырэктару літаратурнага музея ў Мінску. Той не толькі пацвердзіў гэты факт, а яшчэ прыслаў фотакопію пасведчання ад 16 сакавіка 1925 года: "Паказчык гэтага Міцкевіч Канстанцін камандзіруецца ў Калінінскую і Аршанскую акругі дзеля првядзення культурнай працы па беларусазнаўству. Міцкевіч мае права чытаць лекцыі, весці гутаркі

па гісторыі беларускай літаратуры, чытаць свае творы і іншыя ўзоры прыгожага беларускага пісьменства.

Народны камісарыят асветы БССР просіць усе савецкія і грамадскія ўстановы дапамагаць Міцкевічу ў выкананні ўскладзенага на яго задання”.

– З гэтым пасведчанем, – расказаў мне Міхась Аляксеевіч, – у снежні 1925 года Якуб Колас наведаў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум, а ў сакавіку 1926 года па дарозе з Клімавіч прыехаў у Хоцімск. Шлях ляжаў праз вёскі Забялышын і Трасціно. 3-га красавіка на пленуме Хоцімскага раённага выканаўчага камітэта паэт чытаў свае творы. Былы камбедавец Павел Пракопавіч Сычоў часта нагадваў жыхарам вёскі Трасціно, у тым ліку і вучням у школе, пра тую незабыўную сустрэчу.

– Да таго часу, – гаварыў ён, – мне ніколі не даводзілася бачыць пісьменнікаў. Я гляджу на яго, не зводзячы вачэй. У зале ціха. Колас расказваў пра сябе, сваю працу: перад намі паўставалі гарызонты развіцця беларускай нацыянальнай культуры ў савецкі час. Удзельнікі пленума слухалі, затаіўшы дыханне, паэму “Новая зямля”:

*Малюнкі родныя і з’явы,*
*Як вы мне любы, як цікавы!*
*Як часта мілай чарадою*
*Вы ўстаеце перада мною*
*І так лагодна смеяцеся*
*Жывою баграю па лесе,*
*І златаблескімі снапамі*
*Праменняў-стрэлаў над палямі,*
*І брыльянцістаю расою,*
*Калі гарачаю касою*
*Скрозь лісцяў сетачкі-аконцы*
*На ёй заззяе ціха сонца,*
*Яе так песціць, так кахае,*
*Па ёй вясёлкі рассыпае!*

Літаратар Міхась Няхай у артыкуле “Сустрэчы на Магілёўшчыне” (Полымя. – 1982. – № 8. – С. 209–214.) паведаміў, што 5 красавіка 1938 года Якуб Колас разам з Янкам Купалам і Міхаілам Клімковічам наведалі драматычны тэатр у Магілёве, каб паглядзець спектакаль па п’есе Якуба Коласа “У пушчах Палесся”. Пастаноўкай гэтага спектакля пачынаў свае гастролі Віцебскі драматычны тэатр.

У чэрвені 1938 года Якуб Колас разам з Янкам Купалам і Міхасём Зарэцкім прыязджалі ў Бабруйск на прагляд прэм’еры вечара вадэвіляў. Мясцовая газета “Камуніст” 14 чэрвеня 1936 года змясціла невялікую справаздачу пад назвай “Бліскучая перамога” (Вечар беларускіх вадэвіляў у БДТ-2).

*Кастрычнік 2007 г.*

## СЛОВА БУДЗІЦЬ ДУШУ

Паэт Ігар Шклярэўскі, наш зямляк, удастоены за зборнік вершаў і паэм «Слушаю небо и землю» Дзяржаўнай прэміі СССР 1987 года ў галіне літаратуры і мастацтва.



Нарадзіўся Ігар Іванавіч 25 чэрвеня 1938 года ў Бялынічах. Потым – Урал, дзіцячы дом. Пасля вайны – зноў у Беларусь. Вучыўся ў Магілёўскай сярэдняй школе № 3. Пединстытут. Не закончыўшы яго, Шклярэўскі пайшоў працаваць у ліцейны цэх завода “Строммашына”. Летам, пасля працы, любіў хадзіць на Дняпро. “Рака навучыла мяне сустракаць і праводзіць кожнае імгненне адначасова”, – пісаў ён пазней у аўтабіяграфіі. Свайго пакоя не меў, вершы “рабіў па дарозе ў цэх. Іх было не так і многа”. Але ён верыў у свае сілы: “А я поэтом буду все равно”. Гэта ў адказ тым, хто яшчэ не прызнаваў яго літаратарам, хаця ўжо была выдадзена ў Мінску першая кніжка вершаў «Я иду». Ён ішоў да людзей, вывучаў жыццё не з алоўкам і блакнотам, а закасаўшы рукавы: на цаліне – землямерам, на Ціхім акіяне – матросам. Пабываў на Камчатцы, на рускай Поўначы. Вывучаў гісторыю, знаёміўся з прыродай, з людзьмі.

Можа таму роднасць з прыродай адчуваеш амаль у кожным вершы І. Шклярэўскага. Яна ў яго мудрая і рэальная, яна жыве, думае, адчувае боль. У яе ёсць смутак і радасць: “Пахнут полынью былины”, “Рука снимает бабочек с луны”, “И синяя холодная зарница , как с бритвой к горлу, с прошлым пристаёт”.

І нават калі пасяліўся ў Маскве, паэт не пакінуў падарожнічаць. Багаты жыццёвы вопыт, учэпісты позірк спрыялі паэту ў творчасці.

З-пад пяра І. Шклярэўскага адзін за адным выйшлі паэтычныя зборнікі: “Лодка”, “Фортуна”, “Воля” , “Ревность”, “Похолодание”, “Неназваная сила”, “Гость”, “Тайник”, “Красная книга”, “Слово о мире”, кніга аповесцей “День птицы”, думкі-нататкі “Поэзия – львица с гривой”, пераклад кнігі “Слово о Куликовом поле”.

Вяршынь сталай, мудрай, таленавітай паэзіі І. Шклярэўскі дасягнуў у вершах і паэмах, якія ўвайшлі ў зборнік “Слушаю небо и землю”.

*Свет пробегает по стене,*
*И вот в огромной тишине*
*На станции лесной*
*Отец рассказывает мне*
*О первой мировой войне*
*За месяц до второй...*

Кароткі верш з’яўляецца структурнай асаблівасцю паэмы “Слово о мире”. Такую паэму мог стварыць толькі вельмі таленавіты чалавек. Звычайна скупы на пахвалу, вядомы паэт Ягор Ісаеў сказаў, што “Ігар Шклярэўскі сапраўды надзвычай таленавіты чалавек. Таленавіты ён перш за ўсё пачуццём нераўнадушша да жыцця”. Па Ісаеву, “Слово о мире” – “гэта трывожнае слова, глыбокае слова, слова-роздум, слова-страсць, слова-гнеў, слова-просьба!”

Аўтар паэмы звяртаецца да людзей планеты Зямля ад усёй прыроды – жывой і мёртвай. Ён звяртаецца ад імя рэк, балот, гарадоў, лісіц, ваўкоў, птушак і рыб. Ён устрывожаны і за іх будучыню. Бо хто за іх скажа, калі не паэт:

*Ночью в закрытые двери*
*Входят невинные звери*
*С плакатами* “*миру – мир*”.
*Лоси, бобры заплаканные*
*К людям идут с плакатами:*
“*Как вам не стыдно, люди!,*
*Нейтральных лесов не будет*”.

І не толькі за лясы і рэкі, за прыроду ўвогуле ў паэта трывога і боль. Пад пагрозай знішчэння цывілізацыя і сама Зямля.

Паэт глыбока перакананы, што пераможцаў у ядзернай вайне не будзе, і ён звяртаецца да буйнейшай ядзернай заакіянскай дзяржавы:

*Америка, ты богатая,*
*На бабах не пахала,*
*Не воевала на своей земле.*

*Наше горе твоим не измеришь,*
*Сегодня ты всё имеешь,*
*Только воображения*
*Хочу тебе пожелать:*
*Нас не будет,*
*И вам не бывать!*

І. Шклярэўскі лічыць сябе неаддзельнай часцінкай усяго свету. І ён удзельнік падзей не толькі ў вершах. Грашовую ўзнагароду лаўрэата прэміі ён аддаў на пасадку лесу па двух берагах Прыпяці. На левым – беларускім і на правым – украінскім. Быў у народзе запавет: кожны чалавек павінен пасадзіць дрэва. Паэт лічыць, што запавет устарэў: “Мы ў такім даўгу перад прыродай, што адным дрэвам ужо не адкупіцца”. І. Шклярэўскі захацеў, каб яго дрэвы раслі на плошчы больш за дзвесце гектараў.

У адным інтэрв’ю ў паэта спыталі яго думку пра тое, што пісьменнікам часта кідаюць папрок у некампетэнтнасці, калі яны прадказваюць экалагічныя беды. І ён адказаў так: “Кампетэнтнасцю любоў і сумленне не заменіш. Я ўжо пахаваў чатыры любімых ракі.

У дзяцінстве я і брат пілі прама з Дняпра, чэрпалі далоняй, шапкай. Мы не ведалі, што мы апошнія людзі, што п’юць прама з рэчкі. А цяпер, скажыце, дзе тая рака, што можна напіцца? Вось вам і кампетэнтнасць, быццам бы мы сляпыя і глухія, без нюху, без адчувальнасці. Дык нават з заплюснутымі вачамі пастаіш на беразе, і ўсё зразумела. Ні ўсплеску…”

У зборнік “Слушаю небо и землю” ўвайшоў таксама пераклад кнігі “Слово о полку Игореве”. Акадэмік Д.С. Ліхачоў сказаў, што пераклад “Слова…” І. Шклярэўскага – “адзін з лепшых і дакладнейшых”.

Кнігай вершаў і паэм “Слушаю небо и землю” таленавіты паэт Ігар Шклярэўскі паказаў, што да свайго юбілею – 50-годдзя з дня нараджэння, які мы, яго землякі, ды і ўся краіна, адзначым сёлета ў чэрвені – ён прыйшоў у росквіце творчых сіл. Спадзяёмся, што наш зямляк яшчэ не раз парадуе чытачоў сваімі новымі таленавітымі творамі, якія нікога не пакідаюць абыякавымі, будзяць трывогу, боль, радасць жыцця і энергію барацьбы за чысціню чалавека, яго думак і ўчынкаў.

*Май 1988 г.*

# ТРЫ СУСТРЭЧЫ З ІВАНАМ ШАМЯКІНЫМ



Першы мною прачытаны на пачатку пяцідзясятых гадоў твор празаіка Івана Шамякіна быў раман "Глыбокая плынь". Ён мяне моцна ўразіў. З захапленнем, не адрываючыся ад старонак кніг, чытаў яго аповесці, якія празаік пазней уключыў у зборнік і назваў яго вельмі ёмка "Трывожнае шчасце". Пасля чытаў кожны ягоны твор, за рэдкім выключэннем. Бачыць пісьменніка, чуць яго выступленні давялося многа разоў: і ў Мінску, калі пяць гадоў завочна вучыўся ў педагагічным інстытуце, і ў іншых гарадах. Але найбольш у памяці захаваліся тыя моманты, калі ўдалося паглядзець вочы ў вочы адзін аднаму і перакінуцца жывым словам. Адбыліся тры такія сустрэчы.

Упершыню пісьменнік загаварыў са мной, калі я браў 24 кастрычніка 1959 года першы аўтограф. Яго здзівіла, што я, магіляўчанін, прашу аўтограф у Віцебску. На той час я працаваў інспектарам па бібліятэках Магілёўскага абласнога ўпраўлення культуры і прыехаў да віцебскіх бібліятэкараў за вопытам работы (нашы вобласці спаборнічалі). Зайшоў у абласную бібліятэку, а там у разгары сустрэча чытачоў з маім любімым празаікам. Купіў дзве кніжкі яго апавяданняў і стаў у даўжэнную чаргу за аўтографамі. Спачатку папрасіў аўтограф чытачам Магілёўскай абласной бібліятэкі з абяцаннем прыехаць на сустрэчу з імі. Тут Іван Пятровіч адарваў свой погляд ад кніжкі, уважліва паглядзеў на мяне і пацікавіўся, чаму такі незвычайны аўтограф:

– У такім разе, – сказаў ён. – я павінен буду наведаць Магілёў?

– Толькі так! – адказаў я.

На хвіліну пісьменнік завагаўся, але потым весела засмяяўся і падпісаў. І на другой кніжцы, ужо мне: "Арцем'еву В.І. – бібліятэкару ад пісьменніка, з удзячнасцю за прапаганду маіх кніг і з найлепшымі пажаданнямі Іван Шамякін".

Слова сваё пісьменнік стрымаў. Ён наведаў Магілёў чатыры ці пяць разоў.

Другая памятная сустрэча з Іванам Пятровічам адбылася ў Краснаполлі ці не ў сярэдзіне шасцідзясятых гадоў. Працаваў я ўжо

ў абласной бібліятэцы ў навукова-метадычным аддзеле. Мяне камандзіравалі памагчы краснапальчанам падрыхтаваць канферэнцыю чытачоў “Роман-газеты” з удзелам у ёй аднаго з яе рэдактараў Ільінкова і пісьменніка Івана Шамякіна. Канферэнцыя прайшла надзвычай удала. Перапоўненая людзьмі зала пасля выступленняў чытачоў і пісьменнікаў больш чым гадзіну не адпускала гасцей-літаратараў: пытанні і адказы, пытанні і адказы. І не сабе ў пахвалу: шчыра, ад душы напярэдадні зрабілі ўсё магчымае і супрацоўнікі раённай бібліятэкі, і мясцовыя настаўнікі, і журналісты раённай газеты “Чырвоны сцяг”. А галоўнае – чытачы Краснаполля жыва адгукнуліся: для райцэнтра на той час гэта была сапраўды важнаяя падзея культурнага жыцця. Па заканчэнні вечара-канферэнцыі магілёўскі літаратар Пятро Шасцерыкоў сказаў, што Іван Пятровіч і мяне запрасіў на вячэру ў рэстаран, што падрыхтоўкай канферэнцыі ён задаволены. Сялянская сціпласць не дазволіла вось так адразу сесці за адзін стол з вядомым пісьменнікам (а калі па шчырасці, то ў мяне ў кішэні ўжо і грошай не было). Назаўтра Пятро Шасцерыкоў папракнуў мяне, маўляў, Іван Пятровіч пытаўся, а чаму няма на вячэры куратара канферэнцыі?



Апошняя памятная сустрэча адбылася ў кастрычніку 1979 года ў Магілёве. Працаваў я на той час выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума і па сумяшчальніцтву карэспандэнтам-арганізатарам па г. Магілёву ад бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР. Мне было даручана стаць пасрэднікам у падрыхтоўцы агульнагарадскога літаратурнага вечара з удзелам І.П. Шамякіна. Ладзіў гэты вечар па ўказанню рэктара педагагічнага інстытута Яўгена Паўлавіча Кудрашова загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Валерый Іосіфавіч Атрашкевіч. Адносіны ў мяне з імі былі найлепшыя. Падрыхтавалі вечар канкрэтна, належным чынам.

Але прыезд у Магілёў І.П. Шамякіна мяне ўсё ж палохаў. Група беларускіх пісьменнікаў прыехала ў Магілёў за дзень да вечара і ім адмовілі ўладкавацца ў гасцініцы на начлег. Я ўгаварыў адміністратара гасцініцы пасяліць літаратараў на ноч у нумары, які быў забраніраваны для І.П. Шамякіна. Ён прыехаў, а ягоны нумар гасцініцы заняты. Добра, што са мной Шамякіна сустракаў яшчэ Аляксей Васільевіч Пысін. Ён

патлумачыў Івану Пятровічу, што маёй віны не было, бо ён асабіста быў сведкай таго, як супрацоўнікі абкама партыі адмовілі мне ў дапамозе.

Назаўтра, 22 кастрычніка, літаратурны вечар у педінстытуце прайшоў хораша і цікава (у Івана Пятровіча, як я ведаю, заўсёды так было). За аўтографамі вялікая чарга магілёўцаў, найбольш студэнтаў. Напярэдадні я купіў шасцітомнік збору твораў І. Шамякіна і яшчэ кніжку з раманам “Вазьму твой боль”. Калі падышла мая чарга, то Іван Пятровіч паглядзеў на мяне і кажа:

– Пачакай крыху, я табе ў кабінеце рэктара падпішу.

І я пайшоў у кабінет рэктара. Там былі ўжо два загадчыкі аддзелаў абкама партыі М.А. Толсцік і С.І. Карпечкін, загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры інстытута В.І. Атрашкевіч, паэт А.В. Пысін і, вядома, рэктар інстытута Я.П. Кудрашоў. На стале стаялі талерка з крамянымі духмянымі яблыкамі, талерка з шакаладнымі цукеркамі, а ля адзінай бутэлькі малдаўскага “Бусла” на падносе сем невялікіх чарачак. Я міжволі падумаў: а хто сёмы?

Неўзабаве ў кабінет увайшоў І.П. Шамякін. Я паспяшаўся да яго, імкнучыся хутчэй атрымаць аўтограф ды й выйсці, каб не замінаць прысутным. Памкнуўся да пісьмнніка з кнігай, а ён мне зноўку:

– Пачакай крыху. Трэба найперш загадчыкам аддзелаў абкама партыі падпісаць.

І вось, нарэшце, на 1-м томе шасцітомніка твораў ягоны аўтар зрабіў надпіс: “Арцем’еву В.І. на добрую памяць. Іван Шамякін. 22.10.79 г.”. І аўтограф на кнізе “Вазьму твой боль”: “Віктару Іванавічу Арцем’еву – з павагай Іван Шамякін. 22.10.79 г.”. А яшчэ аўтограф у альбом “Слова пра кнігу і бібліятэку” (у ім ужо былі аўтографы шэрагу беларускіх літаратараў і Іван Пятровіч спачатку пагартаў старонкі, нешта прачытаўшы): “4 мільярды кніг знаходзяцца ў бібліятэках краіны, 36 – у прыватных бібліятэках. А можа было б лепш, каб было наадварот? Як думаюць бібліятэкары? Іван Шамякін. 22.10.79 г.”.

Атрымаўшы аўтографы, выказаў удзячнасць і хуценька да дзвярэй. А там, як швейцар, – Аляксей Васільевіч. Не выпускае:

– Віктар! Мяне Шамякін папярэдзіў, каб я цябе не выпускаў. Ён Краснаполле ўспомніў. Пайшлі за стол, нас чакаюць.

І вось тосты Івана Пятровіча: задушэўныя, прыгожыя. Красамоўна гаварылі і ўсе іншыя. Асобна такі ж добры тост сказаў Іван Пятровіч і ў мой адрас за арганізацыю літаратурных вечароў у Магілёве. Безумоўна, мне было вельмі прыемна яшчэ і таму, што гаварыў сам Шамякін. На

ўсе тосты хапіла адной бутэлькі каньяку. Праўда, заўважыў, як Валерый Іосіфавіч Атрашкевіч спрытненька, нібы той фокуснік, пустую бутэльку хаваў пад стол і ставіў поўненькую, адкаркаваную. Прычым, рабілася гэта адначасова, вокаімгненна.

А што наконт слоў-напамінку пра Краснаполле, то ўсё банальна. Не думаю, каб Іван Пятровіч Шамякін праз столькі гадоў мог помніць пра тую вечарыну з "Роман-газетай". Відаць, Аляксей Васільевіч яму падказаў. Хутчэй за ўсё, Іван Пятровіч хацеў аказаць мне, як арганізатару літаратурных вечарын, падтрымку ў будучым ад абкамаўскіх супрацоўнікаў А можа?!

На паліцах маёй дамашняй бібліятэкі 18 тамоў твораў І.П. Шамякіна, шэсць ягоных аўтографаў. 3 апошніх раманаў у сэрца запаў "Зеніт". І апошнія ягоныя аповесці, як і ранейшыя раманы: ёмістыя зместам, праўдзівыя і чалавечныя: пра дабро і зло. Іван Шамякін адзін з першых, калі ўвогуле не адзіны, з беларускіх пісьменнікаў, стварыў шэраг аповесцей і апавяданняў, у якіх паказаў звярыную сутнасць прадажных палітыкаў і нахабна-прабіўных, з чэрствымі душамі сатанінства, дзялкоў "дзікага" капіталізма, што густой смуроднай пенай усплылі на паверхню грамадства ў пастсавецкі перыяд эканамічнага развалу 90-х гадоў.

Іван Шамякін – гэта эпоха. У яго творчасці спрасавана ўсё дваццатае стагоддзе, ад пачатку да апошняга дня. Іван Шамякін – празаік і XXI-га стагоддзя. Ад шчырага сэрца жадаю яму здароўя, энергіі, аптымізму, дабрыні, чалавечага шчасця.

*Красавік 2001 г.*

## ЗГАДКА ПРА АЛЯКСАНДРА ВАМПІЛАВА



У букіністычным магазіне купіў нядорага невялікага фармату, але даволі ёмкую кніжку, у якой 589 старонак:

"Александр Вампилов. Избранное" (М., 1984). Углядаюся ў партрэт пісьменніка-драматурга – знаёмыя рысы. Ці той Вампілаў? Бегла, па звычцы бібліятэкара, праглядваю змест кнігі. Знайшоў загаловак нарыса "Сонца ў буславым гняздзе" і чытаю з першага да апошняга радка. Сумненняў аніякіх – кніжка таго пісьменніка, з якім я сустрэўся выпадкова 32 гады таму назад…

Ранняй вясной 1962 года наведаў я г. п. Краснаполле па службовых справах. Працаваў на той час метадыстам Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У.І. Леніна і мяне цікавілі сельскія бібліятэкі. Калі даведаўся, што ў вёску Карма-Пайкі выязджае тэатральны калектыў раённага Дома культуры, звярнуўся да рэжысёра калектыву Л.В. Лабаноўскага з просьбай узяць мяне пасажырам. Тым больш, што родам з гэтай вёскі сябра майго юнацтва Васіль Якаўлевіч Герашчанка. Хацелася паглядзець краявіды вёскі, хату, у якой ён нарадзіўся, пагутарыць з яго роднымі.

– Калі ласка! – сказаў Леанід Васільевіч і дадаў, – Тут з намі і журналіст-стажор з Мінска едзе.

Здаецца мне, што было названа і прозвішча журналіста, але з першага разу імёны я памятаю рэдка.

У прызначаны час усе самадзейныя артысты ўладкаваліся ў кузаве аўтаклуба. Цеснавата, але, як кажуць, у цеснаце ды не ў крыўдзе.

– А дзе журналіст? – ціха пытаюся ў Л.В. Лабаноўскага.

– Ды вунь ён, у левым вуглу прымасціўся, – таксама ціхім голасам адказвае мне Леанід Васільевіч. Паглядзеў я больш уважліва і ўбачыў хударлявага сціплага маладога чалавека, на выгляд – хлапчука, але з выразным позіркам вачэй. Ён сядзеў так сцішана, што дарогай на яго ніхто не звяртаў аніякай увагі. Самадзейныя артысты тэатра (на той час яшчэ не народнага, народным ён стане пазней, калі рэжысёрам прыдзе прафесійны артыст Валянцін Ермаловіч) паводзілі сябе свабодна, як і звычайна ў Доме культуры: спявалі песні, жартавалі, дзяліліся мясцовымі навінамі.

У вёсцы Карма-Пайкі наш аўтаклуб падруліў да драўлянага будынка сельскага клуба. Краснапольскія артысты выйшлі з машыны, і кожны з іх заняўся сваёй справай, рыхтуючыся да спектакля, які яны павінны будуць паставіць у клубе вечарам.

Да клуба, вырашыўшы свае службовыя і неслужбовыя справы, я вярнуўся недалёка да захаду сонца. Ад замаразкаў нічагусенькі не засталося. Ціха і цёпла. Сонца яшчэ грэе і ярка свеціць. Непадалёк ад клуба басанож мітусяцца дзеці: для вёскі тэатр – з’ява адметная.

– А дзе журналіст? – пацікавіўся ў Лабаноўскага.

– Ды вунь ён, з дзетварой бегае. Ён у іх за верхавода, – з усмешкай адказвае мне рэжысёр тэатра.

Я прыгледзеўся. Сапраўды ён там. Басанож ці не, сцвярджаць не бяруся, але што закасаныя штаніны, было добра бачна. Хлапчукі

ад журналіста не адыходзілі ні на крок. А ён ім усё нешта паказваў, расказваў.

Калі сонца закацілася за гарызонт і сваімі залацістымі промнямі асвятляла толькі верхавіны дрэў, журналіст-верхавод у суправаджэнні хлапчукоў пайшоў у кірунку буславага гнязда на высокім дрэве…

Сцямнела. Да клуба сталі збірацца юнакі і дзяўчаты, а потым больш сталыя жыхары вёскі. Глядзельная зала была запоўнена да адказу. Хлапчукам месца не знайшлося – яны прымасціліся знадворку, ля вокнаў, бо вельмі карцела паглядзець спектакль. Адзін момант там бачыў і журналіста. Але пазней ён быў ужо ў зале клуба.

Вяскоўцы спектакль па п'есе А. Макаёнка "Лявоніха на арбіце" ўспрынялі з захапленнем. Ды тут бяда напаткала: неспадзявана пагасла электрасвятло. Такога ніхто не чакаў: зала і сцэна ў поўнай цемры. Што рабіць? І раптам на сцэну з зала ўпаў прамень кішэннага ліхтарыка, потым – другі, трэці… Ліхтарыкамі падсваечвалі сцэну і хлапчукі праз вокны. Самадзейныя артысты прадоўжылі і паспяхова закончылі спектакль. І гледачы, і артысты былі вельмі ўсхваляваныя. Гэтую іх усхваляваную радасць журналіст А. Вампілаў выказаў у радках нарыса "Сонца ў буславым гняздзе". Яго надрукавала на сваіх старонках 29 мая 1962 года газета "Знамя юности". Таленавітасць і сціпласць аўтара мяне моцна ўзразілі. І прозвішча Вампілаў я запомніў назаўсёды. Пазней паводле нарысу А. Вампілава рэжысёр Краснапольскага народнага тэатра Валянцін Ермаловіч зробіць тэатральную пастаноўку, яе пакажуць нават па Беларускім тэлебачанні. Любіў яе глядзець паэт Аляксей Пысін.

У 1985 годзе ў Магілёў прыязджаў пісьменнік Яўген Суровраў з Іркуцка. Ён нейкі час працаваў у рэдакцыі адной з іркуцкіх газет разам з Аляксандрам Вампілавым. Гаварыў Суровраў, што сціпласць, чалавечнасць і дабрыня ніколі не пакідалі драматурга.

У свой час я дзяліўся ўражаннямі ад сустрэчы з будучым драматургам Вампілавым у гутарках з Аляксеем Пысіным. Аляксей Васільевіч усё прасіў мяне: напішы свой успамін у газету. Нешта мяне стрымлівала. А цяпер кніга ярка навеяла ўспамін пра выдатнага драматурга. Ён для мяне стаў быццам бы жывы…

Дык няхай жа гэтыя мае сціплыя радкі – яму ў вянок!

*1994 г.*

# І КІНУТАЕ МНОЮ ЗЕРНЕ ДАСЦЬ УСХОДЫ...



Яўген Міхайлавіч Крупенька нарадзіўся 20 жніўня 1936 года ў вёсцы Саськаўка на Шклоўшчыне ў сялянскай сям'і. Бацька не вярнуўся з вайны. Маці працавала ў калгасе. Закончыў Фашчаўскую дзесяцігодку і Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Першая кніга "Салаўі" выйшла ў 1961 годзе, а ўсяго больш за дзесяць зборнікаў паэзіі.

Памёр Я.М. Крупенька заўчасна, 4 лютага 1990 года і пахаваны на кладзішчы ў роднай вёсцы.

Саськаўка – суседняя з маёй вёска. Наш сусед-удавец Павел Савельеў яшчэ да вайны браў у Радзішына жонку з Саськаўкі, а пазней яшчэ некалькі хлопцаў пайшлі ў гэтую вёску ў залёты. Я пільна прыглядаўся да вершаў, аўтарам якіх быў мой зямляк Яўген Крупенька – паэт, перакладчык, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, і радаваўся яго ўдачам.

А ў 1984 годзе выпала нагода і асабіста з ім сустрэцца. Яўген Міхайлавіч на самым пачатку верасня наведаўся ў Магілёў на некалькі дзён. Я наладзіў для яго восем літаратурных выступленняў перад чытачамі-магілёўцамі. Да паэта з Мінска далучаліся пачаргова магілёўсхія празаікі Пятро Шасцерыкоў і Аркадзь Кандрусевіч. Вечарыны-сустрэчы з чытачамі адбыліся на аўтазаводзе імя Кірава, на хлебазаводзе, у энергетыкаў, у ГПТВ № 58, на жэлацінавым і рамонтным заводах і ў двух рабочых інтэрнатах. Яўген Крупенька чытаў свае творы пасля празаікаў. Спачатку ён чытаў лірычныя вершы, а потым гумар і сатыру. Каму ж такое не спадабаецца!

Перад пачаткам выступленняў і пасля іх быў нейкі час для нашай асабістай гаворкі. Яўген Міхайлавіч расказваў пра сваю Саськаўку, я – пра Радзішына. Успомнілі ваеннае ліхалецце, якое было цяжкай навалай для ўсіх вяскоўцаў, успомнілі пра нашы вясковыя школы, у якіх мы вучыліся: я да вайны, а ён пасля вайны. Успомнілі добрым словам паэтаў-землякоў Анатоля Сербантовіча і Сцяпана Гаўрусёва. Яўген Міхайлавіч хораша расказваў пра Шклоў і шклоўцаў, знаёміў з тым, што ў яго на рабочым стале пісьменніка. Пахваліўся, як земляку, што рыхтуе новыя зборнікі, якія будуць лепшымі, чым папярэднія: будуць

там добрыя паэмы, будзе шмат санетаў. Прызнаўся, што цяпер яму добра, як ніколі раней, працуецца. У гаворцы быў ён шчыры, ніколечкі не ўзвышаўся над субяседнікам, і я быў рады такой гамонцы. На другі ці трэці дзень свайго прыезду паэт падарыў мне на памяць свой гумарыстычны зборнік «Юбілейныя бліны» (Мн., 1984) з такім аўтографам: «Дарагому земляку-суседу Віктару Арцем'еву – частуйся пакуль што хоць гэтымі блінамі, хутка будзе і сапраўдны юбілей – тады і бліны будуць новыя.

А пакуль – шчыра, сардэчна. 4.09.84 г. Яўген Крупенька»

Вельмі шкада, што болей нам сустрэцца не давялося. Паэт сышоў у іншы свет вельмі рана, не дажыўшы поўных 54-х гадоў, пакінуў нас у поўным росквіце сваіх творчых сіл. З сумам і горыччу зазначу, што творчасць паэта-земляка пры яго жыцці не была ацэнена належным чынам. І так думаю не я адзін.

Вось, да прыкладу, радкі беларускага літаратара Уладзіміра Паўлава ў артыкуле "Помніць сябе" (ЛіМ ад 18 красавіка 2003 года):

"...Яўген Крупенька, асабліва пасля Маскоўскага літаратурнага інстытута імя Горкага, насуперак спадзяванням "дабрадзеяў" стаў выбітным лірыкам, напісаў шчымлівыя зборнікі, вянок санетаў. Пераклаў на беларускую мову «Слова аб палку Ігаравым», вялікая сіла якога ў свой час паланіла і прызвала на пераклад, як сцвярджае "Беларуская энцыклапедыя (Т. 15, С. 2) Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлю, Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага. Наступным быў Яўген Крупенька. У закрытай рэцэнзіі яго пераклад атрымаў высокую ацэнку. Але калі быў "раскрыты" аўтар, усе як вады ў рот набралі. Як гэта: Крупенька? Ды як ён пасмеў! І пераклад убачыў свет толькі пасля смерці паэта. Гэта здарылася ў 1994 годзе".

У канцы 80-х гадоў набыў я зборнікі Крупенькі "Карэнні. Выбранае" і "Гекзаметр баразны". Яны ў мяне і сёння на кніжнай паліцы побач з творамі Аляксея Пысіна, Анатоля Сербантовіча, Сцяпана Гаўрусёва, Святланы Басуматравай, Нэлы Тулупавай і іншых паэтаў-землякоў. Часам перачытваю. У вольныя хвіліны частуюся і "новымі блінамі" Яўгена Крупенькі, знаходзячы ў яго зборніках кожны раз нешта новае, арыгінальнае накшталт такіх радкоў: "Пакуль ішоў я па жыцці з табою, дарослы, а наіўны, як дзіця, не разумеў: жыццё, як поле бою, хвіліны шчасця і хвіліны болю – два полюсы адвечныя жыцця".

Багата ў Яўгена Крупенькі твораў лірычных: пра прыроду і пра каханне. Яго вершы і паэмы – гэта гімны рэкам і азёрам, барам і дубро-

вам роднай Шклоўшчыны, а найбольш людзям, простым, працавітым сялянам.

У паэме “Штрыхі да біяграфіі майго лесу” паэт дзеліцца з чытачом тайнамі жыцця свайго лесу, бо яно з ягоным жыццём “з маленства зтітавана адным лёсам...”

А паэма “Шклоўшчына” пра родную зямлю, пра найменні вёсак, пра імёны і прозвішчы людзей роднага краю, пра іх ратную і працоўную славу, пра іх шчырасць і гасціннасць. Паэт ганарыцца сваімі вяскоўцамі і ўсімі шклоўцамі.

Вершы пра каханне і санеты – а іх багата напісана – выказваюць пачуцці шчырыя, задушэўныя, чыстыя, нярэдка нават цнатлівыя. “Нас захмяліў чабору спелы пах, // І дрэвы загайдаліся ў вачах, // І цёплы мох, і – цішыня нямая... // Твар – у твар. І вочы – ў вочы. // Гарачынь пяшчотных слоў... // Растрывожыў сэрца ўночы // Крык трывожных жураvoў”.

Амаль кожны лірычны верш паэта – гэта палатно жывапісу, намаляванае прачулымі словамі майстра. Вось, хаця б у вершы “Вечарэе”: “На схіле сонца. // Вечарэе. // Ідзе на адпачынак дзень. // Кладзецца на зямлю, даўжэе // Цень. / … / Яшчэ не свеціць веташок, // Не загарэліся і зоркі, // Туман як з коміна дымок, // Памалу цэдзіцца на ўзгоркі”.

У Яўгена Крупенькі нямала вершаў кароценькіх, у якіх толькі чатыры радкі. Але ж яны маюць глыбокі змест і малююць адпаведную карціну: “Яшчэ не будзяць трактары вясну, // Хаця яна і блізка, за парогам, // А жураўлі у небе цаліну // Ўзнімаюць вострым клінам як нарогам”. А вось верш “Вясна”: “Аздобіла красою цэлы свет, // І зноўку я вяртаюся ў юнацтва: // Цвітуць дзяўчаты: шчокі – макаў цвет, // І як за кожнай хочацца ўгнацца”. Паверце, напісаць такія кароткія ды змястоўныя вершы пад сілу толькі таленавітаму паэту. І гэта не маё заключэнне. Тое сказаў яшчэ Антон Чэхаў.

Калі пра Анатоля Сербантовіча літаратурныя крытыкі не часта пісалі пры жыцці, то багата з’явілася публікацый вядомых літаратараў пасмяротна і амаль у кожнай з іх мы знойдзем выказванне, што ён таленавіты і выдатны паэт. А вось пра таленавітага Яўгена Крупеньку і пасля яго канчыны мала хто ўспомніў. Хаця ён мае звыш дзясятка зборнікаў паэзіі. І не абы-якіх. Яго паэма “Шклоўшчына” і некалькі дзясяткаў вершаў смела можна было б уключыць у хрэстаматыю па гісторыі, геаграфіі і роднай літаратуры нашага краю. Спадзяюся, што некалі мае землякі зробяць такую хрэстаматыю, і дзеці-шклоўцы, як і школьнікі кожнага раёна рэспублікі, будуць мець краязнаўчы падручнік.

Упэўнены, што жыццё дасць аб’ектыўную ацэнку паэтычным вартасцям творцаў Шклоўшчыны: і Яўгена Крупенькі, і Анатоля Сербантовіча, і Лявона Анціпенкі (дарэчы, талент апошняга заўважыў яшчэ паэт Пысін, ды і апошняе слова паэзіі ён яшчэ не сказаў). Веру, што імёнамі паэтаў-шклоўцаў будзе ганарыцца не толькі кожны зямляк, будзе ганарыцца кожны беларус. І збудзецца запаветная мара Яўгена Крупенькі:

*Я ведаю: не за гарамі час, калі*
*Апошні раз ступлю я па раллі.*
*І кінутае мною зерне дасць усходы,*
*Што зашумяць даспелай збажынай.*

*Студзень 2001 г.*

## ПЛАНЕТА ЧЫГРЫНАВА



Мне, як арганізатару літаратурных вечарын у Магілёве, давялося сустракацца з Іванам Гаўрылавічам неаднойчы, але гэтыя сустрэчы былі, так сказаць, дзяжурныя: прывітанне адзін аднаму і поціск рукі. Толькі тройчы ўдалося ўзяць аўтограф. Ды пастаялі разам ля магілы Пысіна. Моўчкі.

А так хацелася паслухаць ягонае грунтоўнае літаратурнае выступленне, як слухаў я кожнага пісьменніка, хто наведваўся ў Магілёў, і пагаварыць хоць колькі хвілін сам-насам. Выпала такая ўдача ў другой дэкадзе мая 1982 года. Іван Гаўрылавіч даў згоду на літаратурную вечарыну 11 мая ў абласной бібліятэцы імя У.І. Леніна.

Недзе ля поўдня я сустрэў яго ў аэрапорце “Магілёў”. З Чыгрынавым быў вядомы літаратурны і тэатральны крытык Георгій Колас. Яго бачыў упершыню, але чуць давялося многа. Яны расказалі, што І. Чыгрынаў раней збіраўся ляцець у Лондан. Візу затрымалі. І сёння раненька пра гэта тэлефонны званок. Іван Гаўрылавіч спрасонку ім адказвае:

– У які Лондан? Мне ж у Магілёве трэба быць!

Пасмяяліся разам.

Іван Гаўрылавіч трымаўся проста, уважліва. Падалося нават: задаволены, што сустрэў яго. Сеў з Г. Коласам у машыну палкоўніка ДТСААФ Цярэнція Лакціёнава. Запрашалі і мяне. Каб не перашкаджаць дзелавой гутарцы (у Ц. Лакціёнава была нейкая справа да І. Чыгрынава, і я ведаў пра гэта) і не цясніць іх, сеў у машыну абласнога ўпраўлення культуры.

А палове сёмай вечара мелася адбыцца чытацкая канферэнцыя. І. Чыгрынаў незадоўга перад ёю са мною моўчкі прайшоўся па вуліцы Дзяржынскага, засяродзіўся. Фотакарэспандэнт Віктар Кажамякін зразумеў яго настрой і зрабіў толькі адзін здымак.

Выступление Івана Гаўрылавіча мяне прыемна ўразіла: гаворка свабодная, задушэуная і разам з тым канкрэтная, лагічная, словам – цікавая... 12 мая І. Чыгрынаў пасля выступления ў школе ДТСААФ меркаваў з’ездзіць у вёску. А я ўпрошваў яго на літаратурную вечарыну ў педагагічным інстытуце: сказаў, што студэнты філалагічнага факультэта вельмі ўжо чакаюць яго.

І Іван Гаўрылавіч, падумаўшы, адказаў:

– Добра!

13 мая пайшлі туды загадзя, пешшу (Іван Гаўрылавіч сказаў, што ён ніколі нікуды не спазняўся). Па дарозе мы заглянулі ў букіністычны магазін на вуліцы Ленінскай. І. Чыгрынаў праявіў цікавасць да “ Раман-газеты”. Пацікавіўся, што ўвогуле ёсць з мастацкіх твораў, найперш беларускіх аўтараў. Потым па дарозе зайшла гаворка пра яго раманы. Расказаў мне, як два маскоўскія чыноўнікі-татарыны патрабавалі ад яго, і не адзін раз, выключыць з кнігі старонкі пра паводзіны татарына-здрадніка. Не маглі адчапіцца да той пары, пакуль не сказаў ім:

– Калі будзеце і найдалей патрабаваць, то ў наступным рамане будзе дзейнічаць ужо рота іх.

Філфакаўцы сустрэлі цёпла. Дацэнт факультэта Яраслаў Клімуць даў слова Чыгрынаву. Іван Гаўрылавіч зрабіў літаратурнае выступление, адказаў на пытанні. Мне і сёння помніцца ясна. Тым больш, што сёе-тое занёс на паперу:

– Гістарычная тэма ў мастацкай літаратуры – найважнейшая.

– “Свае і чужыя” – чыста філасофская катэгорыя. Чубар ад пачатку і да канца герой трагічны.

– “Апраўданне крыві” – гэта зуб за зуб і вока за вока. Я супраць крыві. Вы і самі заўважылі: у маіх раманах мала крыві, хоць і пішу я пра вайну.

– Верамейкі – гэта Вялікі Бор, мая родная вёска ў Касцюковіцкім раёне.

– Мой кумір з паэтаў? – АркадзьКуляшоў.

– З празаікаў? – Іван Мележ.

– З рускіх класікаў?  – Леў Мікалаевіч Талстой.

– Хто мой настаўнік? – У літаратараў настаўнікаў няма. Настаўнік пісьменніка – уся літаратура. А самы галоўны настаўнік – жыццё.

Таксама хораша гаварыў Г. Колас. Ён умее імправізаваць, падаць факт, сказаць прыгожа і эмацыянальна. Што ні кажы: тэатрал – заўсёды тэатрал. Цікава пачаў пра акадэміка Каралёва. А далей нечаканы “віток”:

– У беларускай літаратуры з’явілася новая планета – Іван Чыгрынаў.

А яшчэ Іван Гаўрылавіч віншаваў філфакаўцаў-выпускнікоў народнага універсітэта “Чалавек і кніга”. Пра прапаганду кнігі сказаў:

– Гэта справа і пісьменнікаў, і настаўнікаў. Наша агульная справа.

Зачытаў выказванні А. Пысіна, П. Кавалёва і Л. Прокшы (скарыстаў мой альбом аўтографаў пісьменнікаў “Слова пра кнігу і бібліятэку”). А. Пысіна і П. Кавалёва горача падтрымаў, а пра выказванне Л. Прокшы – “Самая цікавая кніга тая, якую прадаюць з-пад прылаўка”, – зрабіў вывад: “Тут няпраўда. Я з гэтым не згодзен”.

У заключэнне ўручыў пасведчанні выпускнікам. Гэтага вельмі хацела сакратар абласнога таварыства кнігалюбаў Іна Зотава, Іван Гаўрылавіч напачатку запярэчыў:

– Гэта ж роля вясельнага генерала!

Я падтрымаў просьбу Зотавай. Мне на падмогу прыйшоў Я. Клімуць. Падалося мне, што пасля Іван Гаўрылавіч і сам застаўся задаволены.

У нечым ён, здаецца, мне давяраў. Часам, перад тым як прыняць якое-небудзь рашэнне, пытаўся:

– А як думаеш?

– Што зробім?

Але аўтографы даваць не любіў. Мой альбом пісьменнікаў пра кнігу яму спадабаўся, толькі свой аўтограф ставіць не стаў, хаця я і прасіў.

Не любіў Іван Гаўрылавіч і мітусні, мішуры, паказухі. Лічыў, што аднаго літаратурнага выступления пісьменніка ў дзень дастаткова. Калі ж тры ці чатыры, то будзе звычайная гаварыльня. Сам рабіў адну сустрэчу ў дзень. Затое яна запаміналася прысутным на ўсё жыццё.

Наконт мітусні зрабіў заўвагу Г. Коласу. А пасля, ужо адзін на адзін, сказаў мне:

– Тэатралы заўсёды шумлівыя. Георгій Колас натура экзальтаваная – не ведаеш, што ён выкіне праз хвіліну.

Тое ж самае сказаў і пра некаторых паэтаў.

Івана Чыгрынава і Георгія Коласа я праводзіў у Магілёўскі аэрапорт. Часу яшчэ хапала. Мы хораша пагутарылі і цёпла развіталіся.

*Снежань, 2001 г.*

## ПАЭТЫ СЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ І ЯЎГЕН КРУПЕНЬКА



Выдатны беларускі паэт Сцяпан Гаўрусёў не толькі напісаў багата таленавітых твораў, але быў яшчэ добрым рэдактарам і клапатлівым настаўнікам паэтычнай моладзі. Нямала каму ён даў пуцёўку ў творчы шлях. Адным з іх быў Яўген Крупенька з суседняй вёскі Саськаўка, што на пагранiччы Дрыбінскага і Шклоўскага раёнаў. Пра тое, што Сцяпан Захаравіч блаславіў яго служэнню музы, Яўген Міхайлавіч расказаў у сваёй аўтабіяграфіі: "…У Магілёве (1955) я сустрэў свайго земляка (яго вёска кіламетры за чатыры, праз лес, ад нашай) цудоўнага паэта і чалавека Сцяпана Гаўрусёва, які, прачытаўшы мае вершы, сказаў, што яны варты надрукавання у рэспубліканскай прэсе, узяў іх, і неўзабаве яны былі змешчаны ў "Чырвонай змене". З таго часу я пачаў друкавацца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах".

Далейшае жыццё пацвердзіла, што Яўген Крупенька не падвёў свайго "хроснага бацьку ў літаратуры".

Рэчка Бася цячэ і ў Шклоўскім, і ў Дрыбінскім раёнах, а на ёй у Кішчыцах вадзяны млын некалькі вякоў на людзей працаваў. Помніцца, што і я ў вайну вазіў збожжа на той млын, а да мяне – мае бацькі і дзяды (у пашпарце майго бацькі Івана Лукіча Арцем'ева пазначана, што ён нарадзіўся ў 1891 годзе ў вёсцы Рудзіцы Дрыбінскага раёна). Вазілі ў Кішчыцы на млын малоць збожжа і саськаўцы. Відаць, што маці брала на воз з сабой і маленькага на тую пару Жэньку. І пазней, мабыць, наведваўся ў Кішчыцы ўжо адзін, бо радкі верша

“Млын каля вёскі Кішчыцы” вельмі ўжо настальгічныя. А яшчэ яны як дакумент пра надзвычай галодныя першыя пасляваенныя гады, бо вораг, адступаючы, усё ў вёсках зруйнаваў. А што да млына, то, на маю думку, у наш атамны век дарэмна ацураліся вадзяных млынаў на рэках: яны давалі энергію танную і экалагічна чыстую. Вось ён гэты верш:

*Млын, што каля вёскі Кішчыцы,*
*Адмахаўшы крыламі свой век,*
*На спачын пайшоў, навек пакінуўшы*
*Памяць, нібы добры чалавек.*

*Ветрамі абветраны, прасушаны*
*Спёкаю, абмерзлы у зіму,*
*Ён не ведаў, колькі год насуджана*
*Каля Басі прастаяць яму.*

*Мы – вайны галота і нішчымніца –*
*У пасляваенныя гады*
*Бачылі, як млын ля вёскі Кішчыцы*
*Крыллем не махаў нам як заўжды.*

*Ён стаяў пануры, долу згорблены,*
*Адзінокі, бо з пустою торбачкай*
*Той жабрак, што вёску абышоў*
*І ні з чым вяртаецца дамоў.*

*Выцвілымі, сумнымі вачыма,*
*Апусціўшы свае крылы-рукі,*
*Углядаўся млын у далячыні –*
*На шляхах падвод нябачна гулкіх.*

*Жнівень адышоў. Было і збожжа.*
*Толькі ён змалоць яго не зможа:*
*Кожнае зярнятка на ўліку*
*І стаўчы у ступе яго лепей,*
*Чым змалоць на млыне тым вялікім,*
*Будзе смаку больш у чорным хлебе.*

*Так лічылі нашы маці-ўдовы.*
*Ты у тым не вінаваты, млын,*
*Што заўчасна ты пайшоў на дровы,*
*Ці, дакладней, на спачын.*

*Нашым дзецям аніяк не верыцца,*
*Як мы пухлі з голаду,раслі.*
*Галадуха болей к нам не вернецца,*
*Мы за іх яе пературжылі.*

*Толькі памяць, вечная, жывучая,*
*Нібы рана свежая, балючая,*
*Не дае такое мне забыць,*
*Рэчка Бася каля вёскі Кішчыцы,*
*Дай умыцца чыстаю вадзіцаю,*
*Там, дзе млын стаяў,*
*Хачу пабыць.*

*Люты 2004 г.*

.

## НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ



У канцы мая 1981 года паэт Аляксей Пысін – ён тады ўзначальваў Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі – параіў мне (на той час я ў Магілёве ад Саюза пісьменнікаў рэспублікі ладзіў літаратурныя вечарыны з удзелам паэтаў і празаікаў) запрасіць на літаратурныя чытанні паэта Аляксандра Мельнікава.

– Ён хаця і на рускай мове піша, – сказаў Аляксей Васільевіч, – але таленавіты паэт і добры чалавек. Нарадзіўся ў Васільках, што побач з Галоўчынам, жыве ў Магілёве, па прафесіі ўрач-рэнтгенолаг.

Я наладзіў Аляксандру Пятровічу сустрэчу з чытачамі ў інтэрнаце № 1 Магілёўскага будаўнічага трэста № 12. Ціхі, негаваркі, сціплы малады чалавек адразу ж ажывіўся, пасвятлеўшы тварам, як толькі

пачаў чытаць свае вершы. Былі яны не вельмі гучныя, але незвычайна лірычныя і па-філасофску змястоўныя:

*Брожу за городом, в ложбине.*
*Берёзы в саже и росе.*
*Настоян воздух на бензине,*
*Что наплывает от шоссе.*
*Хочу за песнею неспетой*
*В леса озонные уйти.*
*Но страшно мне от рощи этой,*
*Как от больного, отойти.*

Вершы спадабаліся будаўнікам. Яны запрасілі паэта заходзіць да іх яшчэ.

З таго дня пры нагодзе паэт Аляксандр Мельнікаў прыходзіў на літаратурныя вечарыны. У кастрычніку 1981 года ён выступіў у Магілёўскім гарадскім Доме культуры, дзе прысутнічалі сотні юнакоў і дзяўчат. У сакавіку 1982 года яго вершы слухалі студэнты бібліятэчнага тэхнікума, а праз колькі дзён – вучні сярэдняй школы № 21 Магілёва. Вучні старэйшага ўзросту з чатырох класаў, затаіўшы дыханне, лавілі кожны радок вершаў паэта з бялыніцкіх Васількоў. Пра Пушкіна ў Магілёве, а потым пра яго веліч:

*Когда стреляют*
*В сердце поэта,*
*Бьют без промаха,*
*Без рикошета.*
*В сердце стреляют,*
*А вздрагивает*
*Планета.*

Але найбольш любіў паэт чытаць свае творы ў невялікай рабочай аўдыторыі і ў студэнцкім інтэрнаце. Як медыку-рэнтгенолагу, Аляксандру Мельнікаву давялося шмат часу павандраваць па радыяцыйна-забруджаных лугах, лясах і нівах Прысожжа і Бесядзі. Хаця і гавораць, што радыяцыя не мае ні паху, ні смаку, ні колеру, а паэт усё гэта зведаў, адчуў, перажыў і не ў час ад яе згарэў. А перад гэтым балюча адгукнулася ягонымі радкамі “З чарнобыльскага сшытка”:

*Налево пойдёшь – сыроежки в песке,*
*Направо – маслята в иглице,*
*Прямо пойдёшь – белый гриб в ве-ре-ске…*
*И бьёшь поклоны землице.*

*А в пысинском крае, в Высоком Борке,*
*Стронций да цезий в боровике.*
*В боровике и древесном дымке,*
*В хлебе насущном, в грудном молоке…*

*Поэзия, ты ли её укрепила,*
*Душу мою в чернобыльской мгле?*
*Иначе – какая тайная сила*
*Всё ещё держит меня на земле?..*

Беларускаму паэту надрукавацца на рускай мове ў тыя гады было няпроста. І ўсё ж два зборнікі ягс твораў убачылі свет. Часцей Аляксандр Мельнікаў друкаваўся ў маскоўскіх часопісах. І на Пушкінскія чытанні яго часта запрашалі. Масквічы адчулі яго талент. На сёння ў Маскве Аляксандр Мельнікаў паэт XXI стагоддзя. А ў нас у канцы 70-х гадоў былі на яго незаслужаныя нападкі зайздроснікаў.

На абарону Аляксандра Мельнікава стаў паэт Аляксей Пысін, думка якога была ўжо аўтарытэтнай. Літаратурны крытык Мікола Луфераў (ён быў у сяброўстве з Аляксандрам Мельнікавым) засведчыў у сваіх успамінах: «Ён (Пысін. – *В.А.*) быў супраць прафсаюзных адносін да творчасці. Не цярпеў дрэнных вершаў, браў мяне з сабою на абарону ад беларускіх графаманаў-русафілаў. Чалавек шчодры, ён блаславіў Мельнікава ў творчую дарогу і прымусіў мяне экспромтам зрабіць даклад аб яго паэзіі перад ягонымі землякамі ў Галоўчыне Бялыніцкага раёна».

У 1983 годзе паэт Аляксандр Мельнікаў падарыў мне з аўтографам сваю кніжку вершаў «Три слова», а 21 ліпеня 1994 года на кнізе «Спасибо, жизнь!..» зрабіў уласнаручна надпіс: «Виктору Ивановичу Артемьеву с наилучшими пожеланиями и на добрую память от автора».

Была з ім у мяне сустрэча на літаратурнай вечарыне ў абласной бібліятэцы незадоўга ўжо да яго раптоўнай смерці. Ён абяцаў падпісаць яшчэ адзін аўтограф. А я папрасіў яго зрабіць пераклад на рускую мову верша Аляксея Пысіна «Знаёмства з вёскай Аўсянкай», прысвечанага празаіку Віктару Астаф'еву. Аляксандр Пятровіч добрым ціхім словам успомніў Аляксея Васільевіча і з радасцю згадзіўся. Але ўжо не паспеў зрабіць...

Сястра паэта Вера Пятроўна Мельнікава падарыла мне пасмяротны зборнік твораў брата «Избранное», які выдадзены ў 2000 годзе ў Маскве. У ім вершы і пра Магілёў, і пра родныя яму бялыніцкія краявіды,

вершы пра Пушкіна, Ясеніна, Куляшова, Пысіна... І верш пра сваю малую радзіму, пра родны кут:

*Конечно, о Васильках*
*Я, умирая, вздохну.*
*Конечно, о Васильках,*
*Где первую встретил весну.*
*Конечно, о Васильках,*
*Где посадил деревца.*
*Конечно, о Васильках,*
*Где могила отца.*
*Конечно, о Васильках,*
*Где мама моя живет,*
*Где на сосновых суках*
*Тихое солнце встает.*

Кожны раз, калі рэйсавы аўтобус «Магілёў – Круглае» робіць прыпынак ля вёскі Галоўчын, я з хваляваннем углядаюся ў хаты вёскі Васількі, з якой пайшоў у свет Паэт XXI стагоддзя.

*Красавік 2001, 2015 гг.*

## ПАЭТ ШЧАСЦЯ І БЯДЫ

У паэтаў трагічнага лёсу заўсёды ёсць некалькі ці хаця б адзін прарочы верш. Такія вершы стварылі Пушкін, Лермантаў, Кальцоў, Ясенін, Рубцоў, Пысін...

Ёсць некалькі прарочых вершаў і ў нашага земляка, паэта Анатоля Сербантовіча. Вось адзін з іх:

*Так стараўся, што думалі трэсне...*
*Нечакана прыціх і замоўк.*
*Падавіўся ўласнаю песняй*
*І павесіў на песню замок.*
*А над песняю той, недапетай,*
*Прагудзела труба жураўля:*
*«Тых, з кім дзеліцца неба сакрэтам,*
*Маладых забірае зямля».*

Відаць, што дзялілася неба сакрэтам і з Анатолем Сербантовічам, паэтам з «Божай іскрай», бо зямля забрала яго да сябе зусім маладым,

на трыццатым годзе жыцця, а ў паэзіі тварыў толькі дзесяць гадоў. Вышэй згаданыя радкі паэта прараслі ў гранітную пліту на ягонай магіле на Маскоўскім кладзішчы ў Мінску.



Нарадзіўся Анатоль Станіслававіч Сербантовіч 13 мая 1941 года ў вёсцы Ордаць на Шклоўшчыне ў сям'і настаўнікаў: маці – Ксенія Сямёнаўна, бацька – Станіслаў Пятровіч. Маленькі Толік Сербантовіч зведаў тыя шалёныя жахі вайны, якія перажылі ўзмужнелыя воіны. Ён зведаў і гул нямецкіх самалетаў, якія скідвалі смертаносныя бомбы, і разрывы мін і снарадаў, і трэск кулямётных і аўтаматных чэргаў атрада эсэсаўцаў, калі маці хавала яго ў замаскіраваным акопе, а яшчэ ў балоце, калі была аблава карнікаў. Падчас адной з такіх аблаў маленькі хлопчык атрымаў траўму галавы. Можа, яна і вызначыла будучаму паэту трагічны лёс. Нездарма адзін з яго зборнікаў меў назву «Міннае поле». Гэтым полем ён ішоў у далейшым сваім жыцці.

Пасля вайны Толя гадаваўся каля бацькоў у Радзішынскай пачатковай школе, бо пакідаць дома аднаго не выпадала. Лічыце, што вучыцца пачаў ці не з пяці гадоў, хаця бацькі-настаўнікі і не хацелі гэтага.

Анатоль Сербантовіч скончыў Ардацкую сямігодку, у якой працавалі і яго бацькі, а потым Гарадзішчанскую дзесяцігодку. Два гады працаваў грузчыкам мясцовага саўгаса «Рабочы». І пісаў вершы. Першыя вершы надрукаваў у 1959 годзе ў шклоўскай раёнцы і ў «Магілёўскай праўдзе». Хросным бацькам у паэзіі і яго настаўнікам ў той час быў паэт Аляксей Пысін.

У 1960 годзе Анатоль Сербантовіч, на выдатна здаўшы ўступныя экзамены, паступіў і ў 1965 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вучыўся і адначасова пісаў вершы, друкаваўся. Працаваў літсупрацоўнікам часопіса «Бярозка», а потым газеты «Піянер Беларусі».

З восені 1966 года знаходзіўся ў творчай камандзіроўцы ў Запаляр'і і Казахстане, на Урале і Далёкім Усходзе. У1968 годзе пабываў у Сярэдняй Азіі, а лета 1969 года правёў у Хабараўскім краі. З вандровак прывозіў новыя творы. У Анатоля з'явіліся санеты і вянкі санетаў, а іх можа напісаць толькі здольны, таленавіты паэт. Ды й ніхто з равеснікаў яго не пісаў санеты. А вянкі санетаў беларускія паэты пачалі пісаць толькі яму наўздагон.

Пры жыцці Сербантовіча выйшлі толькі два зборнікі паэзіі: «Азбука» (1966) і «Міннае поле» (1968). Трэці зборнік «Пярсцёнак» (1971) убачыў свет пасля смерці паэта. А чацвёртая кніга – зборнік «Жаваранак у зеніце. Вершы», у які увайшлі ўсе папярэднія зборнікі, а таксама частка неапублікаванага, выдадзены ў 1989 годзе з прадмовай Сяргея Кавалёва «Глыток жыцця».

Анатоль Сербантовіч, гаворачы словамі Пысіна, – гэта звонкі шклоўскі жаваранак, які маладзенькім узляцеў у зеніт з высокага берага рэчкі Бася і зачараваў сваіх чытачоў шматгалосай таленавітай мелодыяй вершаў, паэм і санетаў. Самабытны, арыгінальны талент яго паэзіі заўважылі і падтрымалі Рыгор Бярозкін, Аляксей Пысін, Анатоль Вялюгін, Сцяпан Гаўрусёў...

Паэт Сербантовіч ведаў сабе цану і сваё месца ў паэзіі, але па характары быў яршыстым, не цаніў несправядлівасці і зазнайства. Ды толькі сябе лічыў ён адказным за ўсе памылкі і няўдачы, а радасць перамогі дзяліў на ўсіх:

*Я памыліўся.*
*Я не адмаўляюся.*
*Пакорліва схіляю галаву.*
*Але галоўнае не ў тым,*
*Што каюся,*
*А ў тым,*
*Што непакорліва жыву.*

Ён прылюдна, вельмі крытычна азваўся пра захвалены зборнік вершаў Петруся Броўкі, чым закрыў сабе шлях пры жыцці на паэтычны Алімп. У чатырохтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры 20-га стагоддзя» няма ніводнага радка пра творчасць паэта Сербантовіча.

Але ў апошнія гады цікавасць да арыгінальнай паэзіі Сербантовіча ўзрасла з выбуховай сілай. Пра самабытны талент, высокую якасць паэтычных твораў Сербантовіча ў апошнія гады сказалі сваё ёмкае слова Варлен Бечык, Васіль Макарэвіч, Алесь Пісьмянкоў, Сяргей Кавалёў, Анатоль Вярцінскі, Барыс Сачанка, Мікола Мішчанчук, Дзмітрый Бугаёў, Леанід Галубовіч і іншыя вядомыя беларускія пісьменнікі.

Ужо ў першым зборніку «Азбука» былі вершы, якія прасіліся ў класіку. Верш «Балада» прыглянуўся Рыгору Бярозкіну. Гэта пра растрэл героя-падпольшчыка. Вельмі ўдалыя ў вершы параўнанні, метафары, вобразы:

*Блізіцца блізкі*
*Ўзлесак шчарбаты.*
*Клюнула корань*
*Тупая лапата...*
*Стрэлы ўспыхнулі.*
*Новы пагорак...*
*У небе, здаецца,*
*Паменела зорак.*

У другім вершы малады паэт параўноўвае музыку з дрэвамі, з пявуча падобнымі соснамі, якія ён у дзяцінстве і пазней бачыў уздоўж берагоў Басі і Дняпра:

*І гукі раступаюцца, як дрэвы.*
*О, гукі!*
*Я – ваш верны раб,*
*Яшчэ ў жыцці такога не бывала,*
*Каб адкрываў я музыку і каб*
*Яна мяне таксама адкрывала.*

У зборніках «Міннае поле» і «Пярсцёнак» мы знаходзім новыя паэтычныя сродкі, больш яркія фарбы, вобразныя параўнанні: «Белыя тэрмометры бярозак», «Маладзік-пярсцёнка палавіна», «Родная зямля каронаю снапоў каранавана», «Слупы каля дарог, як свечкі...», «Ліст апошні, як ліхтар, гайдаецца пад мёрзлым ветрам», «Бялеюць русыя бярозы, як аб нечым светлым успамін...», «Ветракі, як абеліскі, стаяць на варце даўніх дзён», «Коціць гарошынаю лета па зялёных дрэвах і кустах», «І халодным позіркам удава свеціцца, прыцягвае вада», «Глядзіць Чырвонай Шапачкай рабіна у хмурае бальнічнае акно» і іншыя.

А вось як паэт малюе пейзаж малай радзімы:

*Каля Кішчыц і Ордаці*
*Сінім дымам рака.*
*Каля Кішчыц і Ордаці*
*Луг, як крылы шпака.*

***

*Дроў маланкі накрышылі,*
*Сіняй радугай рака,*
*На збянтэжынай крушыне*
*Гарызонт, нібы аркан.*

Зразумела, што такія радкі робяць вершы Сербантовіча натуральнымі і эмацыянальнымі, яны самі ўліваюцца ў нашы сэрцы.

Трэба сказаць, што натуральнасць і эмацыянальная ўзрушанасць характэрныя не толькі лірычным вершам, у якіх паэт выказвае свае асабістыя перажыванні. Паэт застаецца лірыкам і ў творах з тэмамі грамадскага гучання. Грамадскае і асабістае ў паэта знітавана ў адно цэлае:

*Там, дзе я вырас, – сасна пры сасонцы,*
*Як дзеці спавіты ў пялёсткі лугоў*
*І чырвань сцягоў уліваецца ў сонца,*
*А сонца сцякае ў чырвань сцягоў.*

Вайна кляшчом упілася ў цела творчасці паэта, яна трымала яго паўсюдна і паўсядзённа. Апроч «Міннага поля» Сербантовіч напісаў два вянкі санетаў, прысвечаных тэме вайны. Гэта «Курган» і «Салдат».

*Вайна прайшла шырокай баразной*
*І цягнецца з дзіцячае калыскі:*
*Я столькі не далічваюся блізкіх,*
*Што нават сёння дыхаю вайной!*
*І не мая, напэўна, ў тым віна,*
*Што ўсё бліжэй, бліжэй ка мне вайна,*
*І дымам цягне ад знаёмых стрэх...*
*А страты боль, што апякла тады,*
*З хвілінай кожнай робіцца вастрэй,*
*Наколькі помню – ўсе мае гады.*

Паэт Анатоль Вярцінскі слушна заўважыў, што ў паэзіі Сербантовіча «натуральна сплаўляюцца ў вершы вонкавае і ўнутранае, назіранне і пачуццё, чужое і сваё, далёкае і блізкае»:

*Учора, як вожык, стаяў на абрыве,*
*Балючы, калючы – у стрэлах дажджу,*
*А сёння вясёлы, на ўсё, што абрыдла, –*
*Шчаслівы і новы – з абрыва гляджу.*

У кожнага сапраўднага паэта нервы аголеныя, вельмі ўжо ранімыя. У Сербантовіча таксама. Ягонае хваляванне, ягоны клопат найперш не аб сабе, а за тых, хто побач, за іх яму трывога ў сэрцы аддаецца:

*У мяне ўсё туды-сюды,*
*Толькі я на сябе забываю,*
*Бо да кожнай чужой бяды*
*І да крыўды я справу маю.*

***

*Кожны дзень я зусім другі,*
*Кожны дзень не такі, як учора,*

*Каб не ведалі людзі тугі,*
*Каб не зналі бяды і гора.*

У лірыцы Анатоля Сербантовіча радкі пра каханне з'явіліся не адразу і пра каханне напісаў ён, не сказаць, каб вельмі багата. Затое каханне ў паэта узнёслае, рамантычнае, радаснае, светлае і цнатлівае:

*Каму з нас ведаць неахвота,*
*Што грудзі ля вясковых хат*
*Нальюцца хутка, быццам соты,*
*У падрастаючых дзяўчат.*
*Дзяўчаты пойдуць карагодам,*
*Тады і зблізку, і здаля*
*Здавацца будзе мне, што мёдам*
*Запахла ўся мая зямля!*

І апошні, перадсмяротны і бясмертны верш Анатоля Сербантовіча таксама быў пра каханне:

*Там пачынаецца паэзія*
*І там яна канчаецца,*
*Дзе ты ўсміхаешся гарэзліва*
*І цэлы свет гайдаецца.*
*Спяшай зрабіць са сцежкі крок,*
*Дзе цішыня густая,*
*Каб прачытаць адзін радок,*
*Які ніхто не знае.*

Гэтыя радкі паэта былі апошнімі. Унізе пад імі ён пазначыў: «Серада. 11.03.70. Апошні мой верш». Імі ён як бы падвёў рахункі з жыццём. Паэт рашыў не пісаць вершаў, а напісаць вянок вянкоў санетаў (пятнаццать вянкоў, а ў кожным – пятнаццать санетаў), на што спатрэбілася б гадоў дзесяць, а ў яго было толькі дзесяць дзён. Уначы 21 сакавіка 1970 года перастала біцца яго сэрца.

І ўсё ж Анатоль Сербантовіч не самотны паэт, бо ён мае некалькі паэтычных зборнікаў. Безумоўна, не ўсе вершы аднолькавай вартасці. Але ж ёсць некалькі дзясяткаў вершаў, якія з'яўляюцца ўзорам сапраўднай паэзіі. І ёсць тры вянкі санетаў, якія падштурхнулі выдатнага беларускага паэта Змітрака Марозава, які сказаў: "Не паспеў зрабіць ты – зраблю я!". І ён першы ў еўрапейскай літаратуры стварыў вянок вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы" (15 вянкоў, у якім 225 санетаў!). І гэтым творчым подзвігам праславіў Беларусь і нашага паэта-земляка. Пад загалоўкам вянка вянкоў ён ад шчырага сэрца зрабіў надпіс: "Светлай памяці Анатоля Сербантовіча прысвячаю".

Галоўнае ж ў тым, што творчасць Сербантовіча сёння запатрабавана, да яе будуць звяртацца і будучыя пакаленні. У яго ёсць чытачы і будуць!

Збылося жаданне паэта, збылося яго прароцтва:

*Фіміям курыць цяпер не ў модзе.*
*Можа, можа, потым праз гады*
*Хтосьці назаве нас у народзе*
*Як паэтаў шчасця і бяды.*

Анатоль Сербантовіч вельмі любіў і часта ўжываў у сваіх вершах эпітэт «светлы». Таму, што светлым быў ягоны талент, таму, што сам быў светлым і добрым Чалавекам. Такім яго помніў паэт Пысін, які часта пра яго нагадваў пры сустрэчах са мной і іншымі сваімі сябрамі. Такім помню яго і я. Мне не давялося мець з ім сустрэч, але я не раз бачыў яго хлапчуком каля пачатковай школы, якая была па суседству з нашым домам, добра ведаў яго бацькоў, уважліва сачыў за яго ўзлётам на паэтычны Парнас ды й цяпер перачытваю яго вершы і вянкі санетаў. Мой маладзейшы брат, яго цёзка, два гады вучыўся з ім у Ардацкай сямігодцы – яны сябравалі. А з маці паэта сябравала мая старэйшая сястра Надзея. І ў 2011 годзе я зрабіў кніжку “Вянок Анатолю Сербантовічу”.

Творчасць Анатоля Сербантовіча блізкая беларускаму народу, яму прысвечана, і да яе не раз будуць звяртацца даследчыкі паэтычнага слова.

*Май 2006 г., сакавік 2015 г .*

## ПРАВА ЗВАЦЦА БАЦЬКАМ
### Аўтабіяграфічнае рэха паэта

У першым зборніку «Азбука» майго земляка паэта Анатоля Сербантовіча ўразіў верш «Скажыце праўду». Гэты верш – пра права звацца бацькам. Верш яршысты, складзены сэрцам, якое нясе вялікую крыўду за тое, што:

*... бацька ў чужую хату,*
*Не сыну, а нейкай Фросі*
*Слаў на харчы атэстаты,*
*Слаў ён зарплату з фронту.*

А найбольшая крыўда ў героя верша затоена з самага маленства на сустрэчу з бацькам:

*На рукі не ўзяў мужчына.*
*Ён толькі ўздрыгнуў неяк*
*І мне ўсміхнуўся крыва...*
*А потым ён, бацька,*
*Сыты, дзябёлы мужчына,*
*Мяне расстраляў знянацку:*
*– А чый ты?..*

Сын гатоў быў прабачыць бацьку ўсё, але гэтыя крыўдныя словы прабачыць не мог!.. І сын, ужо дарослы малады чалавек, сэрцам, поўным пякельнай крыўды, звяртаецца да людзей, просіць іх:

*Крыкні на вуліцы прама,*
*На вуха шапні ў сне,*
*Ці мае бацькоўскае права*
*Мой бацька былы на мяне.*

Уразіў верш найперш тым, што паэт піша ад сябе, а не ад нейкага героя. А сям'я Сербантовічаў была дружная, бацька – настаўнік Стась Пятровіч (так усе звалі яго ў вёсцы) жонцы Ксеніі Сямёнаўне не здраджваў, лічылі ардачане і радзішынцы. Дык што? Верш – фантазія паэта?

Але ўсе ведаюць, што ў паэтаў большасць вершаў аўтабіяграфічная. Пра гэта прызнаваліся Сяргей Ясенін, Аляксей Пысін, Аляксандр Твардоўскі... І дыму без агню ніколі не бывае. Не абавязкова павінен супадаць сюжэт твора, але ж нейкі рэальны факт абавязкова кладзецца ў аснову. Было тое і ў сербантовічавым вершы.

Калі я падзяліўся сваімі развагамі са старэйшай сястрой Надзеяй Іванаўнай, то яна расказала, што ў Ордаці працавала ў школе разам з Ксеніяй Сямёнаўнай, сябравала з ёй. Ад мужа з фронту яна не мела вестак. Малы Толік гадаваўся без бацькоўскай ласкі і матэрыяльнай падтрымкі. Жылося цяжка. А калі скончылася вайна, то з Рыжкавіч, што ля Шклова, у Ордаць дайшла чутка: Станіслаў Пятровіч Сербантовіч вярнуўся да бацькоў жывы, здаровы, але прывёз з сабою маладую франтавую сяброўку, імя якой Сільва.

Ведама ж, Ксенія Сямёнаўна не магла змірыцца, каб яе сын Толік рос сіратою пры жывым бацьку. І яна стала збірацца ў Рыжкавічы. Адзення ж, каб выйсці ў людзі, у яе, як у многіх на той час, не было. А хацелася выглядаць не горш за сваю саперніцу. У маёй сястры захавалася даваенная шапачка-бярэтка колеру бірузы, яшчэ прыгожая. Мелася і паліто асенняе, выкупленае па талону. У некага пазычыла

туфлі-лодачкі. Гэтыя рэчы Ксенія Сямёнаўна выкарыстала для паездкі ў Рыжкавічы... Жанчына апранулася, пахарашэла, узяла на рукі сына Толіка і на падводзе паехала да бацькоў мужа.

Маці, бацька Станіслава Сербантовіча, уся радня, якая сабралася з нагоды прыезду першай нявесткі, сталі на бок Ксеніі, а Сільву адправілі дамоў. Новая нявестка не мела дзіцяці, а Толік вельмі ўжо спадабаўся свякрусе і свёкру. Ды й Сільва, убачыўшы малога, не надта ўжо супраціўлялася. А Станіслаў мусіў падпарадкавацца сямейнаму савету і паехаў жыць у Ордаць. Пазней у Станіслава Пятровіча і Ксеніі Сямёнаўны нарадзіліся дзве дзяўчынкі... Сям’я была дружная.

Падчас той сустрэчы ў Рыжкавічах са сваім бацькам Толіку было ўжо гадкоў пяць, так што ён мог помніць, як бацька не ўзяў яго на рукі, ад чаго было «сэрца, поўнае крыўды».

У даваенныя і пасляваенныя гады разводы былі рэдкай з’явай. А сёння яны паўсюдна. Іншым разам разводаў больш, чым шлюбаў. Модным стала без шлюба нараджаць дзяцей (“байстрюкоў”) і нават адракацца ад іх. У наш час колькасць дзяцей-сірот пры жывых бацьках узрасла неверагодна. Таму верш “Скажыце праўду” Анатоля Сербантовіча стаў яшчэ больш сучасным і злабадзённым, чым раней, калі ён быў створаны. Хацелася б, каб маладыя людзі помнілі, што:

*З гадамі прыходзіць розум,*
*З гадамі трывожыць роздум.*
*З гадамі гавораць праўду.*
*З гадамі адстойваюць права:*
*Звацца сынамі – права!*
*Дочкамі звацца – права!*
*Звацца бацькамі – права!*
*Калі ёсць на гэта права!*

*Ліпень 2006 г.*

## СЛОВА ПРА АЛЕСЯ ПІСЬМЯНКОВА

Алесь (Аляксандр Уладзіміравіч) Пісьмянкоў нарадзіўся 25 лютага 1957 года ў вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна. У 1980 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў у Касцюковіцкай раённай газеце карэспандэнтам, у газеце “Літаратура і мастацтва” і



ў часопісе “Вожык” – галоўным рэдактарам. А яшчэ – сакратаром у Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

Аўтар кніг “Белы камень” (1983), “Чыстыя зоры” (1988), “Планіда” (1994), “Журавель над студняй” (1998), “Я не памру, пакуль люблю” (2000) і інш.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988) і Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1999).

Памёр 23 красавіка 2004 г. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

У канцы 70-х гадоў паэт Аляксей Пысін, калі заходзіла гаворка пра Аркадзя Куляшова ці ўвогуле пра Касцюковічы, абавязкова згадваў Алеся Пісьмянкова (на той час яшчэ пачаткоўца): “Таленавіты паэт!” – і раіў мне звярнуць увагу на яго вершы.

Пазнаёміцца бліжэй з паэтам-земляком мне давялося толькі 5 чэрвеня 1988 года ў вёсцы Цялуша Бабруйскага раёна на свяце Пушкінскай паэзіі. Ён мне запомніўся светлавалосым, з пшанічнымі вусамі, невысокім, але з ладна збітай постаццю. Увесь час вочы яго свяціліся, твар таксама свяціўся ўсмешкай сціплага, лагоднага чалавека, чалавека дабрыні, радасці і аптымізму...

З той памятнай сустрэчы я не толькі чытаў надрукаванае ў свежых газетах і часопісах, але ўжо шукаў яго зборнікі. Самабытны, ні пад каго не падрабляецца. Піша каротка, ёмка, вобразамі, з філасофскім роздумам. Калі ж ён стаў рэдактарам газеты “Літаратура і мастацтва”, то нашы сцежкі сышліся бліжэй. Неяк адна з маіх нататак згубілася ў рэдакцыйных калідорах, то ў тэлефоннай размове Аляксандр Уладзіміравіч параіў: “Дасылай усё на маё імя”. І я пасылаў, найперш пра паэта Пысіна. Яго Алесь Пісьмянкоў вельмі любіў як Настаўніка, як Паэта, як Чалавека:

*Усход ружовы –*
*Гарыць зара.*
*Маліцца слову*
*Прыйшла пара*
*Маліцца нашча,*
*Як Нестар калісь,*
*Прарокі нашы*
*Купала, Колас...*

*Малітвай строгай*
*І чыстай самай,*
*Як моліць Бога*
*У вёсцы мама.*
*Малюся слову,*
*А ў горных высях*
*Маўчаць сурова*
*Стральцоў і Пысін.*

Гэтыя радкі Пісьмянкова я ўклаў у “Вянок Аляксею Пысіну”, як і радкі з прозы, з яго артыкула “Залаты запас Аляксея Пысіна” (“ЛіМ”. – 2000. – 24 сак.).

Аднаго разу ў згадцы пра Анатоля Сербантовіча, майго земляка з вёскі Ордаць, я спаслаўся на ўспамін А. Пісьмянкова “Ці збываюцца вершы”. Ксеракопію публікацыі са шклоўскай газеты “Ударны фронт” паслаў Аляксандру Уладзіміравічу, а яшчэ паклаў у канверт старонку касцюковіцкай газеты пра вёску Канічы, вёску яго маці. Праз нейкі час атрымаў у адказ ліст:

*“Шаноўны Віктар Іванавіч!*

*Вось нарэшце сабраўся Вам напісаць, хоць, ведаю, што зрабіць гэта трэба было даўно... Але, ведаеце, здараецца заўсёды так, што людзям блізкім мы адказваем у апошнюю чаргу, маўляў, свае не пакрыўдзяцца... Што зробіш – славянская рыса.*

*Вялікі дзякуй за Ваш клопат і пра Аляксея Васільевіча, і пра Івана Гаўрылавіча, і пра Анатоля Сербантовіча, і пра мяне грэшнага, а яшчэ дзякуй за Канічы. Адтуль, з Канічаў была маці Марыя Сямёнаўна. Зрэшты, адтуль увесь яе род, а значыць, і мой. Не так даўно я быў там – ездзіў на Раданіцу – і зноў на свае вочы бачыў сляды былой велічы і росквіту некалі знакамітай вёскі. Дарэчы, з Канічаў і Васіль Хомчанка. Я ведаю, што Вы чалавек сціплы, І таму абяцаю, што ўсё дасланае Вамі ў “ЛіМ” будзе надрукавана.*

І “ЛіМ” надрукаваў нямала майго, і не толькі пра Пысіна.

А калі А.У. Пісьмянкоў перайшоў на працу ў “Вожык” галоўным рэдактарам, то поштай пераслаў мне свой зборнік вершаў “Журавель над студняй” 1998 г. выдання з аўтографам: “Шаноўнаму Віктару Іванавічу Арцем’еву – чалавеку і патрыёту. 3 павагай, па-зямляцку Алесь Пісьмянкоў”. Была ў вялікім канверце яшчэ кніжка “Сказ пра Лысую Гару” (поўны тэкст) з бібліятэчкі “Вожыка”. Ёсць у мяне яшчэ адна кніжка А. Пісьмянкова з аўтографам “Я не памру, пакуль люблю”.

А ў 2005 годзе купіў у кнігарні сабе трэцюю, пасмяротную кніжку паэта "Думаць вершы..." Яна з'яўляецца "Вянком..." паэту-земляку. У ёй мы бачым у поўны рост Аляксандра Уладзіміравіча, як Творцу і Чалавека, у якога "вочы, поўныя дабра".

У канцы 2003 года ў нас адбылася другая, і, на вялікі жаль, апошняя сустрэча з вока на вока: Алесь Пісьмянкоў прыехаў у Магілёў на адкрыццё мемарыяльнай дошкі на вуліцы, якой надалі імя народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. Гэта была ўжо сустрэча двух даўніх сяброў. Аляксандр Уладзіміравіч і на афіцыйнай частцы, і ў застоллі быў побач са мной. Мы мелі магчымасць хораша пагаварыць пра многае. У Пісьмянкова было ад душы жаданне сустрэцца з чытачамі-магілёўцамі.

Неўзабаве я дамовіўся на такія сустрэчы ў Магілёўскім універсітэце імя А.А. Куляшова, у бібліятэчным тэхнікуме імя А.С. Пушкіна і ў архітэктурна-будаўнічым каледжы Беларуска-Расійскага універсітэта. Але за некалькі дзён да падрыхтаваных сустрэч паэт перадаў мне па тэлефоне, што ў сувязі з фінансавай рэвізіяй у рэдакцыі газеты "Вожык" ён прыехаць не зможа. Сустрэчы перанеслі на люты, а потым на няпэўны час. І раптам, як гром з яснага неба, вестка, што майго сябра 23 красавіка 2004 года не стала. Вестка вельмі ўжо нечаканая, а таму нясцерпна балючая...

Алесь Пісьмянкоў – пясняр нашага роднага края Ён ніколі не забываў родныя карані, сваё Прыбяседдзе з крыніцамі, якія жывілі яго-ны талент. Ён захапляўся нават назвамі вёсак малай радзімы: "Таму й чытаю назвы вёсак, як загалоўкі мудрых кніг". Ён не пісаў вершы, ён іх думаў (помніце ў Пушкіна, ён іх «сочинял»), таму вершы Пісьмянкова моцныя як крэмень, чыстыя і празрыстыя як крынічная вада... Яны перакладзены ім з моў дрэў "на голас чалавечы". І таму кожны верш паэта шматгалосы і прарочы:

*У ім заплача сто крыніц,*
*У ім зазвоняць сто рачулак.*

Вершы Алеся Пісьмянкова хочацца чытаць без перапынку. Яго вершы людзям на тысячагоддзі! Звяртаюся да моладзі: чытайце вершы Алеся Пісьмянкова!

*Сакавік, 2007 г.*

# ЯШЧЭ АДНА ВЕРСІЯ ПРА ТРАГІЧНУЮ СМЕРЦЬ ЯНКІ КУПАЛЫ



У народзе хадзіла некалькі супярэчлівых версій пра трагічную смерць народнага паэта БССР Янкі Купалы, якая здарылася ў 1942 годзе ў лесвічным пралёце гасцініцы "Масква". Найчасцей у біяграфічнай літаратуры і публіцыстыцы згадваецца версія, што яго забілі берыеўскія служакі.

Алесь Вабіч у артыкуле "З Купалам у сэрцы" абнародваў яшчэ адну версію пра трагічную смерць паэта, якую запісаў у 80–90-я гады мінулага стагоддзя ад вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча БССР Мікалая Яфрэмавіча Аўхімовіча:

18 чэрвеня (1942 г.) Янка Купала... прыязджае з Казані ў Маскву, уладкоўваецца ў гасцініцы "Масква", наведвае Саюз пісьменнікаў, сустракаецца з М. Лыньковым, К. Крапівой, П. Глебкам, П. Броўкам, У. Юрэвічам, іншымі нашымі творцамі...». Мікалай Яфрэмавіч апавядаў далей, што Янку Купалу размясцілі на чацвёртым паверсе ў асобным нумары – "у 2-м ці ў 3-м". Непадалёк ад пакоя дзяжурных па паверсе. Сам Аўхімовіч размяшчаўся тут жа, "у 16-м нумары". 28 чэрвеня Янка Купала сустракаецца ў гасцініцы з многімі сябрамі, нейкіх асаблівых хваляванняў, непакою не выказвае. Адным словам, знаходзіўся ў звычайным жыццярадасным стане, у якім чалавек не разважае пра самагубства. Менавіта гэты аптымізм, творчыя клопаты Янкі Купалы адвяргаюць версію аб ягоным самагубстве. "Каля дзесяці гадзін вечара, – распавядаў Мікалай Яфрэмавіч, – я знаходзіўся ў сваім нумары. У Маскве было зацьменне. Ліфт не працаваў... Звоніць дзяжурная па паверсе:

– Таварыш Аўхімовіч, ваш Янка Купала ўпаў з лесвіцы. Выбягаю з нумара, бачу – Янка Купала ляжыць у праёме. Спусціўся ніжэй. Ніводнай крывіначкі не відаць. Такі быў удар, што прывінчаны ордэн Леніна ажно сагнуўся ад удару. Падабралі паэта і павезлі ў клініку імя Скліфасоўскага".

Мікалай Яфрэмавіч асабіста суправаджаў яго. Потым было анатаміраванне. Спіртное, – указвалася ў заключэнні, – было нязначным. З бальніцы Мікалай Яфрэмавіч вярнуўся ў гасцініцу, узяў ключ, увайшоў у нумар Янкі Купалы. На стале ўбачыў бутэльку каньяку і бутэльку шам-

панскага. Вырашыў, што гэта, магчыма, засталося з нядзелі, калі ў яго былі госці, беларускія і рускія пісьменнікі. Падняліся да Лынькова...

Далей з аповеда Мікалая Яфрэмавіча вынікае, што разам з іншымі пісьменнікамі ён узнаўляў карціну таго, што папярэднічала трагедыі. Расследаванне паказала, што недзе каля дзесяці гадзін вечара Янка Купала захацеў пайсці да сябе ад М. Лынькова, у той час старшыні Саюза пісьменнікаў БССР. Міхась Ціханавіч хацеў правесці яго. Янка Купала адмовіўся. Гэта была памылка Лынькова, – працягваў аповед Аўхімовіч. – Трэба было правесці старога. Далей было вось што: дзяўчына-афіцыянтка, якая абслугоўвала нумары, ішла з посудам на падносе і на пляцоўцы паверха сустрэлася з Янкам Купалам. Ён ведаў яе і пажартаваў:

– А мая ж ты даражэнькая...

Пры гэтым Янка Купала гарэзліва працягнуў руку да дзявочага стрункага стану. Гэта быў звычайны мужчынскі жарт, уласцівы ўсім мужчынам, каб адчуць, як дзяўчаты войкаюць і сарамяжліва чырванеюць.

А дзяўчына ў адказ:

– Ай, адчапіся дзед.

Пры гэтым як бы засланяючыся ад жартаўлівага жэста, механічна адштурхнула Янку Купалу і ён упаў у пралёт лесвіцы. Яна сама заявіла пра гэта следчым, была арыштавана. Некалькі дзён яе дапытвалі, але пераканаўшыся, што ніякіх зламысных намераў у яе дзеяннях не было, адпусцілі”.

Аповед Мікалая Яфрэмавіча дапаўняе сведчанне П. Глебкі. З расказа дзяжурнай па паверсе ён даведаўся, што яна бачыла, як Янка Купала стаяў непадалёк ад бар’ерчыка лесвіцы і гутарыў з маладой жанчынай.

Вось такая версія трагічнай смерці паэта. Толькі мне яна не да канца зразумелая. Дзяўчына-афіцыянтка ішла з посудам на падносе. А паднос нясуць звычайна у дзвюх руках. То як яна магла адштурхнуць Янку Купалу. І яшчэ: як жанчына магла спакойна стаяць, забіўшы, хаця і не наўмысна, чалавека?

У сямідзясятых гадах мне давялося пачуць версію трагічнай смерці Янкі Купалы, таксама звязаную з афіцыянткай, але ў іншым варыянце. Паэт Аляксей Пысін да купалаўскіх юбілейных дат гаварыў слова пра слаўнага Песняра, які быў яго кумірам. У кватэры Пысіных і сёння на відным месцы вісіць партрэт Янкі Купалы, які з даўняга часу “Увайшоў у дом, у круг сямейны, // Як уваходзяць сваякі”. Гаворачы пра абставіны смерці Песняра, А. Пысін даводзіў магілёўцам, што Народны паэт

загінуў ад варожай рукі. На дамоўленых прагулках па гораду Аляксей Васільевіч згадваў асобныя эпізоды яго жыцця. Аднаго разу расказаў тое, што чуў пра абставіны трагічнай смерці Янкі Купалы ад мінскага сябра-пісьменніка.

У пралёт лесвіцы гасцініцы "Масква", як гаварыў мне Аляксей Васільевіч, Янку Купалу скінуў армейскі палкоўнік, які быў ухажорам маладой афіцыянткі з гасцінічнага рэстарана. Палкоўнік заўважыў, што паэт, а хутчэй за ўсё, ён і не ведаў, што мае справу з вядомым паэтам, выказвае сімпатыі да яго дзяўчыны-афіцыянткі. У палкоўніка разбушавала рэўнасць, і ён паклікаў саперніка для размовы на лесвічную пляцоўку (а можа, сустрэў яго там). Размова, відаць, не атрымалася, і гарачы раўнівец-палкоўнік скінуў субяседніка ў пралёт лёсвіцы. Такі вось аповед чуў я ад Пысіна.

Чаму дзяўчына-афіцыянтка сама пайшла да следчых і на допыце ўсю віну поўнасцю ўзяла на сябе? На маю думку, тут усё проста: яна па-сапраўднаму кахала палкоўніка і рашыла выгарадзіць яго ад суда, маўляў, за неасцярожны ўчынак яна атрымае невялікі турэмны тэрмін, а калі пашанцуе, то і апраўданне. Што, урэшце, і адбылося.

Паэт Янка Купала быў кумірам для Пысіна, і ён у сваёй творчасці трымаў раўненне на ягоную высокую паэзію. У многіх аўдыторыях Магілёва Аляксей Васільевіч гаварыў палымянае слова пра яго і абавязкова казаў: "Варожая рука забіла Янку Купалу".

Слаўны сын Беларусі Янка Купала, незалежна ад любой з версій яго трагічнай смерці, быў, ёсць і будзе разам са сваім народам, жыве і будзе жыць ягоная паэзія Генія.

*Жнівень 2007 г.*

## АДЫШОЎ АД НАС ПЯСНЯР ЗЯМЛІ МАГІЛЁЎСКАЙ

**Развітальнае слова ля труны на Пашкаўскім кладзішчы 11 лютага 2013 г.**

Усяго некалькі тыдняў таму паэт Іван Пехцераў адзначыў свой юбілей – 75 гадоў з дня нараджэння. Некаторыя абласныя і гарадскія ўстановы нават не паспелі павіншаваць яго з гэтай нагоды і правесці агульнагарадскую літаратурную вечарыну. А ён так чакаў і вельмі



хваляваўся... Не дачакаўся. А 9-га лютага надвячоркам кажа родным:

– Нешта я стаміўся. Прылягу і крышачку пасплю...

Іван Ягоравіч ціхусенька прылёг на тапчане на кухні: шмат гадоў тут яго працоўны кабінет, тут яго прытулак і ўдзень, і ўночы, бо кватэра аднапакаёвая. Ён закрыў вочы і больш іх не адкрыў.

Не паварочваецца язык сказаць, што ён памёр. Не! Ён адышоў у іншы свет спакойна, ціха, нікога не патурбаваўшы. Як сказаў паэт Аляксей Пысін:

*Павольна йду: варочаў я каменне.*
*Араў глыбокім плугам цаліну.*
*– Спяшайцеся, шыбуйце, пакаленні!*
*Стаміўся я... І крышку адпачну.*

З адыходам Івана Пехцерава ў іншы свет закацілася за небасхіл самая яркая зорка магілёўскай паэзіі і рускамоўнай паэзіі Беларусі.

Івана Пехцерава ўжо даволі значны час называюць песняром зямлі магілёўскай і вёсак Прыдняпроўя. Сапраўды, ён светлы чалавек і таленавіты цудоўны творца, паэт «з Божай іскрай». Радкі ягоных вершаў і паэм чуюцца, як песня жаваранка, як пошчак салаўя. Яны паэтычным радком малююць каляровую панараму былых вёсак і сённяшніх аграгарадкоў нашай Беларусі. Скразной тэмай усіх кніг пісьменніка (а іх больш за паўтара дзясятка) з’яўляюцца Радзіма, вера праваслаўная, дабрыня і каханне. Яны нясуць высокі зарад патрыятызму, духоўнасці, маральнай чысціні, яны пра дабро і зло, пра вечнае, яны вучаць нашу моладзь жыццю.

Багата паэтычных старонак паэт прысвяціў роднаму Магілёву і зямлі магілёўскай. Гэта паэмы: «Не на крови, а на любви», «За други своя», «Подвиг Могилева», «Мать Полтавской победы», «Мстиславская Монастырщина», «Деревня», «Хлеб и песня», «Второе обретение земли», «Салтановская баталия» і іншыя, а яшчэ сотні і сотні патрыятычных і лірычных вершаў. Нездарма на папярэднім юбілеі паэта адзін з кіраўнікоў вобласці сказаў:

– Паэт Іван Пехцераў для ідэалогіі адзін робіць столькі, калі не больш, чым некаторая ўстанова з дзясяткам чыноўнікаў.

Нам гэтую духоўную спадчыну паэта неабходна захаваць і штодзённа карыстацца ёю па выхаванню юнакоў і дзяўчат патрыётамі сваёй Айчыны.

Іван Ягоравіч у гутарках часта дзяліўся са мной сваімі новымі творчымі набыткамі. Да друку падрыхтаваны дзве паэтычныя кніжкі, трэцяя ў рукапісах. А яшчэ ў яго ёсць у рукапісу гістарычны раман “Наш хлеб насущный”. Ён з жыцця рускай і беларускай вёсак на працягу трох стагоддзяў. Можа, гэта і ёсць тая «Война и мир», пра якую гаварыў Прэзідэнт? Падрыхтаваны да друку дзве аповесці: «Красная трава» і «Чорны ангел». Па мастацка-дакументальных аповесцях «Мертвые сраму не имут» і «Небесные братья» магілёўскі чытач ведае, што Іван Пехцераў, апроч усяго, – таленавіты празаік. Трэба зберагчы ўсе гэтыя рукапісы і паклапаціцца, каб у бліжэйшыя два-тры гады яны ўбачылі свет, каб гэтыя кніжкі мелі ўсе раённыя, гарадскія і школьныя бібліятэкі вобласці.

Пасля Аркадзя Куляшова і Аляксея Пысіна такога пладавіта таленавітага паэта, як Пехцераў, у Магілёве не было і ў бліжэйшай перспектыве не бачыцца. Пара падумаць аб увекавечанні памяці паэта: адну з новых вуліц горада і адну з бібліятэк назваць імем Івана Пехцерава.

Іван Ягоравіч! Нам цябе будзе вельмі ўжо не ставаць. Ты наш боль, наш смутак, наш гонар. Бывай, дарагі дружа!

*11.02.2013 г.*

## МАЙСТАР БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ



14-га студзеня споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння Міколы (Мікалая Якаўлевіча) Аўрамчыка – выдатнага паэта, перакладчыка, празаіка, заслужанага работніка культуры БССР (1980 г.), лаўрэата Дзяржаўнай літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1963 г.), за зборнік вершаў “Сустрэча былых канагонаў”), члена Саюза пісьменнікаў СССР з 1947 года. Яго біяграфія знітавана скрозь усё доўгае жыццё з росквітам беларускай савецкай паэзіі. Школу паэтычнай лірыкі Міколы Аўрамчыка прайшлі сотні маладых беларускіх паэтаў. Сёння ён – Патрыярх беларускай паэзіі.

Нарадзіўся Мікола Аўрамчык 14 студзеня 1920 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Плёсы, што за дваццаць кіламетраў ад Бабруйска. Вучыўся ў Цялушскай сямігодцы і ў Бабруйску. І працаваў паштальёнам і тэлефаністам на пошце, а яшчэ два леты – вагаўшчыком у трактарных брыгадах Малеўскага і Бортніцкага сельскіх саветаў.

У канцы 1937 года вершы вучня сярэдняй школы М. Аўрамчыка друкуюцца на старонках бабруйскага "Камуніста", а ў пачатку наступнага года з'яўляюцца ў часопісе "Полымя рэвалюцыі".

Улетку 1938 года пасля заканчэння сярэдняй школы маладога паэта выклікаюць у Мінск на рэспубліканскія курсы маладых аўтараў. А восенню ён паступае на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута і адначасова працуе ў рэдакцыі газеты "Піянер Беларусі". У інстытуце выдаваўся літаратурны часопіс "Наша творчасць". На вечарыны да студэнтаў прыходзілі вядомыя беларускія пісьменнікі. У красавіку 1939 года сюды прыйшлі Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Лынькоў і Эдзі Агняцвет. Якуб Колас прачытаў у студэнцкім літаратурным часопісе верш М. Аўрамчыка "Адлёт жураўлёў" і паказаў яго Янку Купалу. Міколу Аўрамчыку першаму прадаставілі слова, і ён чытаў радкі:

*"Пралятаюць, раняючы крыкі,*
*Караванам даўгім жураўлі,*
*...А ў іх крыках – спалохі, трывога".*

Васямнаццацігадовы паэт у празрыста-гучных вершаваных радках пра жураўлёў выказаў людзям трывогу планеты перад няясным подыхам другой сусветнай вайны, якая блізілася. Якуб Колас ухваліў верш юнага паэта.

Да вайны М. Аўрамчык паспеў скончыць толькі тры курсы педагагічнага інстытута. 26 чэрвеня разам з Міколам Сурначовым ён пакінуў палаючы Мінск: адзін пайшоў на Бабруйск, другі – на Магілёў. Але пад Смаленскам яны абодва ўліліся ў рады аднаго з запасных палкоў. Ды лёс іх разлучыў, бо трапілі ў розныя часці. Мікола Аўрамчык радавым з "кацюшамі" ваюе на Паўночна-Заходнім і Волхаўскім франтах. У канцы чэрвеня 1942 года вайсковая часць трапіла ў акружэнне. Мікола Аўрамчык аказаўся ў фашысцкім палоне і быў вывезены ў Рур на каменнавугальную шахту горада Марль. Юнак прайшоў праз усе жахі варожай няволі: "Калі б не малады юнацкі арганізм ды не падтрымка і дапамога аднаго нямецкага шахцёра, дык я, напэўна, не выжыў бы ў гэтым пекле", – прызнаўся пазней паэт. Пад уражаннем палону былі

напісаны вершы “Глюкаўф!”, “Я знаю рай ваш залаты...”, “Ключы жураўлiныя”, “Сустрэча былых канагонаў”, “Хлеб твой”, а яшчэ раман “У падзямеллі”.

Толькі ў канцы красавіка 1945 года ён быў вызвалены англічанамі і перавезены ў размяшчэнне савецкіх войск. З Паўночнай Германіі батальён прыйшоў у Беларусь, а адтуль паехалі на Украіну. Мікола Аўрамчык аднаўляў Данбас. Пра тую пару нагадвае нізка вершаў “Легенда аб залатой зямлі”.

Увесну 1946 года Мікола Аўрамчык вяртаецца ў Мінск і паступае на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які скончыў у 1949 годзе. Адначасова з вучобай працуе ў рэдакцыях “Чырвоная змена», “Літаратура і мастацтва”, “Полымя”. А з дня арганізацыі часопіса “Маладосць” па рэкамендацыі П.М. Машэрава працуе ў ім у аддзеле паэзіі аж да 1980 года, калі пайшоў на творчую працу.

Мікола Аўрамчык выдаў дзясяткі зборнікаў. Сярод іх: “Пярэдні край”, “Шляхамі дружбы”, “Ключы жураўліныя”, “Сустрэча былых канагонаў”, “Універсітэцкі гарадок”, “Агледзіны”, “Радовішча”. А яшчэ кніжку “Знаёмыя постаці”, у якой змешчаны ўспаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Кандрата Крапіву, Змітрака Бядулю, Міхася Лынькова, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Максіма Танка, Пімена Панчанку, П.М. Машэрава, Пятра Глебку, Аляксея Пысіна, Анатоля Грачанікава, Веру Палтаран, Уладзіміра Карпава, Сцяпана Александровіча, Аляксея Коршака, Міколу Сурначова…

Творы Мікалая Аўрамчыка цікавыя і шматгранныя. Яны лучаць чытачу ўбачанае і перажытае аўтарам найбольш у мажорным плане, як светлае і ўзвышанае. Але пра ваенныя падзеі нясуць адбітак жахлівага, пачварнага, антыгуманнага, зведанага і перажытага ім самім.

Чытач ведае Міколу Аўрамчыка пераважна як паэта-лірыка, думкі, памкненні і пачуцці якога сінхронна сугучныя з думкамі і пачуццямі яго героя. Высока ацаніў мастацкія якасці паэта-земляка літаратурны крытык Якуб Усікаў: “Выразнасць і акрэсленасць думкі, кампазіцыйная кампактнасць верша, трапнае спалучэнне канкрэтна-рэалістычных і рамантычна-узнёслых элементаў складаюць важнейшыя найбольш істотныя асаблівасці мастацкай манеры паэта”.

М. Аўрамчык вядомы як высокакваліфікаваны перакладчык. Ён пераклаў на беларускую мову шэраг твораў Дж. Байрана, А. Міцкевіча, Л. Украінкі, І. Франка, М. Джаліля, Г. Эміна і іншых вядомых паэтаў свету.

Творы М. Аўрамчыка перакладзены і друкаваліся не толькі на рускай і мовах народаў Савецкага Саюза, але і на англійскай, французскай, іспанскай, балгарскай, венгерскай, нямецкай, польскай.

М.Я. Аўрамчык узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені і "Знак Пашаны", медалямі, Ганаровымі Граматамі Вярхоўных Саветаў БССР, Украінскай ССР, Літоўскай ССР.

І сёння творца Мікола Аўрамчык яшчэ ў страі, у яго вельмі ясная памяць, аптымістычны настрой. Праўда, даймаюць хваробы, падводзіць зрок, але на пішучай машынцы да апошніх гадоў друкаваў тэкст без аніводнай памылкі. Падрыхтаваў рукапіс новай кнігі "Бывальшчына". Гэта старонкі літаратурных успамінаў пра час 28-гадовай працы ў часопісу "Маладосць". У новым творы ёсць эпізоды сустрэч з нашымі землякамі-творцамі – Аляксеем Пысіным, Сцяпанам Гаўрусёвым, Анатолем Сербантовічам, Пятром Прыходзькам. Дай Божа, каб яна ўбачыла свет хутчэй.

Я, дзякуючы паэту Аляксею Пысіну, з біяграфіяй і творчасцю яго сябра Міколы Аўрамчыка пазнаёміўся ў канцы пяцідзясятых гадоў. А ў 1964 годзе Аляксей Васільевіч яшчэ ў рукапісу чытаў радкі з новага свайго верша "Міколу Аўрамчыку":

*Я ў Плёсах быў. Там клуб двухпавярховы*
*На востраве зялёным, як маяк.*
*Сказалі мне, што водпуск свой чарговы*
*На мілі ў моры размяняў зямляк.*
*Калісь вясёлым прыязджаў студэнтам,*
*Спяшаўся ў сад, нібы у літгурток.*
*І наліваўся сонцам, звонам летнім,*
*Як яблыка, крамяны твой радок.*

І так закарцела мне ўбачыць Плёсы, а яшчэ Вавулічы (цяпер Дубоўка), дзе быў маёнтак ўнучкі А.С. Пушкіна Наталі Аляксандраўны Варанцовай–Вельямінавай. Маці Міколы Аўрамчыка Наталья Васільеўна ў маладыя гады служыла пакаёўкай ва ўнучкі Пушкіна. Ведама ж, яна расказвала сыну Колю пра Пушкіных. Быў у іх доме зборнік вершаў паэта Пушкіна, якія Мікола, падросшы, вучыў на памяць. Пабываў я ў тых мясцінах, найперш у Цялушы. У шасцідзясятыя гады каля храма не было ўжо ні помніка, ні надмагільнага курганка – усё зруйнавана… Толькі ў васьмідзясятыя гады адноўлены магілы і ўстаноўлены гранітны помнік. І тут, у Цялушы, цяпер кожны год запар бабруйчане і магілёўцы ладзяць Пушкінскае свята паэзіі.

А сустрэцца з самім Міколам Аўрамчыкам мне пашчасціла толькі ў 1978 годзе. Ён з Петрусём Макалём прыехаў у Магілёў з нагоды сустрэч з маладымі чытачамі. Дамовіліся мы аб гэтым загадзя, і я з 19 па 24 чэрвеня падрыхтаваў ім 16 аўдыторый. Магілёўцы сустрэлі паэтаў з цеплынёй і павагай, іх літаратурныя выступленні слухалі з вялікай цікаўнасцю і ўвагай. Мікола Аўрамчык не толькі вершы чытаў, ён гаварыў пра высокі ўзровень беларускай лірыкі, а таксама даносіў слухачам слова сваёй маці пра ўнучку Пушкіна Наталлю Варанцову–Вельямінаву і пушкінскую паэзію. Наведаліся Мікола Аўрамчык і Пятрусь Макаль на заводы “Строммашына”, рамонтны, малочны, на фабрыкі галаўных убораў і індпашыву і рамонту абутку, у Дом культуры завода імя С.М. Кірава, у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Карла Маркса, а яшчэ ў шэраг рабочых інтэрнатаў. На многіх сустрэчах мне давялося пабываць і не толькі паслухаць вершы, а яшчэ і цікава пагаварыць з паэтамі ў перапынках паміж паездкамі ў аўтобусе.

Зімой 2004 года Мікола Аўрамчык наведаўся ў Магілёў з групай мінчукоў, у ліку якіх была і дачка паэта Куляшова Валянціна. У дзяржаўным універсітэце, які носіць імя слаўнага паэта, была наладжана юбілейная літаратурна-музычная вечарына да ўгодкаў Аркадзя Куляшова. З ліку гасцей трымаў слова і Мікола Аўрамчык – высокі, стройны, рухавы, са шчырай усмешкай на твары. Аніяк не скажаш, што яму далёка за восемдзясят гадоў. І цікавую згадку пра Куляшова, і вершы свае чытаў па памяці, як і ў маладыя гады. У зале ён запрасіў мяне да сябе на свабоднае крэсла і мы зрэдзь маглі перакінуцца словам. Перад вечарынай і пасля яе мы хораша пагаманілі: успомнілі вандроўкі па Магілёве ў далёкім 1978 і нашага сябра Аляксея Пысіна, кранулі і стан беларускай паэзі на той час.

Амаль некалькі гадоў запар мы сустракаліся ў Цялушы на свяце Пушкінскай паэзіі. І кожнага разу нам хапае тэм для гамонкі. Нейкі час, як ён жыў на малой радзіме і са зрокам было цярпіма, мы нават зрэдку і ліставаліся. Мікалай Якаўлевіч даслаў у “Вянок Анатолю Сербантовічу”, які я склаў, цікавую згадку. Пазней навінамі абменьваліся па тэлефоне. А цяпер і гэтае нас мінула. Ні чытаць, ні чуць па тэлефоне яму ўжо немагчыма. А памяць у яго і сёння ясная, маладая – на зайздрасць іншым.



Славуты паэт-зямляк Мікола Аўрамчык – сведка і арганізатар росквіту беларускай паэзіі 20-га стагоддзя. Жадаю Патрыярху беларускай паэзіі добрага здароўя і ўсяго найлепшага ў жыцці на многае леты!

*2010, 2015 гг.*

## ЗГАДКА ПРА АЛЕСЯ МАХНАЧА



Вобраз вядомага беларускага пісьменніка Алеся Махнача ў маёй памяці звязаны з рэдакцыяй газеты «Літаратура і мастацтва», бібліятэчным тэхнікумам А.С. Пушкіна, а яшчэ з мнагалюднымі аўдыторыямі чытачоў-магілёўцаў.

У 1952 годзе газета «Літаратура і мастацтва» змясціла першую маю нататку пра тое, што ў Магілёве дрэнна наладжаны кніжны гандаль. Мясцовыя ўлады рэагавалі на крытычныя заўвагі, і я зрэдчас дасылаў у «ЛіМ» невялікія допісы. Часам атрымліваў з рэдакцыі лісты, у якіх літсупрацоўнік газеты Алесь Махнач звяртаў маю ўвагу на некаторыя хібы зместу і нават раіў тэмы, падказваў, на чым зрабіць акцэнт. У нейкай ступені гэта была вучоба. Так адбылося завочнае знаёмства. І на старонках “ЛіМа” сталі з’яўляцца больш грунтоўныя публікацыі пра культурна-асветную ніву зямлі магілёўскай: “Разам з актывам”, “Без увагі сельскіх саветаў”, “Гэта не дробязь”, “Дзем густа, дзе пуста”, “Ініцыятыўныя людзі”… І калі на пачатку 60-х гг. я ўпершыню трапіў у будынак рэдакцыі газеты, то найперш адшукаў літсупрацоўніка Аляксандра Іванавіча. Мы сустрэліся так, нібыта даўно і добра знаёмыя. Тым больш высветлілася, што мы калегі. А. Махнач таксама меў прафесію бібліятэкара. У другі раз я завітаў да яго пасля рэспубліканскага семінару бібліятэкараў, паабяцаў даслаць інфармацыю.

– Не! – сказаў ён. – Вось табе папера і аловак, садзіся за мой стол і пішы. Пойдзе ў сённяшні нумар.

З таго дня пачалося наша шчырае сяброўства, якое доўжылася і тады, калі ён з рэдакцыі пайшоў на вольны хлеб. На пачатку 80-х, калі я працаваў выкладчыкам Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума імя

А.С. Пушкіна і паралельна рыхтаваў сустрэчы пісьменнікаў з чытачамі, Алесь Махнач наведаў Магілёў тройчы.

У лютым 1981 года прыязджаў з Мікалаем Кругавых, у сакавіку 1982 года – адзін, тады ён па чарзе выступаў з мясцовымі пісьменнікамі Аляксандрам Мельнікавым, Пятром Шасцерыковым, Міхаілам Шумавым і чытальніцай-гумарысткай Лідзіяй Звярковай. У лютым 1986 года Алесь Махнач прыехаў з Хрысцінай Лялько. На працягу пяці дзён пісьменнікі сустракаліся з чытачамі ў цэхах заводаў, рабочых інтэрнатах, навучальных установах. Тысячы магілёўцаў убачылі і пачулі слова мужнага абаронцы Брэсцкай крэпасці і праўдзівага пісьменніка.Слухачоў асабліва кранапі яго сведчанні пра канкрэтных салдатаў і афіцэраў, якія здзейснілі подзвігі ў імя Радзімы і загінулі ў смяротнай схватцы з ворагам.

Кожны раз, як толькі меў такую магчымасць, я стараўся суправаджаць Алеся Махнача на літаратурныя выступленні, каб зноўку паслухаць яго слова. Высокі, інтэліентны, заўсёды вясёлы, рухавы... На яго звярталі ўвагу. Здавалася, што ён не ідзе, а бяжыць. Іншым разам Аляксандр Іванавіч нават апраўдваўся:

– Нікуды я не бягу! Усё проста: стану на хворую нагу – адчуваю дыскамфорт, стараюся хутчэй абаперціся на палачку і паставіць на зямлю другую нагу. Так вось і «прыгаю» пасля вайны.

У кожны свой прыезд ён абавязкова рабіў адно-два выступленні ў сваёй almamater – бібліятэчным тэхнікуме імя А.С. Пушкіна. Будучым прапагандыстам кнігі гэтыя сустрэчы былі цікавыя і карысныя, бо Аляксандр Іванавіч быў дасведчаным бібліятэкарам, да таго ж, меў добрае пачуццё гумару. Зала літаральна выбухала рогатам, калі ён чытаў урывак з арыгінальнай камедыі.

Здаралася, і сам пісьменнік не мог стрымацца і са смакам смяяўся разам з маладымі слухачамі. Упэўнены, што і сёння многія бібліятэкары – выпускнікі тых гадоў помняць тыя выступленні Алеся Махнача.

У першы прыезд сябра-пісьменнік пагартаў старонкі майго альбома з экспромтамі пісьменнікаў пра кнігу і бібліятэку. Пакінуў свой: «Лепш адчуць смак добрага мастацкага слова, чым адчуць смак добрага віна альбо гарэлкі.

Вось так, шаноўны мой сябра Віктар Іванавіч, я магу адказаць на Ваша пытанне пра кнігу.

10 лютага 1981 г. Ал. Махнач».

Апошняя сустрэча з Алесем Махначом і апошні ягоны аўтограф былі ў лютым 1985 года. На сваёй кнізе «Няхай красуе жыццё. // П'есы, драмы, камедыі» (1982) ён напісаў: «Дарагому, даўняму сябру Віктару Іванавічу Арцем'еву – Няхай заўсёды ў радасці ды шчасці красуе Ваша жыццё. Са шчырасцю – Алесь Махнач». 10.02.1985 г.

Я заўсёды помню аптымістычную і шчырую душу Аляксандра Іванавіча, светлага, добрага і сумленнага чалавека, мужнага франтавіка і праўдзівага пісьменніка. Згадка пра ягоную дабрыню і яго аўтографы шчымяць маё сэрца і саграваюць душу.

*Красавік 2013 г.*

## ТВОРЧЫ ПОДЗВІГ ПАЭТА

Сейбіт, паэт, майстар санета. Менавіта такім з'яўляецца беларускі лірык Змітрок Марозаў. Ён выдаў амаль трыццаць зборнікаў твораў, з іх – шэсць для дзяцей. Ён напісаў некалькі соцень санетаў, дзесяць вянкоў санетаў, а яшчэ вянок вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы". Гэты ўнікальны твор заняў першае месца дадзенага жанру ў еўрапейскай літаратуры, пра што сказана ў 10-м томе васямнаццацітомнай "Беларускай энцыклапедыі" 2000 г. Некалькі зборнікаў паэта адзначаны рэспубліканскімі прэміямі ў галіне літаратуры, шмат твораў уключаны ў школьныя праграмы і падручнікі, дапаможнікі для студэнтаў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.



Нарадзіўся Змітрок Марозаў 2 студзеня 1954 года ў пасёлку Язбы Крупскага раёна на Міншчыне.

Бацька Дзімітрый Васільевіч Марозаў працаваў цесляром у калгасе, маці Вера Паўлаўна Марозава настаўнічала ў Язбаўскай сярэдняй школе.

Скончыўшы дзесяцігодку, Змітрок вучыцца на агранома ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Па размеркаванню ў ліпені 1975 года трапіў у Магілёўскую вобласць, у якой затрымаўся больш як на дзесяць гадоў. Працуе тут аграномам у калгасах Быхаўскага

і Бялыніцкага раёнаў, другім сакратаром Бялыніцкага райкама камсамола, супрацоўнікам упраўлення сельскай гаспадаркі Магілёўскага аблвыканкама. Адтуль пераводам трапіў у лектарскую групу ЦК камсамола Беларусі, а потым 23 гады працуе на адказных пасадах Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, апошнім часам – у Міністэрстве гандля. Вершы і нататкі піша пасля працоўнага дня, вечарамі, а часам і ноччу.

Як паэт, Змітрок Марозаў нарадзіўся на зямлі магілёўскай. На крыло маладога пачаткоўца ставілі кіраўнік літаб’яднання пры Быхаўскай раёнцы, а цяпер вядомы пісьменнік, Мікола Леўчанка, і паэт Аляксей Пысін, які параіў пісаць на матчынай мове і дапамагаў парадамі. Удзячны вучань прысвяціў сваім настаўнікам чулыя вершы. Цяжкасці ў жыцці толькі загартоўвалі і натхнялі маладога паэта на творчы подзвіг. У гэтым ён і сам прызнаецца: “А што, калі б я стаў членам Саюза пісьменнікаў адразу, калі б лёгка выдаваліся першыя кніжкі?.. Я не празорца, але мяркую, што верагоднасць напісання вянка вянкоў санетаў была б куды меншай”.

Чытача ў творах Зм. Марозава падкупае глыбокае веданне побыту людзей сённяшняй вёскі, шчырыя радкі пра родны край і яго людзей, любоў да матчынай мовы, тонкая лірыка і адказная грамадзянская пазіцыя. У творчасці ён ідзе ад жыцця і піша пра жыццё, піша праўдзіва. У паэзіі ён як на духу ў храме Божым. Змест яго твораў – гэта споведзь перад людзьмі. Яго радкі саграваюць душу чалавека, як промні сонца, яны прыцягваюць да сябе чытача. Сакрэт ягонай творчасці – у глыбокім веданні жыцця, у яднанні з прыродай, у любові да людзей і ўсяго жывога на зямлі:

*Каля разлапістай сасны*
*Пасля будзённых спраў*
*Збіраю я грыбныя сны,*
*Паданні мудрых траў,*
*Чабору цёплае святло,*
*Сунічны пах вятроў.*
*І ўсё, што згасла, адцвіло,*
*Хвалюе сэрца зноў.*

Паэт – сейбіт і ў жыцці, і ў паэзіі. Ён кожны гук вывярае сэрцам, “самым верным цэнзарам маім”. А яно заўжды “звініць чароўнаю струной”.

Ён па-сялянску ўвішна і нястомна сее разумнае, добрае, вечнае і ў творах сваіх, як гэта прыкмецілі Вячаслаў Рагойша, Віктар Гардзей, Леанід Дайнека, Васіль Макарэвіч...

Змітрок Марозаў – майстар лірычных вершаў-роздумаў невялікага памеру, што з’яўляецца яшчэ адным сведчаннем яго таленту. Увогуле большасць твораў паэта – з васьмі-дванаццаці радкоў. Але яны змястоўныя і гучаць надзённа, з глыбокім роздумам аб дні сённяшнім і будучыні цывілізацыі. Вершы густа населены вобразамі і афарызмамі: “Будзіць у людзях чалавечнасць // Не гучным словам – дабратой”, “Грошы правяць светам // І зло пануе на зямлі”, “Святло і цемра. Дабрата і зло. // Няма між імі век паразумення”, “Беспамяцтва страшней за люты мор // Як бохан хлеба кроіцца планета…” Косіць месяц атаву угары, // Атрасаючы зорныя росы... // Пацішэлі мае вечары, // Ды вышэйшымі сталі нябёсы”, “Лісток лістку аб вечным шэпча; // Рамонак слухае галля, // І статак воблакаў-авечак // Збірае дожджык спакваля”.

Паэт прыкладае ўсе намаганні, каб словам “Збудзіць нямы абсяг жыцця”, а “Святлом душы намаляваць // Жыцця бярозавую восень”. У яго багата слоўных фарбаў з вясёлкавым колерам, імі ён карыстаецца часта і па-майстэрску ствараючы “Ў сэрцы вобраз непаўторны”. Шмат у яго вершаў-акварэляў, у якіх ён выказвае пачуцці кахання, замілаванасці да жанчыны:

*Жанчына спіць. На снезе прасціны*
*Спякотнае раскінулася цела.*
*Яно жывою ліраю звінела,*
*Калі мы заставаліся адны.*

Пра каханне ў Зм. Марозава твораў многа. Яго інтымная лірыка, у адрозненне ад некаторых сучасных маладых паэтаў, вызначаецца асаблівай шчырасцю і чысцінёй пачуццяў. Яна нават крыху цнатлівая, як і ў Пысіна. Яна меладычная і прыгожая. Нават адчуваеш, што з радкоў льецца жывая музыка.

*Маладая, прыгожая, гнуткая,*
*Міласэрнасцю Божай спавітая,*
*Халадамі жыцця не кранутая,*
*Для кахання і шчасця адкрытая.*

Змітрок Марозаў па-майстэрску валодае многімі формамі і відамі верша. Але найбольшай вышыні ён дасягнуў у напісанні санетаў, узняўшыся ў еўрапейскай паэзіі да вяршыні дасканаласці, стаў першапраходцам у стварэнні вянка вянкоў санетаў.

Санет – гэта напісаны пяцістопным ямбам верш з чатырнаццаці радкоў, абавязкова – двух-чатырохрадкоўе і двух-трохрадкоўе з асаблівым размяшчэннем рыфмаў.

Вянок санетаў складаецца з пятнаццаці санетаў. Асаблівасць яго ў тым, што першы радок наступнага санета пачынаецца апошнім радком папярэдняга, а пятнаццаты, заключны – магістрал – з першых радкоў кожнага з чатырнаццаці санетаў у паслядоўнасці іх нумароў.

Вянок вянкоў санетаў – гэта ўжо самая складаная і працаёмкая санетная структура, якая ўключае ў сябе пятнаццаць вянкоў санетаў, а ў іх – ажно 225 санетаў! Пятнаццаты, заключны вянок – магістрал, складаецца з першых радкоў па чарзе кожнага з чатырнаццаці вянкоў.

Вянок вянкоў санетаў Зм. Марозава "Апакаліпсіс душы" прысвечаны светлай памяці Анатоля Сербантовіча, – гэта першы вянок вянкоў санетаў у літаратурах краін былога Савецкага Саюза і Еўропы. Раней санеты былі найбольш лірычнага зместу, а беларускі паэт пайшоў далей і стварыў шэраг сацыяльна-палітычных санетаў ды яшчэ выявіў у іх талент і паказаў высокае майстэрства.

Як чытач бачу ў вянку вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы" высокія патрыятычныя і грамадзянскія пазіцыі, асабістыя пачуцці, цяжкія перажыванні, глыбокія філасофскія і маральна-этычныя разважанні паэта пра наш нялёгкі час, пра нашу эпоху.

Паэт стварыў вялікую панараму нашай айчыннай гісторыі, паказаў разбуральныя зрухі сённяшняй цывілізацыі. Але пры гэтым не кінуў нас у бязвыхадным становішчы, а ўсяліў веру, што народы свету, найперш мы, беларусы, знойдуць шлях да святла і дабро пераможа зло:

*Як зорка недасяжняя над светам,*
*Не згасне вера ў вечнае дабро.*

*На змену катаклізмам разбурэння*
*Ужо спяшае мудры рух стварэння,*
*Не заняволіць нас ніколі зло.*

*Душою прадчуваю час дабра,*
*Ён чалавецтву генія народзіць,*
*Што зберажэ казюрку і зубра...*
*І аб людскім падбае радаводзе.*

*З палону векавога выйдзе мова.*
*І запяюць маёй любові словы...*

"Апакаліпсіс душы" Зм. Марозава выдадзены два разы на беларускай мове (1991, 1997) і на рускай (2013) у дасціпным перакладзе Ан-

дрэя Цяўлоўскага. Мы можам ганарыцца, што менавіта беларускі паэт Змітрок Марозаў стаў першапраходцам, што Радзіма ўнікальнага вянка вянкоў санетаў – Рэспубліка Беларусь.

*Студзень 2014 г*

## МАЙСТАР САЛАЎІНАЙ ПАЭЗІІ

Аляксей Пысін, пра якога вядомыя літаратары яшчэ пры жыцці гаварылі і пісалі, ды й сёння больш яшчэ хто сцвярджаюць, што "ён у паэзіі, як Быкаў у прозе", пры нашых сустрэчах шмат разоў казаў, што Рыгор Барадулін – гэта першы сярод сучасных беларускіх паэтаў-лірыкаў, лепшага за яго няма. Сваё адметнае выказванне Аляксей Васільевіч увекавечыў паэтычным радком: «Пушчы Мележа, Янкі Брыля з Барадулінскімі салаўямі».

Мяне балюча сцебанула вестка, што не стала Майстра салаўінай паэзіі, першага беларускага салаўя, літаратурныя спевы якога вельмі любіў, ды й сёння яны наталяюць маю смагу да прыгожага беларускага пісьменства.

Шкадую, што сустрэцца мне з Рыгорам Іванавічам давялося толькі адзіны раз. Было гэта 12 ліпеня 1988 года на Буйніцкім полі, дзе ладзілася свята паэзіі. Там было многа пісьменнікаў з Мінска і з Масквы і ўсе нашы магілёўцы. Паблізу ад помніка-валуна Канстанціну Сіманаву ўбачыў я Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна і яшчэ некага з масквічоў. Я падышоў, павітаўся з імі і сказаў ім дзякуй, што помняць Аляксея Васільевіча і прыехалі на яго родную зямлю. Папрасіў аўтограф у свой альбом пра кнігу. Яны ахвотна згадзіліся. Рыгор Барадулін на адным з аркушаў напісаў такія радкі: «Няхай заўсёды гучыць на зямлі Беларусі мужная і шчырая паэзія Аляксея Пысіна – сапраўднага паэта!» Пакінуў мне аўтогрф на памяць і Васіль Быкаў. Потым мы нейкі час вялі гамонку пра Аляксея Васільевіча.



Восенню 2011 года пашэнціла пагаварыць з Барадуліным па тэлефоне. Магілёўскі паэт Іван

Пецераў даверыў мне пасланць поштай свайму другу Грышу Барадуліну рукапіс сваёй новай кнігі «Земля меж речек Ипуть и Лобжанка». І я паклаў у бандэроль яшчэ свой “Вянок Аляксею Пысіну”, у якім ёсць каротае слова слова Рыгора Барадуліна і яго верш “Аляксею Пысіну на 60 гадоў” з заключнымі радкамі: «Скарылася ратніку слова вячыстае!»

Рыгор Іванавіч напісаў да кнігі Пехцерава кароткую, але выдатную прадмоўку “Голас з юнацтва”, а мне пазваніў па тэлефоне і выказаў падзяку за пысінскі “Вянок…” Яго цёплыя шчырыя словы і сёння, як сонца, грэюць маю душу.

Цвёрда ўпэўнены, што адмысловая салаўіная паэзія Рыгора Барадуліна будзе служыць беларускаму народу доўга-доўга, аж да таго часу, пакуль будзе жыць родная беларуская мова.

*Красавік 2014 г.*

## БЕЗ ПРЫРОДЫ ЛІТАРАТУРЫ НЯМА

У шэрагу пісьменнікаў, якія ўславілі зямлю магілёўскую, – Віктар Карамазаў, выдатны беларускі празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Каліноўскага (1990), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2003). 27 чэрвеня Віктару Філімонавічу споўнілася 80 гадоў.



Нарадзіўся будучы пісьменнік у 1934 годзе ў Чэрыкаве ў сям’і настаўнікаў. Яго бацька, Філімон Сяргеевіч, больш за паўстагодцзя выкладаў у школах і педвучылішчы беларускую і рускую мовы і літаратуру. Маці, Ганна Анісімаўна, працавала настаўніцай пачатковых класаў. На пачатку Вялікай Айчыннай сям’я эвакуіравалася на Волгу і жыла ў вёсцы Тургенева Ульянаўскай вобласці. Пасля вайны Карамазавы перабраліся ў Крычаў, які стаў Віктару другой малой радзімай.

У 1952 годзе Віктар Карамазаў скончыў вучобу ў Крычаўскай сярэдняй школе імя К. Маркса і паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Леніна. Атрымаўшы дыплом, распачаў працу ў чэрыкаўскай раённай газеце «Сацыялістычная перамога», а праз год вярнуўся ў Крычаў, дзе стаў карэспандэнтам газет

«Шлях сацыялізма» і «Новае жыццё», а потым уласным карэспандэнтам «Магілёўскай праўды» па Крычаўскаму, Клімавіцкаму і Мсціслаўскаму раёнах. У 1964 годзе пераехаў у Мінск, працаваў у газетах «Звязда» і «Літаратура і мастацтва», на тэлебачанні, у часопісе «Полымя», а потым літкансультантам у Саюзе пісьменнікаў БССР.

Першае апавяданне «Сыны» Карамазаў апублікаваў у 1957 годзе ў часопісе «Советская Отчизна», а першую кнігу апавяданняў «Падранак» – праз дзесяць гадоў. Лепшыя апавяданні зборніка – «Нязгаснае», «Я любіў яго», «Па слончыну песню», «Лiменьскі сшытак» – паказалі, што выбар героя, праўдзівасць сюжэтаў, майстэрскае валоданне словам самабытнае, не падобнае да іншых творцаў. Ужо тады чытач убачыў, што ў нацыянальную літаратуру прыйшоў надзвычай сучасны арыгінальны празаік-лірык. А яшчэ шмат хто з землякоў пазнаў на старонках твораў лясныя ваколіцы Крычава і Чэрыкава, мясцовых леснікоў і паляўнічых. Першая кніга выявіла галоўны напрамак творчага шляху пісьменніка – родны кут, родная прырода, людзі малой радзімы. Роднаму краю і пазней пісьменнік сэрцам аддадзены, адсюль ён бярэ сюжэты і вобразы для кніг «Па талым снезе», «Вясёлка сярод зімы», «Дома», «Дзень Барыса і Глеба», «Дзяльба кабанчыка» і іншых.

Яшчэ хлапчуком Віктара вогненным крылом зачапіла вайна. І пісьменнік у творчасці вяртаецца да мінулага, піша шматпланавы раман «Бежанцы».

Назапасіўшы творчы вопыт, пісьменнік здзяйсняе сваю запаветную звышзадачу: піша раман «Пушча» – унікальны твор пра беларускі лес. Гэта своеасаблівы працяг «Русского леса» Леаніда Ляонава па рашэнню праблематыкі, якую ставіў пазнейшы, больш складаны час крызіснага перыяду прыродакарыстання. Раман стаўся абаронцам прыроды Беларусі: пісьменнік знаёміць чытача з новай этыкай узаемаадносін чалавека з прыродай. Старонкі рамана густа населены прататыпамі герояў разнастайных прафесій службы лесагаспадаркі «Лімень», што на левым беразе Сажа ля Чэрыкава: Лісань – гэта Лімень.

У першыя дні чарнобыльскай бяды пісьменнік прыязджае на бацькаўшчыну, жыве ў леснічоўцы любай Ліменьскай пушчы са сваімі сябрамі-землякамі і піша творы пра жыццё ў радыяцыйнай зоне: аповесць «Краем белага снегу», апавяданні «Супраць неба на зямлі», «Час ваўкоў», «Галуба». І ў гэтых творах ён цвёрда трымаецца гапоўнага прынцыпу сваёй творчасці: пісаць тое, што перажыта ў сэрцы, у думках, што ўражвае і хвалюе, – паказваць рэальнае жыццё.

Віктар Карамазаў жыццё людзей хоча бачыць на свае вочы. І ён пастаянна ў падарожжах – на Крайнюю Поўнач, на Урал і нават у Афрыку. З вандровак нараджаюцца аповесці-эсэ «Глядзіце ў вочы лемуру», «Руны мараны», «Векавое» і іншыя.

Прыемна ўразіла чытачоў кніга «Проста ўспомніў я цябе», у якую ўвайшлі апавяданні і эсэ пра пісьменнікаў, якія па духу блізкія аўтару, – Аляксея Пысіна, Івана Мележа, Міхася Стральцова, Уладзіміра Караткевіча, Анатоля Кудраўца, Міхаіла Шолахава, Леаніда Ляонава... За гэтую кнігу ён першым з беларускіх літаратараў атрымлівае Дзяржаўную прэмію імя Кастуся Каліноўскага.

У нашай краіне шмат хто не ведаў нацыянальнага мастака В.К. Бялыніцкага-Бірулю. Не ведаў і Карамазаў.

І вось ён за ўласны кошт – у нялёгкім падарожжы па Беларусі і Расіі, шукае сляды паляўнічых і мастацкіх вандровак слыннага жывапісца. Праз два гады ўбачыў свет цудоўны раман «Крыж на зямлі і поўня ў небе», прысвечаны выдатнаму мастаку і паляўнічаму, паэту і лесніку.

Пазней Віктар Карамазаў выдае кнігі «Антон», «Брама», «Краса і воля» – пра мастакоў Антона Бархаткова, Гаўрылу Вашчанку, Анатоля Бараноўскага, Станіслава Жукоўскага і іншых. У Бялынічах, на радзіме Бялыніцкага-Бірулі, пісьменнік з аднадумцамі-мастакамі наладжвае пленэры пейзажыстаў і сам колькі год запар прымае ў іх удзел і як прапагандыст творчасці Бялыніцкага-Бірулі, і як мастак-пейзажыст. Дарэчы, адзіны такі ў Беларусі і Расіі. Карціны свае з пленэраў ён дорыць Бялыніцкаму краязнаўчаму музею. Асобныя творы пра мастакоў і свой дзённік-роздум пісьменнік выдае кнігай «З вясною ў адным вагоне». Кніга атрымлівае прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

У мінулым годзе ў выдавецтве «Кнігазбор» выйшла кніга Карамазава «Выбраныя творы», у якую ўвайшлі лепшыя апавяданні, аповесці, эсэ і раман «Мастак і парабкі» пра вялікага рускага мастака М.В. Неўрава, які апошнія гады жыцця правёў у вёсцы Лыскаўшчына Круглянскага раёна. Было вядома, што мастак застраліўся на глебе нервовай хваробы. Віктар Карамазаў шмат гадоў даследваў жыццё і творчасць мастака, гадзіны і дні праводзіў у музеях, колькі разоў сустракаўся



**Віктар Карамазаў у Лыскаўшчыне чытае ўспаміны сялян пра мастака М.В. Неўрава**

са старажыламі і краязнаўцамі. І ўрэшце дакапаўся да ісціны: да самагубства мастака давяла не хвароба, якой не было, а пастка, у якую яго ўвагнапі мясцовы памешчык і тагачасная ўлада.

У прадмове да кнігі беларускі мастак Анатоль Бараноўскі піша: «Спытаў у Віктара Філімонавіча – пісаць гэткі твор, калі няма архіваў, калі час пахаваў сведкаў, пакінуў міфы ды сумненні, цяжка?»

І ён адказаў: «Сумненні якраз ратуюць. Сумненні прымушаюць думаць, шукаць выйсце. А як шукаеш, то знаходзіш і тое, што трэба, слова і той, што трэба, вобраз. Яшчэ я не чуў, што да ваўчынай лёжкі, каб звера ўзяць, дарогу кладуць загадзя. Ляжыць звер пад снегам, пад ялінай, снегам засыпаны, а вакол неруш. Хіба ты сам яе не топчаш, каб выхапіць эцюд з натуры. Мастак – той самы паляўнічы, толькі зброя іншая. Ён зрэдку ідзе па следзе, часцей – па нерушы. Дзе хтосць да цябе сляды пакінуў, натаптаў – там звера добрага не ўпалюеш».

І далей А. Бараноўскі сцвярджае пра творчасць Карамазава: «Ён піша, як кожны рэаліст, з натуры, але натуру адчувае так, як скульптар адчувае ў руцэ кавалачак гліны, аддаючы ёй цяплыню сваёй рукі, сваёй крыві... Пісьменнік і будуе словам тое, што я, мастак, будую колерам. Мы і спадарожнікі, і аднадумцы, сябры па творчым пошуку».

Сапраўды, для Віктара Карамазава ісці па нерушы у літаратурнай працы, як са стрэльбай па лесе, – звычайная справа. Гэта талент, дар Божы. Таму ўсе творы пісьменніка напоўнены чысцінёй нерушы, лірычнай прозай, дабрынёй і спагадай да людзей.

Шмат чаго Віктар Карамазаў зрабіў у кінематографе. Па яго сцэнарыях пастаўлены мастацкія фільмы «Пушча», «Зялёныя фрэгаты», «Крыж на зямлі і поўня ў небе» і некалькі дакументальных.

Сёння пісьменнік шчыруе над новай кнігай «Мае дзяды», у якой гаворка пра нашы карані, пра першынства духоўнасці, пра дабро і зло і, вядома ж, пра прыроду, бо, як аднойчы выказаўся пісьменнік: «Без прыроды літаратуры няма!»

Дай жа Бог, дарагі дружа, многае лета табе на творчай ніве крочыць па нерушы і несці людзям паэзію прыроды, дабрыню і спагаду.

*Жнівень 2014 г.*

# У ВЯНОК ПЫСІНУ

## ДАЙЦЕ ЖЫЦЬ МАЙМУ АЛЕНЮ

Цывілізацыя нашай планеты Зямля з даўніх часоў гоніць сябе ў пастку. А з распадам СССР свет яшчэ больш захліснула глабалізацыя і спажывецкія адносіны да ўсяго жывога і нежывога на Зямлі. Кожны хоча нешта ўрваць для сябе і з кожным годам ўсё больш і больш. Кожны хоча мець калі не карабель, самалёт ці яхту, то хаця б маторную лодку, аўтамабіль. У горшым выпадку – матацыкл. Кожны імкнецца спаліць як мага больш энергарэсурсаў, якіх усё меней і меней становіцца ў нетрах планеты, і выкінуць у атмасферу яшчэ бальш шкодных рэчываў. Год ад году ўсё больш знікае на планеце розных відаў жывёльнага і расліннага свету. Ёсць усе падставы перафразіраваць словы І.П. Мічурына і сказаць: “Мы не можам чакаць літасці ад прыроды пасля таго, што з ёй зрабілі”. А зрабілі людзі столькі, што пачалося глабальнае змяненне клімату на Зямлі. Калі ж яно дойдзе да незварогнага стану, то пад пагрозай апынецца само жыццё на планеце.



Шукаючы прычыны ўсемагчымага пагаршэння здароўя людзей і жывёл, мы звычайна спасылаемся толькі на чарнобыльскую бяду. Прыйшоў час, бадай, яшчэ не позна, каб улады і кожны чалавек удзяліў прыродным рэсурсам і ахове навакольнага асяроддзя самую выключную ўвагу. Экалогіі трэба надаць прыярытэт. Разам з прыняццем прыродаахоўных законаў і іх выкананнем трэба разгарнуць сярод насельніцтва, а ў першую чаргу сярод дзяцей і моладзі, растлумачальную і выхаваўчую работу па ахове і зберажэнню ўсяго жывога на Зямлі.

Вялікай падмогай у гэтым кірунку з’яўляецца навукова-папулярная і мастацкая літаратура. Павучальнай, на маю думку, стане выкарыстанне публіцыстычнай і паэтычнай спадчыны Аляксея Пысіна.

Аляксей Васільевіч адносіўся да Зямлі як да жывой істоты, якой нельга наносіць раны. Калі толькі яшчэ набіраліся абароты па асушэнню палесскіх балот, паэт Пысін, камуніст Пысін напісаў пісьмо-заяву, пісьмо-просьбу, пісьмо-пратэст у Маскву, у ЦК КПСС. Аляксея Васільевіча выклікалі ў Мінск, у ЦК КПБ. Там маладзенькі інструктар пачаў весці з ім выхаваўчую работу, даказваючы яму, якую карысць людзям прынясе меліярацыя на Палессі. А паэт запытаў у партыйнага чыноўніка:

– А вы ведаеце, ад чаго ўтварылася пустыня ў Сярэдняй Азіі?

Той не ведаў. А Аляксей Васільевіч ведаў. І паэт піша безназоўны верш “Маю рачулачку малую...”, у якім праследжвае шлях нашай цывілізацыі:

*Свет з намі рос.*
*Кручок, што вудай быў,*
*Грымотна ўзняўся, стаў на колы,*
*Рачулачку пад шчэлепы схапіў*
*І кінуў на пясок, на выган голы.*
*Рачулачка не доўга трапятала,*
*Не доўга білася пад валуном.*
*Пасля і валуна не стала –*
*Пайшоў услед за рэчкай, за валом...*

Аляксей Васільевіч перажываў, адчуваючы фізічны боль, калі бачыў загубленыя рэчкі, спустошаны меліярацыйнымі канавамі лес, знікшыя векапомныя валуны і нават асобныя загубленыя дрэвы-прыгажуны, якіх бы трэба было ахоўваць як помнікі прыроды.

Аляксей Васільевіч не праходзіў міма, калі бачыў браканьера ля возера ці ля рэчкі. Аднаго разу, калі начаваў на беразе Дняпра, на досвітку пачуў магутны выбух. Падышоў бліжэй і ўбачыў чыноўнікаў з Магілёва, якія браканьерствавалі. Паэт адзін затрымаць іх не мог. Тады ён запомніў нумар маторнага кацера і – хутчэй у Магілёў, у рыбнагляд. Браканьераў сустрэлі “цёпленькіх” і з нарабаванай рыбай. Яны панеслі пакаранне згодна з законам. Багата публікацый пра браканьераў, якія прыкрываліся службовымі пасведчаннямі, надрукаваў А.В. Пысін у “Магілёўскай праўдзе” і ў мінскіх газетах.

Не праходзіў паэт і міма такіх з'яў, калі нявыхаваныя падлеткі псавалі клумбы з кветкамі ці здзекаваліся з птушак і насякомых, калечылі іх. Ён раскрываў ім вочы на гэтыя дрэнныя ўчынкі. А за некалькі дзён, як пайсці з жыцця, на адзін з гэтых сюжэтаў паэт напісаў паэму-казку «Незвычайнае падарожжа», адрасаваную дзецям-дашкольнікам і вучням малодшага ўзросту. Герой казкі хлопчык Хамель, які «звёў амаль усіх чмялёў», у канцы казкі атрымаў адплату: чмель адпусціў нітку, за якую ў паветры трымаўся Хамель, і той «прызямліўся ж пад асінаю на гняздо асінае». А вы ж ведаеце, як восы балюча джгаюць!

Саграваае дзіцячыя сэрцы чытачоў замілаваная любоў паэта да вярблюда «Кавылька», аленя «Алешкі» і казла «Казярога» ў аднайменных паэмах-казках.

Бацькі! Чытайце сваім дзеткам такія казкі! І ў вершах-казках для дзяцей «Сіняя бальніца», «Трывога ў бары», «Базар», «Шчупак на якары», «Кот-браканьер», «Ратавалі страказу» ды і ў іншых паэт не павучае, а неназойліва, нават неўпрыкмет падводзіць юнага чытача да жыццёвай мудрасці зберагаць усё жывое на Зямлі, шанаваць прыроду. Маленькі чытач абавязкова суперажывае героям вершаў, бо як жа інакш?

*Скалыхнулася лаза,*
*На рацэ трывога:*
*Тоне, тоне страказа,*
*Трэба дапамога*
*…………………………*
*Сёстры, любыя, ратуйце,*
*Пашкадуйце, пашкадуйце!*

Жывёлы і птушкі ў казках Пысіна размаўляюць чалавечай мовай. Яны і паводзяць сябе як людзі. Вершаваныя казачныя радкі Аляксея Пысіна прывіваюць дзецям любоў да ўсяго жывога, што знаходзіцца поруч з імі. Дзеці як бы атрымліваюць пэўныя жыццёвыя ўрокі:

*Гэта ж пішуць птушкі:*
*У іх няма кармушкі.*
*Просяць хоць бы трошкі*
*Зерняў, хлебных крошак.*

А дарослых паэт заклікае выхаваць у дзяцей беражлівыя адносіны да прыроды:

*Вельмі сыта жыць мы пачалі,*
*Не знаходзім дарагога слова*
*Для вавёркі, ластаўкі, пчалы,*
*Для малога ручайка ляснога.*

*Адлятаюць ластаўкі ў маўчанні.*
*І пчала, і кветкі ўсё радзей...*
*Вывучайце слоўнік тлумачальны,*
*Той, што з песень, казак для дзяцей.*

У сваіх творах паэт паказвае чалавека ў еднасці з усім жывёльным і раслінным светам. Усе жывёлы і расліны ў паэта жывыя істоты і патрабуюць да сябе гуманных адносін:



*Дайце жыць майму аленю*
*Пад галінкай дабраты.*

Паэт патрабуе разумных адносін да ўсяго існага: «У істоце той, якою быць не выпала, сябе адчуй хоць зрэдку, чалавек».

Паэт верыць прыродзе і тым, хто яе насяляе:

*Я веру блізкім сваякам:*
*Дарозе – цётцы гаманлівай,*
*Дубам – задумлівым дзядзькам,*
*Пчале пад белаю галінай.*

Кожнае дрэва ў паэта мае свой сімвал, кожная жывая істота дае нам веды: “Нясе пчала свой мёд і яд і мудраму чамусьці вучыць”. Толькі нам трэба прыслухацца і пачуць, як гэта робіць паэт. А ён умеў слухаць гаворку людзей, шэпт траў і гоман бароў, спеў птушак і гукі жывёл. Таму і яны былі сааўтарамі паэтавай творчасці. Відаць, што чуеш тое, што хочаш пачуць, а бачыш зноў жа тое, што хочаш убачыць:

*Хтось бачыць музыку ў сасне,*
*А хтосьці новае карыта.*

Усім на Зямлі стане лепш, калі мы час ад часу будзем адрывацца ад спажывецкага карыта і слухаць цудоўную сімфонію прыроды.

Хваляванні паэта Пысіна ўзнікалі не толькі за куточак, дзе ён нарадзіўся, вырас і жыў, а за ўсю планету Зямля, лёс якой таксама ў руках людскіх: “Непадзельнымі пакідаю сонца, неба і нашу зямлю”.

Нашчадкам Аляксей Васільевіч наказаў такі запавет: “Пакуль зямля жывая, і ты жывы”.

*Ціха ў мінулым,*
*І ў будучым ціха,*
*З намі ўсе гукі і гул жыцця.*

*Цяжка ўздыхае зямля-парадзіха:*
*Заўтра якое ўзаўецца дзіця?*

Будзем жа ашчаднымі і гуманнымі да ўсяго жывога на зямлі, будзем жа беражлівымі да прыроды!

*Чэрвень 2002 г.*

## УСЁ ЖЫЦЦЁ З ПЕСНЯЙ КУПАЛЫ

Аднаго дня мы з Аляксеем Васільевічам Пысіным прагульваліся па вуліцах Магілёва. Ішлі нетаропка, вялі спакойную гаворку. Калі ж размова пайшла пра паэтаў добрых і розных, то я не ўтрымаўся і сказаў Аляксею Васільевічу:

– А няхай бы ўсе паэты пісалі вершы гэтак жа добра, як ты, а яшчэ лепей, як Янка Купала!

– Сумна было б, – пачуў я ў адказ.

І ён расказаў мне, што яшчэ да вайны нехта з маладых паэтаў прапанаваў пісаць вершы толькі так, як піша іх Янка Купала – салавей беларускай паэзіі. Ды Янка Купала не ўхваліў такую прапанову. Наадварот. Ён сказаў, што і сам любіць спеў салаўя. Але калі б і жаваранкі, і зязюлі, і шпакі, і перапёлкі, і кнігаўкі, і буслы, і сарокі ды іншыя птушкі сталі спяваць усе аднолькава хораша, па-салаўінаму, то нецікавае было б жыццё, сумная была б і паэзія. Таму, як і ў спеве птушак, у паэзіі павінны быць розныя галасы, розны спеў. І калі таленавітым і разнастайным будзе спеў, калі кожны будзе пісаць вершы па-свойму і шчыра, то паэзія наша стане вельмі цікавай і зойме дастойнае месца між літаратурамі іншых народаў.

Паэт Аляксей Пысін яшчэ на самым пачатку свайго творчага шляху імкнуўся раўняць радкі сваіх твораў на паэзію Янкі Купалы. Але ніколі не пераймаў класіка, не капіраваў яго. Заўсёды гаварыў паэтычнае слова сваім голасам, пысінскім.

Што ж тычыцца сімпатыі як чытача да паэта, то Аляксей Васільевіч заўсёды лічыў творчасць Янкі Купалы вяршыняй беларускай паэзіі і яна была маяком, на святло якога ён пастаянна, з дня ў дзень, з году ў год трымаў курс у сваёй паэтычнай працы. І не толькі не саромеўся гэтага, а выстаўляў напаказ, каб усе бачылі і ведалі. І калі яго ўзнагародзілі медалём Янкі Купалы, то палічыў гэта найвышэйшай з усіх узнагарод...

У канцы пяцідзясятых і ў шасцідзясятыя гады Янка Купала быў кумірам Аляксея Пысіна. У рэдакцыйным кабінеце “Магілёўскай праўды” (яшчэ ў Доме Саветаў) над рабочым сталом Аляксея Васільевіча вісеў вялікага памеру фотапартрэт Купалы (падарыў яго фотакор газеты Мікалай Сідараў, з якім Пысін сябраваў). Той партрэт Купалы і зараз захоўваецца ў Еўдакіі Сямёнаўны Пысінай. Пры нагодзе Аляксей Васільевіч ахвотна ладзіў літаратурныя вечарыны, гаварыў слова пра Купалу, рыхтаваў газетную паласу, прысвечаную юбіляру.

У 1958 годзе ў магілёўскім літаратурным зборніку “Прыдняпроўе” А. Пысін змясціў свой верш з назвай “Песня Купалы”. Гэты твор больш ніколі не друкаваўся. Сённяшні чытач яго не ведае. Таму, хаця тэкст яго даволі аб’ёмны, усё ж варта даць поўнасцю:



Песня Купалы

I

*Тры чвэрці стагоддзя мінула*
*Як ты нарадзіўся, паэт.*
*Тры плыні бурлівыя з гулам*
*Прайшлі, пракаціліся ў свет.*
*Плынъ першая – слёзы і гора,*
*Глухая імгла над усім.*
*Другая – Кастрычніка зоры –*
*Адбіла ў разліве сваім.*
*А трэцяя плынь – калыханне*
*Бязмежных калгасных палёў*
*Заводаў, домнаў дыханне,*
*Гул пераможных баёў.*
*Прайшлі, пракаціліся плыні*
*Праз чулае сэрца ў свет,*
*Аб горы і шчасці краіны*
*Пакінуў нам песні паэт.*

II

*Ты тая калыска, што нас калыхала,*
*Ты тая крыніца, што сіл прыбаўляла,*
*Шчырая песня Купалы.*
*Да светлых вышыняў ты нас заклікала,*
*Змагацца за шчасце ты нас узнімала –*
*Мужная песня Купалы.*

*Ты з намі ў атакі, у паходы хадзіла,*
*Ты ворагаў лютых у бітвах касіла –*
*Грозная песня Купалы.*
*Ты з намі сягоння на новай будоўлі,*
*Ты з намі на варце здабытае долі –*
*Мірная песня Купалы.*

III

*Над плёсам з касцамі ў лугах заначую,*
*Ці зоркі застануць мяне на жніве –*
*Усюды я песню Купалы пачую.*
*Бо песня Купалы ўсюды жыве.*
*Кукуе зязюля, як некалі ў лесе,*
*І з дымкаю песня ўсплывае на яў:*
*Знайшла сваю долю і шчасце Алеся,*
*А хлопчык маленькі ўжо лётчыкам стаў.*
*Нязломныя сілы дала нам Радзіма,*
*Узнімайся высока, усё вышай ляці!*
*І мары паэта праз леты і зімы*
*У нас явай цвітуць, каласяцца ў жыцці.*

У 1962 годзе Аляксей Пысін напісаў верш “Яго партрэт знаёмы ўсім” (“Зара Камунізму”, Бялынічы. – 1962. – 7 ліпеня. – С. 3):

*Пайду к стажарам на купалле,*
*Калі зара ўпадзе да ног.*
*Жывых бяссмертнікаў Купале*
*Там назбіраю у вянок.*
*Ён не любіў каляных лаўраў,*
*Без свежасці світальных рос.*
*І паважаў не звон літаўраў,*
*А звон сярпоў і гоман кос.*
*Якія ён знаходзіў словы,*
*З якім майстэрствам іх граніў...*
*У іх быў рокат перуновы,*
*Набатны кліч і рокат ніў.*
*Між самых крэўных, самых блізкіх*
*Яго партрэт знаёмы ўсім.*
*І дзеці з самае калыскі*
*Ужо лічаць песняра сваім.*

*Такі сардэчны, задуменны,*
*Даступны і негаваркі,*
*Увайшоў у дом, у круг сямейны,*
*Як уваходзяць сваякі.*
*Мінула не адно ўжо лета,*
*Калі вянкі плялі з журбой...*
*Бярэш у рукі том паэта,*
*І – размаўляе ён з табой.*

Верш лірычны, цёплы, з любоўю да Песняра. Але Аляксей Васільевіч, здаецца мне, больш нідзе не друкаваў яго. А частку радкоў скарыстаў у вершы-партрэце, які напісаў у 1964 годзе, а надрукаваны ён быў толькі ў 1968 годзе ў зборніку "Пойма", а потым ужо ў "Выбраных творах" у двух тамах.

***Да партрэта Янкі Купалы***

*Між самых крэўных, самых блізкіх*
*Яго партрэт, знаёмы ўсім.*
*І дзеці з самае калыскі*
*Паэта прызнаюць сваім.*
*Такім быў ён... задуменны,*
*Даступны і негаваркі,*
*Увайшоў у дом, у круг сямейны,*
*Як уваходзяць сваякі.*

Як бачым, тут засталося толькі восем радкоў, але адшліфаваных сэрцам паэта, радкоў ужо сярэбрана-залацістых. Гэта ўжо верш-шэдэўр, у якім творца сказаў галоўнае пра самага любімага Паэта. Можа, таму больш вершаў пра Купалу ў Пысіна не было. Але ўсё яго жыццё прайшло з песняй Купалы, радкі яго многіх вершаў на ўзроўні паэзіі Купалы, усе яго творы – песня Купалу.

Аляксей Васільевіч ацэньваў свае творы меркай Купалы, свае ўчынкі і памкненні – меркай Купалы, сваю дапамогу маладым паэтам – меркай Купалы. Паэт Пысін усё жыццё вучыўся ў Купалы і вучыў гэтаму пачаткоўцаў. І сам вучыўся ў маладых паэтаў. Часта паўтараў:

– Вучыцеся ў маладых паэтаў.

*Жнівень 2002 г.*

# ПРЫГОЖАЕ БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА – МОЛАДЗІ!

Выпускніца філфака Магілёўскага педінстытута Чыжова Ніна Сямёнаўна прыйшла працаваць настаўніцай роднай мовы і літаратуры ў Магілёўскае вучылішча № 123 тэкстыльшчыкаў у 70-я гады нядаўна мінуўшага стагоддзя. Яна ўжо мела вопыт працы піянерважатай і настаўніцы ў агульнаадукацыйнай школе. Яе актыўныя творчыя пошукі ў прапагандзе прыгожага беларускага пісьменства горача падтрымала тагачасны дырэктар вучылішча Варажэйкіна Валянціна Іосіфаўна.Яна па дыплому гісторык, але ўлюбёная ў Беларусь і родную літаратуру. Кожны год запар і абавязкова разам яны ладзяць і праводзяць тыдзень беларускай літаратуры…

**Вечарыны Янку Купалу**



Канец мая 1981 года. У вучылішчы праходзіць тыдзень беларускай літаратуры, які прысвечаны народнаму паэту Янку Купалу. У вестыбюлі выстаўка насценных газет. Чатырнаццаць. Столькі ў вучылішчы вучэбных груп. Кожная газета глядзіцца па-свойму. Але ў кожнай ёсць вершы, ёсць проза, ёсць арыгінальныя малюнкі – і ўсё прысвечана Купалу. Пяць дзён запар Купалаўскія чытанні праводзіліся ў групах: даклады, гутаркі, чытанне яго вершаў і паэм. А на шосты дзень настаўнікі і вучні сабраліся ў актавай зале вучылішча. Хлебам-соллю сустрэлі гасцей – паэта Аляксея Пысіна і артыста Валянціна Ермаловіча. Са сцэны ў глядзельнай зале, у якой запоўнены ўсе крэслы, самадзейныя артысты-вучні агучваюць паэму Купалы “Магіла льва”, а потым дасціпна ставяць урыўкі са спектакляў “Паўлінка” і “Раскіданае гняздо”. Паэт Пысін дзеліцца ўспамінамі пра Янку Купалу і чытае арыгінальны лірычны трыпціх “Песня Купалы”, які сёння недаступны чытачу. Артыст Валянцін Ермаловіч прымае ўдзел у літаратурна-музычнай кампазіцыі “Сын народа – Янка Купала”. Дзяўчаты-купалінкі ў нацыянальных касцюмах вядуць карагод і спяваюць песні на словы Янкі Купалы.

Аляксей Васільевіч быў прыемна ўражаны такім добрым клопатам моладзі пра беларускую літаратуру. Сваёй радасцю ён падзяліўся з чытачамі “ЛіМа”, а яшчэ ў газету “Голас радзімы” допіс даслаў, каб і

зарубежныя беларусы даведаліся. 24 чэрвеня і 28 ліпеня1981 года тыя публікацыі ён даслаў у вучылішча. І мяне падахвоціў, бо я прысутнічаў на той вечарыне, каб напісаў у "Настаўніцкую газету" ("Песня Купалу" – апублікавана 12 жніўня 1981 года).

**У вучылішча ідуць пісьменнікі**

У вучылішча ў розны час прыходзілі і іншыя пісьменнікі: Віктар Карамазаў, Кастусь Цвірка, Васіль Жуковіч, Аляксандр Мельнікаў, Аркадзь Кандрусевіч, Анатоль Клышка, Уладзімір Гніламёдаў, Раіса Баравікова, Уладзімір Дзюба, Алег Салтук, Алесь Махнач, Хрысціна Лялько, Пятро Шасцерыкоў і яшчэ нехта.

Дырэктар вучылішча В.І. Варажэйкіна, не дачакаўшыся новага стагоддзя, пайшла ў іншы свет. Але тыдні беларускай мовы і літаратуры сталі ўжо традыцыйнымі. Яны, як і раней, ладзяцца пры падтрымцы кіраўніцтва вучылішча, але рыхтуе іх Ніна Сямёнаўга ўжо адна. Тыдні літаратуры былі прысвечаны Францыску Скарыну, Максіму Багдановічу, Якубу Коласу, Дуніну-Марцінкевічу…

У апошнія гады значна радзей наведваюцца пісьменнікі, бо не той час. Запомніліся Вольга Іпатава, Іван Аношкін, Мікалай Емельянаў… Таму настаўніца роднай мовы і літаратуры імкнецца адшукаць новыя формы прапаганды нацыянальнай кнігі.

**Урокі памяці і павагі ў ліцэі**

У гэтым навучальным годзе Ніна Сямёнаўна пачала праводзіць у сваіх групах творчыя ўрокі прозы і паэзіі, так званыя ўрокі памяці і ўрокі павагі. Таго вымушае статус навучальнай установы, бо цяпер гэта не вучылішча, а прафесійны каледж № 1. Дый кабінет беларускай мовы і літаратуры, загадчыцай якога яна з'яўляецца, у абласным аглядзе кабінетаў ліцэяў і каледжаў заняў трэцяе месца. Яе саму ўпраўленне адукацыі аблвыканкама ўзнагародзіла Ганаровай граматай. Праведзены ўжо творчыя ўрокі паэзіі Яўгеніі Янішчыц і прозы Уладзіміра Караткевіча.

**Урок памяці Аляксея Пысіна**

На чарговы ўрок памяці, які быў прысвечаны паэзіі А.В. Пысіна, Ніна Сямёнаўна запрасіла мяне. "А чаму ўрок паэзіі Пысіна?"– пытаюся. – А мы ў маі святкуем 60-годдзе Перамогі, а ён паэт-франтавік, – гаворыць настаўніца. – Ён жа летам 1944 года вызваляў ад ворага нашу родную зямлю магілёўскую. У яго багата твораў пра Магілёў і наша Прыдняпроўе. Ды й добрую памяць ён пакінуў аб сабе ў нашым ліцэі. А яшчэ ў сакавіку мы будзем адзначаць яго 85-я ўгодкі.

Мне, як сябру і даследчыку жыцця і творчасці А.В. Пысіна, гэтае запрашэнне на ўрок памяці спадабалася: усё можна будзе ўбачыць, адчуць і нават самому ўдзел прыняць. Творчы ўрок лірычнай паэзіі Пысіна адбыўся ў групе 3-Л-І 3-га курса. У аўдыторыі на відным месцы павялічаны фотапартрэт Аляксея Васільевіча. Ласкава гучыць у магнітафонным запісе песня "Нізка над вадой схіліўся явар" (сл. А. Пысіна, музыка і голас А. Чыркуна), а потым верш "Чарнігаўка" – голасам паэта. Студэнткі-дзяўчаты задуменна-заварожана слухаюць: іх увага і цікавасць да тэмы забяспечаны. Студэнтка Ірына Пазняк агучвае біяграфічныя звесткі пра А.В. Пысіна, расказвае пра яго ваенныя і творчыя дарогі, а потым пранікнёна дэкламуе верш-шэдэўр паэта "Была бранёю гімнасцёрка…", які яна добра вывучыла на памяць.



**А.В. Пысін (справа) з стрыечным братам Міхаілам**

Настаўніца Ніна Сямёнаўна згадвае пра далёўую ўжо вясну 1981 года, калі Аляксей Васільевіч прыходзіў сюды ў ліцэй № 1 (тады вучылішча) і з якой увагай прысутныя на вечарыне слухалі яго ўспамін пра Янку Купалу і трыпціх "Песня Купалы", які ён прачытаў. Потым настаўніца раскрывае альбом і паказвае лісты паэта, якія ён даслаў сюды крыху пазней, і яго кніжкі з аўтографамі "Вярбовы мост" і "Ёсць на свеце мой алень", а яшчэ фотаздымкі, зробленныя падчас яго літаратурнага выступлення. Лісты паэта ў альбоме і аўтографы на кнігах студэнткі па чарзе ўважліва чытаюць, цікавяцца фотаздымкамі. Настаўніца валодае майстэрствам мастацкага чытання (ранейшым часам у Магілёўскім педінстытуце гэтаму вучылі старанна), і яна сваім прыгожым звонкім голасам агучвае вершы-шэдэўры Пысіна: "Пяць патронаў у абойме…", "Матчына чаканне", "Дала мне маці гэту мову…", "Каханы роў".

Потым слова было прадастаўлена мне. Расказваю студэнткам аб сяброўстве з паэтам Пысіным на працягу 26 гадоў, пра сваю даследчыцкую працу аб яго жыцці і творчасці, адказваю на пытанні сваіх слухачак. На партах па чарзе пабывалі рукапісы маіх зборнікаў "Урокі паэта Аляксея Пысіна" і "Паэт вузел завязаў". Калі іх да мяне вярнулі, прачытаў з іх некалькі кароткіх урыўкаў, а яшчэ ўрывак з паэмы Пысіна "Жураўліны бераг". Студэнткі дружна падтрымалі прапанову, каб у Магілёве адну з вуліц назваць імем паэта Пысіна.

І вось Ніна Сямёнаўна Чыжова з добрым настроем падводзіць вынікі творчага ўрока, якім задаволены літаральна ўсе. Пысінская паэзія жыве, бо ў ёй зацікаўлена маладая змена. Пысінскае светлае “душой адбеленае “ слова ідзе. Яно жыве. Яно будзе жыць!

*21 лютага 2005 г.*

## ЯНКА БРЫЛЬ І АЛЯКСЕЙ ПЫСІН



У магілёўскай кнігарні купіў нядаўна кнігу народнага пісьменніка БССР Янкі Брыля «З людьмі і сам-насам. Запісы, мініяцюры, эсэ». Ведаючы пра яго добрае сяброўства з Аляксеем Пысіным, з цікавасцю і хваляваннем стаў чытаць новы зборнік твораў таленавітага чалавека, якога здаўна вельмі паважаю і люблю. Прадчуванне не падвяло: адзін з патрыярхаў сучаснай беларускай літаратуры згадаў і пра свайго сябра-творцу з Магілёўшчыны. І не раз.

«Як гэта добра, хораша, – чытаючы пра паэта заслужаныя ім словы нашай удзячнасці, узяць з паліцы ягоную кнігу і перачытаць, яшчэ бліжэй прыпомніць шчырыя словы аўтографа. Як гэта: «Дарагому Івану Антонавічу Брылю, з вялікай павагай і нязменнай любоўю. А. Пысін. 17.12.80» у першым томе яго першага чырвонага двухтомнічка.

...Думалася пра дружбу сібірскага самародка (Віктара Астаф’ева. – *В.А.*) з нашым Быкавым, афіцэрам-франтавіком, і з Пысіным, франтавіком-радавым, яшчэ і сувязістам таксама».

Чытаючы такія цёплыя шчырыя радкі, успомніліся і ранейшыя брылёўскія выказванні пасля таго, як Аляксей Васільевіч пайшоў з жыцця, і тыя, якія паэт пачуў ад яго яшчэ жывым.

«Лірычная паэзія Аляксея Пысіна – сведчанне глыбіннага разумення жыцця, цудоўнае сведчанне – відушчай, мужнай, рэвалюцыйнай чалавечнасці. Мудрасцю сталага веку і гаючаю чысцінёй маленства пазначаны, напраклад, гэтыя радкі: «І пачынаці мне ўсё трэба нанава: // Плакаць, смяяцца, любіць, // З гліны, з праменняў, з роднага слова // Свет свой па-свойму ляпіць».

Вечная свежасць, што б’е наплывамі, як цудоўнае несмяротнае мора, свежасць сапраўднай паэзіі.

...Улетку, вяртаючыся з Мінска ў вёску, я зайшоў у кнігарню і купіў рускае выданне кнігі Аляксея Пысіна са знаёмай назвай «Есть на свете мой олень». Чытаў у электрычцы, а потым у вёсцы. Думалася пра тое, які паэт жыў сярод нас і колькі ён не даатрымаў пры жыцці за свой талент, за тое, што зрабіў. Нядаўна свежым вокам перачытваў А. Куляшова, успомніўся ягоны трыумф у канцы вайны, час, калі пісаліся «Варшаўскі шлях» і «Хамуціус», і зноў тая ж балючая думка: як мала мы любілі гэтых людзей.

...Прачнуўся з вершам Сурначова «У стоптаным жыце». Ад Колі Аўрамчыка пачуў, калі і дзе напісаны гэты верш, – у сорак першым, у дні трагічнага адступлення, – але чамусьці не з Колем гэта спалучалася, а з Пысіным».

А вось аўтографы Янкі Брыля на кнігах, якія ён у розны час падарыў Аляксею Пысіну:

Янка Брыль. «Птушкі і гнезды»: «Аляксею Пысіну з сяброўскай шчырасцю. 30.03.65 г. Янка Брыль».

Янка Брыль. «Жыў-быў». Апавяданні: «Аляксею Пысіну – немітусліва таленавітаму, шчыраму сябру – з удзячнасцю». 3.08.1977 г. Янка Брыль».

Янка Брыль. Збор твораў у пяці тамах. Том 1: «Аляксею Пысіну – у знак шчырай сімпатыі і павагі. 19.12.80 г. Янка Брыль».

Іван Антонавіч пільна сочыць за новымі публікацыямі пра Пысіна, у тым ліку і за маімі. З краснапольскай раёнкі «Чырвоны сцяг» і з магілёўскіх газет дасылаю яму матэрыялы. Да вялікіх свят абменьваемся лістамі. Вось некалькі слоў Янкі Брыля:

«З цікавасцю прачытаў Ваша слова пра чалавека і паэта, блізкага і мне – Аляксея Пысіна. Добра, што Вы заняліся «Вянком» (на той час збіраў я кнігу «Вянок Пысіну». – *В.А.*), і дай Бог, каб гэтая высакародная праца завяршылася выданнем кнігі.

Чытаў я тое, што Вы пісалі пра бібліятэку Аляксея Васільевіча, – гэта таксама хочацца і трэба ведаць пра пісьменніка, якога цэніш, любіш.

– Мне, вядома ж, прыемна, што ў «Вянку» знайшлося месца і для майго слова пра Пысіна.

– З цікавасцю чытаў у «ЛіМе» Ваша пра І. Чыгрынава і В. Астаф’ева з А. Пысіным.

– Дзякую Вам за яшчэ адно слова пра нашага незабыўнага сябра і ад душы жадаю ўсяго найлепшага.

– Хараша бачыцца Ваша дружба з выдатным паэтам і чалавекам Аляксеем Пысіным, Вашы адносіны да яго светлай памяці.

– Гэта добра, высакародна – Ваша ўвага і да Пысіна, і да іншых землякоў».

У маёй хатняй фанатэцы захавалася аўдыёкасета з запісам радыё-ўспаміна народнага пісьменніка Янкі Брыля з 1995 г. У радыёстудыі беларускія пісьменнікі вялі гаворку пра тое, што некаторых таленавітых пісьменнікаў часам недаацэньваюць пры іх жыцці, аддаючы належнае толькі пасля смерці. Тады Іван Антонавіч сказаў:



«У літаратуры розных народаў падобнае здараецца з самымі вялікімі. Скажам, у рускай літаратуры побач з Пушкіным і Лермантавым быў Цютчаў, якога Расія ўведала толькі праз пяцьдзесят гадоў. Тое самае ў польскай літаратуры. Побач з Міцкевічам і Славацкім быў Норвід, якога Польшча і ўвесь свет уведалі праз сто гадоў.

Сказаць такое нешта пра Аляксея Пысіна трэба з пэўнымі агаворкамі. Пысін стаў тым Пысіным, якога мы любім і глыбока паважаем, у сорак пяць гадоў сваіх: у 1965 годзе выйшла такая кніжка («Мае мерыдыяны». – *В.А.*), якая сказала нам пра новага Пысіна.

З Аляксеем – ён, як вядома, жыў у Магілёве ў асноўным – адразу пасля вайны працаваў у Новым Свержані, коласаўскім, у палітаддзельскай газеце, сустракацца даводзілася рэдка. Былі, праўда, сумесныя падарожжы.

У 1951 годзе мы разам былі на Другой усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў. Але тады, я салгаў бы, каб сказаў, што ведаў Пысіна.

Другое наша падарожжа, у 1966 годзе па Узбекістане, дзе мы ў пустыні былі, у Самаркандзе. Успамінаю той страшны землятрус, які мы разам перажылі ў Ташкенце. Многа было гутарак. Кампанія была вельмі добрая: Мікола Аўрамчык, Алесь Звонак, Уладзімір Калеснік – наша брыгада, якая праехала па Галодным стэпе і далей на поўдзень.

Галоўнае: я сёння, ідучы сюды, узяў чырвоны двухтомнік Аляксея, падараваны мне з сяброўскім надпісам, і паглядзеў вершы. Ёсць такі звычай: чытаючы, у адным месцы, дзе асабліва нешта ўразіць, падабаецца, акрэсліць ці нават паставіць алоўкам клічнік. І я сёння аглядаў тыя клічнікі. Праз пятнаццаць гадоў пасля першага чытання. Прачытаў таксама прадмову незабыўнага Рыгора Бярозкіна (выдатны беларускі літаратуразнаўца, ураджэнец Магілёва. – *В.А.*), дзе гаворыцца пра тое,

калі так сказаць, другое нараджэнне Пысіна-паэта. Якое спалучэнне мужнасці ў вершах яго, глыбокай мужнасці салдата, мужчыны, чалавека з вялікай душой. І пасля пяшчотнасць, якая ў яго вершах пра старых паважаных людзей, і ў вершах пра дзяцей, і ў вершах пра прыроду, успомніце хоць бы верш «Ёсць на свеце мой алень...» і іншыя.

Неяк так складваецца, што пра адных шумяць, дзе заслужана, дзе не зусім, а дзе і вельмі незаслужана. А другія, сапраўдныя, застаюцца ў цяні, ну, як у нас Пысін. І радасна тое, што Пысін усё-такі адчуў пюбоў і павагу, якія ён заслугоўвае, пры жыцці сваім, чаго другім некаторым не давялося пачуць. Доўга-доўга будуць яго памятаць. Ён так увайшоў у духоўную скарбніцу нашага народа, што не хочацца ўжываць слова «доўга». Ён будзе заўсёды, пакуль будзе Беларусь. І чым далей будуць яго пазнаваць сапраўдныя знаўцы... Можа, не тое слова «знаўцы», бо калі малады чалавек, хлопец ці дзяўчына, з чыстай душой захоплена чытае паэзію, то гэта яшчэ не знаўца, гэта душэўны кантакт. Гэты кантакт заўсёды будзе адчувацца ў нашым народзе, і ўсе, хто мае права сказаць: «Я ведаю беларускую паэзію, – будуць мець сапраўдную асалоду ад сустрэч з яго словам, словам Аляксея Пысіна».

Радыёўспамін народнага пісьменніка Янкі Брыля друкуецца ўпершыню. Іван Антонавіч засведчыў тэкст аўтографам і даслаў фотаздымак на добры сяброўскі ўспамін.

*Чэрвень 2005 г.*



**На здымку: (злева направа) ураджэнец Магілёўшчыны пісьменнік і перакладчык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1986 г. Анатоль Кудравец, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, жонка Я. Брыля нябожчыца Ніна Міхайлаўна, Янка Брыль, пісьменнік і грамадскі дзеяч Уладзімір Ліпскі. Фота 19 жніўня 1999 г.**

# “…ТРЫВОГА Б’Е Ў ПЛАНЕТУ, ТРЫВОГА Ў СЭРЦА Б’Е…”

Недзе ў сярэдзіне 70-х гадоў паэт Аляксей Пысін, як толькі я ўвайшоў у яго кватэру па праспекце Міру 30-А і мы павіталіся, спытаў у мяне: “Віктар! Як ты думаеш, ці можа з’явіцца на Зямлі новы Гітлер?” Пытанне застала мяне знянацку, але нейкую хвіліну падумаўшы, даў такі адказ: “Лічу, што можа”.

Аляксей Васільевіч, відаць, і чакаў такога адказу. Ён падышоў да кніжнай паліцы, дастаў адтуль зборнік выбраных твораў “Пойма”, разгарнуў яго на 67-й старонцы і прачытаў уголас безназоўны верш:

*Імчалі дні – без права спешыцца –*
*На белых конях у вякі.*
*Дзе заваёўнікі, дзе бежанцы,*
*Дзе ўладары і жабракі?*
*Няма ключа такога хітрага,*
*Каб адамкнуў ён склеп зямны.*
*Баюся ўсё ж з’яўлення Гітлера,*
*Пакуль жыве душа вайны.*
*Баюся не істотай страуса,*
*Вачмі адкрытымі гляджу:*
*З табою, свет мой добры, раюся,*
*Як звесці чорную душу.*

1967 г.

Закончыўшы апошні радок, Аляксей Васільевіч цяжка ўздыхнуў і падзяліўся сваёй трывогай, што па свеце ходзіць цень вайны.

Паэта, які салдатам шаставой сувязі прайшоў пяць пякельных франтоў Вялікай Айчыннай вайны, ваяваў на Проні і ў чэрвені 1944 года вызваляў Горацкі раён і Віцебскую вобласць і Прыбалтыку ад акупантаў, які быў двойчы цяжка паранены, які на свае вочы бачыў пачварны твар крывавай бойні, які напісаў дзясяткі ці, можа, сотні вершаў-шэдэўраў, увесь час хвалявала думка, каб тое жахлівае пекла, якое называюць Другой сусветнай вайной, не паўтарылася:

*“Баюся ўсё ж з’яўлення Гітлера,*
*Пакуль жыве душа вайны.”*

А “душа вайны” з Германіі перабралася ў ЗША. Амерыканскія прэзідэнты Джордж Буш, а цяпер Барак Абама, адзін і другі адкрыта заявілі, што ЗША ўстанаўлівалі і будуць устанаўліваць так званую дэ-

макратыю ва ўсім свеце, што азначае стварэнне сусветнай дзяржавы. Ствараюць яе пры дапамозе толькі сваёй ідэалогіі і ваеннай магутнасці. ЗША лічаць, што інтарэсы яе краіны знаходзяцца ў любой кропцы зямнога шара. І калі раней фашызм быў карычневы, то сёння ён стаў чорным. Калі сказаць коратка і па сутнасці – ЗША і НАТА развязваюць Трэцюю сусветную вайну.

Па жывым разрэзны на кавалкі СССР і Югаславія. Захоплены і пылае ў агні Іран. Па сцэнарыю ЦРУ праведзены так званыя каляровыя рэвалюцыі ў Сербіі, Грузіі, Кіргізіі, Егіпце і іншых краінах. Развязаны грамадзянскія войны ў Сірыі і ў Украіне, дзе гінуць тысячы мірных жыхароў, у тым ліку дзяцей, а яшчэ за мільён бежанцаў. Агучаны пагрозы Беларусі і іншым краінам. Супраць Расіі прымаюцца беспадстаўныя эканамічныя санкцыі. Ля парога Беларусі і Расіі размешчаны войскі хуткага рэагавання НАТА і ЗША. І робіцца ўсё гэта па ідэалогіі і метадыцы нямецкага фашызму часоў Другой сусветнай вайны.

ЗША сёння маюць да палавіны рэсурсаў сыравіны і болей за 40 працэнтаў энергарэсурсаў нашай планеты, хаця доля насельніцтва складае нават меней 5 працэнтаў. А выкід шкодных рэчываў у атмасферу складае ў ЗША болей як 150 млн тон у год – болей, чым усіх развітых краін свету разам узятых. Існуе пагроза шматлікіх катаклізмаў на планеце.

Захад навязвае свету псіхалогію спажыўца, псіхалогію індывідуалізма, псіхалогію бездухоўнасці, псіхалогію раба. А гэта пагражае знішчэннем культуры, знішчэннем духоўнасці чалавека і можа прывесці нават да гібелі планеты. Экспансіі Захаду, яго ілжывым каштоўнасцям, гэта значыць бездухоўнасці, пашляціне, усёдазволенасці, амаральнасці, насіллю, жорсткасці, якія разбэшчваюць і апустошваюць душы дзяцей і моладзі, мы павінны паставіць магутны заслон.

Паэт Пысін сваім “душой адбеленым” словам нас і сёння папярэджвае: “Будзьце пільнымі!” Сваёй паэзіяй ён паказвае, што Вялікая Перамога над фашызмам павінна стаць урокам для моладзі, што ўсім разам трэба думаць “як звесці чорную душу” заакіянскай чумы.

Каб не стаць калоніяй Захаду, каб не згубіць сваёй незалежнасці, як гэта сталася з Грузіяй, Прыбалтыкай, Украінай і іншымі краінамі, недастаткова толькі ўмацавання эканомікі. Патрэбна яшчэ выхаваць у нашай моладзі ідэалы грамадзянства, патрыятызму і духоўнасці. А тут патрэбна вялікая штодзённая выхаваўчая праца, у тым ліку і прапаганда мастацкай літаратуры. З паэтычных твораў беларускіх пісьменнікаў наймацнейшае патрыятычнае гучанне мае паэзія Аляксея Пысіна. Ён

пісаў пра маладых салдатаў, пісаў для маладога чытача. Яго кнігі, гаворачы словамі Віктара Карамазава, і сёння змагаюцца за маладую душу, за яе чысціню і вышыню. Паэт Пысін сваім жыццём, прыкладамі сваёй асобы паказвае моладзі шлях, якога трэба трымацца ўсё жыццё. Вось радкі з верша “Удзячнасць”:




**А.В. Пысін з дачкамі Таццянай і Галінай у Мінску**

*Зямля, зямля!*
*Шчаслівы лёс*
*Таго, хто твой араты,*
*Хто есць твой хлеб, хто п’е ваду,*
*Тваім паветрам дыша …*
*Няхай хоць сто зямель прайду –*
*Зямлі не трэба іншай.*
*Цябе араў, цябе капаў*
*Штыком, лапатай, ломам,*
*У табе сяброў сваіх хаваў*
*Пад тым ваенным громам.*
*Я пазнаю цябе, зямля,*
*Па тым, як пласт кладзецца,*
*Як пахне свежая ралля,*
*Па тым, як колас гнецца,*
*Па тым, як сэрца б’ецца.*

1960 г.

Былы гвардыі радавы Пысін паважаў франтавікоў: пра былога палітрука Барыса Доўжыка напісаў верш: “…Апошні снег і першы дожджык”, пра партызана Рыгора Паўлава – верш “Балада пра бараду”, пра лейтэнанта Аляксандра Капусціна – верш “Сцяжынкі лясныя стаптаны да дзір”, радавому Мікалаю Сірацініну.які загінуў смерцю героя летам 1941 года пад Крычавам – верш “Артылерыст Сірацінін”.Ёсць верш прысвечаны паэту-франтавіку Міколу Сурначову, ёсць верш-балада прысвечаная пісьменніку Канстанціну Сіманаву… Паэт сяброў-гвардзейцаў помніць пайменна:

*Хлопцаў-гвардзейцаў, здаецца пазнаў я*
*Ў фільме, што ўчора глядзеў.*
*Блізка пасталі і свецяцца*
*Твары і ўсмешкі сяброў –*
*Жыльскі, Імамаў і Свецікаў,*
*Мухін, Мухортаў, Хартоў.*

У вершах і паэмах Пысіна прозвішчы сапраўдныя. Вось верш-партрэт “Валуеў”:

*Я ўспомніў прозвішча Валуеў,*
*Гвардзеец быў зусім хлапчук.*
*Малюю каску. І пад ёй малюю*
*Вучнёўскі твар, вяснушак пух.*
*І рукавіцы вязаныя помню,*
*Хто іх чырвоныя звязаў?*
*Здавалася:ён снегіроў у поле*
*З вясёлых рукавоў пускаў.*
*Вясной ляжаў на выветраным схіле,*
*Спагнаў расою снег сыры.*
*І па баках бяскрылыя застылі*
*Дзве рукавіцы-снегіры.*
*Дзе той пагорак, на якім Валуеў?*
*Гамоніць з ім каса ці плуг?*
*Малюю каску. І пад ёй малюю*
*Вучнёўскі твар, вяснушак пух.*

1957 г.

Пысін гаварыў: “Колькі баёў, колькі ўзята сопак – столькі і пахаванняў”:

*Граната ў руках. Патрон у ствале.*
*Чаго нам, сябры, яшчэ не стае!*
*Стралковая рота сопку ўзяла.*
*...Пад намі зямля, над намі зямля.*

Я ўсведамляў жудасны сэнс слоў апошняга радка, якія скаланулі мяне да дрыжыкаў, ды ўсё роўна спытаў:

Як разумець апошні радок, Аляксей Васільевіч?

Так і разумей: магіла, – коратка адказаў ён. І напомніў, што цэнзары доўгі час не дазвалялі яго да друку. Потым з болем нагадаў, што не вельмі лічыліся ў вайну з жыццём салдатаў. Выказваў, і не раз, пратэст супраць песні, у якой сцвярджалася, што “мы за ценой не постоим…” І не стаялі, пасылалі ў лабавую атаку рота за ротай, каб узяць той ці іншы населены пункт да чырвонай лічбы каляндара. А ў сем’і салдатаў ішлі пахаванкі. Ды ўсё роўна маці чакалі сваіх сыноў:

*Маці выйшла за вёску*
*І пры дарозе стала – яна*
*Роднага сына з войска,*
*З фронту чакала:*

*Столькі чакала дзён, столькі ночак,*
*Аж пабялелі косы і бровы.*
*Урос у зямлю кіёчак,*
*Стаў вярбою.*

Згадваў паэт, што і такое пад Полацкам было: батальён паспяхова выбіў ворага з траншэй, бліндажоў і дотаў, нават апярэдзіўшы узгоднены час, а хутчэй, што спазніліся самалёты. І пасыпаліся на нашых салдатаў-гвардзейцаў бомбы з нашых жа самалётаў:

*Пярэдні край зламалі ўжо штыкі,*
*Ужо за намі бліндажы і доты.*
*Спазніліся сюды штурмавікі:*
*Пяхота абагнала самалёты.*
*Пакуль камбат хрысціў чыесьці душы, –*
*Ляглі свае… ляглі свае.*

Пысін сваёй лірычнай паэзіяй не ўсхваляе вайну, і таму ў яго творах няма батальных сцэн. Увогуле, паэт паказвае жорсткасць вайны, паказвае тую жудасць, якую яна нясе людзям. Даследчыца творчасці паэта Пысіна Т.П. Хоміч зрабіла такі вывад: “Вайна, паводле А. Пысіна, вядзе да кардынальных зменаў у гарманічным па сваёй прыродзе свеце, яна парушае саму вечнасць”. Ды адначасова яшчэ ў вершах паэта закладзена думка аб тым, з якімі душэўнымі і фізічнымі траўмамі выходзіць з ваеннага пекла чалавек:

*Там франтавое поле, поле,*
*Там найглыбейшае з палёў –*
*Па ім, па ім*
*ён роту вёў –*
*О поле бою,*
*поле болю…*
*Лёсаў колькі вайна памалола!..*
*Чорным снегам сыпнула зіма.*
*Ні дачушкі, ні сына малога*
*Ў маладога камбата няма.*

Паэт паказвае ў сваіх творах чалавека на вайне. І нават у мірны час вайна яшчэ не закончылася, яна шукае сваіх ахвяр і, на жаль, іх знаходзіць:

*Зноў у зямлі ўзарвалася граната,*
*Плыве ў вянках дзіцячая труна.*
*Хлапчук вайны не бачыў: вінавата*
*Яшчэ непахаваная вайна.*

Антываенная лірыка Пысіна бярэ выток з уласнага вопыту, падзей і фактаў ягонай біяграфіі. Успомнім хаця б радкі з верша “Кінаэпапея “Вялікай Айчыннай”:

*На кіламетрах здымкаў франтавых*
*Я, можа, болей чым хто іншы бачу.*
*Душой я ў кожным з мёртвых і жывых…*
*Наступны заўтра фільм…*
*Пайду паплачу.*

І сапраўды, паэт бачыць болей за іншых, яму не забыць жорсткае крывавае мінулае: “Мне пажары, пажары ўсё сняцца”, – гаворыць ён. Поездам праязджае мясціны, дзе ваяваў. Іншыя пасажыры, дачка яго Таня, не бачаць, а ён бачыць – вунь там быў бліндаж, а цяпер:

*Расце трава. Цвіце язмін,*
*З усіх, хто едзе сёння міма,*
*Бліндаж той бачу*
*Я адзін.*

Паводле паэтычнай філасофіі Пысіна, жыццё чалавека не канчаецца з яго смерцю. Так, пры дарозе, на тым месцы, дзе загінулі салдаты, узышлі чырвоныя кветкі травы Іван-чая:

*Узышлі травой і гарыцветам,*
*Узышлі на радасць ці жальбу?*

Паэту мроіцца, што сябар ягоны “стаіць Іван па-над кюветам” і прапануе пачаставаць чаем:

*Не, Іване, з чаем пачакаем,*
*Закурыць не лішне нам было б.*
*Мы цыгарку скруцім па-былому,*
*Пусцім шызы дым на правады,*
*Першая зацяжка – мне, жывому,*
*Бо занадта ў сэрцы гаркаты*
*…………………………………..*
*Чырвань, чырвань, колер праваты…*

Паэт “узяў на плечы яшчэ з акопаў груз двайны”, і яго найвышэйшая мара ў тым, “…каб у чашах палігонаў жывыя кветкі расцвілі”. А запавет маладым такі: змагацца супраць вайны і адстайваць мір на планеце:

*Дажджы, дажджы… А можа смертаносны,*
*Атрутны дождж упасці і над зямлёй.*
*Прыкрыцца нельга будзе парасонам,*
*Няхай ён хоць з бетону – парасон;*

*Дажджы, дажджы над Тэмзай, над Гудзонам,*
*Дажджы, з якімі наплывае сон.*
*Не спіце людзі! Узніме хтось ракету, –*
*Не кінешся за ёю наўздагон,*
*Не дождж, не дождж, – трывога б'е ў планету,*
*Трывога ў сэрца б'е, нібыта гонг.*

1962 г.

Паэт Аляксей Пысін – Майстар нашага прыгожага беларускага пісьменства. Пысінская паэзія, як гавораць многія вядомыя беларускія пісьменнікі, – з'ява ўнікальная і фенаменальная ў беларускай літаратуры. Слова паэта Пысіна жыло паўнакроўным жыццём. Яно жыве і сёння. Яно будзе жыць. Гаворачы словамі Віктара Ракава: "Прыемна, што Пысінскае Слова ідзе. Яно хвалюе. Яно свеціць. Яно на вуснах нашчадкаў".

Талент паэта Пысіна магутны. Ён – класік і слаўны сын беларускага народа. І паэзія яго народная. Яна золатам зіхаціць у скарбе нацыянальнай мовы і культуры. Яна будзе жыць, пакуль жыве беларуская мова і народ.

А.В. Пысіна хацелі ўганараваць званнем народнага паэта ды не паспелі, а пасмяротна такое званне не давалі. Гэта чуў я ад некага ў дзень пахавання Аляксея Васільевіча ў канцы жніўня 1981 года. А 3-га красавіка 2005 года ў дзень памяці артыста Валянціна Ермаловіча ў Магілёўскім гарадскім Доме культуры мне дакладна расказаў пра гэта паэт Сяргей Законнікаў:

– Працаваў я на той час загадчыкам аддзела ЦК КПБ. Я асабіста падрыхтаваў дакументы, каб уганараваць Аляксея Пысіна званнем народнага паэта. Але падпісаць іх да яго смерці не паспелі, хаця паміраў ён двойчы. Мяне гэта вельмі ўжо ўразіла… Пысін – паэт Вялікі, можа, нават першы з сваіх сучаснікаў. Мой паэтычны іканастас – гэта найперш Багдановіч, Купала, Пысін, Панчанка…

Можа, з гэтае прычыны, што Пысіну не надалі афіцыйна статус народага, ён сёння застаўся на літаратурных задворках: зрэдзь мільгане ў адной вучнёўскай хрэстаматыі, а ў зборніку з творамі Ніла Гілевіча, Івана Чыгрынава, Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна і іншых пісьменнікаў яго ўвогуле не ўключаюць. Вось вам і "першы", вось вам і "Пысін у паэзіі, як Быкаў у прозе".

А ў заключэнне – некалькі запаветаў Аляксея Пысіна маладым.

Паэт усведамляў, што толькі ўласнай упартай працай можна дабіцца пэўных поспехаў, зрабіць жыццё прыгажэйшым, лепшым:

*Крышку стала прыгажэй на свеце:*
*Хлопчык дрэўца пасадзіў…*
*……………………………………………………*
*Хацеў бы зноў я сіл набрацца*
*Ад гэтых сосен грэбняў хваль.*
*Каб па плячы была добрая праца,*
*Любы ўзлёт, любая даль.*

Ды й сённяшні дзень для маладых не сам сабой з'явіўся: "На зямлю дзяды ўпалі, // Каб унукі прараслі." Адсюль і запавет: з пашанай, з павагай адносіцца да дзядоў і бабуль. Паэть хацеў, каб усе людзі станавіліся лепшымі і дабрэйшымі:

*Вы лепшымі будзьце, чым я –*
*Так шчыра, так шчыра жадаю.*

Неспакой паэта ў ягоных творах выклікае (на жаль, сённяшняе жыццё паказвае, што не без падстаў), а як жа маладыя распарадзяцца той спадчынай, якую пакінулі ім дзяды? І ён просіць, моліць нашчадкаў, сённяшніх маладых, у тым ліку кожнага з вас:

*Жні, нашчадак, жні,*
*Касой касі,*
*Толькі здуру не тапчы нагамі.*

Ды параду дае, як зрабіць, каб не зніклі каштоўнасці:

*...Даражыць на ўсе часы,*
*І крошкай хлеба на далоні,*
*І нават кропляю расы.*

А яшчэ паэт дае параду, як злавіць жар-птушку, сваё шчасце:

*Шчасце так не даецца,*
*І яго не купіць:*
*Шчасце сеецца, жнецца,*
*Шчасце ў кузнях куецца,*
*У мартэнах кіпіць.*

А шчасце (так было раней, так ёсць сёння, так будзе заўсёды) трэба бараніць, трэба быць патрыётамі сваёй Айчыны, сынамі і дачкамі свайго народа. Адданасць народу, Айчыне сімвалізуе дзяржаўны сцяг. Ён і з'яўляецца працягам жыцця ў руках таго, хто яго трымае:

*Ты будзеш, неўміручы сцяг,*
*Бо мы цябе нясём*
*У сваёй крыві, у сваіх касцях,*
*Перадаём з жыццём.*

Паэта непакоіў рост спажывецкіх настрояў, што сёння паўсюдна на зямлі насаджае Захад – і фільмамі жахаў, і рэкламай, і нізкапробнай літаратурай, якія паўсюдна сеюць пачварнае зло:

*Крылы мы даўно сабе зрабілі,*
*Столькі ў нас крылатае радні!*
*Мітусні ж занадта вераб'інай,*
*Салаўінай мала дабрыні.*

Паэт Аляксей Пысін сваімі творамі выпраменьваў салаўіную звонкую дабрыню і развітаўся з маладымі, і з вамі таксама, бессмяротнымі радкамі:

*Бяру з сабой нялёгкія дарогі,*
*Сляды пакут, што не датлелі там,*
*Бяру з сабой бяссонныя трывогі,*
*А юны свет – я юным перадам.*

*Сакавік 2005, 2015 гг.*

## ПАЭТ ПЫСІН І МАГІЛЁЎ

Выдатны нацыянальны паэт Аляксей Пысін з першых дзён свядомага жыцця і да апошняга дыхання быў сапраўдным магілёўцам – сынам сваёй зямлі, свайго народа. Ён быў улюбёны ў родны край Прыдняпроўскі, горад Магілёў, родную Беларусь. Нябачнымі і нязгаснымі промнямі, што ішлі ад яго шчырага сэрца, знітаваны ён у наймацнейшы вузел з лёсам народа, радзімы. Той вузел ні развязаць, ні рассеч   нікому:

*Адно я знаю, гэткі меч*
*На свеце не скуецца,*
*Каб мог ён вузел мой рассеч,*
*Не закрануўшы сэрца.*

У Вялікую Айчынную вайну радавы сувязіст, салдат-гвардзеец Пысін прайшоў пяць франтоў, Меў два цяжкіх раненні, узнагароды, у тым ліку медаль "За адвагу". А за літаратурнае майстэрства ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, уганараваны Дзяржаўнай літаратурнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы і званнем заслужанага работніка культуры.

Пысін выканаў запавет аднапалчан: "Пра нас расскажаш…" Яго ваенная, а дакладней – антываенная, паэзія па мастацкіх вартасцях не

саступае быкаўскай прозе. Так праўдзіва, як Пысін, пра вайну і ў Саюзе пісалі нямногія паэты. У Беларусі – Пысін адзін з першых. Ён стаў сапраўдным класікам. А ў лірыцы асобныя пысінскія творы дасягнулі паэтычнага ўзроўню вершаў Баратынскага, Цютчава, Твардоўскага, Купалы, Танка, Куляшова, Панчанкі… Аляксей Пысін стаў народным паэтам. У вышэйшых дзяржаўных інстанцыях нават падрыхтавалі такі дакумент. Толькі апублікаваць не паспелі – паэт раптоўна памёр. Пасмяротна ж такое званне не даюць.

Вядомыя беларускія літаратары сёння прызнаюць, што пысінская паэзія – з’ява ўнікальная і фенаменальная ў беларускай літаратуры. Літаратары-навукоўцы Л.М. Гарэлік і Т.П. Хоміч выдалі манаграфіі, прысвечаныя жыццю і творчасці А.В. Пысіна. Мне пашчасціла выдаць кніжкі: “Вянок Аляксею Пысіну”, “Паэт вузел завязаў”, “Бібліятэка паэта Пысіна”, “Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў”, ”Урокі Аляксея Пысіна.”

Нарадзіўся Аляксей Васільевіч Пысін 22 сакавіка 1920 года ў сялянскай сям’і вёскі Высокі Барок Краснапольскага раёна. З 1958 года і да апошніх сваіх дзён паэт пастаянна жыў у Магілёве. Была яму прапанова перабрацца ў Мінск ды Аляксей Васільевіч не прамяняў родны яму горад на сталіцу. Працаваў у рэдакцыі абласной газеты “Магілёўская праўда”. З 1974 года ўзначальваў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР, некалькі гадоў з’яўляўся членам праўлення пісьменніцкай арганізацыі Беларусі. Ён апантана, як Праметэй агонь, нёс узоры прыгожага беларускага пісьменства магілёўцам. Ведаю, што няма ў нашым горадзе сярэдняй школы, каледжа, якія б ён не наведаў. У кожную навучальную ўстанову паэт нёс сваё “душой адбеленае, пяшчотай прасветленае слова”. Паэт хадзіў у тэатр, бібліятэкі, па вуліцах і скверах, гаварыў з людзьмі, з іх і для іх пісаў свае творы, праўдзівыя, як само жыццё народа.



**А.В. Пысін дорыць вучням аўтографы**

У нашым горадзе ў поўную сілу праявілася майстэрства творцы Пысіна. Менавіта ў Магілёве паэт, за выключэннем першага зборніка “Наш дзень”, напісаў усе свае кніжкі. А іх ажно за два дзясяткі. А вершаў-шэдэўраў, як у Пысіна, мала ў каго з беларускіх паэтаў. Сюжэты для сваіх’ вершаў паэт чэрпаў ад нашых людзей. Нярэдка іх героі –

магілёўцы. Вось, напрыклад, такія вершы: “Магілёўскія дзяўчаты”, “Першамайская вуліца”, “Магілёўская шаша”, “Любуж”, “Магілёўская гаворка”, “У тралейбуса кароткі сон…”, “Пячэрскі парк”, “У смузе над поймай Дняпроўскай…”, “Дзявочы халадок бярозы…”, “З самай раніцы абход пачне, і па Віленскай і Падніколлі…”, “Нямыя”, “Заспявай, мой дружа, заспявай…”. Да ўсяго гэтага яшчэ трэба дадаць, што А.В. Пысін не толькі франтавік. Ён у чэрвені 1944 года вызваляў зямлю магілёўскую ад фашысцкіх акупантаў.



**Вучні Палужскай школы, Е.С. Пысіна і В.І. Арцем’еў ля мемарыяльнай дошкі А.В. Пысіну ў Магілёве**

А мы, магілёўцы, як недадалі яму пры жыцці, так і пасля заўчаснай трагічнай смерці не вельмі патурбаваліся пра ягоную памяць. Болей як дваццаць гадоў спатрэбілася, каб надаць яго імя адной з вуліц нашага горада. Варта было б адкрыць яму мемарыяльны бюст. У большай частцы бібліятэк горада адсутнічаюць кнігі пра жыццё і творчасць паэта, а ў школах – нават яго творы. У сярэдняй школе № 21, у якой найчасцей бываў паэт, няма мемарыяльнага кутка. А можа б і школе даць яго імя? Ды й адной з буйнейшых бібліятэк? Вельмі сціпла ўжо гараджанамі адзначаны 95-я ўгодкі паэта: нават цяжка сказаць – былі ці не былі ў Магілёве сёлета Пысінскія чытанні?

*2005, 2015 гг.*

## НІЛ ГІЛЕВІЧ ПРА АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА



Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч вельмі прыязна ставіўся да паэзіі А.В. Пысіна, паважаў яго сумленнасць, шчырасць, сціпласць і дабрыню ў паэзіі і ў паўсядзённым жыцці. У жніўні 1981 года Ніл Сымонавіч быў Магілёве на пахаванні паэта Пысіна, гаварыў яму развітальнае слова на яго магіле, а потым і за памінальным сталом. 30 жніўня 1981 года Ніл Гілевіч напісаў нататку “Памяці Аляксея Васільевіча

Пысіна”, якая пазней увайшла ў зборнік “Покліч жыцця і часу”. Прапаную ўрыўкі з яе тэксту:

“…Ён (Пысін. – *В.А.*) быў сапраўдным сынам свайго народа, ад якога ўзяў найлепшыя рысы: сумленнасць, шчырасць, сціпласць і дабрыню. Увасабленнем іх ён быў і застанецца ў нашай памяці назаўсёды.

Нам, яго паплечнікам, таварышам і сябрам, будзе вельмі нехапаць яго – яго, ціхага, даверлівага голасу, яго прыязнага позірку, яго шчырага поціску рукі...

Так, ён быў чалавекам на рэдкасць сціплым, але не баязлівым, не бязмоўна-пакорлівым, а тым больш – не дагодліва-прыслужным. О, не! У яго быў характар і была сіла волі, у яго былі перакананні і прынцыпы, якімі ён ніколі не паступаўся. А перш за ўсё ён не паступаўся пачуццём праўды і справядлівасці.

Не сёння, а заўтра і паслязаўтра, калі яшчэ і яшчэ раз перачытаем яго кнігі, мы зразумеем, якога вялікага паэта сярод нас не стала”.

У 1995 годзе Ніл Гілевіч гаварыў пра Пысіна слова па беларускаму радыё. 20 кастрычніка 1997 года радыё паўтарыла гэтае выступление і я запісаў яго на магнітафонную стужку. Летась на пішучай машынцы перанёс словы на паперу і паслаў Нілу Гілевічу. Ён прачытаў і нешта паправіў. Ніл Сымонавіч выказаў мне ўдзячнасць, бо ў ягоным архіве тэкста выступления не захавалася. Прапаную чытачам газеты тэкст вышэйназванага выступления Ніла Гілевіча:

*Мы цыгаркі скруцім па-былому,*
*Пусцім шызы дым на правады,*
*Першая зацяжка – мне, жывому,*
*Бо занадта ў сэрцы гаркаты...*

Так заканчваецца адзін верш Аляксея Пысіна, прысвечаны памяці сяброў-аднапалчан, што загінулі на вайне. Занадта многа ў сэрцы гаркаты. Занадта!..

Я не магу пахваліцца, што ў мяне было шмат сустрэч з Аляксеем Васільевічам. Я нават у свой час зайздросціў свайму блізкаму сябру Сцяпану Захаравічу Гаўрусёву, земляку Пысіна. Яны вельмі блізка сябравалі, часта сустракаліся. Бывала, калі мы са Сцяпанам сыйдземся разам, ён гаворыць: “Вось ездзіў у Магілёў і бачыўся з Пысіным, пагаварылі добра”, або “Нядаўна прыязджаў Пысін, і мы пасядзелі, пагаварылі”. Чаму я зайздросціў? Таму што ўвесь час адчуваў смагу па яго паэзіі, па яго творчасці, які гэта быў не толькі выдатны паэт, але

і слаўны чалавек. Я, прабачце, рэдка калі памыляўся ў людзях творчых, звычайна, з першага прачытання бачыў. Я радаваўся, што Аляксей Васільевіч быў прызнаны ва ўсім Савецкім Саюзе, што яго паважалі і цанілі не толькі беларускія калегі.

Здарылася так, што не ў Мінску, а ў Прыбалтыцы (ну, на чужыне асабліва на сваё цягне) у кіёску ў Дубалтах я бачыў выдадзеную ў бібліятэчцы "Огонька" кніжачку яго вершаў з прадмоўкай Кайсына Куліева. Якая цудоўная прадмоўка, як сардэчна напісана! Ведалі яму цану тыя, хто яго чытаў. Ведалі і вельмі даражылі яго ўвагай, яго павагай, яго любоўю.

Я з ім сышоўся бліжэй, калі надарылася магчымасць пагаварыць нам пра ўсё на свеце, а перш за ўсё пра нашу долю-нядолю, пра нашу гароту. Ездзілі мы з ім ад Беларусі на Чарнігаўшчыну на свята Братэрства. Ехалі ўдваіх аўтобусам, сядзёлі побач, дарога доўгая, з прыпынкамі, вось і гутарылі. Ну, на Чарнігаўшчыне таксама. Гэта была такая шчаслівая магчымасць пабыць з ім разам і яшчэ раз пераканацца, які гэта слаўны чалавек.

Але ж лепш за ўсё пераконваюць у гэтым яго вершы. Я нярэдка здымаю з паліцы яго кніжачкі і кнігі, у тым ліку і двухтомнік, пра які тут гаварыў Іван Антонавіч (Янка Брыль. – *В.А.*), і ў кожным вершы відзён чалавек незвычайнай душэўнасці, чалавек глыбокі, чалавек, які і на жыццё на сваё, і на людзей глядзеў вачыма сына гэтай зямлі, вачыма чалавека мудрага, якому вельмі многае даступна, зразумела ў гэтым жыцці, і які мог сказаць так, каб гэта запомнілася другім, каб уразіла. Так як і павінен сказаць паэт...".

*Сакавік 2006 г.*

## ПАЭТ СЛОВА ГАВАРЫЎ

Паэт Аляксей Пысін – майстар нашага беларускага прыгожага пісьменства. У яго паэтычных зборніках вельмі багата вершаў-шэдэўраў. Гэта «адзін з самых арыгінальных і таленавітых беларускіх паэтаў...» (Уладзімір Гніламёдаў). У паэзіі Пысін заняў месца поруч з Янкам Купалам, Аркадзем Куляшовым, Піменам Панчанкам, а ў паказе вайны ўзняўся да ўзроўню творчасці Васіля Быкава, Канстанціна Сіманава, Аляксандра Твардоўскага. Пысінская паэзія – з’ява ўнікальная і фена-

менальная ў беларускай літаратуры. «У ёй (пазнейшай пары) многія словы – на кошт золата» (Мікола Мішчанчук).



Пра Пысіна, як паэта, яшчэ пры жыцці пісалі больш, чым пра каго іншага. Над яго творчасцю і сёння шчыруюць крытыкі і даследчыкі літаратуры. Мне ж хочацца расказаць да ягонага юбілею як пра майстра слова, якое ён нёс да людзей, пра беларускую літаратуру і яе творцаў.

Аляксей Васільевіч быў апантаным прапагандыстам кнігі. Гаварыў мне, што ў сярэдняй школе ў Палужы, яшчэ да вайны, калі ў ёй вучыўся, то працаваў школьном бібліятэкарам. Плата была за гэтую працу 5 рублёў у месяц. Аб прачытаных кнігах вельмі цікава расказваў вучням. Мала хто так умеў.

Жыццёвы і літаратурны вопыт значна ўзвысілі здольнасці прапагандыста кнігі, роднага слова. У Магілёве і раёнах вобласці Пысін рэгулярна ладзіў літаратурныя чытанні, прысвечаныя прыгожаму беларускаму пісьменству. Узорам выдатнай прапаганды кнігі і роднага слова з’яўляецца нарыс Пысіна «У небе і кнізе сонца», які «Настаўніцкая газета» надрукавала 3 лістапада 1973 года. Пазней у маім альбоме з гэтага нарыса паэт пакінуў такі аўтограф: «Кніга – гэта магчымасць заўсёды перажыць узрушанасць, радасць далучэння да вялікага, нібы зноў адкрытага свету, у якім ты зноў нараджаешся, сталееш, жывеш». Шкада, што публікацыі «ЛіМа» і «Настаўніцкай газеты» не ўвайшлі ні ў адзін са зборнікаў Пысіна.

Былі чуткі, і не толькі ў Магілёве, што Пысін нелюдзімы, негаваркі, нярэдка кепска адчуваў сябе на розных сходах і таму цураўся шматлюдных пасяджэнняў. Ды тое далёка не ўсё праўда. Не любіў Пысін сядзець у пампезных прэзідыумах, слухаць часам пустыя прамовы, не любіў, як гаварыў яго сябра, адгароджвацца ад народа трыбунай. «На такіх бутафорскіх мерапрыемствах ён выглядаў нібы скаваны жалезнымі абручамі, не мог гладка

Аляксей Пысін
Кніга – гэта шчаслівае імгненне адкрыцця свету і сябе ў гэтым свеце як істоты, якая можа адчуць і зразумець незвычайнае, прыгожае. Кніга – гэта магчымасць заўсёды перажыць узрушанасць, радасць далучэння да вялікага, нібы зноў адкрытага свету, у якім ты зноў нараджаешся, сталееш, жывеш.
15.1.78 А. Пысін

гаварыць, нават заікаўся. Таму неадступна рваўся ў стыхію жывых чалавечых сувязяў, а літаратурныя чытанні якраз і дапамагалі яму ствараць своеасаблівае поле духоўнага яднання» (Валянцін Ермаловіч). Сапраўды, «...з незнаёмымі яму людзьмі быў замкнёны, нават за бяседным сталом быў негаваркі, больш слухаў іншых, заставаўся «прыстойным, далікатным чалавекам», ніколі не падкрэсліваў свае перавагі ў веданні жыцця, сваю значнасць у літаратуры...» (Дз. Бугаёў).

На літаратурных чытаннях Пысін ажываў, святлеў тварам, вочы ў яго загараліся і ён ахвотна чытаў новыя вершы і тыя, што прасілі чытачы, адказваў на іх пытанні, ніколі не абыходзячы вострых вуглоў. Расказваць любіў не пра сябе, а больш гаварыў пра землякоў, тых, хто напісаў нешта цікавае. Я любіў яго слухаць. Як і ў вершах, у сваім слове Аляксей Васільевіч быў ашчадны. Ніводнай пустой фразы, ніводнага лішняга слова. Кожны сказ яго нібыта выцесаны з каменя, усё лішняе адсечана. Гаварыў роўна, без спешкі, з даверам.

Асабліва паважліва адносіўся Пысін да маленькіх чытачоў. Ён не адзін раз гаварыў:

– Калі дзеці не слухаюць, то не іх віна. Вінен у гэтым пісьменнік.

І Аляксей Васільевіч уважліва сачыў за аўдыторыяй. У піянерлагеры «Раста» Чавускага раёна ён убачыў, што дзеці прыйшлі стомленыя. Каб разварушыць іх, ён, адказваючы на пытанне аднаго з хлопчыкаў, што сталася з яго юнацкімі вершамі, якія паэт пакінуў перад вайной у падполлі бацькоўскай хаты, адказаў так:

– Мышы знайшлі вершы, прачыталі, не ўбачылі нічога вартага, а таму іх з’елі. І я ўдзячны ім за гэта, маім першым літаратурным крытыкам.

Дзеці дружна, весела смяяліся. І далей слухалі з увагай усё, што гаварыў і чытаў паэт.

У чэрвені 1977 года па хадайніцтву А.В. Пысіна (ён быў сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі) Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў прызначыла мяне па сумяшчальніцтву арганізатарам літаратурных вечароў пісьменнікаў у Магілёве. У гэтай справе Аляксей Васільевіч быў для мяне і дарадцам, і настаўнікам. Ён багата ведаў сакрэтаў, як ладзяцца літаратурныя чытанні, і шчодра перадаваў мне свой вопыт. Помню, што першае ўступнае слова на вечары ён параіў пачаць словамі: «Наша Магілёўшчына – гэта літаратурны, музычна-песенны край. Выйдзі ў поле, прыкладзі вуха да зямлі, то пачуеш: зямля спявае».

Усяго амаль за дзесяць гадоў я наладзіў больш за дзве тысячы літаратурных вечарын. У 227 з іх (з 1977 па жнівень 1981 года) прымаў удзел Пысін. Калі-нікалі, найбольш у школах, ён праводзіў чытанні адзін, а часцей у пары з Валянцінам Ермаловічам, Лідзіяй Звярковай, Міколам Луферавым, Міхаілам Ханінавым, Святланай Пайна, Паўлам Кавалёвым, Анатолем Вярцінскім, Аркадзем Кандрусевічам і іншымі літаратарамі.

Мне давялося слухаць больш за сотню літаратурных выступленняў Пысіна ў розных аўдыторыях Магілёва: і ў школах, і ў прафтэхвучылішчах, і ў цэхах заводаў і фабрык, і ў Дамах культуры, і ў бібліятэках. Выязджаў з ім у Горкі, у Крычаў. У Чавускім раёне наведваліся і ў калгасы. Усюды чытачы сустракалі паэта з радасцю, задавалі яму пытанні, на якія ён даваў праўдзівыя і вычарпальныя адказы. Яны ўважліва і зацікаўлена слухалі яго вершы. А якія вершы чытаў? Ды ў кожнай аўдыторыі розныя, гледзячы, хто прыйшоў. Паэт добра ведаў псіхалогію людзей, а таксама ўлічваў іх узрост, жыццёвы і працоўны вопыт, а таксама начытанасць. Аляксей Васільевіч абавязкова чытаў некалькі новых вершаў, якія яшчэ не былі ў друку: па рэакцыі чытачоў ён выяраў іх вартасць, а потым дапрацоўваў. І толькі тады аддаваў у друк. Найчасцей ён чытаў вершы-шэдэўры, такія як «Магілёўская гаворка», «Пяць патронаў у абойме...», «Іван-чай», «Дала мне маці гэту мову...», «Баркалабаўскія салаўі», «Сцяг», «Забыта многае ў жыцці...», «Палім мы маршанскую махорку...», «Дзявочы халадок бярозы...», «Ёсць на свеце мой алень...» і інш.

Выязджаў паэт Пысін на літаратурныя чытанні ў Мінск, Віцебск і іншыя гарады, у некаторыя раёны рэспублікі. Аляксей Васільевіч з радасцю прымаў запрашэнні на літаратурныя чытанні, як цяпер гэта гавораць, у блізкае замежжа. Сардэчна рады быў поспеху кожнай літаратурнай вечарыны. Але аднаго разу бранскія літаратары запрасілі пісьменнікаў-магіляўчан у Красную Гару, сустрэлі і прынялі іх, як дарагіх гасцей. А кіраўнікі Магілёўскай вобласці не дазволілі прыняць бранцаў у Краснаполлі. Аляксей Васільевіч хваравіта перанёс адмову і пры сустрэчы нагадаў мне іранічную і злую, яшчэ XIX-га стагоддзя, легенду з твораў Уладзіміра Караткевіча пра «наша начальства»...

Вышэй ужо згадвалася, што Пысін гаваруном не быў. Сапраўды, ён не быў краснабаем. Ён ніколі не імкнуўся пакрасавацца, падладзіцца пад аўдыторыю. Ён заўсёды заставаўся непасрэдным, шчырым, самім сабой. І ў той жа час быў адмысловым прапагандыстам кнігі, прамоўцам. Пысін ніколі не пачынаў гамонку, калі не меў дакладных ведаў з усіх бакоў.

І не хлусіў не толькі ў аўдыторыі, а і на працы, у сям'і і ў коле сяброў. Родную мову і фальклор ведаў дасканала, як ніхто іншы. У рэдакцыі «Магілёўскай праўды» з журналістамі і селькорамі, на афіцыйных нарадах, у любой установе, з сябрамі, у сям'і, на вуліцах горада, у вёсцы ды і ў лесе, калі даводзілася сустрэць там каго, Аляксей Васільевіч гаварыў толькі на беларускай мове. Яго мова была ядранай, сакавітай, перасыпанай слоўцамі-залацінкамі. Як і на старонках сваіх зборнікаў, ён нёс людзям кожнага дня жывое, пысінскае «душой адбеленае, пяшчотай прасветленае слова». І ўсе яго разумелі: і інтэлігенты, і чыноўнікі, і рабочыя, і сяляне. Ён і мяне вярнуў да матчынай мовы. Цяпер я не толькі чытаю і пішу, але і думаю на роднай мове. За што яму вельмі ўдзячны.

Усе, хто блізка ведаў Пысіна, здзіўляліся яго неўтаймоўнай энергіі ў прапагандзе роднага слова і літаратуры. Было, што ён штодня праводзіў чытанні. І рабіў гэта без шуму і мітусні. Ніколі не адмаўляў, калі яго запрашалі ў школу. Даводзілася калі-небудзь быць з ім на працягу ўсяго дня. Больш трох дзён запар я не вытрымліваў яго рытму, яго тэмпу працы, бо працаваў ён з поўнай аддачай сіл і энергіі, па-франтавому. Вядома ж, нялёгка яму было. «Аляксей быў дужа працавіты, цягавіты чалавек, добрасумленны, шчыры і ў ласцы, і ў злосці. Ён параўноўваў сябе з двухгорбым вярблюдам, які цягнуў лямку ваенных дарог і пасляваеннага нялёгкага жыцця» (Мікола Луфераў).

Паэт Пысін быў чалавекам незвычайнай сціпласці. Здаецца, ніколі не чапляў на лацкан пінжака ўзнагарод. На літаратурныя чытанні апранаў пінжак толькі з медалём лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. Быў задаволены, калі я рабіў на вечары ўступнае слова, але злаваў, калі пералічваў яго званні і нахвальваў яго творы:

– Чытач разумны, ён сам ацэніць, – гаварыў мне.

Здаралася, што іншым разам я не мог стрымацца, і публічна выказваў паэту тое, чаго ён варты як творца. Аляксей Васільевіч, ведаючы гэта, на апошнім у яго жыцці літаратурным чытанні ў доме адпачынку "Сосны" 20 жніўня 1981 года катэгарычна забараніў мне сказаць прысутным, падзяліцца з імі радасцю, што паэта Пысіна ўзнагародзілі (у газетах яшчэ не паведамілі) ордэнам «Дружбы Народаў». Такая сціпласць!

Слова Нацыянальнага паэта Пысіна жыло паўнакроўным жыццём. Яно жыве і сёння. Яно будзе жыць. «Прыемна, што Пысінскае слова ідзе. Яно хвалюе. Яно свеціць. Яно на вуснах нашчадкаў» (Віктар Ракаў).

*2008 г.*

# ДАПАМАГАЙЦЕ ТАЛЕНТАМ

Паэт Аляксей Пысін з 1974 года з’яўляўся адказным сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР, ставіў на крыло маладых паэтаў, празаікаў, сатырыкаў-гумарыстаў. З маладымі творцамі абласное аддзяленне вяло работу няспынна самымі рознымі формамі і метадамі.

У шэрагу рэдакцый раённых газет былі створаны маладзежныя літаб’яднанні, у газеце «Магілёўская праўда» рэгулярна з’яўлялася літаратурная старонка «Прыдняпроўе», у ёй дэбютавалі пачаткоўцы з вершамі, апавяданнямі, гумарэскамі. У рэдакцыю да паэта Пысіна часта прыязджалі маладыя творцы на кансультацыю, але найбольш дасылалі свае лісты поштай. І Аляксей Васільевіч не пакідаў іх без увагі. Кожнаму даваў нейкую параду, знаходзіў цёплае слова падтрымкі, нават калі допіс і не мог пайсці ў друк. Словы бацькоўскай цеплыні, увагі акрылялі маладых літаратараў, і яны дзень за днём павышалі, адточвалі сваё майстэрства.



Дзень добры, Мікола!
„Сакавік" я перадам у „Маг. праўду" ў старонку „Мой родны кут".
Для „Маладосці" з гэтых вершаў я параіў бы — „Пасля паводкі", цудоўная мініяцюра. Дашлі Аўрамчыку ўсе свае вершы, і няхай выбірае.
Аб сустрэчах, аб рабоце літаб'яднання напішы ў „Маг. праўду" у „Чырвонку" альбо ў „ЛіМ".
Усяго добрага.
АПысін
3.III.77
P.S. Добрая канцоўка ў вершы „Сакавік". Адчуваю, што ў цябе, Мікола, будуць добрыя ўдачы, толькі не спяшайся, болей працуй над кожным вершам, будзь сам сабе строгім крытыкам і рэдактарам.
А.П.

Сваім настаўнікам Аляксея Пысіна называлі пісьменнікі Анатоль Сербантовіч, Аляксандр Мельнікаў, Нэла Тулупава, Віктар Хаўратовіч, Алег Салтук, Мікола Леўчанка, Марыя Панкова, Святлана Басуматрава, Змітрок Марозаў, Апанас Палітыка, Рыгор Яўсееў, Алесь Пісьмянкоў ды шмат яшчэ хто, каму давялося ўзняцца на высокі беларускі літаратурны Парнас. Некаторым – аж на самую яго вяршыню.

І ўсё ж найбольш дзейснай дапамогай маладым творцам Аляксей Васільевіч лічыў выезды ў літаб’яднанні і ўдзел у іх пасяджэннях, а яшчэ ўдзел у семінарах пачаткоўцаў, а таксама падрыхтоўку і правядзенне літаратурных вечарын з удзелам саміх творцаў. А ім прыкладам, узорам паэтычнага. майсгэрства было Слова мудрага паэта-настаўніка, яго вершы, якія ён чытаў на тых вечарынах.

Семінары і літаратурныя вечарыны праводзіліся часта і давалі багатыя ўсходы. Суполка пісьменнікаў-магілёўцаў год ад году шырылася, расла і колькасцю і якасцю. Маладыя літаратары былі ўдзячны свайму старшаму таварышу па пяру, свайму Настаўніку за цеплыню шчо-

драга сэрца і душы, за карысныя парады і падтрымку, за бацькоўскую ласку. Усё гэта дапамагала ім з часам адточваць майсгэрства слова, станавіцца на крыло, самастойна выходзіць на літаратурны шлях. Вядомы беларускі пісьменнік Іван Чыгрынаў пісаў («Літаратура і масгацтва» ад 12 снежня 1980 года):

«Літаб'яднанне «Натхненне» пры бялыніцкай раённай газеце «Зара камунізму» створана яшчэ ў трыццатыя гады, але найбольш плённымі сталі апошнія пяць гадоў, калі яго дзейнасці стаў аддаваць шмат часу і ўвагі вядомы беларускі паэт Аляксей Васільевіч Пысін. Ён – актыўны ўдзельнік усіх літаратурных сустрэч «Натхнення», дапамагае і словам і справай творчаму росту маладых пісьменнікаў. Бялыніцкае літаб'яднанне рэгулярна праводзіць пасяджэнні, на якіх абмяркоўваюцца новыя творы яго членаў, арганізуе літаратурныя сустрэчы маладых з рабочымі і хлебаробамі. Літаб'яднанне «Натхненне» вядомае ў рэспубліцы – яму прысвяціла адну з перадач Беларускае тэлебачанне, свае старонкі ахвотна аддалі яму часопіс «Беларусь», рэспубліканская маладзёжная газета «Чырвоная змена». А зусім нядаўна, напярэдадні 60-годдзя з дня нараджэння ЛКСМБ, літаб'яднанню з Бялыніч прысвоена ганаровае званне лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Магілёўшчыны».

А вось па некалькі радкоў з успамінаў пра Пысіна-настаўніка саміх на той час маладых творцаў:

Святлана Басуматрава («Веснік Магілёва» ад 23 сакавіка 1990 года):

«Чалавек высакароднай душы, ён жыў шчодрым клопатам аб маладой змене. У адносінах яго да творчай моладзі былі і бацькоўская трывога, і мудрасць настаўніка, і павага да маладзейшага таварыша па пяру. Ён умеў вучыць, не павучаючы, раіць, не навязваючы свайго погляду. Пысін як роўны роўнаму падаваў далонь маладому літаратару... Аляксей Васільевіч не баяўся пахваліць вершы маладога аўтара».

Марыя Панкова («Полымя» № 3, 1990 года, стар. 184–190):

«Даведаўшыся ў гомельскіх журналістаў, што Аляксей Пысін супрацоўнік «Магілёўскай праўды», адважылася даслаць яму свае нарысы. А тут на табе! – здзіўленню і радасці не было мяжы – адказ прыйшоў на чацвёрты ці пяты дзень...

«Добры дзень, Марыя! Учора атрымаў і пісьмо, і нарысы. Дзякуй Вам за давер'е і цёплыя словы. Прачытаў усё адразу. Мяне кранула Ваша шчырасць, любоў да чалавека. А якая цудоўная мова! І ўсё прасвечана прыгожым, харошым лірызмам. Можа б філасафічнасці болей?

Але раіць вельмі цяжка. Усё прыйдзе само і ў свой час. А пакуль я радуюся, што пабагацеў яшчэ на аднаго цудоўнага чалавека.

Жадаю Вам усяго самага добрага.

10.04.74. А. Пысін»

Падзівілася: жыла на Гомельшчыне, а па падтрымку ішла ў... Магілёў...

Думаю... Думаю, што дужа адорыў мяне лёс на такога Настаўніка. Калі мне невыносна – дастаю лісты Аляксея Васільевіча і чытаю. Вельмі цікавая была тады перапіска з ім».

Алег Салтук («Літаратура і мастацтва» ад 20 ліпеня 2007 года):

«Перада мной словы, напісаныя рукой майго настаўніка: «Дарагі Алег! Сёння зайшоў у «Магілёўскую праўду», дзе чакала мяне тваё пісьмо. Мне прыемна, што набраўся ты моцы, сілы і ўсё вышэй уздымаешся, як паэт і ўжо як кіраўнік. Калі быў у Польшчы (чэрвень гэтага года), гаварыў у Зялёнай Гуры (пабрацім Віцебска), што ў Віцебску створана абласное аддзяленне СП і што ты яго ўзначальваеш. Зялёнагурскіх пісьменнікаў гэта зацікавіла, хочуць яны наладзіць сяброўства... План работы? Заплануй два-тры сходы. Семінары маладых лепш праводзіць не ў абласным цэнтры, а ў раёнах. Сустрэчы. Літаратурныя вечары. Аўтарскія, творчыя вечары. Падабраць чытальнікаў з ліку студэнтаў, удзельнікаў самадзейнасці...»

І ўсё было так, як ён раіў: і паездкі ў Зялёную Гуру, і абласныя семінары ў раёнах вобласці, і сустрэчы з пісьменнікамі Смаленска і Пскова. Куды ўсё падзелася?

І сапраўды, а куды ўсё тое падзелася? Сёння ў газетах рэдка з’яўляюцца інфармацыі пра сустрэчы чытачоў з пісьменнікамі. І амаль нічога пра аўтарскія вечары і семінары. На палосах мясцовых газет рэдка можна ўбачыць «Літаратурную старонку». Нават тыя газеты, якія раней змяшчалі іх штомесяц, сёлета друкуюць нерэгулярна. Магілёўскія газеты, апрача аграрнай «Зямля і людзі», адмаўляюцца друкаваць рэцэнзіі на новыя творы паэтаў і празаікаў.

Марыя Панкова падзівілася, што ёй, тады гамяльчанцы, адразу ж адгукнуўся з іншай вобласці, з Магілёва, вядомы паэт Аляксей Пысін. Дзівяцца і сённяшнія пачаткоўцы толькі ўжо з іншай нагоды: на іх лісты ў газеты і часопісы па ўсёй краіне ніхто не адгукаецца. Быццам бы супрацоўнікі ўсіх рэдакцый, усе журналісты і пісьменнікі зрабіліся бязгучныя і бязмоўныя. Нехта друкуецца, а рэшта (большая частка допісаў) выкідваецца на сметнік. Адкуль тут вучоба? Які тут будзе рост

пісьменнікаў? Мы кінулі маладых творцаў у ваду: няхай самі выплываюць. Ці не таму апошнім часам на літаратурнай ніве пышнай квеценню буяе пустазелле?

Калі мы хочам росту нацыянальнай літаратуры, то трэба рыхтаваць дастойную змену паэтаў, празаікаў, сатырыкаў-гумарыстаў, крытыкаў, драматургаў. Ім трэба паўсядзённа дапамагаць, іх трэба вучыць. І дапамагаць у першую чаргу трэба маладым, таленавітым. Бо яшчэ класік сказаў: «Дапамагайце талентам, а бяздарныя і самі праб’юцца».

*Жнівень 2008 г.*

## ПРЫСТУПКІ ПАЭТА НА ПАРНАС

Кожнаму, хто палюбіў творчасць паэта ды яшчэ вялікага, класіка, хочацца ведаць і ягонае жыццё, нават да драбніц. І ў гэтым няма нічога зазорнага, бо калі ведаеш нейкія эпізоды з жыцця яго, абставіны, у якіх нарадзіўся той ці іншы твор, то глыбей разумееш сутнасць вершаў і паэм. Мне пашчасціла ажно дваццаць шэсць гадоў запар знаходзіцца побач з паэтам Аляксеем Пысіным, пастаянна мець сяброўскія сустрэчы, гутарыць адкрыта, без утайкі, на самыя розныя тэмы, а апошнія пяць гадоў яго жыцця, лічыце, што і працаваць разам. Аляксей Васільевіч кіраваў абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў БССР, а я ад Бюро прапаганды мастацкай літаратуры гэтага Саюза рабіў арганізатарам сустрэч пісьменнікаў з чытачамі. Аляксей Васільевіч для мяне быў куратарам і настаўнікам. Нямала літаратурных вечарын мы ладзілі разам, у іншых ён быў кансультантам. На сустрэчу з Пысіным я кожны раз ішоў, як на заняткі ва ўніверсітэт. А яшчэ ж былі сустрэчы з многімі вядомымі беларускімі і рускімі пісьменнікамі на працягу амаль дзесяці гадоў. Па сутнасці гэта і быў мой літаратурны ўніверсітэт.

Калі ў 1981 годзе Аляксей Васільевіч пайшоў у іншы свет, то шэраг гадоў я па крупіцы адшукваў з кніг, перыядычных выданняў і нават з магнітазапісаў вершы, прысвечаныя яму, успаміны і артыкулы пра яго жыццё і творчасць. На іх аснове падрыхтаваў свайму сябру зборнік “Вянок Аляксею Пысіну”. Яму гэта літаратурны помнік. А для мяне – гэта дыпломная праца па заканчэнні “Пысінскага літаратурнага ўніверсітэта”.

“Вянок Аляксею Пысіну” ўбачыў свет у 2006 годзе дзякуючы фінансавай падтрымцы Магілёўскага аблвыканкама. А яшчэ ён выдаў у 2013 годзе мой зборнік “Урокі Аляксея Пысіна”. Ды за сэканомленыя з пенсіі грошы ў розныя гады выдаў я зборнікі: “Паэт вузел завязаў” (успаміны і роздум аб жыццёвых і творчых дарогах А.В. Пысіна), “Бібліятэка Аляксея Пысіна” і нарыс-радавод з фотаздымкамі “Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў”. Атрымалася даволі ёмкая Пысініяна. Вядомыя пісьменнікі-мінчукі нават пазайздросцілі: “Бачыце, як Аляксею Пысіну пашэнціла на такога сябра!” Ды ўсё роўна шкада, што некаторыя з вышэй названых кніг не трапілі не толькі ў сельскія, а нават у раённыя і гарадскія бібіятэкі.

З навуковых прац літаратурным помнікам А.В. Пысіну з’яўляецца выдатная манаграфія Т.П. Хоміч “Мастацкая канцэпцыя чалавека і свету ў лірыцы Аляксея Пысіна”. Гэтая кніжка ёсць у абласной бібліятэцы імя У.І. Леніна.

І здалося мне, што пра паэта Пысіна ўсё напісаў. Так думаў. Але аднаго дня ў Магілёў прыехаў мой даўні сябар Васіль Лявончыкаў. Ён жыве і працуе ў Мінску. З ім знаёмства адбылося таксама ў Чэрыкаве, але нават раней на некалькі месяцаў, чым з Пысіным, бо я працаваў з ім разам у аддзеле культуры райвыканкама: я – загадчыкам, а ён – інспектарам. Пасля майго ад’езду з Чэрыкава сустракаліся мы не часцей як раз у год, і то не кожны год запар. Таму гаворка наша заўсёды вялася грунтоўна, без спешкі: і пра жыццё, і пра літаратуру. Абавязкова ўспаміналі Чэрыкаў. А як Чэрыкаў без Пысіна? Васіль Емяльянавіч нагадаў мне, што ён з Аляксеем Пысіным разам вучыўся ў Чэрыкаўскай сярэдняй школе, дырэктарам якой быў знакаміты па тым часе на ўвесь раён, ды і вобласць яго ведала, Камандзенка. Мне Аляксей Васільевіч за ўсе дваццаць шэсць гадоў сустрэч і размоў ніводнага разу не згадаў пра тую вучобу. Мяне заінтрыгавала. Я нават і паперу, і аловак падсунуў да сябе бліжэй. Папрасіў расказаць. І вось што пачуў ад яго:

– У1955 годзе ў Чэрыкаве быў я ўжо няштатным карэспандэнтам (на той час называлі селькорам, г.зн. сельскім карэспандэнтам) раённай газеты “Сацыялістычная перамога”, якую рэдагаваў паэт Аляксей Пысін. Мы сустракаліся. Аднаго дня Пысін падгаварыў мяне пайсці вучыцца ў 10-ы (выпускны) клас вячэрняй сярэдняй школы. Мы абодва хацелі прадоўжыць вучобу, атрымаць вышэйшую адукацыю. Але атэстат Пысіна за Палужскую дзесяцігодку згарэў у вайну (у Мінску, у камуністычным інстытуце журналістыкі), а ў мяне быў дыплом

Магілёўскага культасветвучылішча, хаця і з адзнакай, як і ў Пысіна, але яго прымалі не ў кожным інстытуце. Пысін падбіў мяне паступіць вучыцца на факультэт журналістыкі ў Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт. Аляксей Васільевіч так радасна намаляваў будучыню, што я даў згоду. Ён параіў мне надрукавацца ў абласной, а яшчэ лепей, кажа, у рэспубліканскай газеце. Я так і зрабіў. Атрымалася. І мы пачалі вучыцца разам.



У вячэрняй школе я з Пысіным сядзеў за адной партай. Сярод маладых вучняў мы выглядалі, як маманты. Асабліва запомніліся ўрокі матэматыкі. Настаўнік матэматыкі, аніяк не магу ўспомніць яго імя, высокаадукаваны і ўмудроны жыццёвым вопытам чалавек, меў прывычку называць вучняў хлопчыкамі (дзяўчынак у нашай групе нешта не было). І вось на чарговым уроку ён выяўляе веды вучняў-хлопчыкаў. Калі ніхто з іх не адкажа на зададзенае пытанне, тады настаўнік звяртаецца да Пысіна і мяне:

– Ну, хлопчыкі, а вы што скажаце?

Вядома ж, увесь правільны адказ (Лявончыкаў асабліва вызначаўся ведамі па матэматыцы ды і Пысін не кульгаў. – *В.А.*), і заняткі паспяхова доўжыліся.

Па выхадных днях Пысін запрашаў мяне да сябе і на кватэру, каб разам рыхтавацца да ўрокаў. Калі набліжаўся поўдзень, то Аляксей Васільевіч звяртаўся да жонкі:

– Дуся! Падрыхтуй нам абед.

Абед быў падрыхтаваны загадзя. Добра падсілкаваўшыся (боршч заўсёды быў гарачы, з мясам ды і астатняя страва смачная і каларыйная), мы ўгрызаліся ў навуку да вечара, а вечарам – вячэра. Зрэдку мы хадзілі і ў рэстаран. Гэта – як атрымлівалі ганарар.

На хвіліначку перапыню аповед Васіля Лявончыкава. Трэба адзначыць, што сям'я Пысіных заўсёды вызначалася гасціннасцю: ніводзін іхні госць не выходзіў з кватэры, не адведаўшы гарачай стравы. Гаспадыня гатавала з запасам, бо часта прыязджалі іх землякі, прыпыняліся літаратары. Сібірак Віктар Астаф'еў нават хваліўся перад маскоўскімі пісьменнікамі, з якой гасціннасцю яго прынялі ў сям'і беларускага паэта. Так было ва ўсе гады. Мне не аднойчы даводзілася сядзець за сталом у Пысіных і аднаму з Пысіным, і разам з Віктарам Ракавым, і з Аляксеем Зарыцкім, і з братам Сцяпана Гаўрусёва Віктарам, і з іншымі.

– Вучоба наша ў вячэрняй школе, – працягвае аповед Васіль Лявончыкаў, – доўжылася паспяхова, але ўсяго некалькі месяцаў. Загадам раённага аддзела культуры я быў прызначаны (у парадку перавода) дырэктарам Чэрыкаўскага раённага Дома культуры. І я павінен быў працаваць у вячэрні час, і школьныя заняткі праводзіліся толькі вечарамі. І я кінуў вучобу. Тады Аляксей Васільевіч сказаў:

– І я кіну. Так мы абодва з марай пра факультэт журналістыкі Маскоўскага ўніверсітэта і развіталіся...

Васіль Емяльяназіч сказаў, што згоды яго на перавод на працу ў Дом культуры я не пытаўся. Магчыма, бо гэта было павышэнне па службе. Але ж і ён, добра помню, ні слова супраць не сказаў і ў знак згоды падпісаўся на старонцы з загадам. Галоўнае, што пайшло на карысць. Васіль Лявончыкаў паказаў здольнасці арганізатара і выдатна наладзіў работу Дома культуры. Потым пераехаў у Слаўгарад і там працаваў пэўны час дырэктарам Дома культуры. Адтуль у Мінск. Паступіў вучыцца на бібліятэчны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. А калі скончыў яго, то застаўся аспірантам і абараніў кандыдацкую дысертацыю. Яго ўзялі працаваць на кафедру бібліяграфіі. Шмат гадоў працаваў дэканам бібліятэчнага факультэта. Пры ім я завочна скончыў у 1969 годзе бібліятэчны факультэт гэтага педінстытута. Сяброўства наша толькі мацнела. Мне нават было запрашэнне на працу на кафедру бібліяграфіі. Цяпер В.Е. Лявончыкаў працуе ў Мінскім дзяржаўным універсітэце культуры: прафесар, доктар педагагічных навук (першы ў Беларусі ў галіне бібліяграфазнаўства), акадэмік. Яго імя ўключана ў слоўнік “2000 выдатных вучоных свету” (2005 год) Міжнароднага біяграфічнага цэнтра ў Кэмбрыджы і даведнік “Кто есть кто на академическом Олимпе” (2004 год) Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі ў Маскве.

Паэт Аляксей Пысін у 1956 годдзе пайшоў вучыцца на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве ва ўзросце 36 гадоў і скончыў іх у 1958 годзе. Вучыўся руплiва. Пазней шчыра прызнаваўся: “Я не таіўся, што мала ведаю, не прапускаў ніводных заняткаў, старанна вучыўся”. У аўтабіяграфічных нататках “Пражытае” ён напісаў: “Мне асабіста вельмі многае далі Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР у Маскве. Пашанцавала, што творчым семінарам нейкі час кіраваў Уладзімір Аляксандравіч Лугаўской, вялікі паэт, шчодры і патрабавальны. Ён быў цудоўным настаўнікам”.

У Маскве пайшлі ў Пысіна сапраўды спелыя вершы. Сярод іх знакаміты “Вузел” – верш-шэдэўр. Так што вучоба ў 10-м класе ў Чэ-

рыкаве і на курсах у Маскве сталі для творцы першымі прыступкамі на паэтычны Парнас.

Пасля Масквы Аляксей Пысін пачынае адзін за другім выдаваць зборнікі паэзіі і дасягае высокіх вяршынь творчасці, становіцца паэтам-класікам. Ён і маладым паэтам раіў прайсці Літаратурныя курсы ў Маскве.

Так што вучыцца ніколі не позна. Але ж чым раней, тым лепш.

*2010 г.*

## ПЯШЧОТАЮ ПРАСВЕТЛЕНАЕ СЛОВА

22 сакавіка 2015 года выдатнаму беларускаму паэту, заслужанаму дзеячу культуры БССР, Лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы – нашаму земляку Аляксею Васільевічу Пысіну – споўнілася б 95 гадоў з дня нараджэння.

Яго нарадзіла і выпеставала магілёўская зямля, на якой ён жыў і працаваў да апошняга дыхання, якую ўславіў у сваіх творах.



**Васіль Быкаў і Аляксей Пысін**

Яго паэзія праўдзівая, як жыццё народа, яна золатам і зіхаціць у скарбе нацыянальнай мовы і культуры. Вядомыя літаратары творчасць А. Пысіна параўноўваюць з паэзіяй А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Твардоўскага, Ф. Цютчава, прозай В. Быкава, адзначаюць, што ён унікальны творца XX стагоддзя.

Прызнаны Майстар прыгожага беларускага пісьменства пакінуў свой след не толькі ў паэзіі. А. Пысін прайшоў пяць франтоў Вялікай Айчыннай вайны, двойчы быў паранены. Быў таленавітым журналістам – шмат год адпрацаваў у абласной газеце “Магілёўская праўда”. З 1974 года ўзначальваў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пяру Аляксея Пысіна належыць больш як дваццаць кніжак паэзіі.

Аляксей Васільевіч яшчэ пры жыцці стаў славутасцю, пра яго ваенную паэзію і зараз не без падстаў гавораць: “Як Быкаў у прозе”.

Любіў Аляксей Васільевіч народную гаворку, любіў чэрпаць мудрасць з фальклорных вытокаў – прымавак, легенд, казак, а найбольш –

з сялянскіх песень, любіў крынічную ваду, любіў збіраць грыбы і ягады, з птушак найбольш любіў салаўя і жаўрука, з дрэў – сасну і бярозу, з вясковых прылад – плуг і касу, любіў у лесе ці ля ракі пасядзець ля вогнішча. І вельмі не любіў браць у дарогу не тое, што лішнія, нават патрэбныя рэчы. Спасылаўся на салдата, які гаварыў: у паходзе і іголка цяжкая.

У свет пысінскай паэзіі прырода ўвайшла ў прамой сувязі з духоўным жыццём чалавека. Мабыць, таму лепшыя яго вершы выпраменьваюць святло і цеплыню. Пра гэта Маргарыта Прохар ад шчырага сэрца сказала: "…Духоўны стрыжань яго паэзіі – знітаванасць з роднай зямлёй, з яе зажуранымі ўвосень і ўзнёсла-радаснымі ўвесну вялікімі і малымі рэчкамі, сінявокімі азёрамі, мядовым водырам лугавых траў, шчымліва-развітальным курлыканнем журавоў, світальнай расой у яблыневым садзе… Усім гэтым поўніцца паэзія Пысіна. У гэтым для мяне – яе святло і хараство, яе сіла і веліч. І яе вечнасць".

Слова Аляксея Пысіна ёмістае, "душой адбеленае", "пяшчотаю прасветленае". Пра гэта сведчаць радкі: "А памяць незабыўным плешча ў сэрца", "Густая медзь з галін сцякае", "сухое святло...", "Даль вечнасці без берагоў...", "Жанчыны лушчылі ўспаміны...", "Сухія дрэвы на пагосце паданнем цёмным зацвілі...", "... дубоў жывыя каруселі ідуць па кругу...", "З будучым мінулае сшываю..."

Паэт заўсёды ўважліва слухаў гаворку людзей, слухаў шэпт траў і гоман бароў, журчанне ручая і таямнічыя гукі рачных хваляў, марскога прыбою.

Паэт кожны раз імкнуўся знаходзіць слова ёмістае і гнуткае. Ён лічыў, што народнае слова – гэта душа народа, і як бы яго часам не цураліся, усё роўна яно з намі. Не-не ды выдасць яно беларуса, нават за Уралам:

*Не пазнаю вас у маўчанні,*
*Сябры мае, магіляўчане,*
*Ды ўсюды з вамі ў звонкім ззянні*
*Ёсць слова дарагое "сянні".*

Багата радкоў пысінскіх твораў кранаюць чытача дакладнасцю, прыгажосцю, мудрасцю, незвычайнай ёмістасцю і вобразнасцю: "Аб чым гаворыць з берагам вада – мне невядома, у яе свая любоў і правата, і немата, і мова…", "Хітры карась затаіўся ў пастцы, мудрыя травы спяць у стагах", "Прырода вучыць нас, яна ўмее быць саўдзельніцай вясны", "Сасна паклікала, як маці, працягла, глуха: "А-ля-к-се-ей…",

“На зямлю дзяды ўпалі, каб унукі прараслі”, “Лес не сам расце – яго ўзнімае спеў красы, узлёту і святла”, “Бескапытная дарога звініць у бесканечнасць дня”, “І свет на выкаце, як вока, наліты спелай глыбінёй”, “Дубы хапаюць воблакі рукой”… Хочацца доўжыць і доўжыць такія радкі-перлінкі, а яны ёсць амаль у кожным пысінскім вершы.

Фальклорныя песні ён лічыў узорам, вяршыняй паэзіі і раўняўся на іх: “Са мной душа і мова матчына і песня вечная яе”.

Тонкасцю, складанасцю і глыбінёй пачуццяў вызначаюцца наступныя вершы А. Пысіна аб каханні: “У смузе асядалі дубровы... ”, “Асенні лес, асенні лес...”, “На схіле дня святла яшчэ даволі...”, “Каля мора спее жыта”, “Куды сцякаюцца дажджоў калоны” ды іншыя. Аб каханні таксама паэмы “Белы камень” і “Жураўліны бераг”. У “Жураўліным беразе” мова па-сялянску густая, шчырая, пявучая і празрыстая. Не толькі радкі, нават асобныя словы свецяцца, пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі.

А. Пысін у сваіх творах услаўляў чалавечнасць, дабрыню, веру ў непераможнасць дабра, любоў і павагу да маці і ўвогуле да жанчыны, любоў да сваёй зямлі і да Радзімы, да роднай матчынай мовы, любоў да чалавека і да ўсяго жывога на зямлі.

А. Пысін – выдатны майстар вершаў-успамінаў і элегічных балад, асабліва партрэтных балад: “Артылерыст Сірацінін”, “Балада пра сувязіста”, “Пяць патронаў у абойме”, “Балада пра начлег, “Балада Буйніцкага поля”, “Вышыня капітана Гальпіна”, “Валуеў”, “Балада пра каску” ды іншыя. Даследчык Т.П. Хоміч у сваёй манаграфіі “Мастацкія канцэпцыі чалавека і свету ў лірыцы Аляксея Пысіна” (Мінск, 2009 г.) зрабіла вывад: “Яго творы можна параўнаць з лепшымі ўзорамі ўласна ваенных вершаў 1940-х гг. (А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Танка, П. Броўкі, М. Сурначова) і разам з тым відавочна, што балады А. Пысіна – гэта ўсё ж такі больш глыбокі, асэнсаваны з дыстанцыі часу погляд на трагедыю вайны. Пісьменнік па-мастацку спалучае эпічна-дэталізаваную канкрэтыку з філасофска-аналітычнай абагульненнасцю і пранікліваcцю мыслення лірычнага героя”.

Трэба сказаць, што ў беларускай ваеннай лірыцы мацней за Пысіна паэта няма. А. Пысін – гэта класік, гэта вялікі паэт. Нездарма яшчэ на пачатку творчага шляху крытык А. Калеснік прыкмеціў “…Лірыка Пысіна… ясная, чыстая, як нашы крыніцы, задуменная і таямнічая, як нашы ранішнія лясы, пяшчотная і гордая, як само жыццё народа”.

У вершы “Калі б вясне, Дняпру і чайцы…”, прысвечаным памяці паэта-земляка А. Куляшова, А. Пысін у спрасаваных, пружыністых рад-

ках выказаў самыя істотныя і сугучныя ім абодвум прынцыпы, абодвух іх мастакоўскае крэда: умение разумець праявы свету і сусвету, таямніцы прыроды і самой Зямлі, усяго жывога на ёй, выдзяляць стрыжнявое ў жыцці, у повязі часу і эпохі, чуць думкі травы, дрэў, валуноў, птушак і звяроў, весці размову з вечнасцю. Такая творчая праца, калі прырода з'яўляецца сааўтарам паэта, зусім няпростая і цяжкая. У размове з В. Хаўратовічам А. Пысін вельмі дакладна раскрыў свае ўяўленні пра паэзію і працэс яе нараджэння: "Катаржны гэта занятак – пісаць вершы. Здаецца, ужо напісаў лепш за усіх, а раніцай, калі глянеш на сваё тварэнне яшчэ раз, то адразу адчуеш: працаваць ды працаваць над ім яшчэ трэба... Цяжка крэсліць сябе. Але трэба: паэзія – плён душы і працы..."

Празаік і крытык Ул. Калеснік у рэцэнзіі на зборнік "Твае далоні" звярнуў увагу на "філасофскую цэльнасць" паэзіі А. Пысіна і сказаў, што аўтар праявіў сябе як "паэт-вяшчун", "мысліцель", "адкрывацель сэнсу жыцця". Пазнейшым часам крытыкі дапоўнілі яшчэ адну адметнасць асобы паэта – "інтэлектуальнасць". І сапраўды, у паэтычным роздуме паэта цесна знітаваны час і прастора, гісторыя і сучаснасць, прыроднаё і душэўнае. У яго творах асэнсаваны галоўны аспект быцця чалавека – гэта праблемы жыцця і смерці, дабра і зла, праўды і маны, сяброўства і здрады, мінулага і будучага. Даследчык творчасці А. Пысіна Т. Хоміч у сваёй манаграфіі "Мастацкая канцэпцыя чалавека і свету ў лірыцы Аляексея Пысіна" (Мінск, 2009) зрабіла і доказна абгрунтавала вывад, чаму "творчая спадчына гэтага пісьменніка стала ўнікальным здабыткам нацыянальнай літаратуры ХХ стагоддзя і застаецца прыцягальнай для сучаснай навукі".

Паэт Аляксей Пысін тварыў пра маладых і для маладых. Яго зборнікі паэзіі – гэта падручнік, па якім дзяўчынам і хлопцам можна і трэба вучыцца жыць.

*Сакавік 2010, 2015 гг.*

## СВЯТЛО ПАЭЗІІ ПЫСІНА – МОЛАДЗІ!

Нацыянальны паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы Аляксей Пысін – прызнаны майстар прыгожага беларускага пісьменства.Ён класік, вялікі паэт-лірык, улюбёны ў Беларусь, за якую хадзіў на бітву з ворагам, якую вызваляў у 1944 годзе з фашысц-

кай няволі, якую ўсё сваё жыццё любіў і славіў самацветным, “душой адбеленым” і “пяшчотай прасветленым” словам.

Вучоны-літаратуразнаўца Т.П. Хоміч падкрэсліла, што “творчая спадчына гэтага пісьменніка стала ўнікальным здабыткам нацыянальнай літаратуры XX-га стагоддзя і застаецца прыцягальнай для сучаснай навукі”.

Вядомыя беларускія пісьменнікі ў адзін голас заявілі, што франтавая паэзія Пысіна стаіць упоравень з ваеннай прозай Быкава, а даследчыкі-літаратары адзначылі, што А.В. Пысін захаваў філасофскую цэласнасць як паэт-інтэлектуал, як паэт-вяшчун, як адкрыавальнік сэнсу жыцця і прапагандыст агульначалавечай маралі. Дабрыня і спагада сталі яго сутнасцю – яны і сёння выпраменьваюць людзям сучаснае і вечнае. У яго творах, гаворачы словамі Т.П. Хоміч, “усё прасякнута шчасцем, святлом, напоўнена радасным звонам, бліскучасцю”. Яна ж зрабіла яшчэ і такі вывад: “Мастацкія творы А.В. Пысіна – гэта ўзаемазалежныя элементы цэласнага свету, які па праву называецца “пысінская паэзія”.




**М.А. Ласоўскі, Е.С. Пысіна і В.І. Арцем’еў ля магілы А.В. Пысіна**

А.В. Пысін быў таленавітым настаўнікам маладых паэтаў, ён паставіў на крыло і адправіў у літаратурны вырай дзясяткі паэтаў-пачаткоўцаў, якія сталі вядомымі творцамі роднай літаратуры. Сярод тых, хто пайшоў у іншы свет – Анатоль Сербантовіч, Нэла Тулупава, Алесь Пісьмянкоў… А з тых, хто і сёння радуе нас сваім паэтычным талентам – Святлана Басуматрава, Зміцрок Марозаў, Мікола Леўчанка, Алег Салтук…

Але ж паэт Пысін не толькі вучыў маладых, ён сам вучыўся ў іх і казаў старэйшым пісьменнікам: “Вучыцеся ў маладых!” Вось чаму яго творы пранізаны любоўю да моладзі, вось чаму яны і сёння цікавыя для юнакоў і дзяўчат. Ад радкоў ягоных вершаў моцна струменіць подых дабраты, спагады, любові. Яго творы прыцягальныя для маладых яшчэ і таму, што ў іх сказана пра дабро і зло, што яны вучаць іх жыццю.

У творах Пысіна шмат мастакоўскіх знаходак, якія ўтварылі залатаносную жылу ягонай паэзіі. Даследчыкамі літаратуры заўважана, што эпітэты пысінскіх вершаў у большасці сваёй лагодныя: белы, светлы, блакітны, зя-

лёны, чырвоны – усе колеры жывой прыроды, з якой паэт жыў у поўнай згодзе. А пра чорны колер ён сказаў: “Шмат абышоў я зямлі. // Кветкі не ўбачыў я чорнай…” І паэт чорны колер пакінуў толькі ворагу.

Прырода ў паэта заўсёды адухоўленая, жывая. Яна грозная, але праўдзівая. І ў ёй заўсёды святло і прыгажосць:

*Свеціць камень.*
*Свеціць дух сасновы.*
*Свеціць даўні след.*
*Свецяць летуценні*
*Свеціць слова,*
*Што імкнецца ў свет.*

І ёсць у паэта нямала прарочых радкоў, як, напрыклад:

*Адцвітае і нямее мова…*

*За вёскаю – вёска другая,*
*Ні даху, ні вокнаў, ні шыб.*

*Ціха ў мінулым, і ў будучымі ціха,*
*З намі ўсе гукі і гул жыцця.*
*Цяжка ўздыхае зямля-парадзіха:*
*Заўтра якое ўзаўецца дзіця.*

Прыгадайце, хто яшчэ з паэтаў напісаў падобныя радкі за дзесяць гадоў да чарнобыльскай катастрофы?

І яшчэ. У Пысіна ёсць не дзясяткі, а сотні і сотні радкоў-залацінак. Прывяду хаця б некалькі з іх:

*Лес не сам расце – яго ўзнімае*
*Спеў красы, узлёту і святла.*

*Мой снег, як свет, як лес багаты*
*На боль, на радасць і на страты…*

*Будзь заўсёды ў аленя,*
*Цёмны мох і светлы дзень.*

*Плач дзіцяці –*
*Дождж і сонца ўперамежку.*

*О, як патрэбны мне твае далоні,*
*Любоў мая.*

*Мне ў жыта хочацца ўвайсці,*
*Мне вечнасцю здаецца жыта.*

*На зямлю дзяды ўпалі,*
*Каб унукі прараслі.*

*Дзед над выдыхам раскрытай кнігі*
*Белым адуванчыкам цвіце.*

*Мы застаёмся песняй,*
*Што на крыві стаяла.*

Кожны, хто ўважліва чытае пысінскія радкі, пераконваецца ў тым, што сама народная мудрасць была жыватворчай крыніцай яго творчасці. І таму радкі паэта – гэта апірышча для маладых паэтаў, асабліва пачаткоўцаў, у іх стаўленні на крыло, у далучэнні да нашага прыгожага пісьменства.

У сваіх творах Аляксей Пысін не павучае маладых, ён з імі шчыра дзеліцца сакрэтамі паэтычнага майстэрства і з поўным даверам вядзе дыялог на роўных: ён вучыць іх і сам вучыцца ад іх. І яму безаглядна верылі і вучні-пачаткоўцы, і чытачы. І сёння вераць маладыя чытачы.

Пысінскае слова сучаснае і вечнае. Сваімі паэтычнымі радкамі ён і сёння нясе юнакам і дзяўчатам спрадвечную мудрасць народа, асвятляючы ім шлях, ён вядзе іх ў жыццё.

Прапаную вашай увазе асобныя радкі паэта, якія, на маю думку, з'яўляюцца яго запаветам нашчадкам нашых дзён і тым, хто народзіцца ў будучым:

*Не трэба гучнга гаварыць,*
*Выкатваць словы грамавыя.*

*Дала мне маці гэту мову,*
*Каб не нямым прыйшоў у свет.*

*Дайце жыць майму аленю*
*Пад галінкай дабраты.*

*На зямлі ўзыходзіць запавет–*
*Памыляцца – толькі не ў галоўным.*

*На зямлі адзіная ўдача:*
*У вечным слове чалавекам быць.*

*Усё ад нас,*
*Збрагчы сёння трэба*
*Больш святла, цеплыні, дабраты.*

*Ты будзеш з намі патомак,*
*Як сёння з продкамі мы.*

*Пойдзем не ад людзей –*
*Да людзей.*

*Пакуль зямля твая жывая,*
*І ты жывы.*

*Жні, нашчадак, жні,*
*Касой касі,*
*Толькі здуру не тапчы нагамі.*

*Лёс нас песціць,*
*Пакуль песня – у хлебе,*
*Хлеб-у песні.*

*Песня маці – мой выток,*
*А працяг і абнаўленне –*
*У самым юным пакаленні.*

*З гліны, з праменняў, з роднага слова*
*Свет свой па-свойму ляпіць.*

*Не спіце людзі! Узніме хтось ракету –*
*Не кінешся за ёю наўздагон.*

*Не быць у чэрствасці ў палоне*
*І даражыць на ўсе часы*
*І крошкай хлеба на далоні,*

*І нават кропляю расы.*
*Шчасце сеецца, жнецца,*
*Шчасце ў кузнях куецца,*
*У мартэнах кіпіць.*

*Зямля вам і неба, дарога і дом,*
*І ўсё, што над вамі, і ўсё, што пад вамі.*
*Вы лепшымі будзьце, чым я, –*
*Так шчыра, так шчыра жадаю.*

*Непадзельнымі пакідаю*
*Сонца, неба, і нашу зямлю.*

*Зрывайце шэрасць з небасхілу,*
*Змятайце з дрэў пажоўклы ліст,*
*Каб больш было ў вачах блакіту,*
*Каб насцеж свет – пад скразняком.*

*Мой сцяг вышэй усіх няўдач,*
*Вышэй усіх няпраўд.*
*Ты будзеш неўміручы, сцяг,*
*Бо мы цябе нясём*
*У сваёй крыві, у сваіх касцях,*
*Перадаём – з жыццём.*

*Адгукаецца мой крок,*
*Адгукаецца мой зрок*
*Сёння ў юным пакаленні.*

*Павольна йду: варочаў я каменне,*
*Араў глыбокім плугам цаліну.*
*Спяшайцеся, шыбуйце, пакаленні!*
*Стаміўся я… І крышку адпачну.*

*Ведайце, калі мяне не стане –*
*Я ў сваю дывізію пайшоў.*

*Бяру з сабой нялёгкія дарогі,*
*Сляды пакут, што не датлелі там ,*
*Бяру з сабой бясконцыя трывогі,*
*А юны свет – я юным перадам.*

Звяртаюся да юных чытачоў, да ўсіх маладых людзей: заўжды помніце гэтыя запаветныя слоўцы паэта Аляксея Пысіна, ідзіце з імі ў будучыню! Чытайце зборнікі паэта “Вярбовы мост”, ”Твае далоні”, “Ёсць на свеце мой алень”, “Палёт” і іншыя.

Мне пашэнціла больш за чвэрць стагоддзя ісці па жыцці з Аляксеем Васільевічам разам. Пра яго жыццё і творчасць мае кніжкі: “Вянок Аляксею Пысіну”, ”Паэт вузел завязаў”, ”Бібліятэка паэта Аляксея Пысіна”, “Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў”, ”Урокі Аляксея Пысіна”.

А тым, хто захоча больш грунтоўна ўглыбіцца і дасканала вывучыць ягонае паэтычнае майстэрства, раю дзве навуковыя працы:

Гарэлік Л.М. Аляксей Пысін // Нарыс жыцця і творчасці. – Мінск, 1981.

Хоміч Т.П. Мастацкая канцэпцыя чалавека і свету ў лірыцы Аляксея Пысіна. – Мінск, 2009.

*Красавік 2012 , люты 2015 гг.*

## ЯГО ПАЭТЫЧНЫ ТАЛЕНТ ВЫРАС НА ФАЛЬКЛОРЫ

Аляксей Пысін надзвычай моцна любіў народныя песні, казкі, прыказкі і прымаўкі, увогуле, усю народную творчасць.Нездарма многія беларускія літаратары гаварылі: “Яго паэтычны талент вырас на фальклоры”. На паліцах хатняй бібліятэкі паэта на бачным месцы стаяла шмат розных слоўнікаў, а таксама поўны збор беларускага фальклора. Яго тамамі Аляксей Васільевіч карыстаўся літаральна кожны дзень. Апошняй кніжкай, якую ён браў у рукі пры жыцці, быў том з беларускімі народнымі песнямі. Гэта дакладна, бо ў кнізе ён пакінуў закладку на старонцы з беларускай народнай песняй, што пачыналася словамі: “Гуркавала галубка з галубком…”

Пысін вельмі любіў народную песню. Ён пісаў у вершы пра яе:

*З ветру, з крыл мелодыя ўсплыла*
*І азёрная і баравая.*
*Песня чуйна сэрца выбірае,*
*У якім няма кутка для зла.*

Паэт любіў быць там, дзе спяваюць. Нават у царкву наведваўся. І мяне запрашаў у Барыса-Глебскі храм: “У ім самы лепшы хор

Магілёва”, – сказаў ён. Паэт і журналіст Пысін, калі не было транспарту, мог па салдацкай звычцы пешшу прыйсці ў любую вёску зямлі магілёўскай. Абы толькі пачуе, што там ёсць добры хор ці вядомая ў наваколлі спявачка. Слухаў ён салаўіныя песні вясковых жанчын ва Усполлі Мсціслаўскага, у Варатыні-Бабруйскага, у Абідавічах і Баркалабава – Быхаўскага, у Белай Дуброве – Касцюковіцкага, у Нарыманаве – Краснапольскага, у Кліну – Хоцімскага і ў дзясятках іншых. Нездарма гаварыў: “Зямля магілёўская музычная: выйдзі за ваколіцу, прыкладзі вуха да зямлі і пачуеш, што яна спявае”.

Сапраўды, паэт чуў, як яна прыгожа спявае. Як чуў шэпт траў і гоман дрэў, як чуў мову пчол і птушак, як чуў журчанне ручая і гучанне рачной хвалі… Напісаў больш за дзясятак замалёвак пра самадзейных кампазітараў і выканаўцаў народных песень. Прысвяціў верш славутай спявачцы Марыі Пахоменка. Верш “Баркалабаўскія салаўі” напісаў у народных традыцыях, ён вельмі лірычны, пра быхаўскіх спявачак, якія “вядуць “Рэчаньку” пра свой жаночы лёс. Ён першым напісаў замалёўку пра тое, як у вёсцы Клін Хоцімскай зямлі нарадзілася славутая песня “Касіў Ясь канюшыну”, якая і сёння звонка гучыць ва ўсіх кутках роднай Беларусі.

У 1972 годзе ў Мінску ў бібліятэцы газеты “Голас Радзімы” была выдадзена кішэннага фармату кніжка Пысіна з назвай “Бярозка ля кожных варот”. У ёй змешчана большасць нарысаў паэта пра самадзейных кампазітараў і выканаўцаў, лепшых песенных гуртоў таленавітай зямлі магілёўскай. Шкада толькі, што ўвесь наклад кніжкі пайшоў за мяжу і магілёўцы яе не чыталі. Дарэчы, па аднаму экземпляру кніжкі ў розныя гады я перадаў у абласную бібліятэку імя У.І. Леніна і ў абласны Цэнтр народнай творчасці.




Перавагу Пысін аддаваў беларускім сялянскім песням у акапэльным выкананні, г.зн. калі спяваюць чыстым голасам. Таму ён найчасцей слухаў музычныя творы ў выкананні Дзяржаўнага хору імя Рыгора Шырмы і фальклорныя песні, якія спявалі сялянкі-спявачкі у розных раёнах Магілёўскай вобласці.

Вельмі любіў Аляксей Васільевіч мінскі ансамбль “Харошкі”, найменне якому дала вёска “Харашкі́” пад Магілёвам. Ён не прапускаў ніводнай радыётрансляцыі і тэлеперадачы, у якіх мелі ўдзел “Харошкі”.

Колькі разоў і мяне запрашаў да сябе ў кватэру, каб паглядзець і паслухаць разам гэты, як ён казаў, "лепшы ў Беларусі ансамбль". Ансамблю прысвяціў верш "Харошкі", які чытаў мне ў рукапісе, яшчэ незавершаным, і потым не адзін раз, калі ўжо яго дапрацаваў.

Думаю, што не памылюся, калі скажу, што беларускі фальклор – гэта падмурак лірычнай паэзіі Аляксея Пысіна.

*Сакавік 2013 г.*

## АЛЯКСЕЙ ПЫСІН ПРА АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА



Аркадзь Куляшоў – народны паэт Беларусі, паэт усіх беларусаў, паэт вялікі. Аляксей Пысін лічыў яго найперш нашым, магілёўскім, бо нарадзіўся ён у нашым родным кутку, на Бесядзі, у вёсцы Саматэвічы Касцюковіцкага раёна. І творчасць яго звязана з Бесяддзю, толькі ўжо на Хоцімшчыне. Пысін нарадзіўся ў суседнім Краснапольскім раёне. І яны сябравалі. Толькі зблізіла іх не столькі зямляцтва, колькі паэтычная творчасць. Яны абодва ўзняліся да ўзроўню Купалавай паэзіі.

Куляшоў і Пысін сябравалі, сачылі за публікацыямі адзін аднаго, дарылі адзін другому свае кнігі з аўтографамі. Аркадзь Куляшоў яшчэ па першых зборніках свайго земляка прыкмеціў ягоны талент, "Божую іскру". У лісце хоцімскаму краязнаўцу Міхасю Ласоўскаму Аркадзь Куляшоў напісаў: "Таленавітых хлопцаў у нас шмат. Калі пералічваць, дык атрымаецца вялікі спіс. Мне, як магіляўчаніну, хочацца назваць свайго земляка Аляксея Пысіна. Гэта вельмі здольны і самабытны паэт".

Аляксей Пысін застаўся верным памяці свайго сябра. На Касцюкоўшчыне, дзе нарадзіўся паэт, па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле А.В. Пысіна ў 1978 годзе праведзены першыя Куляшоўскія літаратурныя чытанні, у якіх прынялі ўдзел сталічныя паэты. У 1979 годзе на радзіме А.А. Куляшова быў устаноўлены мемарыяльны бюст паэта. Слова пра Куляшова пры адкрыцці бюста сказаў Пысін. На той час гэтае слова не друкавалася. У архіве Еўдакіі Сямёнаўны Пысінай – удавы паэта – захаваўся рукапіс прамовы Аляксея Васільевіча, змест якога, на маю думку, прадстаўляе значную культурную каштоўнасць. Прапаную яго чытачам зборніка:

“Сёлетні год (1979 г. – *В.А.*) – гэта год Куляшова на Магілёўшчыне, якая з’яўляецца радзімай паэта. На многіх прадпрыемствах, у навучальных установах адбыліся літаратурныя вечары, прысвечаныя 65-годдзю з дня нараджэння нашага вялікага земляка, нашага геніяльнага паэта, памяць аб якім будзе жыць заўсёды. Гэтыя вечары былі сапраўдным святам паэзіі Куляшова. Гучалі цудоўныя вершы нашага земляка, гучала яго цудоўная «Алеся». Кожны раз хвалююць, кранаюць да шчымлівага болю радкі:

*Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая,*
*Чаму так горка, не магу я зразумець.*
*Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае*
*На ўсходзе дня майго, якому ружавець.*

Мы ведаем, як высока цанілі творчасць Аркадзя Куляшова яшчэ пры жыцці паэта яго чытачы і крытыкі, і калегі, і пабрацімы. Даволі ўспомніць артыкулы вялікага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага.

У сваёй кароткай аўтабіяграфіі Куляшоў пісаў: “Нарадзіўся я 6 лютага 1914 года на Магілёўшчыне ў мястэчку Саматэвічы Касцюковіцкага раёна”. А вось пра тое ж у вершы “Маё пасведчанне” (1951):

*ДАДЗЕНА яно сабе самому*
*У тым, што нарадзіўся ў год вайны.*
*Нянек не было ў мяне, вядома.*

(Слова “ДАДЗЕНА» вылучыў Пысін. – *В.А.*).

У куляшоўскіх запісах пра сябе яшчэ сказана: “Цікавіцца вершамі і спрабаваць пісаць іх пачаў з сямі год, а ў 1926 годзе ў клімавіцкай газеце “Наш працаўнік” быў надрукаваны мой першы верш на беларускай мове”.

Міне больш за чатыры дзесяцігодцзі, і вядомы ўсёй краіне беларускі савецкі паэт Аркадзь Куляшоў вернецца ў паэме «Далёка да акіяна» ў гэтую найважнейшую для яго пару, калі да яго, хлапчука, сына местачковых настаўнікаў, упершыню з’явілася муза, каб ужо ніколі з ім не расставацца.

У аўтабіяграфічных заметках Куляшова пра свой ранні вырай сказана вельмі сціпла: «У 1928 годзе пасля заканчэння Саматэвіцкай сямігодкі я працягваў сваю вучобу ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме. У тыя гады Мсціслаў быў своеасаблівым цэнтрам пачынаючых паэтаў і празаікаў, якія гуртаваліся вакол студыі «Маладняка» – самай масавай тагачаснай літаратурнай арганізацыіі ў Беларусі. Тут я пазнаёміўся з таленавітымі пачынаючымі паэтамі Юліем Таўбіным і

Змітраком Астапенкам, вершы якіх друкаваліся ў цэнтральных газетах і часопісах. Юлій Таўбін і Змітрок Астапенка былі старэйшымі за мяне. Творчая дружба з больш вопытнымі таварышамі станоўча ўплывала на далейшае развіццё маіх паэтычных здольнасцей”.

Аднойчы Аркадзь Куляшоў, ведаючы, што я з суседняга Краснапольскага раёна, спытаў у мяне: “Ведаеш Касцягаўку?” Касцягаўка – гэта вёска цяперашняга нашага Высакаборскага сельсавета, ад маёй роднай вёскі яна – кіламетрах ў сямі. “Дык я ў Касцягаўку, – сказаў, усміхаючыся, Аркадзь Аляксандравіч, – на вечарынкі бегаў”. Так сказаў: «Бегаў». І я ўявіў маладога Аркадзя Куляшова, маладога, прыгожага, па-камсамольску бадзёрага і жыццярадаснага. Уявіў яго як вясковага хлопца, але ўжо вядомага маладога паэта, які весела гуляў на вясковай вечарынцы, танцаваў з дзяўчатамі, смяяўся, жартаваў. Пра гэта сам ён добра сказаў у сваім вершы пра вясковага музыку:

*І я з ім сябраваў, і я спяваў «Дасаду».*
*І ў бубен падбіваў, і танцаваў да ўпаду.*

Так, ужо да вайны Аркадзь Куляшоў быў вядомым паэтам у нашай рэспубліцы. Ім ужо былі напісаны і выдадзены кнігі: “Росквіт зямлі” (1930), “Па песню, па сонца”, паэмы “Аманал” (1933), “Гарбун” (1935), “Мы жывём на граніцы” (1938), “У зялёнай дуброве” (1940), “Добры чалавек” і “Баранаў Васіль” (1941).

Мне і майму пакаленню асабліва запомніўся даваенны вёрш Куляшова «Ранак»:

*Выходжу я ў разведку –*
*Рашучы заўтра бой.*
*Ты, ранак, будзь за сведку.*
*Услед ідзі за мной.*
*З табой у згодзе поўнай*
*Жылі мы з першых дзён.*
*У барацьбе няроўнай*
*Я трапіў у палон.*
*І рукі мне звязалі*
*І ў плечы б’е прыклад.*
*«Вядзі!» – мне загадалі, –*
*Паказвай шлях назад!»*
*Ты, ранак мой вялікі, у час маіх няўдач*
*Пад ногі кідай пікі, дарогі перайнач.*
*Дзе рэчку помніў розум, там возера кладзі,*

*Дзе корч – з карча бярозу на месцы тым кладзі.*
*Дупло зрабі з засечкі, хай птушка ў гэты дзень*
*Туды свае яечкі блакітныя кладзе.*
*І ў родную краіну дарогі перайнач.*
*А я? А я загіну.*
*А ты? А ты не плач.*

Верш «Ранак» напісаны ў 1940 годзе, за год да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. А ў гэты час грымела на свеце Другая сусветная вайна, якая насоўвалася і на нашу краіну. Паэт прадбачыў немінучасць вайны для нас і ўжо ўзбройваўся духам сам, рыхтаваў да суровых выпрабаванняў сваіх чытачоў. Ён прадбачыў вайну вялікую, зацяжную, якая забярэ шмат людскіх ахвяр. Прадбачыў і немінучасць варожага палону. У баявым статуце нашай Чырвонай Арміі палон тады лічыўся немагчымым і не браўся ў разлік. Паэт больш рэальна глядзеў на вайну, на палон і на свае паводзіны ў самых суровых выпрабаваннях. Я лічу, што верш Куляшова «Ранак» быў своеасаблівым пралогам да яго паэмы «Сцяг брыгады», якая была напісана ў верасні-кастрычніку 1942 года. Гэта паэма – геніяльная. Яна да слёз узрушыла, усхвалявала сваіх першых чытачоў – Аляксандра Твардоўскага і Міхаіла Ісакоўскага, шчырых і адданых сяброў Куляшова. Аляксандр Твардоўскі нават браў рукапіс і глядзеў праз яго на святло, каб пераканацца, што сапраўды на гэтай паперы напісаны тыя радкі, з якіх склалася паэма «Сцяг брыгады». Міхаіл Ісакоўскі тады ж, у 1942 годзе, пераклаў паэму на рускую мову і яна стала вядома ва ўсёй нашай краіне, набыла шырокую папулярнасць і прызнанне, паставіла яе аўтара ў першы шэраг савецкіх паэтаў.

Яшчэ ў юнацтве Аркадзь Куляшоў вызначыў сваё творчае крэда, свой грамадзянскі абавязак, маштаб і мерку патрабавальнасці да сябе:

*Я ўпарты, не кіну пачатае справы,*
*Каменне крышу, разграбаю пяскі.*
*Пад спіны аматараў лёгкае славы*
*Пракладваю рэчышча ўласнай ракі.*
*З надзеяй гляджу на крыніцу спатканую,*
*Хачу, каб яна разлілася ракой...*
*Не Волгай магутнай, не нават Камаю,*
*Хоць Бесяддзю, што на радзіме маёй.*

І гэтым маштабам і меркай патрабавальнасці пазначана ўсё, што Аркадзь Куляшоў паспеў стварыць. А створанае ім – гэта вялікая бібліятэка паэзіі. Гэта 19 яго паэм! 19 паэм стварыў адзін паэт. Такіх

прыкладаў мала ва ўсёй сусветнай паэзіі. Сярод паэм Куляшова такія выдатныя, як «Дом № 24», «Прыгоды цымбал», «Простыя людзі», «Новае рэчышча», «Толькі ўперад», «Далёка да акіяна», драматычная паэма «Хамуціус».

Аднойчы, калі Куляшоў ачуняў пасля цяжкай хваробы, Аляксандр Твардоўскі сказаў яму: «Эх, Аркадий, какие стихи собирался я написать на твою смерть». Але раней памёр Твардоўскі, і Аркадзю Куляшаву давялося пісаць развітальнае слова, якім стала яго выдатная паэма «Варшаўскі шлях», прысвечаная Твардоўскаму.

Цяжка ў кароткім слове расказаць пра усё, зробленае Куляшовым.

У асобе Аркадзя Куляшова наша сціплая ў бярозах і соснах зямля магілёўская, зямля беларуская, дала свету вялікага паэта.

Беларускі пісьменнік Аляксандр Капусцін у лютым мінулага (1978. – *В.А.*) года быў разам з Куляшовым ў санаторыі «Нясвіж». Ён быў тым чалавекам, які бачыў Куляшова перад самым расстаннем з ім. Свае нататкі Капусцін перадаў мне з просьбай, каб я прачытаў іх сёння на радзіме паэта пры адкрыцці яму мемарыяльнага бюста».

Згаданыя Пысіным нататкі Аляксандра Капусціна ў архіве Пысіных не знойдзены. Іх тэкст глядзіце: Капусцін А. Перад расстаннем. Вобраз 89. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск, 1989. С. 265–270.

*Люты 2014 г.*

## ПЫСІНСКІЯ ЧЫТАННІ Ў ПАЛУЖЫ

Нацыянальны паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужаны работнік культуры БССР Аляксей Пысін – прызнаны майстар прыгожага беларускага пісьменства. Яго паэзія праўдзівая, як жыццё народа, яна золатам зіхаціць у скарбе беларускай мовы і культуры. А яго вершы і балады пра вайну – на ўзроўні быкаўскай прозы. Нездарма многія літаратары ранейшай пары казалі і сёння гавораць: "Пысін у паэзіі, як Быкаў у прозе", "Пысін унікальны творца XX стагоддзя".

22 сакавіка 2015 года паэту А.В. Пысіну споўнілася б 95 гадоў з дня нараджэння. Да яго ўгодкаў удзячныя землякі-краснапольцы прыўрочылі адкрыццё мемарыяльнай Дошкі і адноўленай экспазіцыі літаратурнага музея А.В. Пысіна ў ДУА "Палужскі ВПК дзіцячы сад –



**Будынак Палужскай школы**

сярэдняя школа”. Каб адзначыць гэтую важную падзею ў культурным жыцці вёскі і ўсяго раёна, сабраліся вяскоўцы, вучні школы і настаўнікі, дырэктары, намеснікі дырэктараў па выхаваўчсай рабоце і настаўнікі-філолагі ўсіх школ раёна, а таксама запрошаныя госці: старшыня раённага Савета дэпутатаў, старшыня раённаё арганізацыі РГА “Белая Русь” А.А. Гоман, намеснік старшыні райвыканкама А.І. Чаюкова, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызма С.А. Сыранкоў, загадчык аддзела краязнаўства і пошукавай работы УДА “Магілёўскі абласны Цэнтр творчасці” С.А. Хадоркіна і, як сябра паэта і даследчык яго жыцця і творчасцыі, аўтар гэтых радкоў.




І вось узнёсла-ўрачыста адкрыта мемарыяльная Дошка паэту-земляку, які ў 1937 годзе скончыў Палужскую сярэднюю школу. Цяпер раніцай кожнага дня бронзаваы партрэт паэта-земляка, паэта-класіка будзе сустракаць і цёпла вітаць каля ўваходу ў школу кожнага вучня, кожнага настаўніка, кожнага наведвальніка літаратурнага музея.

Пысінскае свята прадоўжылася экскурсіяй у літаратурным музеі А.В. Пысіна. Тут у асобным прасторным пакоі абноўлена ўся экспазіцыя: кожны стэнд, кожны стэлаж і палічка, радаводнае дрэва Пысіных і вялікі партрэт паэта, тэксты вершаў. Цяпер Палужскі вясковы музей выглядае, як і сталічны. Дый зместам не ўступіць: экспанатаў тут багата. Ёсць усе яго творы, кнігі пра яго жыццё і творчасць і нават нешта з рукапісаў паэта. Уражваюць асабістыя рэчы паэта. А фотаздымкаў – адразу і не злічыць. Усё тут дагледжана і беражліва захоўваецца: краснапольцы свята шануюць памяць свайго слаўнага сына.

З выключнай увагай прысутныя знаёміліся з кожным экспанатам. Экскурсію з веданнем справы вяла стваральнік музея, настаўнік роднай мовы і літаратуры, яна ж і дырэктар школы Л.М. Пшанічнікава. Лідзія Мікалаеўна зрабіла грунтоўны аповед пра род казакаў Пысіных,

пра дзяцінстсва і юнацтва Алёшы Пысіна, пра тое, як ён вучыўся ў гэтай школе, як стаў селькорам, а потым журналістам і паэтам. Прайшоў Вялікую Айчынную вайну дарогамі пяці франтоў, летам 1944 года вызваляў ад ворага зямлю магілёўскую і Беларусь. І ўсё гэта праўдзіва, “душой адбеленым”словам паэт адлюстраваў у сваіх творах, пра якія прысутныя не толькі пачулі: яны ўбачылі яго кнігі, якія ён напісаў і кожную трымаў у сваіх руках.




**Сябры таварыства беларускай мовы г. Магілёва ў адноўленым музеі А.В. Пысіна. Здымак на памяць**

З літаратурнага музея ўдзельнікі свята прайшлі ў актавую залу школы, дзе на сцэне на відным месцы размешчаны партрэт А.В. Пысіна і плакат “Аляксею Пысіну 95”. Вядучыя ўрачыста абвясцілі пачатак літаратурна-музычнай кампазіцыі, прысвечанай юбілею паэта-земляка. Вучні і настаўнікі-філолагі шчыра і ўзнёсла дэкламавалі вершы-шэдэўры паэта, якія ён прысвяціў роднай зямельцы, навакольным вёскам, роднай мове, любай Беларусі і яе людзям, подзвігам мужных воінаў у мінулай вайне і працоўным будням моладзі. Удзячнасцю і цеплынёй у сэрцы кожнага з прысутных адгукнуліся беларускія народныя песні, якія так моцна любіў Аляксей Васільевіч. Іх таленавіта выканалі жанчыны-спявачкі з ансамбля Краснапольскага Цэнтра культуры.

Вядучыя даюць слова мне. Я передаў землякам паэта нізкі паклон і шчырыя прывітанні ад родных А.В. Пысіна і ад пісьменнікаў-магілёўцаў, а яшчэ падзякаваў за тое, што яны так шчыра і ашчадна

зберагаюць памяць пра слаўнага творцу і захоўваюць яго спадчыну. Ад сябе перадаў дарунак музею і школе – свае кніжкі: “Бібліятэка паэта Аляксея Пысіна” і “Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў”. А потым нагадаў пра моц пысінскай паэзіі, падмуркам якой з’яўляецца яго “душой адбеленае” і “пяшчотай прасветленае слова”:

– Пысін паэт-класік. Пра вайну мацней, чым ён, ніхто з беларускіх паэтаў не напісаў. Яго паэзія на ўзроўні быкаўскай прозы. Быў ужо падрыхтаваны дакумент, каб яму прысвоіць званне народнага паэта БССР. Засталося толькі падпісаць. Ды не паспелі. А пасмяротна такое званне не давалі. Лічу, што мы маем права называць яго народным паэтам. Алякасей Пысін – паэт народны! Ён нам блізкі і родны!

Таксама вельмі шчыра віталі ўдзельнікаў свята старшыня раённага савета дэпутатаў, старшыня раённай арганізацыі РГА “Белая Русь” Анжаліка Гоман, загадчык аддзела краязнаўства і пошукавай работы УДА “Магілёўскі абласны цэнтр творчасці” Святлана Хадоркіна, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызма райвыканкама Сяргей Сыранкоў. З нагоды юбілею яны падаравалі школе каштоўныя рэчы і сувеніры.

Яскрава бачна, што пысінскае паэтычнае слова жыве, яно не толькі ў кнігах, а і на вуснах у нашчадкаў, яно свеціць і грэе, яно ідзе, яно будзе жыць!

*Сакавік 2015 г.*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ВЕЧАРЫНЫ

## “ЁН ПЕРШЫ СЕЯЎ ЗЯРНЯТЫ…”
### Да 200-годдзя Дуніна-Марцінкевіча



…У зале абласнога Палаца культуры ціха гучыць беларуская народная музыка. Ля паліц кніжнай выставы “Больш за ўсё я бацькоўскаму краю аддany…” дзяўчаты і хлопцы. Яны знаёмяцца з яе раздзеламі: “Са славутага пісьменніцкага роду”, “Для роднага краю я мову адраджаю”, “Пачынальнік беларускай драматургіі” – тут творы беларускага дудара розных гадоў выдання, літаратура аб яго жыццёвым шляху і творчасці.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч – выдатны паэт, драматург, тэтральны дзеяч, перакладчык, публіцыст і асветнік. Ён адным з першых выступіў на ніве беларускага пісьменства, сцвярджаючы ідэю існавання літаратуры на роднай мове. Паэт пра сябе заявіў так: “Жывучы сярод люду, які размаўляе па-беларуску, марачы аб долі гэтага народа, знямеўшага ў маленстве ад невуцтва і цемнаты, вырашыў я для заахвочвання яго асветы пісаць на яго ўласнай гаворцы”.

Дзяцінства першага сейбіта зярнят новай беларускай літаратуры шчыльна звязана з Магілёвам. Кандыдат гістарычных навук Ігар Пушкін расказаў пра гэты перыяд жыцця маладога Марцінкевіча, агучыў малавядомыя звесткі пра яго дзядзьку – каталіцкага біскупа Станіслава Богуш-Сестранцэвіча, які пакінуў прыкметны след у духоўным жыцці Магілёва і “паставіў на ногі” свайго пляменніка. Ігар Пушкін эмацыянальна дэкламаваў урывак з паэтычнай аповесці “Гапон” Дуніна-Марцінкевіча, у якім ёсць яскравыя эпізоды з жыцця Магілёва.

Навучэнцы Магілёўскай дзіцячай школы мастацтваў № 2 імя Міхаіла Салдатава Кацярына Юнова і Валерый Ільюшын парадавалі

срэбраным звонам цымбалаў – выканалі беларускія народныя песні. Артыстка народнага тэатра Палаца культуры вобласці Дар’я Дзмітрук выканала маналог з оперы “Ідылія” (“Сялянка”), што стала першай беларускай операй, а група падлеткаў з гэтага тэатра паказала драматычную сцэнку “Неспадзяванка для майстэрні”.

І зноў пайшла размова пра творы Дуніна-Марцінкевіча: “Дажынкі”, “Вечарніцы”, “Пінская шляхта”, “Залёты”, пераклад паэмы Адама Міцкевіча “Пан Тадэвуш”. Маналог Марысі з “Пінскай шляхты” прачытала Алеся Пучко, маналог Адэлі з камедыі “Залёты” – Елізавета Старцава. Успаміны Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.) расказаў Руслан Тыльчык.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у сваіх творах вялікую ўвагу надзяляў фальклору. Беларускія прыказкі, прымаўкі, народная песня, звычаі, абрады – усё гэта надае яго паэмам і камедыям нацыянальны каларыт.

А потым адбылася прэм’ера песні “Партрэт Стэфы” на верш Дуніна-Марцінкевіча з музыкай кампазітара Эдуарда Зарыцкага. Яе пранікнёна выканала студэнтка 1-га курса Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.А. Куляшова Яўгенія Крэтава.

Вечарыну падарылі магілёўцам Палац культуры вобласці, Цэнтральная гарадская бібліячтэка імя К. Маркса і Магілёўскае гарадское Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Падрыхтавала яе рэжысёр народнага тэатра абласнога Палаца культуры Ала Кускова.

*11 ліпеня 2008 г.*

## ЗГАДКА ПРА ЯЎГЕНІЮ ЯНІШЧЫЦ І АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА

### Слова, сказанае 10.12.2008 г. на вечарыне ў палацы культуры вобласці

Аднаго дня паэт Пысін нагадаў мне пра Яўгенію Янішчыц: яна прыязджала ў Магілёў у 70-я гады на літаратурныя вечарыны і на пераходзе праз дарогу ў гатэль “Магілёў” трапіла пад колы хуткай дапамогі. Перажываў. Вініў сябе, што не перавёў цераз дарогу. Казаў, што яна адораная талентам, яе вершы кранаюць сэрца і душу, што яна паэт “з Божай іскрай”.



У чэрвені 1981 года Яўгенія Янішчыц прыехала ў Магілёў другі раз. Яна была з вядомым журналістам Міколам Базарэвічам. Перад гэтым я ім падрыхтаваў на пяць дзён запар вечарын для сустрэч з чытачамі і сустрэў у гатэлі "Магілёў". Літаратары наведаліся на заводы "Строммашына" і электрарамонтны, на мясакамбінат, у цэхі "Магілёўхімвалакно", камбіната шаўковых тканін, камбіната "Усход", на ТЭЦ-2, на базу "Сельгастэхнікі", у ГПТУ № 51 і ў некаторыя інтэрнаты. Выступленні праходзілі жыва, цікава. Магілёўцы былі задаволены, і водгукі на літаратурныя выступленні ішлі самыя лепшыя.

19 чэрвеня вечарам разам з Пысіным я пайшоў у гатэль "Магілёў", каб падвесці вынікі літаратурных чытанняў. Помніцца, што Жэня Янішчыц – так называў яе Пысін – выглядала крыху стомленай (як ні кажы, а 19 выступленняў за пяцідзёнку), але сустрэла нас весела, з усмешкай, жыва і цікава вяла гутарку. Да Аляксея Васільевіча ставілася з вялікай павагай і шчырасцю. Мы цёпла з ёй развіталіся.

Я праводзіў Пысіна да яго дому. У размове са мной Аляксей Васільевіч прызнаўся, што вельмі даражыць сяброўствам Жэні.

Праз два месяцы Пысіна не стала. Яўгенія Янішчыц у Магілёў больш не прыязджала. Бачыў яе першы і апошні раз.

Паэт Алесь Пісьмянкоў сказаў, што вершы збываюцца (так яго папярэджваў зямляк з Каніч), бо таленавітыя паэты – гэта прарокі сваёй Айчыны. А ў вершах Янішчыц ледзь не скрозь прароцтвы пра ўласнае жыццё, пра лёс краіны ды й свету таксама. Да прыкладу, такія радкі:

*Круціцца, нібы жорны, планета,*
*Смерці змяючай зацята пятля.*

А ў вершы "Добры вечар, землякі!" яна напісала радкі быццам бы сёння з таго свету і звяртаецца не толькі да палешукоў, але і да нас з вамі:

*Рукавічкай да рукі,*
*Паяском – да пояса.*
*З вамі разам, землякі,*
*І ў зямлі не боязна!*

Таленавітую, шчырую і слаўную паэтку, якой "для песні падказала словы роднае палескае сяло", творы якой заўсёды нараджаліся "у шуме

жытняга святла”, удзячныя беларусы будуць помніць у стагоддзях. Крыштальна чыстая лірыка Яўгеніі Янішчыц была, ёсць сёння і застанецца навечна “на вышыні святла”, яна запатрабавана чытачамі, яна служыць народу Беларусі!

## СЛОВА ПРА АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА,
### сказанае 10 лютага 2004 года ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна

Аркадзь Куляшоў – народны паэт Беларусі, паэт усіх беларусаў. А мы, магілёўцы, лічым яго найперш нашым, бо нарадзіўся ён у нашым родным кутку, на Бесядзі, у вёсцы Саматэвічы Касцюковіцкага раёна. Там, у Касцюковічах, і літаратурна-краязнаўчы музей яго імя. Там жа ў 1978 годзе па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле паэта Пысіна праведзены першыя Куляшоўскія літаратурныя чытанні. Яны цяпер ладзяцца штогод з удзелам мінскіх пісьменнікаў і літаратараў Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, які носіць яго слаўнае імя.

Гэта ўсё правільна і вельмі добра. Але ж вядома, што ў Саматэвічах прайшло толькі дзяцінства і крыху юнацтва Аркадзя, а да вайны і пасля яе паэт пісаў свае творы на зямлі хоцімскай: у вёсках Альшоў, Елавец і ў самім Хоцімску, дзе бацькі яго пражылі большую палову свайго жыцця. Вось і сёння, чую толькі пра Саматэвічы, а пра Хоцімск – мімаходзь.

У Саматэвічах Аркадзь Куляшоў нарадзіўзся, рос, у школе вучыўся, а творы свае, вядомыя потым усім, пісаў на хоцімскай зямлі. Хачу, каб прысутныя тут даведаліся пра гэта.

Мой сябра-пабрацім, хоцімскі краязнаўца-падзвіжнік Міхась Ласоўскі, калі дазнаўся пра сённяшні вечар, пашкадаваў, што не мае магчымасці прыняць у ім удзел. Ён папрасіў мяне агучыць, хаця б збольшага, свой успамін пра Куляшова. Маці паэта Кацярына Фамінічна Ратабыльская ў Альшоўскай школе вучыла будучую жонку краязнаўцы Галіну Паўлаўну. А пазней, калі працаваў у Трасцінскай сельскай бібліятэцы, ён з мэтай збору краязнаўчых звестак заходзіў у дом Куляшовых у Хоцімску і гутарыў з бацькамі паэта. А яшчэ Міхась Аляксеевіч шэраг гадоў вёў перапіску з землякамі-пісьменнікамі. Ды і ў Трасціно да яго прыязджалі Аляксей Пысін, Іван Чыгрынаў, Віктар Карамазаў, Пятро Прыходзька і іншыя. Нават сам Аркадзь Куляшоў.

– Яшчэ ў 1968 годзе, – піша Ласоўскі, – пад уплывам асалоды крынічна-празрыстай народнай паэзіі, народных звычаяў, вясельных і заручальных песень, якія аксамітам рассыпаны ў рамантычна-ўзнёслай паэме-песні “У зялёнай дуброве”, я звярнуўся з лістом да паэта, каб адказаў, ці не на Хоцімшчыне яна была створана і якія яшчэ творы былі напісаны на хоцімскай зямлі?”

Неўзабаве прыйшоў у Трасціно шчыры ліст ад паэта Куляшова такога зместу:

“Паважаны т. Ласоўскі! Пасылаючы Трасцінскай бібліятэцы чатырохтомнік, хачу коратка і сціпла адказаць на некаторыя вашы пытанні да мяне.

1. Мая маці працавала ў Хоцімскім раёне з 1927 года ў Юзафоўскай, Альшоўскай і Елавецкай школах. Я прыязджаў да яе на летнія канікулы ў Альшоў і Елавец. Якія гэта былі гады, я ўжо дакладна не памятаю. Ва ўсякім разе трыццатыя.

2. У Елаўцах, дзе я адпачываў з сям’ёй у 1938 і 1939 гадах (летам), мною была напісана паэма “У зялёнай дуброве” і некаторыя вершы з цыкла “Юнацкі свет”, у прыватнасці, “Бюро даведак”. Там жа задуманы былі і напісаны ўжо ў Мінску “Магілёўская хмарка”, “Мая Бесядзь”, “На сотай вярсце”, “Глушцы”, “Плыла, цалавалася хмара з зямлёй…”, “Добры чалавек” і іншыя.

3. У 1940 годзе ў Хоцімску (у будцы на сядзібе бацькоў) напісана паэма “Хлопцы апошняй вайны” (здаецца, май-чэрвень месяцы).

4. У той жа будцы, але ўжо ў 1950 годзе, напісана паэма “Толькі ўперад”.

Як бачыце, творчыя сувязі мае з Хоцімшчынай не такія ўжо малыя, і я ўдзячны сваёй роднай зямлі і яе людзям, якія і да гэтага часу з’яўляюцца светлай крыніцай майго сэрца і памяці.

З павагай да Вас і нізкім паклонам да чытачоў. Арк. Куляшоў. 11.07.68 г., г. Мінск”.

Міхась Ласоўскі нагадаў яшчэ адзін успамін пра Куляшова. Ён з запісных кніжак Аляксея Зарыцкага, таксама паэта з Хоцімска, які летам 1938 года разам з Аркадзем Куляшовым жыў у Елаўцы: “Раніцай Аркадзь ішоў да завітастай Альшоўкі і выбіраў месца, каб і лес быў побач. На прырэчным узлеску, у зацішку, ён рассцілаў коўдру, узбройваўся алоўкам і паперай і браўся за працу. І ў гэтым аграмадным кабінеце, прыкрытым толькі “сінім дахам неба”, Куляшоў пад спеў жаваранкаў, стракатанне конікаў і прарэзлівы крык кнігавак працаваў надта плённа”.

Аркадзю Куляшову, відаць па ўсім, Елавец запомніўся на ўсё жыццё. Калі аднаго разу ў яго спыталі: “Што такое натхненне? Як і калі яно прыходзіць да паэта?” – даў такі адказ: “Аднойчы я ішоў у Елавец да сваіх бацькоў. Гэта было на світанні. Яшчэ жоўтае святло месяца залівала жытнёвае поле, а ад рэчкі слаўся перадранішні туман. Не прыпомню зараз ужо, аб чым тады думаў, але раптам адчуў, паверыў, што ўсё здзейсню ў жыцці, усё, што хачу, што задумаў. І гэта была такая лёгкая, расхінаючая душу і імклівая, нібыта прыўзнімаючая ад зямлі ўпэўненасць, што, магчыма, гэта і было натхненне?”

І ў заключэнне хоцімскі краязнаўца згадаў тую сустрэчу з паэтам, якая паказана ў дакументальным фільме “Край крынічны”. Гэта калі Аркадзь Аляксандравіч 3 ліпеня 1972 года наведаў Трасцінскую бібліятэку. Ён цёпла пагутарыў з бібліятэкарам і чытачамі, азнаёміўся з краязнаўчай працай бібліятэкі і даў ёй станоўчую і высокую адзнаку.

Міхась Ласоўскі яшчэ і па тэлефоне пазваніў. Ён прасіў мяне перадаць магілёўцам ад усіх трасцінцаў, што яны вельмі любяць Куляшова і яго паэзію: “Творы Куляшова для многіх з нас – гэта надзённы хлеб, чысты крынічны струмень. Радкі яго паэзіі адчуваеш у сэрцы, як сцежку пад нагамі, як неба над сабою”.

Я далучаюся да гэтых шчырых, ідучых ад сэрца і душы слоў, блізкіх мне трасцінцаў, бо Аркадзь Куляшоў і мой любімы паэт.

## СЛОВА ПРА ВІКТАРА КАРАМАЗАВА,
### сказанае 7 снежня 2007 г. на адкрытым уроку Станкевіч Вольгі Мікалаеўны ў Магілёўскім архітэктурна-будаўнічым каледжы

З Віктарам Карамазавым у канцы 50-х гадоў, яшчэ на пачатку яго пісьменніцкага шляху, мяне пазнаёміў у Клімавічах паэт Аляксей Пысін. Па тым часе Карамазаў быў журналістам. Пісьменнікам ён стане пазней. А лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі – толькі ў 1990 годзе за кнігу публіцыстыкі “Проста ўспомніў я цябе…”. Гэта праз дзевяць гадоў пасля смерці Пысіна, жыццю і творчасці якога прысвяціў аднайменнае эсэ з гэтага зборніка. А падчас першага знаёмства ў Карамазава не было яшчэ ніводнай кніжкі. Ён толькі што апублікаваў у часопісах першыя свае апавяданні: “Сыновья”, “Время и люди”. Ды ўжо тады Пысін лічыў

яго выдатным журналістам і прарочыў яму шлях таленавітага празаіка. І з таго часу я пільна ўчытваўся ў карамазаўскія радкі ў газетах і з радасцю адследжваў апавяданні і аповесці, якіх год ад году станавілася ўсё больш і больш. І чыталіся яны ў ахвоту.

У кастрычніку 1981 года пісьменнік Віктар Карамазаў прыехаў у Магілёў разам з Кастусём Цвірка на тыдзень. Я ладзіў ім сустрэчы з магілёўцамі: на аўтазаводзе імя Кірава, на ТЭЦ-2, на мэблевай фабрыцы, у хіміка-тэхналагічным тэхнікуме, у тэхналагічным інстытуце, у прафтэхвучылішчах і інтэрнатах. Сустрэч з чытачамі было многа, сустрэчы былі цікаваыя. Магілёўцы наперабой запрашалі пісьменнікаў да сябе.

Мне запомнілася, што Віктар Філімонавіч прасіў мяне, як арганізатара сустрэч, не захапляцца іх колькасцю, а сачыць за іх якасцю:

– Мы нешта увесь час бяжым і бяжым. Трэба спыніцца і агледзецца, а ці туды, куды трэба, бяжым? – сказаў ён. І гэта адносілася не толькі да літаратурных вечарын.

У магілёўскім гарадскім Доме культуры маладым магілёўцам Карамазаў раіў чытаць паэтычныя творы свайго сябра Аляксея Пысіна, які на тую пару нядаўна пакінуў зямное жыццё: “Яго цудоўная паэзія служыць і заўсёды будзе служыць больш за ўсё маладому чалавеку”, – сказаў ён.

А праз месяц, ужо ў снежні, Карамазаў завітаў у Магілёў з паэтам Раісай Баравіковай. Яны наведаліся на завод “Строммашына”, у медыцынскае вучылішча, да рабочых мясакамбіната, у некаторыя інтэрнаты, у абласную бібліятэку імя У.І. Леніна. А ў бібліятэчным тэхнікуме імя А.С. Пушкіна нават прынялі ўдзел у канферэнцыі чытачоў па раману Віктара Карамазава “Пушча”. У актавай зале было каля трохсот дзяўчат – навучэнцаў тэхнікума, будучых бібліятэкараў. Ведаю, што і сёння яны помняць тую сустрэчу з аўтарам выдатнага рамана пра беларускі лес і ягоныя творы раяць сваім чытачам.



**В. Карамазаў і В. Арцем’еў ля дома-музея М.В. Неўрава**

З Віктарам Карамазавым у мяне адбылося некалькі сустрэч і ў апошнія гады. Па дарозе з Крычава ў Мінск

(у Крычаве дом яго бацькоў, якія ўжо пачываюць вечным сном) Віктар Філімонавіч робіць прыпынак у Магілёве. Наведаўся і да мяне. І мы ад змяркання да зары вялі гамонку пра родную краіну, літаратуру і жыццё. Слухаць Карамазава можна бясконца. І чым далей гаворка, тым цікавей. Да прыкладу, я спытаў у яго:

– Віктар Філімонавіч! Вы напісалі цудоўнае эсэ пра паэта Аляксея Пысіна “Проста ўспомніў я цябе…” З кім з сучасных паэтаў яго можна параўнаць?

І ён так адказаў:

– Ну, гэта вельмі цяжка. Кожны мастак – індывідуальнасць. І калі параўноўваць мастака з мастаком, то гэта небяспечная рэч. І Аляксей Пысін – гэта такая планета, што няма як параўноўваць. Узровень яго паэзіі вельмі высокі. Ён працаваў у “Магілёўскай праўдзе”, але часта прыязджаў у Чэрыкаў. Для мяне гэта была школа не толькі літаратурная…

Пысін – паэт класічны ў беларускай літаратуры, ды, я думаю, і ва ўсёй усеславянскай літаратуры. У сваім эсэ “Проста ўспомніў я цябе…” я прама сказаў, што Пысін выказаўся ў паэзіі пра Вялікую Айчынную вайну наймацней. Я не ведаю, хто з беларускіх паэтаў выказаўся мацней за Пысіна. Я там нават выказаў смелую, а, можа, і спрэчную думку, што гэта паэт найбольшай сілы ў тэматыцы Вялікай Айчыннай вайны. Мне не хочацца яго ні з кім параўноўваць. Я яго вельмі люблю”.

А пра лёс беларускай літаратуры Віктар Карамазаў такую думку выказаў:

– Я думаю, што яна жывая, гэта жывы арганізм, а ўсё жывое будзе жыць. Думаю, што літаратура будзе мяняцца, развівацца. Трэба, каб яе набыткі захаваліся, каб маладыя, якія прыходзяць, не забываліся, што і да іх былі пісьменнікі і стваралі літаратуру.

Калі даўней Карамазаў пісаў апавяданні і аповесці, прысвечаныя нашым сучаснікам, якія імкнуцца пакінуць добры след на зямлі, то з 90-х гадоў мінулага стагоддзя пісьменнік грунтоўна даследуе жыццё і творчасць вядомых выдатных мастакоў: Бялыніцкага-Бірулі, Жукоўскага, Левітана, Бархаткова, Бараноўскага, Вашчанкі і іншых. Ім ён прысвяціў кнігі “Крыж на зямлі і поўня ў небе”, “З вясною ў адным вагоне”, “Зачараваная душа”, “Мой брат духоўны”, “Антон”, “Брама”.

А яшчэ Карамазаў загарэўся задумкай напісаць аповесць ці раман, як яно атрымаецца, пра мастака-дэмакрата М.В. Неўрава, апошнія гады жыцця і творчасці якога прайшлі на зямлі магілёўскай у вёс-

цы Лыскаўшчына. У пошуках матэрыялу для новага твора ў пачатку кастрычніка 2006 года пісьменнік разам са мною два дні ладзіў вандроўку па Круглянскім раёне. Наведаліся ў Круглае, Тубушкі, Друцк, Грыбін, Лыскаўшчыну. У Лыскаўшчыне знаходзіцца магіла Неўрава і захаваўся дом, у якім ён жыў і працаваў.

Віктар Карамазаў не толькі пісьменнік. Ён яшчэ і жывапісец. У Беларусі ён такі адзіны з пішучай брацii. А ў Расіі, відаць, і зусім няма, бо яго туды запрашалі жыць і працаваць. Ды ён не ацураўся роднай зямелькі. Карамазаў – ініцыятар і ўдзельнік першых плэнераў Бялыніцкага-Бірулі на магілёўскай зямлі, шэсць сваіх мастцкіх палотнаў ён перадаў у Бялыніцкі мастацкі музей, і яны там дэманструюцца для наведвальнікаў. Будзем чакаць новых знаходак празаіка і жывапісца на ніве літаратуры і мастацтва. Упэўнены, што ён яшчэ не адзін раз нас парадуе.

Уся карамазаўская проза з жыцця прысожскіх вёсак, а яшчэ з фактаў уласнай біяграфіі (найперш у кнігах “Дзень Барыса і Глеба”, “Пушча”, “Бежанцы” і інш.). Выказваючы пахвалу ў нечым блізкім яму творчым прынцыпам Максіма Гарэцкага, Віктар Карамазаў трапна сказаў: “Найвышэйшае мастацтва не ў вымысле, а ў дакуменце”. І гэтае глыбокае і ёмкае выказванне ў поўнай меры адношу да ўсёй карамазаўскай прозы. Яна чысцейшай пробы мастацка-дакументальная. Яна з малай радзімы, з канкрэтнага жыцця нашай краіны. Таму яго творчасць узнялася да агульначалавечага духоўнага асэнсавання кола сучасных праблем жыцця народа.

Віктар Карамазаў дамогся сваімі творамі, “каб сённяшні дзень жыў у кантэксце вечнасці”. Гэтыя словы ён выказаў Пысіну, а яны справядліва дасталіся і яму. Выкажу, можа, спрэчную думку, але я лічу яе правільнай: карамазаўская проза яшчэ вышэй тургенеўскай. Бо яна не толькаі лірычна-эпічная, як тое ў Тургенева, а яшчэ і свеціцца, пераліваецца вясёлкай, як ранішняя раса на ўзыходзе сонца.

## СЛОВА Ў ДЗЕНЬ ВЕДАЎ,
### сказанае ў 2009 г. студэнтам Магілёўскага бібліятэчнага каледжа імя А. С. Пушкіна

Віншую вас, шаноўныя студэнты бібліятэчнага каледжа імя Пушкіна са слаўным святам ведаў. Зычу добрага здароўя і выдатных поспехаў на верна абраным жыццёвым шляху. Правільную прафесію знайшлі вы сабе. Ваша будучая праца цікавая, змястоўная і гуманная,




яна вельмі патрэбная людзям. Але ў ведах. у бясконцай павуціне інфармацыі трэба ўмець разабрацца, умець адрозніць дабро ад зла, цвёрда стаць на правільную дарогу жыцця. І гэтаму вас будуць вучыць у каледжы.

Але ж трэба улічваць, што сёння ў свеце маральныя каштоўнасці пастаўлены з ног на галаву, што ў інтэрнэце і на экране тэлевізара чорнае выдаюць за белае. Праўду жыцця сёння засланяе культ насілля і спажывецкая мараль, якія навязалі славянскім і другім народам місіянеры з-за акіяна.

На маладыя галовы ільюцца патокі бруднай, лжывай інфармацыі з інтэрнэта, тэлеэкранаў, радыё, кніг, часопісаў, дыскаў. Так здарылася таму, што з падачы ЦРУ ЗША постсавецкія краіны сталі “даганяць Еўропу”, аб’еўрапейвацца, рабіць усё, у тым ліку і сваё жыццё, паеўрапейску, як малпы, пераймаючы шкодныя звычкі і нізкую маральнасць дзікіх першабытных афрыканскіх плямёнаў, асабліва ў танцах, музыцы, песнях, якія без душы і апустошваюць сумленне маладых людзей, абалваньваюць розум да дэбільнага стану. А матчына мова, нацыянальная культура, традыцыі бацькоў і дзядоў нашых губляюць свае карані. Духоўны крызіс у свеце прывёў да пагібельнага крызісу ў эканоміцы. Як нам знайсці выйсце? Скажу так. Паслухайце ўважліва.

Чытайце мастацкую літаратуру, найперш класікаў, бо толькі мастацкая літаратура вучыць жыццю. Ні фізіка, ні матэматыка, ні гісторыя, ды іншыя навукі жыццю не вучаць – яны даюць толькі веды. Пагэтаму гавару вам: чытайце класіку! Чытайце Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Цютчава, Чэхава, Нікіціна, Фета, Ясеніна, Дастаеўскага, Льва Талстога, Шаўчэнку, Шолахава, Рубцова, Астаф’ева, Твардоўскага, Сіманава, Багдановіча, Купалу, Коласа, Караткевіча, Янку Брыля, Мележа, Куляшова, Пысіна, Барадуліна, Карамазава, Шамякіна і многіх іншых, а таксама творы замежных класікаў. Чытайце “Біблію”: у святым пісанні вы знойдзеце вытокі маральнасці і духу. Багата высокамаральных твораў у магілёўскага паэта Івана Пехцерава. Гэта яго паэмы і сотні вершаў пра дабро і зло, творы аб Радзіме і яе людзях.

Але помніце: назапашваючы веды, нельга забываць, гаворачы словамі Івана Мележа, адкуль мы выйшлі. Толькі тады, калі мы будзем

ведаць, якімі былі, мы зможам ведаць, хто мы. Ведаць цану сабе, свайму жыццю. І тады наша беларуская Дунька не будзе на злом галавы бегчы ў Еўропу.

А на развітанне – спадзяюся, што наша з вамі сустрэча не апошняя – прачытаю радкі народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі:

Каб стаць чалавекам
У век наш суровы,
Помні жыцця асновы:
Гавары, як вучыла маці,
Рабі, як вучыў бацька,
Жыві, як добрыя людзі,
Усё, на што здольны
Зрабі для Радзімы.

Дзякуй за ўвагу!

## ЖЫВІ, РОДНАЯ МОВА!

**Слова, сказанае на ўроку “Жыві, мова!” выкладчыцы В.М. Станкевіч у архітэктурна-буаўнічым каледжы Магілёва 15.03.2010 г.**




Гаворачы словамі Уладзіміра Караткевіча, акіяны ўтвараюцца з мораў, моры – з рэк, рэкі – з рачулак і ручайкоў. А ручайкі бяруць пачатак з падземных крыніц, з кропелек вады. Не будзе кропелек вады, не стане і акіянаў.

Змест песні і размовы чалавека з чалавекам, змест верша і паэмы, кароткага апавядання, аповесці, рамана і п’есы складаецца з думак, якія выказаны словам. Тое значыць, што для песенніка, для паэта і празаіка, для драматурга слова з’яўляецца будаўнічым матэрыялам.

Калі аснову вялікага ці малага будынка складаюць цагліны ці блокі, то ў аснове мовы – гукі і словы. У матчынай мове, якая шліфавалася стагоддзямі, багата слоўцаў-перлінак або слоўцаў-адмыслоўцаў. Нездарма ў народзе кажуць: “Што ні сяльцо, то іншае слаўцо”.

Матчына мова – гэта не толькі сродак зносін паміж людзьмі і народамі, гэта магутны падмурак нацыянальнай культуры. Без мовы няма народа і нацыі. Чужынцы, калі заваёўвалі краіну, найперш знішчалі яе мову. Сёння кіеўскія фашысты забіваюць у Луганску і Данбасе дзясяткі, сотні, лік пайшоў ужо на тысячы, жанчын, дзяцей, старых людзей, называючы іх тэрарыстамі толькі за тое, што яны патрабуюць права жыць на сваёй зямлі, гаварыць па-руску і жыць у рускім асяроддзі, трымаючыся векавых рускіх традыцый і рускай культуры.

Таму мы павінны свята помніць урокі гісторыі і ніколі не забываць мудрае папярэджанне нашага слыннага Францішка Багушэвіча "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"

Наша родная, наша мілагучная беларуская мова, як і песня, мае багацейшую душу, якая стрыжнем нанізвае на сябе ўсе адценні і залацінкі народных традыцый і культуры Беларусі. Яна для ўсіх людзей, як крылы для птушак, як падмурак для дома, як рэйкі для цягніка, як ногі для чалавека і жывёлы.

Народ, які страчвае сваю мову, раствараецца ў чужым асяроддзі і гіне як нацыя. Няма мовы – няма нацыі. А таму, калі ты беларус, любі, шануй і беражы матчыну мову, тады будзе жыць беларускі народ, будзе працвітаць наша нацыя – сёння, заўтра і на многія стагоддзі!

## СЛОВА ПРА АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА,
### сказанае да 90-годдзя з дня яго нараджэння ў Палацы культуры вобласці і ў Абласным палацы піянераў і школьнікаў у 2010 годзе

22 сакавіка споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння А.В. Пысіна (22 сакавіка 1920 – 27 жніўня 1981).

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужаны работнік культуры БССР Аляксей Пысін – гэта Нацыянальны паэт, салдат і сейбіт, слаўны сын беларускага народа. Яго паэзія праўдзівая, як жыццё народа, яна золатам зіхаціць у скарбе нацыянальнай мовы і культуры. Вядомыя літаратары творчасць А. Пысіна параўноўваюць з паэзіяй А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Твардоўскага, Ф. Цютчава, адзначаюць, што яго вершы пра вайну, па таленту на ўзроўні прозы Васіля Быкава, што ён унікальны творца 20-га стагоддзя.

Паэта выпеставала і ўзгадавала магілёўская зямля, на якой ён жыў і працаваў да апошняга дыхання, якую ўславіў у сваіх творах. Ён слаўны сын магілёўскай зямлі і беларускага народа.

Любіў Аляксей Васільевіч народную гаворку, любіў чэрпаць мудрасць з фальклорных вытокаў – прымавак, легенд, казак, а найбольш з сялянскіх песень. Любіў крынічную ваду. Любіў збіраць грыбы і ягады. З птушак найбольш любіў спеў салаўя і жаўрука, з дрэў – сасну і бярозу, з вясковых прылад – плуг і касу. Любіў у лесе ці ля рэчкі пасядзець ля вогнішча. Любіў найбольш лагодныя колеры:блакітны, ружовы, зялёны, чырвоны і белы – увесь спектр вясёлкі.

І вельмі не любіў браць у дарогу не тое, што лішнія, нават патрэбныя рэчы, спасылаючыся на салдата, які гаварыў: у паходзе нават іголка цяжкая. Не любіў маны, прайдох і здраднікаў…

У свет пысінскай паэзіі прырода ўвайшла ў прамой сувязі з духоўным жыццём чалавека. Мабыць таму лепшыя яго вершы выпраменьваюць святло і цеплыню, як, да прыкладу, у вершах “Возера люляла хвалі…”, “Спіць зямля. Заснулі ў полі…” і інш.

Слова Пысіна ёмістае, “душой адбеленае”, “пяшчотаю прасветленае”. Пра тое сведчаць такія радкі: “А памяць незабыўным плешча ў сэрца”, “Густая медзь з галін сцякае”, “сухое святло…”, “цені неданесеных штыкоў…”, “Даль вечнасці без берагоў…”, “Жанчыны лушчылі ўспаміны…”, “Сухія дрэвы на пагосце паданнем цёмным зацвілі”, “… дубоў жывыя каруселі ідуць па кругу”, “З будучым мінулае сшываю…”.

Паэт заўсёды ўважліва слухаў гаворку людзей, слухаў шэпт траў і гоман бароў, журчанне ручая і таямнічыя гукі рачных хваляў, марскога прыбою і парываў ветру. Паэт кожны раз імкнуўся знаходзіць слова ёмістае і гнуткае. Ён лічыў, што народнае слова – гэта душа народа, і як бы яго часам не цураліся, усё роўна яно з намі. Не-не ды выдасць яно беларуса нават за Уралам:

*Не пазнаю вас у маўчанні,*
*Сябры мае, магіляўчане,*
*Ды ўсюды з вамі ў звонкім ззянні*
*Ёсць слова дарагое “сянні”.*

У пысінскіх творах багата радкоў кранаюць чытача дакладнасцю, прыгажосцю, мудрасцю, незвычайнай ёмістасцю і вобразнасцю: “Аб чым гаворыць з берагам вада – мне невядома, у яе свая любоў, і правата, і немата, і мова…”, “Хітры карась затаіўся у пастцы, мудрыя травы спяць у стагах”, “Прырода вучыць нас, яна ўмее быць саўдзельніцай

вясны”, “Сасна паклікала, як маці, працягла, глуха: “Аляксей…”, “На зямлю дзяды ўпалі, каб унукі прарасл і”, “Лес не сам расце – яго ўзнімае спеў красы, узлёту і святла”, “Бескапытная дарога звініць у бесканечнасць дня”, “І свет на выкаце, як вока, наліты спелай глыбінёй”, ”Яны дымком на цёплым ганку веюць, і той дымок гайдае праўды”, ”Дубы хапаюць воблакі рукой…”. Хочацца доўжыць і доўжыць такія радкі-шэдэўры, а яны ёсць амаль у кожным пысінскім вершы.

Фальклорныя песні лічыў узорам, вяршыняй паэзіі і раўняўся на іх: “Са мной душа і мова матчына і песня вечная яе”, ”Цячэ рэчанька, цячэ быстрая, скочу-пераскочу. Аддай мяне, мая мамачка, за каго я хочу” – так вядуць бабулі “Рэчаньку” пра свой жаночы лёс у вершы “Баркалабаўскія салаўі”.

Тонкасцю, дакладнасцю і глыбінёй пачуццяў вызначаюцца наступныя вершы А. Пысіна пра каханне: “У смузе асядалі дубровы…”, “Асенні лес, асенні лес…”, “На схіле дня святла яшчэ даволі…”, “Каля мора спее жыта”, “Куды сцякаюцца дажджоў калоны” ды іншыя. Аб каханні таксама паэмы “Белы камень” і “Жураўліны бераг”. Дарэчы, у “Жураўліным беразе” мова па-сялянску густая, шчырая, пявучая і празрыстая. Не толькі радкі, нават асобныя словы свецяцца, пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі.

*Цямнее гулкі Сож пад берагамі,*
*Раскалыханых жорнамі віроў.*
*Шпакі ўзнімаюць сетку над лугамі,*
*Лысее лес пад подыхам вятроў;*
*Бярэмамі – сухая пазалота,*
*Звініць блакіт у зрэджаным галлі.*
*І паднялося*
*Поліпень-балота*
*На пругкіх крылах.*
*– Мама, жураўлі! –*
*Пусцілася Наташа ўсцяж абрыву,*
*Пад цень, пад свіст птушынага крыла.*

Паэт у сваіх творах услаўляе чалавечнасць, дабрыню, веру ў неперможнасць дабра, любоў і павагу да маці і ўвогуле да жанчыны, любоў да сваёй зямлі і да Радзімы, да роднай матчынай мовы і культуры, любоў да чалавека, да ўсяго жывога на планеце.

А. Пысін – выдатны майстар вершаў-успамінаў і элегічных балад, асабліва партрэтных балад. Такіх, як “Артылерыст Сірацінін”,

“Балада пра сувязіста”, “Пяць патронаў у абойме”, “Балада пра начлег”, “Балада Буйніцкага поля”, “Вышыня капітана Гальпіна”, “Валуеў”, “Балада пра каску” ды іншыя. Тут яму роўных няма. Даследчык яго паэзіі Т.П. Хоміч у сваёй манаграфіі “Мастацкая канцэпцыя чалавека і свету ў лірыцы Аляксея Пысіна” (Мінск, 2009) зрабіла вывад: “Яго творы можна параўнаць з лепшымі ўзорамі ўласна ваенных вершаў 1940-х гг. (А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Танка, П. Броўкі, М. Сурначова) і разам з тым відавочна, што балады А. Пысіна – гэта ўсё ж такі больш глыбокі, асэнсаваны з дыстанцыі часу погляд на трагедыю вайны. Пісьменнік па-мастацку спалучае эпічна-дэталізаваную канкрэтыку з філасофска-аналітычнай абагуленасцю і праніклівасцю мыслення лірычнага героя”.

Ды й, увогуле, у беларускай ваеннай лірыцы мацней за Пысіна паэта няма. Першым сказаў гэтак Пімен Панчанка. “Ён класік, ён паэт вялікі”, – так сёння гаворыць Віктар Карамазаў. Нездарма яшчэ ў пачатку творчага шляху Пысіна журналіст А. Калеснік прыкмеціў: “… Лірыка Пысіна (…) ясная, чыстая, як нашы крыніцы, задуменная і таямнічая, як нашы ранішнія лясы, пяшчотная і гордая, як само жыццё народа”.

У вершы “Калі б вясне, Дняпру і чайцы…”, прысвечаным памяці паэта-земляка А. Куляшова, паэт Пысін у спрасаваных, пружыністых радках выказаў самыя істотныя і сугучныя ім абодвум прынцыпы, іх абодвух мастакоўскае крэда: уменне разумець праявы свету і сусвету, таямніцы прыроды і самой Зямлі, усяго жывога на ёй, выдзяляць стрыжнявое ў жыцці, у повязі часу і эпохі, чуць думкі траў, дрэў, валуноў, птушак і звяроў, весці рамову з вечнасцю.

А такая творчая праца, калі прырода з’яўляецца сааўтарам паэта, зусім не простая і даволі цяжкая. У размове з Віктарам Хаўратовічам, з якім Аляксей Васільевіч хораша сябраваў, ён вельмі дакладна раскрыў свае ўяўленні пра паэзію і працэс яе нараджэння: “Катаржны гэта занятак – пісаць вершы. Здаецца, ужо напісаў лепш за ўсіх, а раніцай, калі глянеш на сваё тварэнне яшчэ раз, то адразу адчуеш: працаваць ды працаваць над ім яшчэ трэба… Цяжка крэсліць сябе. Але трэба: паэзія – плён душы і працы”.

Празаік і крытык Ул. Калеснік у рэцэнзіі на зборнік “Твае далоні” звярнуў увагу на “філасофскую цэльнасцыь” паэзі А. Пысіна і сказаў, што ён праявіў сябе як “паэт-вяшчун”, “мысліцель”, “адкрывальнік сэнсу жыцця”. І сапраўды, у паэтычным роздуме паэта цесна знітаваны час

і прастора, гісторыя і сучаснасць, прыроднае і душэўнае. “У яго творах, – як сведчыць Т.П. Хоміч, – асэнсаваны галоўныя аспекты быцця чалавека – гэта праблемы жыцця і смерці, дабра і зла, праўды і маны, сяброўства і здрады, мінулага і будучага”. У сваёй манаграфіі пра творчасць паэта, якая згадана вышэй, яна зрабіла і доказна абгрунтавала вывад, “чаму творчая спадчына гэтага пісьменніка стала ўнікальным здабыткам нацыянальнай літаратуры XX-га стагоддзя і застаецца прыцягальнай для сучаснай навукі”.

Паэт Аляксей Пысін тварыў пра маладых і для маладых. Яго зборнікі паэзіі – гэта падручнік, па якім дзяўчынам і хлопцам можна і трэба вучыцца, як ісці ў жыцці. Чытайце Аляксея Пысіна!

## СЛОВА ПРА ВАЛЯНЦІНУ ГАБРУСЕВУ,
### сказанае 25 лютага 2015 года ў Магілёўскім гарадскім Доме культуры да 65-годдзя з дня яе нараджэння

Як пысінскі вузел, гучаць глыбока патрыятычныя радкі Валянціны Габрусевай пра малую радзіму:




*Навекі я прывязана,*
*Наскрозь прышыта я*
*Да арабінаў з вязамі,*
*Дзе дыхае зямля*
*Лясным асеннім водарам*
*Апаўшае іглiц,*
*Дзе думкамі валодае*
*Маімі пах грыбніц.*
*Дзе баравік хаваецца*
*Пад верасам бароў,*
*Дзе зорка прачынаецца*
*Стазвонам камароў.*

Удзячнай любоўю да роднай Айчыны пранізаны радкі яе вершаў “Пах бацькаўшчыны”, “Партызанскі калодзеж”, “Праспявай ты, салоўка, мне песню…”, “Мы беларусы “ і іншыя.

Многія вершы яе песенныя. Таму яна некаторыя з іх кладзе на музыку, а, маючы ад прыроды музычны голас, прыгожа іх спявае. Ды й на дыск запісала.

Паэт Валянціна Габрусева не гоніцца за вычурным словам, за моднымі сёння ў графаманаў мадэрнісцкімі выкрутасамі, каб імі прыцягнуць увагу маладога чытача і ашаламіць яго. Большасць яе вершаў – класічнага памеру. Асабліва захапляюць увагу і зместам, і лірыкай васьмі- і дванаццаціраковыя: “Здаецца, я і не блукала…”, “Зайздрасць”, “Ад спякоты памлелі…”, “Можа, зноў нязграбна і няўмела…”, “Ой, марозная зіма…”, “Страчайце адпачынак мой, бярозы…”, “Думала, народжана, каб лётаць!”, “Бацькам”, “Мой цягнік “Магілёў–Асіповічы…” – ды іх пераважная большасць. У кожным з іх спрасавана лірыка, аптымізм, мудрасць жыцця. Карціць, каб працытаваць хаця б адзін з іх поўнасцю:

*Вымываюцца росамі травы,*
*Промні сонца нясуць ручнікі.*
*Ах, якая цудоўная справа*
*Адчуць бераг уласнай ракі!*
*Знойдзен бераг ля поўні ракі,*
*Значыць, добрай была наша справа,*
*Дзе расой вымываюцца травы,*
*Сонцу несці туды ручнікі!*

Мы бачым, што вершы Валяціны Габрусевай аздоблены трапнымі эпітэтамі, параўнаннямі і іншымі мастацкімі сродкамі, якія дапамагаюць ёй ствараць запамінальныя вобразы, а яны і з”яўляюцца трывалым падмуркам лірычнай паэзіі. Таму і прыкра, што ёй, адной з лепшых жанчын-паэтаў Магілёва, не знайшлося месца ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. У той час як графаманы часам пралазяць. Праўду кажуць людзі: “Дапамагайце талентам, а бяздарныя самі праб’юцца”. Ды ты, Валянціна Фёдараўна, не зважай на гэта, магілёўцы прыносяць Вам сваю ўдзячнасць за плён на паэтычнай ніве, цэняць і ганарацца табой. Таму пішы больш, пішы лепш, сей разумнае, добрае, вечнае!

Паважаная Валянціна Фёдараўна!

Ад сябе асабіста і ад сяброў літаратурнага аб’яднання “Ветэран” пры Магілёўскім гарадскім савеце ветэранаў шчыра, ад сэрца віншую з юбілеем. Зычу здароўя, аптымізму і новага творчага ўзлёту. Каб кожнага дня адчувала ты “бераг ля поўні ракі” і ніколі не адрывалася ад “арабінаў з вязамі”, ад нашай слаўнай Айчыны, ад сваёй роднай зямелькі, “дзе пашчасціла нарадзіцца”. Няхай табе кожнага дня “промні сонца нясуць ручнікі”. Шчасця табе ў жыцці!

# СЛОВА ПРА ІВАНА МЕЛЕЖА,
## сказанае 3 лютага 2011 года ў Магілёўскім бібліятэчным каледжы імя А. С. Пушкіна



Іван Мележ – гэта пісьменнік-класік, чалавек з добрым сэрцам і светлай душой, сын беларускага народа. Я даўні паклоннік ягонай прозы. Творы яго (раманы і дзённікі) чытаў з захапленнем і цяпер часам перчытваю ўноў, што і вам, маладым, раю – яны вучаць жыццю.

А сказаць вам хачу, як сябравалі і паважалі нашага юбіляра яго і мой сябры – паэт Аляксей Пысін і мовазнаўца Фёдар Янкоўскі.

Аляксей Пысін і Іван Мележ у сямідзясятых гадах былі ў складзе членаў Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. На яго пасяджэннях часта аказваліся побач і маглі ўзгадніць свае адносіны да прымаемай пастановы. А перад гэтым, у перапынку і асабліва пасля яго заканчэння – шмат аб чым пагаварыць. І не толькі на літаратурныя тэмы. Яны сябравалі.

Аляксей Васільевіч і мне нешта пераказваў з тых гамонак. Асаблівы клопат Івана Паўлавіча быў у тым, што моладзь з вёскі бяжыць у горад, што тэлевізар нішчыць духоўны свет людзей, якія ўсё меней і меней чытаюць кніг. Ён яскрава бачыў сённяшні дзень. Вельмі хвалявала яго тагачаснае палітычнае жыццё краіны: “Куды ідзём? Што будзе?” – казаў ён.

Пра Мележа кожнага разу Пысін гаварыў радасна, шчыра і цёпла, звяртаючы маю ўвагу на яго лепшыя якасці чалавека і літаратара. А пасля смерці сябра-пісьменнніка ад шчырага сэрца казаў пра яго хвалюючае слова на літаратурных вечарынах Магілёва.

У розныя гады давялося мне мець шэраг сустрэч з мовазнаўцам і літаратарам Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім. 2-га лютага 1979 года была з ім апошняя сустрэча ў адной з аўдыторый Мінскага педінстытута. Гутарылі мы болей за гадзіну і не толькі пра жыццё, як тое даводзілася раней, а пра справы літаратурныя.

У мяне з сабой быў малага фармату альбом з аўтографамі пісьменнікаў пра кнігу. Фёдар Міхайлавіч пацікавіўся запісамі ў іх. Яму спадабалася мая задумка весці такі альбом. Выказаўшы мне пахвалу, ён загадкава ўсміхнуўся, і, не спяшаючыся, вельмі акуратна каліграфічным почыркам, як тое рабілі настаўнікі ранейшым часам, вывеў словы:

“Хочаш мець мудрых настаўнікаў і дарадчыкаў – напішы някепскую кніжку. І будуцуь вучыць…” Я прачытаў і выказаў удзячнасць. Не ўсё тут было ясна, ды я змоўчыў. Але Фёдар Міхайлавіч тонкі псіхолаг і педагог, паглядзеў на мяне ўважліва і патлумачыў:

– Аднаго дня сустрэў я ў “ленінцы” Івана Мележа ў кепскім настроі. Ён паскардзіўся, што яго настырна павучаюць пісьменнікі, якія самі не напісалі нічога талковага. “Вось толькі што Н. падказаў мне, каб я Ганну аддаў замуж не за Васіля, а за іншага, то раман “Людзі на балоце” быў бы яшчэ лепшым. Бачыш, напішы някепскую кніжку і пачнуць цябе вучыць…

## МІКОЛА ЛЕЎЧАНКА І ЯГО КНІГІ

Паэт, празаік, публіцыст-дакументаліст Мікола Леўчанка – вядомы ў Беларусі пісьменнік і журналіст. Ён лаўрэат спецыяльнай прэміі Магілёўскага аблвыканкама “Чалавек года-2005”, прэміі Беларускага Саюза журналістаў “Залатое пяро”, а яшчэ ўладальнік Гранд-пры 6-га нацыянальнага конкурсу “Залатая Літара”.

Мікалая Уладзіміравіча на крыло ставіў сам Аляксей Пысін, а таму магілёўцы сустрэчу з ім прымеркавалі да 95-х угодкаў А.В. Пысіна. У актавую залу абласной бібліятэкі імя У.І. Леніна запрасілі студэнцкую моладзь Магілёва і гурт пісьменнікаў. Увагу прысутных прыцягнула выстава кніг Міколы Леўчанкі: “Пад знакам зялёнай ружы”, “Шчырасць”, “Крылатая гвардия”, “Непраходзячы боль”, “Урокі мужнасці”, “Созвездие героев” і калектыўныя зборнікі “Наша Победа” і “Прыдняпроўе – край талентаў”, у якіх змешчаны творы М. Леўчанкі.

Сустрэчу адкрыў уступным словам старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў. Ён адзначыў важкі ўнёсак Міколы Леўчанкі ў літаратурнувю скарбонку пісьменніцкай суполкі магілёўцаўі як пісьменнік-дакументаліст і як журналіст.

Мікола Леўчанка расказаў прысутным пра тое, якім быў ягоны шлях у літаратуру, як збірае матэрыялы для дакументальна-мастацкіх нарысаў. А яшчэ пра тое, як была створана яго новая кніга “Созвездие героев”. У ёй лёсы чатырнаццаці Герояў Савецкага Саюза, двух кавалераў ордэнаў Славы ўсіх трох ступеняў – а гэта прыраўніваецца да звання Героя Савецкага Саюза. Дарэчы, яны ўраджэнцы Быхаўскага


**Віктар Арцем’еў, Мікола Леўчанка і Мікола Барысенка**

раёна, а ў краіне толькі шэсць такіх герояў. Ёсць адзінаццаць нарысаў пра байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, якія атрымалі Залатую Зорку за вызваленне быхаўскай зямлі і ўсёй Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А яшчэ нарысы пра трыццаць двух Герояў і двойчы Герояў Савецкага Саюза, пра двух Герояў Расійскай Федэрацыі з ужо неіснуючай 57-й марской ракетаноснай авіяцыйнай дывізіі, якая ў савецкія часы дыслацыравалася ў Быхаве.

Кніга ўбачыла свет у мінулым годзе накладам 1000 асобнікаў у выдавецтве Магілёўскай абласной узбуйненай друкарні імя Спірыдона Собаля. Кожны з 60 нарысаў кнігі мае фотаздымак свайго Героя. Пра змест кнігі чытач мае ўяўленне нават з назваў нарысаў: “Вызваў агонь на сябе”, “На амбразуру дота”, “Паўтарыў подзвіг Гастэлы”, “Да партызанаў Югаславіі”, “Пасадка на адным коле”, “З парашутам над морам”, “Узарваўся ў паветры”, “У блоку смяротнікаў”…

Потым Мікола Леўчанка сказаў слова пра свайго літаратурнага настаўніка паэта Аляксея Пысіна і прачытаў вершы – ягоны, а пасля свой, які пысвечаны Аляксею Васільевічу, а яшчэ арыгінальныя лірычныя вершы пра родны край.

Аўтар гэтых радкоў у сваім слове падкрэсліў, што кнігі Міколы Леўчанкі – гэта залатаносная жыла патрыятызму, гэта крыніца, з якой штодня патокам струменіць памяць пра слаўных людзей, што баранілі нашу родную зямлю ад ворага. Чытаючы і перачытваючы ягоныя кнігі, маладыя магілёўцы маюць магчымасць ведаць і помніць імёны чудабагатыроў, дзякуючы якім мы сёння жывём у суверэннай Беларусі. Мікалай Уладзіміравіч – таленавіты вучань паэта Пысіна, выдатны жрналіст і цудоўны Чалавек!

Потым я падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі пра Аляксея Пысіна – паэта-класіка, які ў паэзіі як Быкаў у прозе, і сказаў, што Вялікую Айчынную вайну ў беларускай паэзіі мацней Пысіна ніхто не паказаў.

Пісьменнік і вучоны Аляксандр Косцераў адзначыў, што стварэнне дакументальна-мастацкіх твораў – справа адказная і складаная, ды Мікола Леўчанка з ёй добра спраўляецца. Сёння выхаванне моладзі ў

духу патрыятызму – найвышэйшая задача. І кнігі Міколы Леўчанкі ў гэтай справе – надзейны памочнік.

У прысутных узнікла шмат пытанняў. Мікола Леўчанка шчыра адказаў на ўсе. Гэта была нефармальная бяседа пісьменніка з чытачамі. З'явілася надзея, што наша моладзь будзе чытаць кнігі пра людзей гераічных лёсаў, ацэніць іх самаахвярнасць і адданасць сваёй Бацькаўшчыне, будзе помніць іх мужнасць і геройства. Тады нашу Вялікую Перамогу над фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне нікому ад нас не адняць!

*22 сакавіка 2015 г.*

# КНІГІ ПІСЬМЕННІКАЎ-ЗЕМЛЯКОЎ

## ЁН НАРОДНЫ!

### Да публікацыі ў часопісе “Крыніца” (2002, № 2) артыкулаў і эсэ пра жыццё і творчасць Аляксея Пысіна

Паэтычны талент Аляксея Пысіна – ад Бога. Пра гэта пісалі многія паэты і крытыкі. Яго паэзію аб вайне прыраўнялі да прозы Васіля Быкава: “Пысін – як Быкаў у прозе”. Так лічылі Варлен Бечык, Віктар Карамазаў, Любоў Гарэлік і іншыя. “Ен стварыў лепшую, так-так, лепшую ў нашай беларускай літаратуры ваенную лірыку” (Віктар Карамазаў). “Аляксей Пысін асоба, і асоба неардынарная, асоба беларуская...” (Генадзь Бураўкін). “У Пысіна багата вершаў-шэдэўраў”, – так сцвярджалі Міхась Стральцоў і іншыя паэты.

Пры жыцці пра А. Пысіна пісалі больш, чым пра іншых паэтаў. І гэта гаворыць само за сябе. Радасна, што не забыты паэт і пасля смерці. У часопісе “Крыніца” (2002, № 2) больш за трэць плошчы (амаль 70 старонак) адведзена асобе Аляксея Пысіна. Абазначаны вехі жыццёвага і творчага шляху паэта. Змешчана дванаццаць яго вершаў, большасць з якіх – шэдэўры (увогуле ж, у Пысіна не адзін дзясятак такіх вершаў). Светлай памяці Аляксея Пысіна Васіль Макарэвіч прысвяціў “Баладу другой смерці”, у якой згадаў трагічны факт, што меў месца ў магілёўскай гарадской лякарні. А яшчэ артыкулы, эсэ, успаміны васьмі аўтараў, у якіх дадзена надзвычай высокая ацэнка творчым здабыткам паэта, чалавечым якасцям яго асобы.



**А.В. Пысін з маці Хрысцінай Рыгораўнай**

“Аляксей Пысін разам з Максімам Танкам, Аркадзем Куляшовым і Піменам Панчанкам называюцца сярод майстроў, якія вызначылі самыя плённыя, у змястоўным плане наватарскія тэндэнцыі ў развіцці тагачаснай беларускай паэзіі”. “Дабрыня і спагадлівасць былі яго сутнасцю”! “Пысінская паэзія на глыбінным узроўні, а вельмі часта і адкрытым тэкстам сцвярджала чалавечнасць”.

Дзмітрый БУГАЁЎ

“...Я рабіў даклад (у 1970 г. – *В.А.*), гаварыў пра яго жывую, натуральную ў сваёй плыні, як рака, паэзію, пра яе чалавечнасць, яе мудрасць, яе сугучнасць з народнай творчасцю”. “...адным з асноўных матываў творчасці паэта з’яўляецца “сцвярджэнне адзінства ўзнёслага і зямнога, агульнага і канкрэтнага, мінулага і сённяшняга”.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

“...Мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці ў вершах творцы набывае філасофскую заглыбленасць”, “ ...мастак стварыў і пакінуў нам паэзію зямлі і неба”.

Таццяна ХОМІЧ

“А. Пысін цікавы і па-свойму ўнікальны ў нашай літаратуры”.

Тамара НУЖДЗІНА

“...Класічна-суразмерная лірыка Аляксея Пысіна ўяўляе сабой варыяцыі “нялёгкага, сінтаксічна і інтанацыйна ўскладненага цячэння верша, як у Баратынскага і Цютчава некалі, як у нашага Купалы ў цэлым. ...лірыка нашага паэта (Пысіна. – *В.А.*) нагадвае лірыку Блока. ...многія словы – на кошт золата; ...як у Твардоўскага”. “У асобе Пысіна мы бачым фенаменальнага мастака”.

Мікола МІШЧАНЧУК

“Аляксей Пысін – паэт глыбокі. І ягоная глыбіня чыстая. Надзелены ад Бога найвышэйшым моцартаўскім пачаткам, ён пісаў сябе самога, такім як ёсць...” “...у іх (у вершах-партрэтах Пысіна. – *В.А.*) ёсць нешта агульнае з партрэтамі Пётры Сергіевіча. Той жа беларускі каларыт, тая ж любоў да аб’екта сваёй творчасці”.

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

“...Духоўны стрыжань яго паэзіі – знітаванасць з роднай зямлёй, з яе зажуранымі ўвосень і ўзнёсла-радаснымі ўвесну вялікімі і малымі рэчкамі, сінявокімі азёрамі, мядовым водарам лугавых траў, шчымліва-развітальным курлыканнем журавоў, світальнай расой у яблыневым садзе... Усім гэтым поўніцца паэзія Пысіна. У гэтым для мяне – яе святло і хараство, яе сіла і веліч. І яе вечнасць”.

Маргарыта ПРОХАР

Мусіў прывесці шмат цытат, каб чытач пераканаўся, што аўтары публікацый усе далі найвышэйшую ацэнку пысінскай паэзіі.

У артыкулах і эсэ згаданых вышэй аўтараў даецца глыбокі аналіз творчасці А. Пысіна, падрабязна на канкрэтных прыкладах разглядаюцца літаратурныя прыёмы і метады паэтычнага працэсу. Прыведзены цікавыя згадкі сустрэч з Аляксеем Пысіным. Ёсць амаль паўтара дзясятка міні-успамінаў і аўтара гэтых радкоў.

А цяпер засяроджу ўвагу на некаторых недакладнасцях і, на мой погляд, не зусім правільных высновах. Яны не вельмі ўжо значныя, нават адзінкавыя, але хочацца, каб у адносінах да Пысіна была такая ж яснасць і чысціня, якую паэт любіў і меў у сваіх творах.

Дзмітрый Бугаёў сцвярджае, што ў Збор твораў А. Пысіна ў двух тамах (Мн., 1989) "не ўключаны з кнігі "Наш дзень" ні адзін верш культаўскага характару – з праслаўленнем Леніна і Сталіна". Згодзен, што не ўключаны. А чаму? Таму, штоў гэтай кніжцы іх і не было. Ніводнага! Аляксей Васільевіч нават ганарыўся такім фактам, паказваючы мне свой першы зборнік. Уважліва прачытаўшы ўсе вершы, я знайшоў толькі ў дваццацівасьміерадковым вершы "Правады" ўсяго два радкі, у якіх ёсць імя Сталіна.

– А вось жа напісаў! – паказаў я верш "Правады".

Аляксей Васільевіч недаверліва ўзяў з маіх рук кніжку, паглядзеў на тыя радкі і адказаў:

Не я пісаў. Гэта рэдактар, каб кніжку выдаць.

"Не ўвайшоў у згаданы Збор твораў і верш "Сцяг", пераконвае чытача Дзмітрый Бугаёў. І тут ён памыліўся. Верш Пысіна "Сцяг" увайшоў у зборнік. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова адкрыць том першы Збору твораў 1989 года выдання на старонцы 150. Пад чырвоным сцягам беларускі народ разам з іншымі брацкімі народамі перамог гітлераўскі фашызм, а сёння пад гэтым жа сцягам адраджае незалежную Беларусь. Не трэба палохацца чырвонага колеру: "Чырвань, чырвань, колер праваты...", – пісаў А. Пысін. Цяпер наконт здзіўлення ад пысінскага сібірскага цыклу вершаў, напісаных ім незадоўга да смерці. Сам жа аўтар артыкула спачатку здзівіўся, а затым, чалавек добры і шчыры, міжволі даў і адказ: "Галоўнай прычынай тут была шчырая і глыбокая адданасць паэта камуністычнай ідэі". А ў аснову гэтай ідэі, як вядома, ўсім, пакладзены агульначалавечыя каштоўнасці і нават шэраг запаветаў Ісуса Хрыста. Калі ўчытацца ўдумліва і непрадузята ў цыкл сібірскіх вершаў, то знойдзеш там паэтычнае бачанне агульначалавечых ідэалаў, а не культ асобы. Згодзен, пацвярджаю гэта,

Аляксей Васільевіч добра ведаў, што біяграфія Леніна прыгладжана і адшліфавана. Так, напрыклад, кніжку Марыэты Шагінян “Ленініяна”, якую яму падарылі ў Краснай Гары на Браншчыне, ён не паставіў на паліцу сваёй дамашняй бібліятэкі. Аддаў мне, зрабіўшы па маёй просьбе надпіс: “В. І. Арцем’еву. Красная Гара. 27 ліпеня 1977 г. А. Пысін”.

Верш “Бярозкі белыя ў Дзяржынаве” – перадсмяротны верш паэта, ён апошні. Асобныя радкі з чарнавіка Аляксей Васільевіч чытаў мне па тэлефону, а потым у сваім рабочым кабінеце шліфаваў, вывяраў радок кожны па некалькі разоў. Дзяржынскаму верыў. Лічыў яго самым чыстым і сумленным чалавекам. Таму і напісаў:

*Адна*
*І да згарання лінія,*
*Адданасць і любоў адна.*
*І чысціня – амаль наіўная.*
*Амаль дзіцячая яна.*

Такая ж, як у паэта Пысіна. А можа, ён з сябе напісаў гэтыя радкі?

Мікола Мішчанчук згадвае: “Вершы-рэпартажы, зрыфмаваныя апавяданні насяляюць старонкі першых трох кніг: “Наш дзёнь” (1951), “Сіні ранак” (1959) і “Сонечная паводка” (1962). Калі толькі да першага зборніка, то можна было і пагадзіцца з такой ацэнкай, хаця Дзмітрый Бугаёў дае другую ацэнку, з якой я згодзен поўнасцю: “...Таленавітасць Пысіна праглядвала ўжо ў яго ранніх вершах”. Другімі словамі, нават у 1951 годзе Пысін быў ужо Пысін, паэт Пысін. А спасылка на тое, што Пысін напісаў у сваёй аўтабіяграфіі, яшчэ не дае падстаў, асабліва калі ўспомніць, што Аляксей Васільевіч быў вельмі сціплы і самакрытычны. Згадаю такі факт. За тыдзень да смерці, 20 жніўня 1981 года ў прафілакторыі-санаторыі “Сосны”, што на беразе ракі Днепр, адбыўся апошні ў жыцці паэта літаратурны вечар. У ім прынялі ўдзел таксама маскоўскі літаратар Святлана Пайна і артыст Валянцін Ермаловіч. У той дзень стала вядома, што Пысіна ўзнагародзілі ордэнам Дружбы народаў. Як вядучы, я прыкінуў, што трэба агучыць гэтую прыемную навіну, каб парадавацца разам з чытачамі. Не ведаю, якім чынам Аляксей Васільевіч разгадаў мой намер і рашуча папярэдзіў:

– Віктар, ты ведаеш, я лічу цябе блізкім другам, але калі скажаш хаця б слова пра ордэн ці пачнеш хваліць мяне, то не чакаць дабра!

Прызнаюся. Часам дазваляю я на літаратурных вечарынах прадстаўляць чытачам паэта як лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы і заслужанага работніка культуры, а таксама паказваць яго месца

на небасхіле беларускай паэзіі. Паэт рабіў мне дакор, але дараваў такія выхадкі. На гэты раз па яго твары і па інтанацыі ў голасе зразумеў: не даруе! І я сціпла прадставіў яго магілёўцам:

– Паэт Аляксей Пысін.

А вось пра астатнія два “слабыя зборнікі”. На паэта Язэпа Пушчу, зборнік “Сіні ранак” зрабіў такое ўражанне: “Сіні ранак. Паветра свежае і чыстае – хочацца дыхаць на поўныя грудзі. Вы чуеце песню, якая кліча і чаруе вас сваёй мелодыяй, яна кранула ваша сэрца і сагрэла яго”. У зборніках “Сіні ранак” і “Сонечная паводка” ёсць ужо некалькі вершаў-шэдэўраў. Да прыкладу: “...Была бранёю гімнасцёрка” і “Вузел”. Тэкст апошняга варта прыгадаць тут:

*Не ведаю, якім вузлом*
*Навекі я прывязан*
*Да старых сосен за сялом,*
*Да яблынь, груш і вязаў;*
*Да кладак гладкіх,*
*Валуноў,*
*Да траў, жытоў на ўзлесках,*
*Да партызанскіх курганоў,*
*І помнікаў гвардзейскіх...*
*Адно я знаю: гэткі меч*
*На свеце не скуецца,*
*Каб мог ён вузел мой рассеч,*
*Не закрануўшы сэрца.*

1958 г.

Верш “Вузел” я паставіў эпіграфам да літаратурнага вянка Пысіну, які я сабраў яму і спадзяюся, што ён выйдзе ў свет. “Вузел” – верш праграмны ў творчасці Пысіна, таксама як у Пушкіна верш “Помнік”. Іншы сённяшні малады беларускі паэт узнёсся б да нябёс ад радасці, каб у яго быў хаця б адзін такі твор. А ў Пысіна, яшчэ раз падкрэсліваю, такіх вершаў не адзін дзясятак. І яшчэ. На пустым полі нічога добрага не расце. “Мае мерыдыяны”, “Твае далоні” і другія зборнікі паэта праараслі на ўжо дагледжанай Пысіным урадлівай літаратурнай дзялянцы.

І яшчз з адным меркаваннем Міколы Мішчанчука не магу пагадзіцца: “Мала вершаў, прысвечаных маці, канкрэтным людзям, землякам, аднапалчанам”. Пра маці ў Пысіна паўдзясятка, калі не больш, вершаў. Ды якіх вершаў! Збіраўся ў маладосці паэму напісаць пра маці, але крытыкі яго адгаварылі, маўляў, вершы ягоныя лепшыя, чымсьці

паэмы. Пазней Аляксей Васільевіч пашкадаваў, што паслухаўся. Мне прызнаўся: “Пра маці я ўсё выказаў у вершах”. (Я задаваў пытанне: “Чаму не напісаў паэму пра маці?”). У Пысіна не мала, а вельмі багата таленавітых вершаў-партрэтаў (сведчаць Рыгор Бярозкін і Алесь Пісьмянкоў, таму не буду рабіць іх пералік, бо займе шмат месца). У вершах батальных усе прозвішчы сапраўдныя: Валуеў, Гальпін, Аляксей Весялоў, Жыльскі, Імамаў, Свецікаў, Мухін, Мухортаў, Хартоў, Сірацінін, Сямён (Сердзюкоў) і іншыя.

У Тамары Нуждзінай прамільгнула думка, што “нават рэчцы даў назву мастак адпаведную – Дубравенка”. Ды не было патрэбы прыдумваць: рэчка Дубравенка цячэ ў цэнтры Магілёва і ўпадае ў Днепр. Назвы рэк, азёр, гор, вёсак, гарадоў, урочышчаў – усе сапраўдныя, хочаш, то геаграфію вывучай па творах паэта. Імёны герояў таксама сапраўдныя, толькі ў паэмах адно ці два імя зменены, і то адной-дзвюмя літарамі, не больш таго.

Нават няёмка рабіць такія заўвагі, улічваючы. што артыкулы на самым высокім крытычным узроўні, і аўтары іх людзі аўтарытэтныя, мною паважаныя. Але ж светлая памяць пра самага блізкага сябра Пысіна ўзяла верх.

У дзень пахавання А.В. Пысіна нехта з мінскіх паэтаў (Сяргей Законнікаў ці, можа, Ніл Гілевіч) сказаў, што каб Пысін пражыў яшчэ хаця б тыдзень-два, то яму было б прысвоена званне народнага паэта Беларусі. Але пасмяротна такое званне не даецца. Чуў я гэтыя словы з трэціх рук. Можа, і легенда. Але ж легенда не без падстаў.

Так, Пысін не быў ганараваны званнем народнага паэта. Але калі імя Пысіна даследчыкі і літаратары сёння ставяць побач з імёнамі Баратынскага, Цютчава, Блока, Твардоўскага, Янкі Купалы, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі і іншых выдатных паэтаў, то сумаваць не трэба. Бо гэтым самым творчасць Аляксея Пысіна ацэнена самым высокім балам. У “Хіт-паэце” Віктара Яраца Пысін трапіў нават у першую дзясятку, апярэдзіўшы дастойных і ганараваных. Хаця “хіт” – рэч несур’ёзная, а ўсё ж ёсць у ім нейкая справядлівасць, хаця б у адносінах да Пысіна.

Паэзія Аляксея Пысіна ўслаўляе каштоўнасці агульначалавечыя, вечныя. І яна будзе жыць стагоддзямі.

Аляксей Пысін – Майстар. Ён слаўны сын беларускага народа і паэт народны. Яго талент магутны, ягоная Паэзія народная. Яна жыве і будзе жыць, пакуль жыве беларускі народ, пакуль жыве родная мова!

*12 ліпеня 2002 г.*

# ЯК ПЕСНЯ ЖАВАРАНКА, ЯК ПОШЧАК САЛАЎЯ



Некалі Сяргей Ясенін сказаў: «Я последний поэт деревни»... На шчасце, памыліўся вялікі паэт. Руская зямля дала Твардоўскага, Рубцова ды іншых песняроў вёскі. Ёсць яны і ў Беларусі.

Яшчэ ў студэнцкія гады наш зямляк Іван Пехцераў заявіў пра сябе вершам пра вёску ў газеце факультэта журналістыкі БДУ «Беларускі ўніверсітэт» і пад сваім фотаздымкам паставіў дэвіз: «Хочацца быць не апошнім паэтам савецкай вёскі». І вось нядаўна ў адным з вершаў ён узгадаў пра гэта:

*Я сын ее и свято помню это,*
*Деревня-мати, ты в моей судьбе –*
*Позволь всю силу твоего поэта,*
*Что ты дала, вернуть в стихах тебе.*




**Аўтограф І. Пехцерава на кнізе «Васильковое слово полей»**

Гэтыя радкі са зборніка І. Пехцерава «Васильковое слово полей», які ўбачыў свет у 2006 г. ў мінскім выдавецтве В. Хурсіка. У зборнік уключаны вершы, напісаныя ў 2003–2005 гг., і дзве паэмы «Волшебная свирель» и «Жизнь длиною с песню».

У паэтычных творах новага зборніка, як і ў папярэдніх яго кнігах, І. Пехцераў услаўляе тры святыні свайго сэрца: Радзіму, Веру, Любоў.

У вершы «Свет» паэт сцвярджае, што ва ўсім неабходна Божае ззянне святла і толькі тады сад жыцця расквеціцца дабрадайнасцю. А паколькі жыццё – гэта няспынная барацьба са спакусай, якая заўсёды знаходзіцца перад чалавекам і імкнецца найхутчэй завесці яго ў цьму глухую, то паэт дае нам параду:

*Не слабей – твори в душе молитву*
*До последней жизненной черты –*
*И тогда с врагом заклятым битву*
*Никогда не проиграешь ты.*

У кожным са сваіх папярэдніх зборнікаў І. Пехцераў звяртаецца да салдатаў, якія далі ўсім людзям зямлі свята Перамогі. Не стаў выключэннем і новы зборнік.

*Пускай в Москве, и в Киеве, и в Минске,*
*В любой державе и в любой семье*
*Их помнят всех, как сердцу самых близких,*
*Их помнят все, кто мир принес земле.*

Ёсць у зборніку вершы пра Магілёў, Лудчыцкую вышыню, родныя Клімавічы.

*Здесь шествовал в церковь Георгий Конисский,*
*Здесь Пушкин гулял, вел Кутепов Семен*
*Свой полк легендарный – поклон тебе низкий,*
*Родной Могилев, город разных времен!*

Лудчыцкая зямля пад Быхавам у далёкім 1944 г. была страшнай непрыступнай гарой, схілы якой бязлітасна палівалі смертаносным агнём фашысты. Але салдаты, зламаўшы супраціўленне ворага, узнеслі на вышыню чырвоны сцяг.

*Со знаменем воин из белого камня*
*На этом кургане бессменно стоит,*
*И птица седая по имени – каня*
*Кружится над полем и плачет навзрыд.*

На вайну прыпала басаногае паэтава дзяцінства. У вершы «Поднимем бокалы за сорок четвертый» герой, ветэран вайны, узгадаўшы баі на Дняпроўскім рубяжы і жорсткія схваткі з ворагам ля сцен Магілёва, гаворыць, што Белая Русь заўсёды будзе помніць той кошт, якім здабыта Перамога.

*Поднимем без громких напыщенных слов*
*Бокалы с вином за живых и за мертвых,*
*За храбрых бойцов и за наш Могилев,*
*Поднимем бокалы за сорок четвертый.*

Чытаючы ранейшыя зборнікі, мяне прыемна ўразіла, што І. Пехцераў на кожную з'яву глядзіць свежым вокам, мае асабістую думку. Няма ў паэта пашаны да манархаў. Жыццё амаль усіх святлейшых асоб на Русі было звязана з крывавымі дварцовымі пераваротамі, з барацьбой за ўладу любой цаной. Не быў выключэннем і цар Мікалай І, які патапіў у крыві паўстаўшых дзекабрыстаў на Сенацкім пляцы. У вершы «Черный царь» паэт гаворыць, што і смерць Пушкіна на яго сумленні:

*Его душа была без света –*
*Не захотел он уберечь*
*От пули дивного поэта.*

Паэт глыбока перажывае, што чалавецтва ўсё больш і больш размяжоўваецца на багатых і бедных, і што гэтая «чёрная дыра» няроўнасці становіцца шырэй і глыбей, а ў свеце «обитают полчища врагов»:

*И Бог любви, нам давший волю*
*Не для того, чтоб ей творилась тьма,*
*Глядит со скорбью, со вселенской болью,*
*Как сходит человечество с ума.*

Паэзія І. Пехцерава ўслаўляе адзінства з прыродай. Паэт нарадзіўся ў вёсцы Недзведзь, што на Клімаўшчыне. Раней акругу Недзведзі называлі Сямірэччам, тут бяруць выток сем рэчак. Яшчэ на пачатку яго творчага шляху пісьменнік Іван Калеснік, калі прачытаў вершы маладога паэта, сказаў: «Пехцераў чуе, як расце трава». Пазней паэт прызнаецца, што ён чуе і цішыню. І не толькі чуе, ён расказвае пра яе ў вершах. Прырода адказвае паэту ўзаемнасцю. Ён перакананы, што і ніва, і поле маюць сваю мову. Яна чутна ў ранішнім гомане перапёлак, у вячэрняй гутарцы кветак і каласоў. Яму ж застаецца толькі разгадаць іх сэнс:

*Замирая, их слушаю снова и снова –*
*И, как будто бессмертных небес благодать,*
*Льется в душу полей васильковое слово.*

У новым зборніку І. Пехцераў зноў загаварыў пра беларускую вёску. Калі ранейшыя вершы аўтара пра вёску маюць лірычна-настальгічныя ноткі або нават папрок: «Я не могу понять зачем однажды стали нагло разорять деревню», то цяпер паэт загаварыў пра адраджэнне вёскі:

*Молю тебя, молю, мой щедрый Боже,*
*Изгнать из нас неверие и лень,*
*Чтоб становилось с каждым годом больше*
*Таких прекрасных сел и деревень.*

Паэт-аптыміст заўсёды верыў, што вёска выжыве і адродзіцца, і пісаў пра гэта ў аўтабіяграфічнай паэме «Деревня»:

*И верю я, что светлый день вернется,*
*Вернется обязательно сюда,*
*И оживет деревня и проснется*
*Для большего в плодах своих труда.*

Свайму лірычнаму герою, які прамяняў вёску сваёй маладосці на гарадскую ўтульнасць, паэт раіць не затойваць у сэрцы крыўду:

*Не грусти, не гневайся, не сетуй*
*И деревню ту благослови,*

*Где поют девчата до рассвета,*
*Словно в годы юные твои.*

Паэт, у якога вясковыя карані, разумее і ведае, што ў сялян не бывае простага года, што кожны год трэба перажыць у напружанай працы і клопатах, каб сабраць багаты ўраджай. І новымі вершамі ён славіць сялянскую працу. У рукапісах у яго ёсць паэмы «Хлеб и песня» і «Агрогородок».

Творы зборніка «Васильковое слово полей» – яркае сведчанне, што І. Пехцераў у росквіце творчых сіл. Пажадаем яму, каб і надалей у кожным ягоным вершы, у кожнай паэме звінелі ручайкі васільковага слова!

*Чэрвень 2007 г.*

## У ПАЭТА СВОЙ ПОГЛЯД НА МАСТАЦТВА




Дзякуючы Магілёўскаму аблвыканкаму ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля ўбачыла свет накладам 1000 экземпляраў кніга вядомага рускамоўнага паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Івана Пехцерава. Кніга мае ёмкую назву “Окно во все времена”. У яе ўвайшлі больш за дзвесце вершаў і шэсць паэм. Збор твораў прысвечаны Радзіме, народу, роднай прыродзе і святому Богу. Як і ў папярэдніх кнігах, вышэйшымі каштоўнасцямі для творцы з’яўляюцца Надзея, Вера і Любоў, Шэраг вершаў у зборніку прысвечана мастацтву як песеннаму, так і музычнаму. Паэт даўно не чуў песню “Лаванда” і просіць музыкаў выканаць яе. Пад мелодыю песні нахлынулі салодкія і цяжкія ўспаміны далёкай маладосці:

*Не знаю, что в сердце творится,*
*Но чувствую, чувствую я,*
*Что юность моя повторится,*
*Далёкая юность моя.*
*…………………………………….*
*Спасибо, Маэстро Матецкий,*
*За чудную песню твою.*

У вершы “Мой оркестр” І. Пехцераў ганарыцца, што сваімі творамі ён зрабіў гучны аркестр, якога не было да гэтай пары:

*Коль в нём я собрал жаворонков свирели,*
*Рожки соловьёв, журавлиные гусли?*
*И ласточек скрипки, и иволжьи флейты.*

І таму яго аркестр гучыць не толькі вясной і летам, а ў любую пару года і слухаць яго радасць і асалода.

Маэстру Магілёва Леаніду Іванову прысвечаны верш “В лунном сиянье”. У сельскім клубе з поўнай залай аркестр народных інструментаў іграў “Свеціць месяц”: “Весёлым струнам вторили баяны, // И музыкой ликующей этой // Все люди в клубе были осияны”. Ды раптам пагасла электрасвятло. Але музыка аркестра не змоўкла, а яшчэ задорней пры святле месяца заспявалі баяны і зазвінелі струны:

*Глядел в окошко клуба месяц ясный,*
*Глядел и слушал он и улыбался,*
*И свет его таинственный сливался*
*С таким же светом музыки прекрасной.*

Толькі ж не ўсё так гладка, шчыра і звонка ў мастацтве сённяшняга дня, а таму паэт Пехцераў у паэзіі займае пазіцыю грамадзяніна і патрыёта сваёй Айчыны, які абараняе не толькі нацыянальныя інтарэсы краіны, а імкнецца захаваць культурныя, маральныя і гуманныя набыткі ўсяго свету. У паэта на многія рэчы і падзеі свой погляд, у тым ліку і на новыя павевы ў культурным жыцці народаў планеты. Ён у нечым не супадае з адносінамі іншых людзей, але паэт яго доказна адстайвае і абараняе.

Паэта абурае, што сумніўнай маральнасці і духоўнасці спявачка Захаду прысвоіла сабе Божае імя Мадонны. І на яе раўняюцца сённяшнія модніцы. І ён сваю думку выказаў у паэтычнай мініяцюры:

*Не показывать свой обнажённый пуп*
*Для модниц – как без соли суп,*
*Глядишь начнут в каком-нибудь Париже*
*Показывать и штуку, что пониже,*
*И это станет модою, а мода*
*Для многих слаще всяческого мёда.*

У паэта катэгарычнае стаўленне да Заходняга шоу, якое настырна і нават кругласутачна навязваюць нашым людзям і з экрана, і са сцэны. А шоу ён не любіць яшчэ і таму, што яно чужое нашаму народу, яно як базар, асабліва з конкурсамі міс-прыгажунь:

*Я шоу и за то виню,*
*Что все они развязны, грубы…*
*Кто видел, как цыган коню*
*Глдядит под хвост, а так же в зубы,*
*Глядит, чтоб не в накладе быть,*
*Ведь хочет он коня купить?*
*Хозяин шоу так глядит*
*Точь-в-точь на юных Афродит*
*В костюмах, что носила Ева…*

Для маладых дзяўчын модай стала курэнне тытуню і чарка віна. Паэту часам не пад сілу бачыць, як хутка моц д'ябла знішчыла ў маладой жанчыны ўсю яе прыгажосць – гэта віно каварнае так зрабіла // бо тытунь і віно – гэта зёлкі сатаны, // яно спачатку дух у яе зламала, а цяпер даламывае цела:

*Опухшим от вина лицом*
*Она похожа на бульдога,*
*Нет у неё уже ни в чём*
*Того, что нам дано от Бога.*

У вершы "Обмельчало искусство…" паэт гаворыць, што з кожным днём драбнее "слова, песня, экран". Слова ўсё больш кліча да спажывы і нажывы, да грубай сілы і крыві, а экран наглядна ілье патокі маны, бруду і крыві. У сённяшніх папсоўскіх песень – а ў іх адсутнічае душа і духоўнасць – шмат пустых фраз ды "нередко и в звуках ни склада, ни лада".

Сёння ў паэты пралазяць каму не лень, тыя, што імкнуцца да мірской славы, ды яшчэ патрабуюць прызнання. І. Пехцераў раіць такім рыфматворцам пісаць без гардыні і фанабэрыі, павучыцца майстэрству ў салоўкі, які ад песні ўвесь ззяе ад шчасця і нават галінка пад ім свеціцца. Ды так усхвалявана спявае, што іншым разам у яго сэрца рвецца на часткі. З здараецца такое з салаўямі. Салавей з выгляду сціплы, шэры і невялічкі ды валодае агромністай не птушынай душой:

*Знаете ли вы, как рождается песня*
*У соловейки. В своём вдохновеньи*
*Кровь он доводит почти до кипения…*

У вершы "Все трещины мира (из Г. Гейне)" І. Пехцераў сцвярджае, што ўсе трэшчыны свету ідуць праз паэтава сэрца, што былі, што ёсць і тыя, што будуць:

*А если они не касаются сердца, то это*
*Рифмач иль подёнщиик угодливый, но не поэт.*

Сёння мудрая класіка, народныя традыцыі, лірыка – не ў пашане, бо іх давіць Заходняя аднадзёнка, маскультура, у якой адсутнічае дух народа. Але паэт упэўнены, ён верыць, што гэта часовая з’ява, што народ стане відушчым:

*Жирует бизнес, словно вор в законе, –*
*Тот, кто не знает совести и долга,*
*В почёте чтиво, лирика в загоне,*
*Но верю я, что будет так недолго.*

*Ліпень 2009 г.*

## НАШЫ ЗЕМЛЯКІ-ТВОРЦЫ

У выдавецтве “Мастацкая літаратура” ў 2000-м годзе ў серыі “Беларуская паэзія ХХ стагоддзя” ўбачыла свет кніга “Я не памру, пакуль люблю. Выбранае”. Аўтарам зборніка з’яўляецца паэт Алесь Пісьмянкоў, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, наш зямляк (нар. 25 лютага 1957 года ў вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна).




У кнігу ўвайшлі лепшыя вершы з яго ранейшых зборнікаў і новы “Срэбра зялёнай травы”. У творах нашага земляка рэаліі сённяшняга жыцця цесна пераплецены з рэаліямі мінулага (дарэчы, як і ў паэта Аляксея Пысіна). Сённяшні лірычны герой часта звяртаецца да духоўнага вопыту сваіх продкаў. Вершы А. Пісьмянкова лірычныя і шчырыя. Памерам яны, звычайна, невялікія, але ёмістыя. І арыгінальныя зместам, напісаны па-майстэрску.

У свой час асобныя творы паэта перакладзены на рускую, украінскую, балгарскую і польскую мовы.

Некаторыя вершы беларускія кампазітары паклалі на музыку. У зборніку багата вершаў, у якіх паэт згадвае пра гарады і вёскі роднай Магілёўшчыны, іх краявіды. Увогуле ў кожным творы мы адчуваем водар сваіх лясоў, палёў, лугоў і рэк. Вось, да прыкладу, два вершы ...

ТЫ АДБІ МНЕ ТЭЛЕГРАМУ

*Ты адбі мне тэлеграму,*
*Што і ў нашай старане*
*Ў ціхай вёсцы Белы Камень*
*Выпаў белы-белы снег.*
*Вёсак многа, ёсць другія.*
*У вёсках нашы карані.*
*У мяне не настальгія —*
*Проста сум па чысціні.*
*Проста сум па белым полі,*
*Па рабінавым агні,*
*Проста хочацца да болю*
*Першароднай цішыні.*
*Той, што мроіцца начамі,*
*Што з душы здымае грэх...*
*Проста ў вёсцы Белы Камень*
*Самы белы ў свеце снег.*

ДЗЕНЬ НА РАДЗІМЕ

*Пакуль дыхаю родным дымам,*
*Мне пад небам маім нязмрочна,*
*Як за пазухай у радзімы,*
*Як народжанаму ў сарочцы.*

Заканчваецца кніга невялікім раздзелам паэтычнай прозы “Думаць вершы...”. У ім змешчаны кароткія эсэ з літаратурна-сентыментальнага падарожжа пісьменніка па родным краі. Прапаную чытачам гэтых радкоў невялікі аповед з гэтага раздзелу з інтрыгуючай назвай “Ці збываюцца вершы?” Тым больш цікава, што гэтае эсэ А. Пісьмянкова кранае трагічныя смерці трох нашых слаўных землякоў, таленавітых паэтаў Аляксея Пысіна, Сцяпана Гаўрусёва і Анатоля Сербантовіча.

**Ці збываюцца вершы?**

Што вершы збываюцца, мне вядома даўно... Яшчэ ў студэнцкія гады я напісаў верш «Калі ў вёсцы маёй паміраюць дзяды». Пасля публікацыі верша ў «ЛіМе» я неяк сустрэў свайго даўняга знаёмага, чалавека сталага і вопытнага, літаратурным густам якога заўсёды даражыў.

– Не пісаў бы ты, стары, такіх вершаў, – ні то параіў, ні то папрасіў мяне мой знаёмец, – не трэба...

– А што, слабы верш? – насцярожыўся я.

– Ды не ў гэтым справа, – адмахнуўся ён ад маёй насцярогі. – Ты не крыўдуй, але такія вершы збываюцца.

Той размове я не надаў ніякага значэння. І, відаць, эусім бы пра яе забыў, каб не адзін трагічны выпадак, які і сёння не дае мне спакою.

Мой каніцкі дзед (з вёскі Канічы. – *В. А.*) па раннім зазімку пайшоў у суседнюю вёску ў госці да франтавога сябра і назад не вярнуўся. Яго шукалі ўсю зіму. Шукала радня, сваякі, суседзі, аднавяскоўцы, міліцыя. Але пошукі былі марныя, як скрозь зямлю чалавек праваліўся: ні слыху, ні дыху. А быў ён яшчэ моцны і жылісты стары і ў касавіцу намнога маладзейшым мог лёгка падрэзаць пяты. Усю тую зіму мы пражылі ў страшэнным напружанні. На кожны рып веснічак, на кожны стук у акно баба Наста і мая маці падхопліваліся з надзеяй: “Вярнуўся...”. Але дзед не вяртаўся. Знайшлі яго толькі вясной, у самае разводдзе, калі Бесядзь выйшла са сваіх берагоў. Усю зіму ён праляжаў пад лёдам і быў як жывы.

Зразумела, што мяне можна лёгка аспрэчыць і ўсю гэтую гісторыю звесці да прыватнага выпадку, а заадно папракнуць у нясціпласці: маўляў, бач ты яго, якую сілу свайму твору прыпісаў... Але давайце уважліва прыслухаемся да таго, што раіў Барыс Пастарнак маладому Яўгену Еўтушэнку: “Я хачу даць вам адну параду. Ніколі не прадказвайце сваю трагічную смерць у вершах, бо сіла слова такая, што яна абавязкова прывядзе вас да прадказанай смерці. Успомніце хоць бы, якія неасцярожныя былі са сваімі самапрадказаннямі Ясенін і Маякоўскі. І, урэшце рэшт, скончылі пятлёй і куляй. Я дажыў да сваіх гадоў толькі таму, што пазбягаў самапрадказанняў...”.

І яшчэ адзін выпадак, дакладней, ілюстрацыя да сказанага. На гэты раз з гісторыі нашай айчыннай літаратуры. У майго земляка, таленавітага і рана адышоўшага Анатоля Сербантовіча ёсць верш, які не ўключыўся ні ў адну прыжыццёвую кнігу, цяпер дзякуючы руплівасці крытыка Сяргея Кавалёва ён змешчаны ў выбраным паэта “Жаваранак у зеніце”. Кожны раз, калі мне даводзіцца яго чытаць, я адчуваю, як па маёй скуры прабягае мароз. Мяркуйце самі:

*Выплываюць тры новых труны,*
*Дзве вялікіх, адна малая.*
*Адплываюць у рэдкія сны,*
*З нашай памяці адплываюць.*
*Ці зусім я ўжо акалеў,*
*Адкажыце: у вас пытаю.*
*На адной труне “Аляксей”,*
*На другой я “Сцяпан” чытаю.*
*Проста кружыцца галава,*
*Разбягаюцца літары тыя...*

*Хто жывымі нас пахаваў?*
*Мы, здаецца, яшчэ жывыя...*
*Адплываюць тры новых труны,*
*Дзве вялікіх, адна малая...*
*Гэта сны, гэта толькі сны*
*З нашай памяці адплываюць.*

На вялікі жаль, сны паэта спраўдзіліся. Не трэба быць літаратуразнаўцам, каб лёгка расшыфраваць гэтыя, страшныя ў сваім прароцтве, радкі. Першым на трыццатым годзе пакінуў гэты свет аўтар, а затым, як і прадказана ў вершы, Аляксей Пысін і Сцяпан Гаўрусёў. Таксама заўчасна і таксама трагічна. Дзве вялікія труны – гэта іхнія, а малая – Анатолева, ён быў малы ростам...

Тры выдатныя паэты Магілёўшчыны былі звязаны не толькі зямляцтвам, але і цесным сяброўствам. Яны былі вельмі блізкія па духу, і іх талент вызначаўся выключнай шчырасцю.

Самае дзіўнае, што ўпершыню гэты верш я пачуў з вуснаў Сцяпана Захаравіча дажджлівым вераснёўскім (жнівеньскім. – *В. А.*) вечарам 1981 года ў рэйсавым аўтобусе “Мінск–Магілёў”, калі мы, прыгнечаныя агульным горам, вярталіся з пахавання Аляксея Васільевіча Пысіна.

***

Вось як яно ў жыцці бывае. Хочаце верце прачытанаму, хочаце не верце... але ж задумайцеся.

Ад шчырага сэрца раю вам, шаноўныя чытачы, у вольную хвіліну зайдзіце ў сваю бібліятэку, вазьміце ў рукі зборнік Алеся Пісьмянкова “Я не памру, пакуль люблю” і наталіце сваю душу водарам ягоных чыстых, як крынічная вада, паэтычных радкоў.

*2007 г.*

## КНІГА КАРАМАЗАВА ПРА ПУШЧУ

### Слова, сказанае 23.10.2008 г. у Бялыніцкім Доме культуры на канферэнцыі чытачоў з удзелам аўтара

#### Галоўны герой рамана – пушча

Раман “Пушча” Віктара Карамазава па мастацкай вартасці і грамадскай значнасці стаіць упоравень з вядомым раманам рускага класіка

Л. Ляонава. Наадварот, ён прадаўжае даследванне праблем лесу і робіць гэта адмыслова, па-карамазаўску. Пра што сёння і вядзецца гаворка.




Пісьменніку ўдалося данесці да сэрца і розуму чытача, што ў прыродзе крыніца, якая выхоўвае і напаўняе пачуцці чалавека, садзейнічае развіццю духоўна багатай асобы, здольнай быць яе найлепшым сябрам, а не пакарыцелем. І ў гэтым сэнсе пушча з'яўляецца галоўным героем рамана. На старонках рамана багата прыкладаў і фактаў, якія пацвярджаюць, што пісьменніку ўдалося праз адносіны чалавека да жывёльнага і расліннага свету выявіць яго ідэйна-маральную сутнасць, яго духоўнасць або бездухоўнасць. Менавіта ў ляснічага Валошкі, лесніка Макара Курнопы і дзеда Гароха моладзі трэба вучыцца любові да роднай прыроды, а, значыць, і да Радзімы.

**Мова рамана**

Раман увогуле змястоўны. Ён, як і лес, не падуладны часу, як сёння створаны, чытаецца лёгка, праблемы не навязваюцца, а быццам жывымі парасткамі прабіваюцца праз моўны жывапіс. Твор нібы неўпрыкмет вучыць любіць прыроду і свой родны кут, любіць лес і ўсё жывое ў ім, паважаць людзей і матчына слова. Вось пра мову аўтара я і хацеў бы засяродзіць вашу ўвагу.

Мова рамана сакавітая, вобразная, па-сапраўднаму народная, яна карамазаўская.

Сучка Мальва кінулася "кумельгам", сысункі "аблавухія", бяда "усіхняя" і лес "усіхні": так сапраўды гавораць бабы з леснічоўкі, якія, ведама ж, не чыталі ні акадэмічнага, ні этнаграфічнага слоўнікаў.

Пра Насцю, якая нечым нагадвае шолахаўскую Аксінню, чытаем: "…не яна ў той час па зямлі хадзіла – зямля па ёй", пабыла бабаю – зноў дзеўкаю стала". Дый сама яна сказала: "Каму вясна, а каму … нос аблупіцца". А вось яшчэ цікавы радок: "Зусім без жанчыны не стаіць ніводная халупа. Пуста там, калі няма жанчыны. Пуста і холадна невыносна".

"…еў хапатліва, смачна прычмокчваючы, ажно вушы хадуном хадзілі…", "Зноў хлябнулі дзверы: старая ўнесла ў хату скавараду, на якой цыўкалі скваркі з яечняю…" (Мальва) збэрсала снег і пад ганкам, і пад венікам, і пад плотам…", "грукачы на нагах цягаць мала ахвоты",

“…ён быў не той панароўкі: пра пенсію гаворкі не заводзіў, а да работы, што клешч да цела”.

“Над аблітымі шызай смугою стрэхамі засядзеўся сцьмелы месяц. За яго зачапіўшыся, на небе млосна выпрасталася, аблачына, доўгая і рудаватая, нібы маладая жанчына ў чыстай пасцелі”.

Нават з гэтых прыкладаў бачна, што мова рамана своеасаблівая, адметная, вельмі ўжо насычаная народнымі і карамазаўскімі слоўцамі, быццам настоеная на водары лясных траў.

А **вывады** мае такія. Пушча – гэта сімвал нашага жыцця і нашых людзей. Галоўны клопат чалавека – зберагчы ўсё найлепшае ў сабе і ў навакольнм свеце. Прырода ўсё настойлівей просіць літасці, каб нешта засталося і тым, хто прыйдзе ў нашу пушчу пасля нас. Гэтым галоўным каштоўнасцям і вучыць нас раман “Пушча” Віктара Карамазава.

## ЛІТАРАТУРНЫ ПОМНІК ПАЭТУ

Нацыянальны паэт Беларусі А.В. Пысін – паэт вялікі, паэт-класік, асоба неардынарная. Пысінская паэзія – з’ява ўнікальная і фенаменальная ў беларускай літаратуры. Пра гэта гаварылі і пісалі вядомыя паэты, празаікі, крытыкі. У такой ацэнцы майстэрства паэзіі Пысіна ўсе аднадушныя: Віктар Карамазаў і Рыгор Барадулін, Янка Брыль і Сяргей Законнікаў, Ніл Гілевіч і Васіль Быкаў, Любоў Гарэлік і Алесь Пісьмянкоў, Варлен Бечык і Генадзь Бураўкін, Рыгор Бярозкін і Міхась Стральцоў, Сцяпан Гаўрусёў і Мікола Мішчанчук, Ігар Шклярэўскі і Таццяна Хоміч, Кайсын Куліеў і Таццяна Нуждзіна…

Мне выпаў зайздросны лёс. Яшчэ ў 1955 годзе мы пазнаёміліся ў Чэрыкаве і сталі сябрамі на ўсё жыццё. На маіх вачах віток за вітком раскручвалася яго біяграфія, на маіх вачах нараджаліся і ствараліся некаторыя яго вершы і паэмы, я быў першым слухачом ягоных твораў. Разам мы ладзілі літаратурныя вечарыны ў Магілёве, а іншым разам у Горках, Чавусах, Крычаве… Аляксей Васільевіч кожнае сваё новае выданне дарыў мне з аўтографам…

У свой дамашні архіў яшчэ пры жыцці паэта пачаў я збіраць публікацыі А.В. Пысіна з перыядычнага друку, крытычныя матэрыялы літаратараў пра ягоную творчасць. А пасля смерці паэта распачаў даследчыцкую дзейнасць, адшукваў усе вершы, прысвечаныя А.В. Пысіну,

усе публікацыі пра ягоную творчасць. Шматгадовая праца збіральніка дала мне магчымасць стварыць літаратурны помнік паэту, які назваў “Вянок Аляксею Пысіну”. Гэты зборнік быў гатовы ўжо ў 2001 годзе, але здаць у друк пашэнціла толькі сёлетняй вясной. Ды тое сталася да лепшага. Я больш дэталёва, свежым вокам адрэдагаваў тэксты: нешта скараціў, нешта дапоўніў. Так, напрыклад, з успамінаў Янкі Брыля і Ніла Гілевіча ўключаны новыя эпізоды. Дапоўнены “Вянок…” урыўкамі з цікавых і каштоўных нататак літаратараў Кайсына Куліева, Міколы Мішчанчука, Таццяны Хоміч, Алега Салтука, Таццяны Нуждзіной, кіраўніка музея А.В. Пысіна Лідзіі Пшанічнікавай, верш Івана Пехцерава “Воин и поэт”.

Апроч згаданых вышэй імён літаратараў у “Вянку…” ёсць кветкі-вершы ці ўрыўкі ўспамінаў Ніны Аксёнчыц, Міколы Аўрамчыка, Раісы Баравіковай, Святланы Басуматравай, Дзмітрыя Бугаёва, Барыса Бур’яна, Уладзіміра Гніламёдава, Сяргея Грахоўскага, Віктара Ракава, Васіля Жуковіча, Аляксея Зарыцкага, Яраслава Клімуць, Яўгена Крупенькі, Аркадзя Куляшова, Сцяпана Кухарава, Алега Лойкі, Міколы Мятліцкага, Пятра Прыходзькі, Давіда Сімановіча і іншых – усіх ажно 82 прозвішчы. Атрымаўся “Вянок…”, які не завяне. У прадмове да зборніка паэт Іван Пехцераў звяртаецца да яго чытачоў такімі словамі:

“Сваімі шчырымі радкамі ўсе яны намалявалі яркі партрэт паэта, вернага сына зямлі Магілёўскай, чый подзвіг у паэзіі можна параўнаць з подзвігам Васіля Быкава ў прозе. Фарбы гэтага партрэта не зліняюць з цягам часу. Пройдуць многія гады – і кожны, хто возьме ў рукі “Вянок Аляксею Пысіну”, прачытае яго радкі, убачыць светлы вобраз паэта-воіна, які аддаў увесь жар свайго вялікага сэрца людзям, падараваў ім свае таленавітыя кнігі, у якіх жывуць думкі і пачуцці майстра, пульсуе яго кроў. Прачытаюць людзі “Вянок…” – і перад імі як жывы паўстане Аляксей Пысін, улюблёны ў Беларусь, за якую ён хадзіў на бітву з ворагам, славіў яе самацветным словам”.




“Вянок Аляксею Пысіну” убачыў свет клопатамі і стараннямі упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама, які фінансаваў праект, і я выказваю шчырую ўдзячнасць яго кіраўнікам і супрацоўнікам, а яшчэ рэцэнзенту і кансультанту Івану Пехцераву і быламу рэктару Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.А. Куляшова Міхаілу Аўласевічу.

“Вянок Аляксею Пысіну” тыражом 400 экземпляраў (аб’ёмам 6,5 умоўных друкаваных аркушаў, у цвёрдай каляровай вокладцы з ілюстраваным фарзацам) надрукавала УПКП “Магілёўская абласная ўзбуйненая друкарня імя Спірыдона Собаля”.

“Вянок Аляксею Пысіну” – прыгожы і бессмяротны літаратурны помнік Майстру беларускай паэзіі.

*Кастрынік 2006 г.*

## ПРА БІТВУ ПРЫ ЛЯСНОЙ




28 верасня 1708 года каля вёскі Лясная пад Прапойскам (цяпер Слаўгарад) рускім войскам быў ушчэнт разбіт корпус шведскага генерала Левенгаўпта. Пётр I назваў гэтую бітву «Маці Палтаўскай перамогі».

5 кастрычніка 2008 года ў Лясной былі праведзены ўрачыстасці з нагоды 300-годдзя той гістарычнай падзеі. Ганаровым гасцям уручылі падарункі – буклет і кнігі пра бітву пры Лясной. Сярод іх вылучаецца кніга магілёўскіх аўтараў-складальнікаў М.С. Барысенкі і М.П. Хобатава «По дороге в Лесную. Исторический очерк». Яе выданне ажыццёўлена напярэдадні юбілею ўпраўленнем ідэалагічнай работы Магілеўскага аблвыканкама і Слаўгарадскім райвыканкамам у выдавецтве “Амелія Прынт” тыражом 500 асобнікаў.

Кніга выдадзена на мелаванай паперы аб’ёмам больш за 16 умоўна выдавецкіх аркушаў. Яна нагадвае прыгожы альбом, бо так багата ў ёй каляровых ілюстрацый, якія займаюць нават большую плошчу, чым тэкст. Ёсць фотаздымкі і карціны ландшафтаў, пабудоў, батальных сцэн, рускіх і шведскіх воінаў, вядомых генералаў, карты мясцовасці, схемы баёў. Змешчаны ў кнізе шматлікія гравюры і палотны мастакоў XVIII–XIX стагоддзяў, а таксама здымкі пейзажаў Лясной, Слаўгарада і некаторых вёсак раёна сённяшніх дзён. Шэраг матэрыялаў пра бітву пры Лясной атрыманы ад прыватных асоб, у тым ліку ад Юрыя Каш-

танава са Смаленска, ад Уладзіміра Максімава з Масквы, а таксама з фондаў абласнога савета АТ «Беларускае таварыства аховы помнікаў гісторыіі і культуры», магілёўскага краязнаўчага музея імя Е.Р. Раманава, Слаўгарадскага райвыканкама і раённай газеты «Прысожскі край». Можа стацца, што выданне прызнаюць па афармленню лепшай кнігай 2008 года, калі не ў Беларусі, то ў Магілёве адназначна.

Багаты і змест кнігі. Упершыню за тры стагоддзі сабрана, паслядоўна, сістэмна і папулярна выкладзена гісторыя Паўночнай вайны (1700–1724 гг.) на тэрыторыі Беларусі, а праходзіла вайна ў 1708 годзе ў асноўным на зямлі сённяшняй Магілёўскай вобласці.

Раздзел «А у союзников были свои интересы» з'яўляецца пралогам кнігі. У ім вядзецца гаворка аб прычынах узнікнення вайны і як яна пачыналася. Раздзел «Галоўчын» прысвечаны бітве пры вёсцы Галоўчын, што ў сённяшнім Бялыніцкім раёне.

Пра трагічны лёс Магілёва апавядаецца ў раздзеле «Между молотом и наковальней». Змешчаны фотаздымкі дзвюх ратуш, старой, якая ўзарвана ў 1957 годзе, і новай, пабудаванай сёлета.

Пра першыя баі рускіх са шведамі па дарозе ў Лясную чытач знойдзе аповед у раздзеле «Доброе – Малятичи».

І апошні, найбольш аб'ёмны раздзел «Лясная» знаёміць з канчатковай перамогай над шведскім генералам Левенгаўптам. Тут таксама ідзе гаворка пра вынікі перамогі рускіх войск пад Лясной. А яшчэ як была святкавана яна Пятром І і ў двухсотгадовы юбілей у 1908 годзе, калі быў узведзены помнік Славы рускім воінам і закладзены новы мемарыяльны Свята-Пятра-Паўлаўскі храм-часоўня.

Кніга «По дороге в Лесную» выйшла ў свет у серыі «Навукова-папулярнае выданне». Аўтары-складальнікі пастараліся на славу: тэкст лаканічны, даходлівы, лёгка чытаецца, ёсць шмат уражваючых эпізодаў. Асобныя факты і лічбы пацвярджаюцца цытатамі з гістарычных дакументаў. Каштоўнасць кнігі прыбавілася і ад таго, што аўтары-складальнікі ўключылі ў кнігу два важкія дадаткі: факсімільны тэкст народнага чытання Е.Р. Раманава да 200-гадовага юбілею «Победа императора Петра I над шведами 28 сентября 1708 г. при деревне Лесной» і паэму магілёўскага паэта Івана Пехцерава «Мать Полтавской победы». Эпілог гэтай паэмы велічна гучаў на ўрачыстасцях да 300-годдзя перамогі рускіх войск пры Лясной.

Заканчваецца кніга нарысам пра зямлю і людзей Слаўгарадскага краю: і пра мінулае, і пра сённяшні дзень, і згадкі на будучыню. Нарыс таксама багата аздоблены каляровымі фотаздымкамі.

Кнігу «По дороге в Лесную» даўно чакалі гісторыкі, настаўнікі, студэнты, вучні старэйшага ўзросту, шырокае кола краязнаўцаў і чытачоў, ды, увогуле, усе патрыёты Бацькаўшчыны. Цяпер кніга ёсць. Яна добры дапаможнік у патрыятычным выхаванні моладзі, яна важкі ўклад у скарбонку духоўнасці народа зямлі магілёўскай і ўсёй Беларусі.

*Кастрычнік 2008 г.*

## ПРАЎДА ЖЫЦЦЯ Ў ТВОРАХ ЛЕАНІДА ЛЕВАНОВІЧА

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1975 года Леанід Кірэевіч Левановіч нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў культасветвучылішча ў Магілёве і факультэт журналістыкі БДУ ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях газет «Знамя юности», «Сельскай газеты», «Літаратуры і мастацтва», часопісаў «Неман» і «Полымя», на Беларускім тэлебачанні.

Тагачасныя літаратурныя крытыкі ўжо ў першых апавяданнях і нарысах маладога празаіка, які пачаў друкавацца з 1963 года, убачылі праблемнасць, доказнасць, уменне паказаць характар героя. Помніцца, у першай палове 1980-х гг. Левановіч прыязджаў у Магілёў на літаратурныя сустрэчы з чытачамі, якія мне даводзілася рыхтаваць. Маладыя магілёўцы ахвотна хадзілі на вечарыны, дзе ён знаёміў іх са сваімі творамі.

З цягам часу Леанід Левановіч стварыў цыкл раманаў: «Шчыглы», «Паводка сярод зімы», «Дзікая ружа», «Сіняе лета». Гэтыя творы калектыў Дзяржаўнага музея імя Якуба Коласа вылучыў, а Міністэрства культуры Беларусі прадставіла на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 2008 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры…

Раманы Л. Левановіча ахопліваюць перыяд з 1943–1961 гадоў, ад сярэдзіны Вялікай Айчыннай вайны да першага палёту чалавека ў космас. Старонкі яго твораў густа населены на карце Беларусі героямі не толькі з горада, але і з глыбінных вёсак Прыбяседдзя. А галоўныя дзеючыя асобы найбольш з вёскі Хатынічы.

Вядомы беларускі празаік жывым народным словам па-майстэрску намаляваў каларытныя партрэты дзеда Галігора, ветэрана вайны Лебе-

дзева, першага сакратара райкама партыі Даўгалёва, старшыні калгаса Казакевіча, настаўніка Пятра Мамуты, сакратара ЦК Ніны Пракопаўны, важака моладзі Андрэя Сахуты і іншых. Праз іх вобразы аўтар паказвае душу беларускага народа.

У кожнага з іх свае поспехі і пралікі, радасці і гора. Таму чытач успрымае іх як жывых людзей, верыць кожнаму слову аўтара. Дарэчы, у 1950-х гадах і пазней мне даводзілася часта бываць у камандзіроўках у родных мясцінах Левановіча, асабліва ў Касцюковічах. Сустракаўся з сакратарамі райкамаў партыі, загадчыкамі аддзелаў культуры, з участковымі міліцыянерамі, якіх пазнаў у раманах Л. Левановіча: гэта Акапян, Бакуновіч, Бравусаў і іншыя. Яго творы па-сапраўднаму мастацкія. У іх так шчыра і ярка, праўдзіва і доказна паказана жыццё, што нават прафесіяналы могуць чэрпаць парады: як весці веснавую сяўбу, наладзіць жніво, як класці сена ў стог, даглядаць лес, завесці пчолапасеку і, галоўнае, не нарабіць памылак у сямейным жыцці. Словам, яны вучаць жыццю. А сёння гэта надзвычай патрэбна і важна, асабліва для моладзі.

Нешматслоўнымі радкамі, але грунтоўна, з дакументальнай дакладнасцю і, разам з тым, па-мастацку проста і зразумела для чытача Левановіч паказвае вытокі прабуксоўкі партыйна-бюракратычнай сістэмы кіравання краінай, якія прывялі да распаду Савецкай дзяржавы. З гэтага вынікае, што аўтар нямала папрацаваў у архівах, гутарыў са многімі дасведчанымі людзьмі.

У жыцці сялян Прыбяседдзя мінулая вайна нагадвала аб сабе на кожным кроку: бязногія інваліды, незамужнія жанчыны, маці-адзіночкі, наспех пасля вызвалення адбудаваныя хаціны і не адноўленыя спаленыя вёскі...

На старонках раманаў глыбока ўзнімаюцца праблемы жыцця вёскі і горада, сям'і і творчых калектыв.аў, традыцый і культуры сялян, роднай матчынай мовы і маральнай чысціні людзей, беражлівых адносін да прыроды і да гістарычнай памяці.

Аўтар удала выкарыстаў у сваіх творах наватарскі прыём, падаючы ў асобных главах тэлеграфныя радкі хронікі ТАСС, што дае своеасаблівую падсветку падзеям у свеце, краіне, вобласці, надае адчуванне рэальнасці, гістарычнасці твора.

Нямала сустракаеш у раманах высокамастацкіх лірычных адступленняў. Гэта своеасаблівыя гімны вясне, лету, жанчыне, лесу, пчале, роднай вёсцы і прыродзе ўвогуле.

Такія лірычныя маналогі ў савецкіх школах завучвалі на памяць і дэкламавалі на ўроках і літаратурных вечарынах Гэта развівала памяць, актыўна садзейнічала выхаванню эстэтычнага густу, любові да роднай мовы.

Арыгінальныя ў Левановіча першыя сказы і канцоўкі раманаў. Да прыкладу, у кнізе «Сіняе лета» пачынаем чытаць: «Вясна абрынулася на Андрэя Сахуту нечакана...», а заканчваем сказам-мудрасцю: «У прыроды свае законы і клопаты, свой парадак і свая завядзёнка: калі свяціць сонцу, калі ісці дажджу, калі падаць снегу».

Аўтар заўсёды трапна ўкладвае ў вусны герояў народныя прыказкі, прымаўкі і прыслоўі, якія вучаць мудрасці:

– З кепскага семені не чакай добрага племені...

– Праўду кажуць: хто кінуў курыць – можа зноў пачаць, хто кінуў піць – таксама, а вось хто ўжо кінуў да жанчын хадзіць, той больш не пачне...

– Лепей за добрую жонку нічога няма на свеце...

– Не хвалі дзень з раніцы, а жонку змоладу... і інш.

Трапляюцца і народныя дыялектычныя слоўцы: «зеўраў»; «кіёўкі», «еты», «цяперыцька», «ідзець», «парукаліся», «пастаялка», «сырадой», «наздзікаўся», «лацьвей». Іх нямнога і яны да месца. Дарэчы, і ў нас на шклоўшчыне тымі слоўцамі часта карыстаюцца.  А паэт Аляксей Пысін у свой час нават напісаў верш пад назвай «Сянні».

Раманы Леаніда Левановіча пра дабро і зло, а гэта вечныя чалавечыя каштоўнасці. Яго раманы – гэта энцыклапедыя сялянскага побыту, культуры, маралі, гэта праўда жыцця народа Беларусі сярэдзіны XX  стагоддзя. Сёння яго творы ўжо класіка, якія ўвайшлі ў залаты фонд беларускай  літаратуры.

*2009 г.*

## ВЕЧНАЕ І ЗЯМНОЕ

Так назваў сваю кнігу паэзіі малады магіляўчанін Дзмітрый Сязёмін. Кніга ўбачыла свет сёлета ў Магілёўскай абласной друкарні імя Спірыдона Собаля. Як піша ў прадмове вядомы магілёўскі паэт Іван Пехцераў, аўтар назваў яе “дакладна па тых вершах, якія ўвайшлі ў зборнік…”

Паэтычным словам педагог Магілёўскага дома дзіцячай і юнацкай творчасці Дзмітрый Сязёмін захапіўся яшчэ малым хлапчуком. Ён з асалодай,як зачараваны,чытаў кнігі вялікіх майстраў паэзіі Расіі. Асабліва паланілі яго вершы Аляксандра Блока і Максіміліана Валошына.Як прызнаўся ў сваіх вершах Дзмітрый,у паэзію паклікала яго "неведомая сила… люблю слова я собирать, ловить мгновения и мудрость жизни узнавать". Пісаць вершы пачаў яшчэ ў школе, але нікому іх не паказваў…

У 2010 годзе паэт-пачатковец стаў адным з лаўрэатаў конкурса, прысвечанага 95-годдзю з дня нараджэння знакамітага рускага паэта і празаіка Канстанціна Сіманава.А сёлета ў намінацыі "Паэзія" адзначан дыпломам абласнога літаратурнага конкурса "Першы ў космасе", прысвечанага 50-годдзю палёта Юрыя Гагарына.

Пра што піша малады творца? Тэматыка яго кароткіх, крыху філасофскіх і вельмі шчырых вершаў даволі шырокая: пра дзяцінства, дарогі і натхненне, поры года і з'явы прыроды, зямлю і людзей, каханне. А ўвогуле, пра дабро і зло. А як піша, ён гаворыць у вершы "Вдохновение":




*Мысли тянутся реками,*
*И за каждой песнопенье.*
*Чувства стали мотыльками,*
*Вдохновенье –это зренье.*
*Нарисую жёлтый парус,*
*К берегам судьбы направлю,*
*Взвешу в рифме каждый градус,*
*Остров истины представлю.*

А журыцца ён таму, што "Это очень трудная работа", што "Стихи застревали в груди" і "Как медленно рождаются стихи". І ў той жа час яго, як магнітам, цягне праца са словам: "Люблю слова я собирать, ловить мгновенья, мудрость жизни узнавать – свободы звенья". Такая праца дапамагае яму складаць вершы, бо "Есть в слове незаконченная мысль, горящей буквой рвущая пространство".

Жывое рускае слова Дзмітрый добра ведае і глыбока адчувае: яго бацька Юрый Сямёнавіч з Волагды, ды й сам ён да 14 гадоў жыў і вучыўся ў Расіі, дзе і наталіў смагу рускім народным говарам.

Вершы Д. Сязёміна кароткія, таму што словы нібыта сціснуты ў радок сталёвай пружынай, і ўсе радкі напоўнены параўнаннямі, эпітэтамі,

метафарамі, ёмкімі вобразамі. Да прыкладу: “Облаком белым кажется день”, “И странность темноты вдруг задрожит под лезвием восхода”, “Созвездие Дева трепещет, как пламя свечи”, “Рябиной зреет ярко-красная заря за гладью облаков”, “Я хочу окунуться в небо белокрылой тоской лебедей”, “Нитью без всякой окраски прошлое свито в клубок”. А вот ешё:

*Стынет солнце в росных топях,*
*Пьёт сирень небесный цвет,*
*Как малиновые хлопья,*
*В окна ластится рассвет.*
*Дальний берег в позолоте,*
*Чертит чайка тонкий круг.*
*Я мечтаю о полёте,*
*Как и ты, мой милый друг.*

Ёсць у зборніку, і нямала, вершаў з радкамі афарызмаў, якія не толькі насыцілі творы народнай мудрасцю, але і вучаць чытача разумнымі вачамі паглядзець на жыццё: “Не нужно жить, красоту зачеркнув!”, “Доброе неистребимо, доброта – наша честь”, “А где любовь – слова излишни”, “Те,что просятся к оружию, погибают ни за грош”. И нават верш:

*Каждый знает – не прощает небо*
*И измену, и терновый шип.*
*Осыпает снежный венчик верба,*
*И ничтожное не кажется большим.*
*Опять туманна даль над лесом,*
*Опять печален от разлук…*
*Здоровье, знаешь, не от беса,*
*Оно от Бога, милый друг.*

У лік лепшых,найбольш лірычных вершаў, можна аднесці наступныя: “Детство”, “Вдохновение”, “Песня о песне”, “Рассвет”, “Роса”, “Снег”, “Я хочу окунуться в небо…”, “Взор лучистый,вечер синий…”, “Признание…”.

Вершы зборніка вабяць чытача да сябе сваёй лірычнасцю. Асабліва глыбока лірычныя вершы пра каханне. Ведама ж, пра каханне толькі самыя лянівыя не пісалі. Здаецца, ну, што пра яго яшчэ можна сказаць? Але Д. Сязёмін сказаў ды яшчэ як сказаў! Па-свойму, шчыра і глыбока. Ён на каханне глядзіць не донжуанаўскімі вачыма, а пранізліва цнатліва-шчырым і нежным поглядам рамантыка і рыцара. Мабыць і

яго вершы крыху донкіхоцкія ў лепшым сэнсе гэтага слова, але яны аптымістычныя, з празрыста-яркімі сонечнымі промнямі, да прыкладу, як у гэтым, які называецца “Посвящение”:

*Её глаза – как чистые озёра,*
*И вся она,как белый день, светла.*
*Она меня считала фантазёром,*
*И я ушёл, да и она ушла.*
*Теперь иное, и иные думы*
*Являются ко мне, но всё равно*
*О ней не вспоминаю я угрюмо,*
*Когда опять смотрю в её окно.*
*Она счастливым сделала другого,*
*Но я ей верен столько долгих лет,*
*Люблю её, ищу глазами снова,*
*Боготворю в её окошке свет.*
*Она моё и горе и отрада,*
*Я знаю,что навеки обречён.*
*Моя судьба! Иного мне не надо:*
*Я счастлив, счастлив, что в неё влюблён.*

Як у многіх, часам нават вядомых паэтаў, трапляюць зрэдку і ў аўтара гэтага зборніка слабейшыя творы: дзе рыфма не надта адшліфавана, дзе меней эпітэтаў ці вобраз больш слабы… Ды ці трэба аб гэтым? Творцу адзначаюць па яго лепшым вершам. А ў Д. Сязёміна яны ў абсалютнай большасці.

Упэўнены, што Дзмітрый Сязёмін узляцеў у сінь неба паэзіі даволі ўдала і высока. Няхай жа ён не спыняецца на дасягнутым у росце майстэрства і прыступка за прыступкай ўзнімаецца ўсё вышэй і вышэй!

*Чэрвень 2011 г.*

## ТРАГЕДЫЯ І МУЖНАСЦЬ ПАРТЫЗАН У БОЎКІНСКІМ ЛЕСЕ

У 2012 годзе ў Чарнігаўскім выдавецтве “Всесвіт” убачыла накладам 200 асобнікаў кніга на рускай мове Рыгора Варожышчава “По радыёграме – у Быхаўскі раён…”. Праз год было зроблена другое выданне. Прадмову напісаў рэдактар кнігі, пісьменнік Мікалай Давідовіч.

За спонсарскую падтрымку і выданне кнігі Саюз пісьменнікаў Беларусі адзначыў дырэктара Бабруйскай вытворчай фірмы “Барро” Васіля Баранчука Дыпломам.




У кнізе адлюстраваны трагедыя і мужнасць партызан роты лейтэнанта А.С. Дзямідава, партызан атрада № 48 пад камандай старшага лейтэнанта В.Л. Шырко, партызан атрада разведчыкаў “Сямёрка” і легендарнага партызанскага палка “Трынаццаць”, які узначальвалі палкоўнік С.В. Грышын і камісар І.А. Стралкоў. У верасні 1943 года, калі перадавыя часці Чырвонай Арміі выйшлі да берагоў Сажа і Проні, немцы пачалі небывала жорсткую Боўкінскую блакаду. Партызаны Боўкінскага плацдарму скавалі на сабе і прынялі ўдар 25-тысячнага адборнага войска вермахта і ўтрымлівалі яго, пастаянна знішчаючы ворага, на працягу амаль трох тыдняў. Але фашысцкія ваякі так і не змаглі прымусіць партызан стаць на калені.

А пачалося ўсё з таго, што па радыёграме Масквы з Бранскай вобласці ў 1943 годзе група партызан з шасці чалавек на чале з камандзірам Рыгорам Аляксеевічам Варожышчавым перабазіравалася ў Быхаўскі раён Магілёўскай вобласці. Ёй было загадана заняцца арганізацыяй разведкі: узяць пад пастаянны кантроль горад Быхаў з яго гарнізонам, мясцовым аэрадромам, а таксама аўтамагістраль Гомель – Магілёў. У групе былі дзве радысткі з радыёстанцыяй. Ужо ў дарозе да групы далучыўся сёмы чалавек – Максім Сямёнавіч Сівагракаў, былы загадчык Быхаўскага райспажыўсаюза, камуніст, вопытны партызан, які добра ведаў мясцовасць, у якой прыдзецца дзейнічаць групе. І атрад стаў называцца “Сямёрка”.

Як толькі трапілі ў Быхаўскі раён, атрад “Сямёрка” ўладкаваўся на левабярэжжы Дняпра ў Гарадзецкім урочышчы, у густым сасновым лесе непадалёк ад рачулкі Ухлясць з балоцістымі берагамі, у наваколлі якіх знаходзіліся вёскі Смоліца, Дабужа, Боўкі, Аляксандраўка, Хачынка, Радзькавічы, Ветранка. У гэтым невялікім урочышчы на той час ужо не было партызанскіх атрадаў. Неўзабаве ў “Сямёрку” прыйшлі маладыя хлопцы з бліжэйшых вёсак і партызанскі атрад узрос да ста чалавек. Камісарам “Сямёркі” стаў М.С. Сівагракаў. Акупантаў і іх прыспешнікаў партызаны найчасцей знішчалі з засад. Абстрэльвалі машыны-адзіночкі і невялікія абозы на шашы і бальшаках. Атрад займеў, захопленыя ў

баях, аўтаматы і нават кулямёты. Узрасло распаўсюджванне лістовак са зводкамі ад Савецкага інфармбюро, ад якіх эффект быў ашаламляючы, таму што інфармзброі акупанты палохаліся не меней, чым баявой зброі.

І ўсё ж галоўная задача "Сямёркі" была – выкананне задання фронту: дабыча разведматэрыялаў. Неўзабаве Цэнтр быў інфармаваны пра стан спраў не толькі ў варожым гарнізоне Быхава, але і пра баявое і ўнутранае жыццё аэрадрома, пра перавозку фашысцкіх войск па чыгунцы і аўтамагістралі Гомель – Магілёў. Тое стала магчымым таму, што нашымі разведчыкамі і сувязнымі, як піша аб гэтым камандзір "Сямёркі" Р. Варожышчаў, – сталі простыя хлопцы, дзяўчыны, учарашнія вучні-беларусы, пра якіх Аркадзь Гайдар казаў: "Людзі са звычайнай біяграфіяй у незвычайны час".

У ліпені 1943 года ў Гарадзецкае ўрочышча прыйшла рота партызан лейтэнанта А.С. Дзямідава, а ў пачатку жніўня – партызанскі атрад № 48, таксама магілёўскі, пад камандай старшага лейтэнанта В.Л. Шырко. А ўжо ў верасні пачалася нямецкая блакада партызан. У гэты час сюды падышоў і легендарны полк Грышына, які быў змушаны адступіць ад лініі фронту, які дайшоў да берагоў Сажа і Проні ў Чавускім і Прапойскім (цяпер Слаўгарадскім) раёнах. І ўжо ў кастрычніку 1943 года атраду "Сямёрка" давялося біцца з ворагам пад камандаваннем штаба партызанскага палка "Трынаццаць". Грышынцы называлі Гарадзецкае ўрочышча Боўкінскім. І блакаду таксама.

Боўкінская блакада, якую фашысты пачалі 2 кастрычніка, працягвалася беспярапынна ажно 17 дзён. Варожае войска пераўзыходзіла партызан ва ўсім: і ў генералітэце, і ў колькасці войска – 25 тысяч акупантаў супраць аднаго дзясятка тысяч партызан – і ў тым, што партызаны былі заціснуты браніраваным кальцом фашыстаў у невялічкім лесе, які немцы назвалі "гай смерці". Пазіцыйная барацьба партызанам была нявыгадная з усіх бакоў. Немцы хвалямі стальных лавін накатваліся на партызан на працягу ўсяго светавога дня: самалёты скідвалі на гай магутныя бомбы, артылерыя закідвала смертаноснымі снарадамі, варожая пяхота атакавала пад прыкрыццём бронетэхнікі. А ў партызан мелася толькі ржавая балотная вада, не было харчу, а боепрыпасы даводзілася здабываць толькі ў ворага.

Палкоўнік С.В. Грышын, убачыўшы, што фашысты ў бліжэйшым тылу свайго фронту не пакінуць буйныя сілы партызан, а боепрыпасы на зыходзе, аддаў загад ісці на прарыў. Цаной вялікіх страт людзей партызаны здолелі вырвацца з варожага акружэння.

Невялічкая частка партызан пайшла прабірацца на правы бераг Дняпра, а большасць на чале з Грышыным стала прабівацца да лініі фронта. Але там іх чакалі варожыя засады і такія ж жорсткія баі. Перайсці лінію фронта пашэнціла нямногім.

Ацалеўшая частка партызан атрада "Сямёрка", як толькі немцы знялі блакаду Боўкінскага ўрочышча, вярнулася назад і пасялілася ў непрыкметным месцы, сярод балота паміж вёскамі Кузькавічы і Ніканавічы. якое сяляне называюць Пятрова Грыва. З дня ў дзень партызаны і іх сувязныя назіралі за рухам варожага войска па аўтамагістралі Гомель – Магілёў. Яны дакладна запісвалі апазнавальныя адзнакі вайсковых часцей, якія меліся, як правіла, на кабінах аўтамашын. А рух войск непрыяцеля па гэтаму тракту быў інтэнсіўны. Усе дабытыя звесткі аператыўна перадаваліся па радыёсувязі ў штаб фронта. Ды ў другой палове снежня кончылася электрасілкаванне рацыі і атрад быў змушаны выходзіць да сваіх праз фронт, які стаяў у Слаўгарадскім раёне. Перайсці фронт невялікаму атраду пашэнціла без прыгод.

Наступіў 1944 год. Вайна працягвалася. Варожае войска пакацілася на захад. А.Т. Баранчук быў накіраваны ў спецшколу Генеральнага штаба і стаў разведчыкам-радыстам. У якасці камандзіра спецгрупы ён дэсантаваўся у адным з раёнаў Заходняй Беларусі, гэта паблізу граніцы з Польшчай, і паспяхова выконваў заданні Цэнтра.

У красавіку 1944 года група з пяці чалавек на чале з В.Л. Варожышчавым дэсантавалася ў Белавежскай пушчы. Базай разведгрупы стаў партызанскі атрад капітана Шашкіна. Разведгрупа ўзяла пад кантроль чыгунку Мінск – Баранавічы – Ліда – Маладзечна, станцыя Краснае.

Паказальна, што партызаны-"сямёркаўцы", якія засталіся ў жывых, і ў мірным жыцці праявілі сябе з найлепшага боку. Камандзір атрада Рыгор Варожышчаў вярнуўся жывым у Быхаўскі раён: "Я тут нарадзіўся ў другі раз, мне ніколі не забыць гэты край і яго людзей", – казаў ён. У вольныя ад працы хвіліны настаўнік Рыгор Аляксеевіч пісаў гісторыю свайго атрада, гісторыю блакады партызан-грышынцаў у Боўкінскім лесе. У школах раёна ён сустракаўся з вучнямі-старшакласнікамі і нёс ім слова праўды пра партызанскі рух, пра тое, як геройскі і мужна змагаліся і паміралі ў тылу ворага савецкія людзі. Свой рукапіс ён пакінуў пасля сябе ў адной са школ раёна. Багата гадоў ім карысталіся, але невялікая колькасць людзей. Хто ведае, мог ён і згубіцца, бо апошнім часам зніклі не толькі асобныя школы, а нават цэлыя вёскі пайшлі ў небыццё. Ды гэтаму рукапісу вельмі ўжо пашэнціла. Праз шмат гадоў у адной са школ

раёна яго знайшлі браты-быхаўчане Васіль і Андрэй Баранчукі. Тэкст рукапісу іх усхваляваў да глыбіні душы: у ім жывое сведчанне драматычных падзей у кастрычнікум 1943 года на іх малай радзіме, на роднай быхаўскай зямлі. Сваімі ўражаннямі браты падзяліліся з пісьменнікам Міколам Давідовічам. І ён, таксама залпам, не адрываючыся ад старонак, прачытаў гэты рукапіс, стаў рэдактарам кнігі.

Мне пра партызанскі полк Грышына было вядома яшчэ ўзімку 1942 года. Мая старэйшая сястра Надзея Арцёменка, настаўніца рускай і беларускай моў, была замужам за настаўнікам, афіцэрам Чырвонай Арміі, аказаўшымся ў акружэнні, Паўлам Акімавічам Ефіменкам. Жылі яны падчас акупацыі ў вёсцы Лёўкаўшчына Чавускага раёна і з'яўляліся сувязнымі аднаго з атрадаў палка "Трынаццаць". Мая маці Маўра Мітрафанаўна ці не тры разы за 40 кіламетраў хадзіла пешшу ў Лёўкаўшчыну ў адведкі і прыносіла, загорнутыя анучамі на нагах, партызанскія лістоўкі. А аднаго разу нават газету "Правда" з дакладам Сталіна на парадзе на Краснай плошчы ў Маскве ў лістападзе 1941 года. Я прачытаў яго даволі старанна два разы ад першага да апошняга радкоў, каб лепей запомніць. Назаўтра маці аднесла газету і лістоўкі, таксама з перасцярогай, у суседнюю вёску Ордаць свайму пляменніку Мікалаю Якаўлевічу Сяргееву, які меў сувязь з мясцовымі партызанамі. У верасні 1943 года П.А. Ефіменка пайшоў з Лёўкаўшчыны разам з палком Грышына, які мужна адбіваўся ад насядаўшага нямецкага войска, у Быхаўскі раён. Ад Паўла не было ніякіх вестак ні ў 1943, ні ў 1944 гадах, ні пазнейшым часам. Пасля вайны наведаўся і я ў Лёкаўшчыну. Яго родныя сказалі, што іх сын загінуў ў Боўкінскіх балотах падчас нямецкай блакады. Мая сястра Надзея звярталася ў вайсковыя архівы і атрымала адказы, што П.А. Ефіменкі у спісах забітых і прапаўшых без вестак няма. Вядома, ці ж магчыма ва ўмовах крывавай блакады захаваць усе спісы. І П.А. Ефіменка стаў адным з тых шасці тысяч загінуўшых безымянных герояў. Удзячныя быхаўчане паставілі ў Дабужы на Кургане Славы сямімятровы пастамент, які сведчыць сённяшняй моладзі пра подзвіг партызан у Боўкінскім лесе – памяць пра герояў-партызан вечная.

Скажу шчыра, што Вялікую Айчынную вайну бачыў падлеткам і юнаком на свае вочы, пазней прачытаў пра яе багата мастацкіх кніг і дакументаў. Быццам бы мяне і няма чым здзівіць. Але гэтую кнігу Рыгора Варожышчава пра страшную трагедыю на быхаўскай зямлі чытаў я з вялікім хваляваннем і незвычайнай цікавасцю. Так, як "Вайну і мір" Л. Талстога і "Ціхі Дон" М. Шолахава, не адрываючы галаву ад старонак.

Дык чаму так сталася, што кніга Р.А. Варожышчава “Па радыёграме – у Быхаўскі раён …” чытецца ўзахлёб, на адны дыханні, з неадольным жаданнем даведацца, а што там далей? А таму, што яе аўтар расказвае тое, што сам перажыў, што бачыў на свае вочы, у чым сам прымаў актыўны ўдзел. І яшчэ таму, што ён гаворыць праўду, выпакутаваную да глыбіні душы. Ды яшчэ піша шчыра, простымі словамі, ён хораша валодае пяром. Ды й памяць яму дадзена адменная: сотні імён і прозвішчаў, падрабязнасці амаль кожнага боя. Аўтар толькі зрэдзь карыстаецца пераказам падзей. У яго найчасцей дыялогі герояў аповеду. І гэта ажыўляе змест і больш глыбока ўздзейнічае на пачуцці чытача. Гэтая кніга вылучаецца сярод іншых кніг мастацка-дакументальнага жанру яшчэ і тым, што яна вострасюжэтная.

І ў вайну, і пасля вайны, і сёння, асабліва тыя, хто імкнецца перапісацы гісторыю Другой сусветнай вайны, часта гаварылі, а цяпер гавораць з яшчэ большай злобай, што дзеянні партызан былі на шкоду мірнаму насельніцтву, таму што фашысты, каб адпомсціць за згубу сваіх вайскоўцаў, расстрэльвалі, як заложнікаў, у шмат разоў болей жанчын, мужчын, старых людзей і дзяцей. Здаецца, на першы погляд, што гэта праўда. А на самой справе – гэта хлусня. Бо яшчэ да нападу на Савецкі Саюз вермахт запланаваў знішчыць 75% славян, а застаўшыхся 25% аддаць у рабства і анямечыць. Меркавалася ў Беларусі пасяліць 10 мільёнаў немцаў. І гэты план выконваўся з нямецкай пунктуальнасцю. Нават, каб не было партызан, знішчэнне беларусаў усё роўна праводзілася б. Толькі немцы прыдумалі б іншую зручную для іх прычыну. І яшчэ. Вышэй было адзначана, што партызаны Боўкінскага плацдарму адцягнулі ад фронту 25-тысячнае адборнае войска вермахта са шматлікай баявой тэхнікай і ўтрымлівалі яго, штодня істотна знішчаючы, на працягу амаль трох тыдняў. Ворага палегла, безумоўна, шмат болей, чым партызан, толькі хто іх тады мог падлічыць? І калі б не было ў гэтых мясцінах партызан, то ўся гэтая варожая моц апынулася б на берагах Сажа і Проні, што значна адцягнула б тэрміны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

Аўтар кнігі падкрэсліў, што “сваю галоўную місію партызаны, блакіраваныя ў Боўкінскім лесе, сумленна выканалі…” А крыніцай гераізму, мужнасці і ахвярнасці партызан была ў тым, што яны абаранялі свае лясы, сваю зямлю, свой народ, свае дамы, свае сем’і – яны абаранялі Радзіму-маці ад ворага. І гэта надавала ім сілу і вынослівасць. Ды фашысты не ведалі і не ўлічылі гэтых асаблівасцей савецкага чалавека “ні

пад Масквой, ні пад Сталінградам, ні ў барацьбе з партызанамі, выконаючы задачу па іх знішчэнню", – піша аўтар кнігі. Далей ён робіць яшчэ такі вывад: "Мне давялося прымаць удзел у блакадных баях у Бранскіх, Клятнянскіх лясах, але я не ведаю выпадку, каб гітлераўскія карнікі разбілі, знішчылі хаця б адно партызанскае злучэнне. Яны толькі навучылі нас змагацца, а мы не абмінулі выкарыстаць гэтую навуку".

Супрацьстаянне і абарона партызан у Боўкінскім лесе падчас нямецкай блакады ў 1943 годзе – справа сапраўды незвычайнай мужнасці, масавага гераізму і самаахвярнасці, загадкавай, нават невытлумачальнай вынослівасці людзей і таленту камандзіраў працяглы час трымаць у такіх умовах абарону, а потым яшчэ вырвацца з акружэння. Гэта была не толькі мужнасць і смеласць – гэта была выключная храбрасць і самавалоданне простых людзей.

Як сказаў Р. Варожышчаў: "Гэта адна з найвышэйшых форм выяўлення маральнага фактару, належачага савецкаму чалавеку, што не ўлічыў, ды і не мог улічыць вораг".

У кнізе Рыгора Варожышчава "Па радыёграме ў Быхаўскі раён…" сапраўды невычэрпная крыніца парасткаў патрыятызму, бязмежнай любові да роднай зямлі і свайго народа. Таму хочацца, каб гэтая кніга стала настольнай для сённяшняй моладзі не толькі ў Быхаўскім, але і ва ўсіх раёнах Магілёўскай вобласці, у Мінску і ва ўсёй Беларусі.

*Люты 2013 г., ліпень 2015 г.*

## ГЛЯДЗІЦЬ ПАЭТ ВАЧЫМА СЭРЦА




Сёлета пабачыла свет новая кніга нашага земляка Змітрака Марозава «Вачыма сэрца».

Вядомы беларускі паэт Змітрок Марозаў нарадзіўся ў вёсцы Язбы Крупскага раёна. Калі скончыў у Горках Беларускую дзяржаўную сельскагаспадарчую акадэмію ў 1975 годзе, працаваў на хлебнай ніве зямлі магілёўскай больш як дзесяць гадоў. Тут ён і ўзрос як паэт-лірык. Яго настаўнікамі былі журналіст, пазней пісьменнік Мікола Леўчанка, і вядомы паэт Аляксей Пысін. З магілёўскіх напрацовак малады аграном

выдаў два зборнікі: «Пад небам буслíным» у 1982 годзе ў Мінску і «Огонь и жито» ў 1983 годзе ў Маскве.

У Мінску Змітрок Марозаў два гады працуе лектарам ЦК камсамола Беларусі, потым больш як дваццаць гадоў — на адказных пасадах Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, а ў апошні час – у Міністэрстве гандлю. Днём ён заняты службай, а вечарамі ды часам і ноччу шчыруе на паэтычнай ніве. У 1988 годзе выходзяць у свет дзве ягоныя кнігі вершаў – «Хлеб і памяць» і «Хлебны верасень», якія адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. Ён становіцца вядомым паэтам. А ў 1991 годзе, калі выйшаў з друку яго вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы», стаў першым еўрапейскім паэтам дадзенага жанру.

За зборнік «Ачышчэнне сяўбой» (1992 г.) паэт атрымаў прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі за 1995 год, а за зборнікі «Вяртанне да цішыні» (2006 г.) і «Я з вёскі, я свойскі, язбоўскі» (2010 г.) – рэспубліканскія прэміі «Залаты купідон». А яшчэ паэт з'яўляецца лаўрэатам Міжнароднага літаратурнага конкурсу «Семья – Единение – Отечество» (2014 г.).

Многія творы, а таксама зборнік вершаў паэта «Вяртанне да цішыні» ўключаны ў школьныя праграмы, падручнікі, дапаможнікі для навучэнцаў і студэнтаў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Чытача ў творах Змітрака Марозава падкупляе глыбокае веданне побыту людзей сённяшняй вёскі, шчырыя радкі пра родны край і яго людзей, любоў да матчынай мовы, тонкая лірыка і адказная грамадзянская пазіцыя. У творчасці ён ідзе ад жыцця і піша пра жыццё, піша вельмі праўдзіва:

*Боль аддаю нямой паперы,*
*За дабрату дабром плачу...*
*Чым б'юць мацней,*
*Тым болей веры,*
*Што не дарэмна свет капчу.*

У паэзіі ён як на духу ў храме Божым. Змест яго твораў – гэта споведзь перад чытачом. Ягоныя радкі саграваюць душу чалавека, як промні сонца, яны прыцягваюць да сябе чытача. Сакрэт творчасці паэта ў глыбокім веданні жыцця, у яднанні з прыродай, у любові да людзей і ўсяго жывога на зямлі. Паэт сейбіт і ў жыцці, і ў паэзіі. Вершы ён не піша, а «сэрцам іх спявае». І таму кожны ягоны радок «звініць чароўнаю струной». Творы яго не толькі лірычныя, яны змястоўныя, гучаць надзённа і з глыбокім роздумам аб дні сённяшнім і будучыні цывілізацыі.

І вось сёлета ў выдавецтве «Чатыры чвэрці», што ў Мінску, убачыла свет новая кніга Змітрака Марозава «Вачыма сэрца» са змястоўнай прадмовай доктара філалагічных навук, прафесара Вячаслава Рагойшы. Наклад яе – адна тысяча асобнікаў.

Першы раздзел кнігі «Я ўсё часцей жадаю слухаць неба» складаюць паўсотні лірычных санетаў, вянкі санетаў «Валуны», «Дума», «Наканаванае», «Барок» і «Вянок Беларусі», а яшчэ першы ў еўрапейскай літаратуры вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы». Гэта творы, якія зроблены паэтам за многія гады літаратурнай працы.

У другі раздзел «Яблыня зімы» ўвайшлі вершы апошніх гадоў. Тут і пра тлумнае гарадское жыццё, і светлая настальгія па роднай вёсцы, і пра сённяшняе маладое пакаленне, і пра сівых бабуль і дзядоў, і пра Янку Купалу, і пра Алеся Пісьмянкова, і пра жыццё ўвогуле. Як і ў ранейшых кнігах – вершы ў асноўным кароткія, пераважна чатырох- і васьмірадковыя. Тонкая лірыка прасякнута мудрым роздумам, як, напрыклад:

*Ёсць словы вечныя, як свет,*
*Ёсць мовы музыка жывая...*
*Хто вершы піша – не паэт,*
*Паэт, хто сэрцам іх спявае.*

***

*Маладосць гуляе.*
*Сталасць разважае.*
*Ну а старасць судзіць...*
*На пацеху людзям.*

***

*Не веру хвілінным прызнанням,*
*Што паляць агонь пачуцця...*
*Маўчанне – малітва кахання,*
*Каханне – малітва жыцця.*

***

*«Свет мяне лавіў ды не спаймаў...»*
*Шмат я бегаў на сваім вяку.*
*Кожны раз ад свету я ўцякаў,*
*Ад людзей нікуды не ўцяку.*

Кніга Змітрака Марозава «Вачыма сэрца» прыцягвае ўвагу не толькі змястоўнай тонкай лірыкай, але і афармленнем: цвёрдая ламінiраваная вокладка і арыгінальны малюнак-трыпціх – яблыня вясной, летам,

зімой. Дзмітрый Дзмітравіч у лісце патлумачыў: «Чалавек, як і яблыня, перажывае пару квітнення, час спеласці, а пасля ўзрост «яблыні зімы» (заінелай яблыні з чырванагрудымі снегірамі на галінах)». Дый верш «Яблыня» ў самой кнізе:

*Снегіры на заінелай*
*Яблыні старой,*
*Як сузор'і яблык спелых,*
*Грэюць позірк мой.*
*Прэч вялікіх мэтраў цені,*
*Мудрых кніг тамы,*
*Хай прадоўжыцца імгненне*
*З яблыняй зімы.*

Звяртаюся да чытачоў, асабліва маладых: чытайце творы Змітрака Марозава ў новай кнізе «Вачыма сэрца»! У іх ён перад вамі як на споведзі.

*2014 г.*

## НА ЛІТАРАТУРНЫХ АБСЯГАХ ПРЫДНЯПРОЎЯ
### Новая кніга магілёўцаў




Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі амаль штогод выдае альманах «Прыдняпроўе». Сёлета альманах «Прыдняпроўе – край талентаў» з'явіўся ў свет у Мінску у рэдакцыйна-выдавецкай установе «Выдавецкі дом «Звязда» на 312 старонках, тыражом 450 асобнікаў. Яго ўкладальнік У.К. Бацкалевіч, рэдактары: У.К. Бацкалевіч і В.К. Гардзей, прадмова У.У. Дуктава, мастак Н.У. Кузьмянкова. Апроч прафесійных пісьменнікаў у альманах уключаны творы некаторых пачаткоўцаў. Таму ў зборніку імёны 48 аўтараў.

Шырока і living рознымі жанрамі прадстаўлена проза. Прыцягваюць увагу чытача апавяданні: Анатоля Мельнікава «Скрипач на крыше», Уладзіміра Дуктава «Кацiны барон», Аляксандра Балдоўскага

«Солдатская каша», Валянціна Крыжэвіча «Кантужаны». Міхась Карпечанка зместам свайго апавядання «Нярускі» як на споведзі данёс чытачу жорсткую праўду аб мінулай вайне. А Галіна Пярун парадавала вельмі лірычным апавяданнем «Лясны госць».

Шэраг празаічных твораў прысвечана знакамітым людзям нашага краю. У Мікалая Барысенкі вельмі ёмкае эсэ «Константин Симонов и Могилев». Алесь Карлюкевіч даў нататку пра паэта Міхася Карпенку з Хоцімска «Вяртанне да бацькоўскага поля». Аўтар гэтых радкоў у нататках «Дарогай на Горкі» і «Ёсць пад Шкловам малінавы рай» знаёміць чытачоў з гісторыяй двух вершаў паэта Аляксея Пысіна і гэтым дае магчымасць убачыць сакрэты яго паэтычнай кухні. Яўген Соцікаў у нарысе «Самородок из Козелья» паведаў пра знакамітага металурга М.К. Курака. Мікалай Хобатаў апавяданне-быль прысвяціў афіцэрy-франтавіку з пяццю баявымі ордэнамі на мундзіры, былому намесніку рэдактара Краснапольскай раёнкі В.Л. Чарткову. Павучальным і карысным для выхавання сённяшніх школьнікаў патрыётамі з’уляецца нарыс Аляксандра Косцерава «Могилевская одиссея капитана Пудина» (пра палкоўніка дзяржбяспекі В.І. Пудзіна).

Як адзіная казачніца выявіла сябе Ганна Сяўбо. Яе казкай «Дед Музей» зацікавяцца як дарослыя, так і дзеці.

Жанр гумару і сатыры прадстаўлены асабліва ярка. Аўтарам гумарыстычных апавяданняў «Сямён Сямёнавіч і я – нягоднік» і «Белая яблыня» з’яўляецца Апанас Палітыка, а «Падарунак для цёшчы» і «Папуас з Парыжа» – Мікола Падабед. Іх талент у дадзеным жанры даўно ацанілі і не толькі магілёўцы. Навум Сандамірскі з Глуска апавяданнем «Швейный «цех» пацвердзіў, што і ён арыгінальны гумарыст.

На жаль, з маладых празаікаў у альманаху толькі адна-аднюсенька Наста Рагаўцова. Затое прадстаўлена яна таленавітымі лірычнымі абразкамі «Узгорак», «Кахае – не кахае…», «Ільдзіны» і «Клоўн».

І ніводнага літаратурнага крытыка, хаця яны ў абласным аддзяленні ёсць.

Радуе, што пабольшала маладых аўтараў у паэзіі. Сімвалічна, што альманах на сваіх першых старонках змясціў нізкі вершаў паэтаў пысінскай школы Святланы Басуматравай і Міколы Леўчанкі. Таленавіты паэт Святлана Басуматрава вершам «Магілёўшчына» выказала бязмежную любоў і адданасць Прыдняпроўю ды і ўсёй Айчыне.

*Магілёўшчына,*
*Кут мой айчынны,*

*Я люблю*
*Твае долы і воды,*
*Шэпт бяроз*
*І трымценне асін.*
*Боль сардэчны*
*Мне гояць чаборам*
*Ды жывіцай*
*Гаі і бары.*

Паэт аптымістычна глядзіць у будучыню нашай Беларусі, і мы ёй верым:

*У нашых добрых справах –*
*Паскарэнне.*
*Дзяржаве і квітнець,*
*І маладзець.*

Вершы Міколы Леўчанкі «Беларусі», «Родная мова», «Памяці А. Пісьмянкова», «…Звычайная зімовая дарога…», «…На бухматай ліпе шэпча лісце…», «Пойма» тонкія, гучаць лірычна і кладуцца на душу як споведзь:

*Я да скону заручон*
*З моваю славянскай,*
*Гаварылі на якой*
*Колас і Купала,*
*І яна заўжды са мной,*
*Роднай маці стала.*

Сярод іншых беларускамоўных паэтаў выдзяляюцца Мікола Мінчанка, Васіль Рагаўцоў, Васіль Дзеравяжка і Ніна Кавалёва сваімі шчырымі лірычнымі і вобразнымі вершамі. Іх вершаваныя радкі наталяюць смагу чытачу, бальзамам кладуцца на сэрца. З нізкі вершаў Віктара Кунцэвіча мяне прывабіў «…Жыццё, паклон, што ты вяло…» Змест яго нягучны, але радкамі добра намаляваны шчымліва-шчырыя малюнкі мінуўшай маладосці лірычнага героя. А яшчэ хораша ўспрымаецца ўрывак з апавядання ў вершах «Час сяўбы» Алеся Казекі.

З рускамоўных паэтаў найперш трэба адзначыць таленавітага магілёўскага паэта Івана Пехцерава, які ў мінулым годзе завяршыў зямное жыццё. Як лебядзіная песня гучаць ягоныя вершы: «Гармония», «Уходящие деревни», «Смотрю документальное кино», «Июль», «Песня на ладони», «К тебе стремятся волны в пене», «Бересклет», «Ночь на сеновале».

У Віталя Савіцкага ўдаліся вершы «Гармонь», «Их убирают бесхозные хаты…», «Переместил свое я тело…» Адзін з яго вершаў закарцела перадаць поўнасцю:

*Всю ночь бушевала гроза над селом,*
*Дрожала от грохота хата,*
*И в сполохах страх подползал с полусном,*
*И чудился дьявол проклятый.*
*А утром над крышами – голубизна,*
*И плавится солнце по лужам,*
*И улица птичьего пенья полна,*
*И ангел над нивою кружит.*

Вершы Сяргея Кісялёва з Горак «Осенние цветы», «Птица», «Время», «Ворона», «Из окна», «Свет» толькі васьмі- ці дванаццацірадковыя. Яны кароткія ды ёмкія. Можна сказаць, класічныя па сваім майстэрстве.

Арыгінальны жанр чатырохрадкоўяў-афарызмаў у Міхаіла Уласенкі. У іх дасціпны гумар, а часам сатыра і народная мудрасць:

*Рать чиновников не тает,*
*Под надзором каждый шаг,*
*А компьютер – порождает*
*Наводнение бумаг.*

*В торгах все те же чудеса –*
*Нормально-аномальные:*
*Искусственная колбаса,*
*Но цены – натуральные.*

Як удачу ўкладальніка альманаха трэба вітаць, што на яго старонках, як ніколі раней, трапіла значная колькасць маладых паэтаў, у тым ліку і пачаткоўцаў. Дзмітрый Сямёзін, Жанна Усцінава, Вольга Данілава, Марына Сліўко, Наталля Міхальчук, Аляксандр Аляксандрын сваімі новымі вершамі паказалі, што ў паэзію яны прыйшлі не выпадкова і здольны рабіць творчыя адкрыцці.

Але, на жаль, трапілі ў альманах, мякка кажучы, слабыя вершы Юліі Куранковай, Вольгі Малянковай-Куляшовай, Таццяны Снігіровай… Увогуле, галопам скачуць жанчыны ў паэзію. А пішуць часам, як сказаў Міхаіл Уласенка:

*Стихи бывают о погоде,*
*О том, как чувства бьют ключом.*
*О бузине, что в огороде,*
*И очень часто – ни о чем.*

У Таццяны Снігіровай усе тры вершы – набор бліскучых фраз: ёсць форма ды няма зместу і малюнка. Трэба разумець, што не ўсё таленавіта, што блішчыць. Ну, якая паэзія ў такіх вось радках:

*Равнодушие сутками ёжится,*
*Афоризмы сплетает разум.*
*Винтик к винтику – жизнь моя сложится*
*Не частично, а вся и сразу.*
*Обделяют игривые сполохи*
*Догматично изрытые мысли*
*Убаюкано-мягкие шорохи*
*Шелковистым шаром повисли…*
*И вновь, невнимательно слушая,*
*Ершится во мне равнодушие.*

Слабыя вершы ў Вольгі Малянковай-Куляшовай:

*Чем тебе я, скажи, наскучила,*
*Что так быстро сорвал пальто?*
*Видно, не было нужного случая,*
*Видно это было не то…*

Набор слоў, штампаў. Зноў жа: дзе змест, дзе вобраз, малюнак? І яшчэ такое ж чатырохрадкоўе:

*Оставим сердца цветущими*
*Для честного и для вора.*
*Мы станем с тобою лучшими,*
*Как главная роль актера.*

Вершы Юліі Куранковай «…Переверни эту страницу…», «…Говорят, на ошибках учатся…» гладка зарыфмаваны, лёгка чытаюцца, але зноў жа – няма малюнка. Ды ўсё ж надзея не згасла. Пры карпатлівай працы над сабой аўтарка адолее хібы. Аб гэтым сведчаць яе вершы «Звезды» і «Первый вечер. Черемухи свет…» У іх ёсць і вобразы, і змест.

У Людмілы Шадукаевай лепшым вершам з’уляецца «Лето». А ў вершы «Буратино» – проста набор рыфмаваных слоў.

У вершах Яўгеніі Рудзько праглядваюць знаходкі-вобразы, але адсутнічае змест. Нават крамольная думка мільганула: а ці ведае яна сама, пра што піша?

Я на недахопах маладых творцаў засяродзіў увагу не выпадкова, бо не збіраюся ставіць крыж на прозвішчы таго ці іншага пачаткоўца. Патрыярх беларускай паэзіі Мікола Аўрамчык, які ставіў на крыло больш за сотню маладых паэтаў, аднаго разу папярэдзіў, што на пачатку

творчасці талент паэта аніяк немагчыма распазнаць. Таму няхай маладыя творцы працуюць ды працуюць аж да сёмага поту. Будучыня пакажа: хто ёсць хто.

Але ж ці трэба ўключаць у зборнікі слабыя вершы? На маю думку, гэта мядзвежая паслуга пачаткоўцам.

*2014 г.*

## У КВЕЦЕНІ ДУША ПАЭТА




У мінулым годзе пабачыла свет першая кніга нашага земляка Міхаіла Клапоцкага – зборнік паэзіі “Крылья”. Ён нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Заазер’е Бялыніцкага раёна. Гэта цудоўны край іконы Бялыніцкай Божай маці. Ён сам па сабе паэзія. Яго ўславіў у сваіх мастацкіх палотнах сусветна вядомы майстар пейзажа В.К. Бялыніцкі-Біруля, які тут нарадзхіўся і ведаў кожны гай і ўзлесак, кожную крынічку і рачулку. Бялыніцкая зямля дала яшчэ знакамітых паэтаў Ігара Шклярэўскага і Аляксандра Мельнікава.

Міхаіл Клапоцкі скончыў Магілёўскі будаўнічы тэхнікум, у якім выкладанне ўсіх прадметаў вялося на рускай мове. А потым два гады службы ў арміі ў Калінінградзе разам з рускімі хлопцамі. І воін-беларус займеў рускую народную гаворку. Пасля армейскай службы Міхаіл скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут, у якім таксама панаваў рускі дух. А таму і вершы складаў на рускай мове. Атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, працаваў інжынерам-канструктарам у будаўнічых інстытутах горада Магілёва, у якім і цяпер жыве.

Свой першы верш ён склаў у сямнаццацігадовым узросце, калі вучыўся ў Магілёўскім будаўнічым тэхнікуме. Ужо тады бачылася іскрынка таленту:

*Вбит василёк в золотой окоём,*
*Всё оживает, что к солнцу стремится,*
*Песни пичужек горластым ручьём*
*Льются... И капля на солнце искрится...*

Міхаіл і ў арміі складаў вершаваныя радкі: “Складаў без алоўка, спадзяючыся на памяць. Ды й цяпер так пішу,” – прызнаецца-аўтар зборніка.

Гэтую кнігу Міхаіл ствараў усё сваё жыццё, і яна быццам лёс яго ў лірычных вершах розных гадоў. Тэматыка яго творчасці не вельмі шырокая: жанчына, каханне, Радзіма, прырода, поры года. Літаральна ўсе яго вершы – лірыка:

*Они то листьями звенят,*
*То снегом талым.*
*Они о сущем говорят,*
*О небывалом.*

Прыроду паэт “слушает сердцем своим”, а таму радкі вершаў нараджаюцца з пачуццяў:

*Окинешь взором луг цветущий.*
*В ответ всё глянет, как родня:*
*И ручеёк, к реке бегущий,*
*Цветы, берёзок зеленя.*
*Вдали родной вид крыш, оконца,*
*Что видеть с детства довелось,*
*Крылечко школы, скирды, солнце,*
*Что в душу льются, как и в рожь.*
*Уставший, наземь ниц приляжешь,*
*Воды напьёшься из ручья*
*И навсегда себе сам скажешь:*
*«О, жизнь! Ты Родина моя!».*

А пра гарадское жыццё вершаў няма. Таму што яму “давит душу прогресс”:

*Суматошное время.*
*До корней рубит лес*
*Неразумное племя.*
*………………………. .*
*Нет, не снятся мне машины.*
*Сердцу Родина милей.*
*Снятся луг, венки калины,*
*Табун статных лошадей.*

Да ліку лепшых вершаў можна аднесці наступныя: «Сон-трава», «За деревней поле…», «Я разлюбить тебя не смог», «Ветер гладит оси-

ну», «Зори падают в пруд», «Лето в самом разгаре», «И ночь пришла, и душу в плен взяла». «Речки синь и солнце…» і дзясяткі іншых.

У вершы “Крылья”, які даў назву кнізе, аўтар сцвярджае, што чалавек без Радзімы – як бяскрылая птушка.

Багата ў кнізе вершаў пра жанчыну і каханне. У іх аўтар асабліва шчыры і лірычны:

*Солнце брызнуло в стекло.*
*В серебристых искрах поле.*
*Оттого ль, что так светло,*
*Мы целуемся до боли.*

А вось яшчэ:

*Я люблю тебя. Знай то,*
*Что ты – сны мои и грёзы,*
*Что нежней ты нежной розы,*
*Или – ты, или – никто.*

Міхаіл Клапоцкі арыгінальны сярод сённяшніх складальнікаў вершаў яшчэ і тым, што піша ён кароткія творы. А гэта ўжо прыкмета майстэрства.

*И ночь пришла, и душу в плен взяла,*
*Обняв воздушно-женскими руками,*
*Глазами звёзд свет в душу пролила.*
*Душа ответила бессонными стихами.*

Вершы Міхаіла Клапоцкага чытаюцца лёгка, на адным дыханні. Магчыма, і таму, што яны вобразныя. Аўтар пры дапамозе мастацкіх сродкаў, словамі малюе карціну за карцінай: «Бьётся грива, словно пламя», «Прозрела синью даль», «Ромашек вьюга», «Я душу выплесну в безбрежность», «Твои глаза два солнца нежных»... І такія радкі чытач спаткае, бадай, у кожным вершы.

У цэлым кніга “Крылья” Міхаіла Клапоцкага – несумненная ўдача яе аўтара. Відаць. збыліся радкі аднаго з ранніх вершаў паэта:

*Мне сегодня кукушка напела,*
*Что я жить буду много лет,*
*Что поэзия – моё дело,*
*И я буду известный поэт.*

І сапраўды, на зямлі магілёўскай на аднаго паэта стала болей.

*Ліпень 2014 г.*

## СЕНАКОСАМ ЗВІНЯЦЬ ЯЕ ВЕРШЫ
### Прадмова да новай кнігі Валянціны Габрусевай «Водар бацькоўскай зямлі»

З паэтаў зямлі нашага магілёўскага края даўно на слуху ў чытачоў імя Валянціны Габрусевай. Яе дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў прыгожай вёсцы Развадава. Першы верш надрукавала ў 1969 годзе клічаўская раёнка “Сцяг саветаў”. Потым былі публікацыі ў “Магілёўскай праўдзе”, літаратурныя старонкі якой рыхтаваў паэт Аляксей Пысін, у “ЛіМе”, у калектыўных зборніках беларускай паэзіі. Першай творчай настаўніцай стала яе лепшая сяброўка, выдатны паэт Беларусі Святлана Басуматрава.

В.Ф. Габрусева скончыла Магілёўскую школу міліцыі, працавала да пенсіі ў Дэпартаменце аховы МУС. Жыве ў Магілёве.

Выйшлі тры зборнікі паэзіі Валянціны Габрусевай: “Журавінавыя гронкі” (2006), “Бусліны вальс” (2007), “Букет бяссмертнікаў” (2009), якія прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай. Яе вершы “Зямля магілёўская”, “Як над рэчанькай”, “Салдат аховы”, “Вальс маладосьці” і шэраг іншых пакладзены на музыку. У аўтара гэтых зборнікаў свой адметны голас і почырк, свой змест і тэматыка, сваё мастакоўскае бачанне жыцця, і яны засведчылі індывідуальнасць і талент паэта.

І вось новы, чацвёрты, зборнік “Водар бацькоўскай зямлі”. У яго ўвайшлі разам з новымі творамі выбраныя вершы, песні, рамансы. Адкрываецца кніга вершам, у якім аўтар у поўны голас заявіла: “Слова сваё я выпестаю // Ў сакавіка капяжы, // Ноткаю самай чыстаю // Гуку прыбаўлю з цішы. // Сокам бярозавым, росамі // Слова сваё напаю, // І прасцінамі-чаромхамі // Ля хаты бацькоўскай спаўю”. І гэтую сваю заяву Валянціна Габрусева выканала спаўна.

У творах зборніка “Водар бацькоўскай зямлі” як пад пэндзлем жывапісца паўстаюць малюнкі роднай нам магілёўскай зямлі, найперш клічаўскіх краявідаў, – лугі, лясы і квітнеючыя нівы. Ды не толькі краявіды, радкамі вершаў прасвечваюцца справы і ўчынкі людзей, іх сэрцы і душы з разнастайнымі філасофскімі думкамі і штодзённымі трывогамі, з радаснымі памкненнямі да светлага жыцця. Лірычны герой новага зборніка, як і папярэдніх, жыве не адзіным хлебам надзённым, ён дапамагае чытачу адчуць сапраўдныя каштоўнасці жыцця, дае магчымасць распазнаць істотныя адрозненні, сутнасць катэгорый да-

бра і зла, вучыць маладых людзей як увайсці ў жыццё. Да прыкладу, у вершы “Гудзе майго жыцця нястомны трактар…” маці гаворыць, “што дзень павінен быць даўжэй начы” і толькі тады “упарты не мяняецца характар – // Пасеянае бачыць пад сярпом”. Але, на жаль, у сённяшніх рэаліях жыцця яна бачыць іншае: “…мяняецца наш характар – // Нясеянае бачым пад сярпом”.

У вершах “Тэатр”, “Хаваецца дзень за парканам”, “На прабачце – прабачаю!..”, “Зайздрасць Сонцу”, “І зноў агонь чужога поўдня…”, “Не зрывайце кветак у шырокім полі…”, “Праз вятры, марозы, завірухі…”, Не ела б зайздрасць нас, як сцены шашаль…” і іншых паэт сваімі радкамі неўпрыкмет падводзіць чытача да філасофскіх разваг і вывадаў, што хуткаплынны і жорсткі наш час патрабуе ўдумліва прымаць рашэнні, каб не нарабіць бяды. Радкі верша “Мы не паспеем”, напрыклад, чырвонаю ніткаю пранізвае думка, што, не аплаціўшы даўгі перад бацькоўскай хатай, перад роднай зямелькай, мы будзем бясплодна мітусіцца:

*Мы не паспеем усё роўна,*
*Праз усю бесталач гадзін,*
*Пад гукі уласнае машын*
*Дайсці да фінішу бяскроўна,*
*Адтуль на старт вярнуцца зноў,*
*Як у нябыт дзіцячых сноў.*

І калі мы не будзем бачыць дзе дабро, а дзе зло, калі жыць будзем без любові, то вынік будзе толькі адзін:

*Хоць бегчы будзем напрамкі,*
*Мы не паспеем усё роўна!*

І хаця сёння наш народ мае пэўны матэрыяльны дастатак, але ж душу лірычнага героя ад радасці ўстрымлівае непакой ды такі, што ён нават галосіць над зямлёй:

*Над непасеянаю грэчкай,*
*Над плугам, з’ела што іржа,*
*Над раўчуком, які быў рэчкай,*
*Калоціцца мая душа.*
*Над яблыкам, што не падняты*
*Ў някошанай гніе траве*
*За ціхаю азызлай хатай,*
*Што марай сагравацьь жыве.*

Удзячнай любоўю да Айчыны пранізаны радкі вершаў “Пах бацькаўшчыны”, “…Праспявай ты, салоўка, мне песню”, “Мы – беларусы!”, “Мой цягнік “Магілёў–Асіповічы”, “…Смяяўся дождж над Друццю соннай”, “…Узнімала я фіранку нецярпліва”, “Бары гудуць чмялямі” і іншыя. Глыбока патрыятычнымі радкамі Валянціна Габрусева пераклікаецца з вершам-шэдэўрам Аляксея Пысіна “Вузел”:

*Навекі я прывязана,*
*Наскрозь прышыта я*
*Да арабінаў з вязамі,*
*Дзе дыхае зямля*
*Лясным асеннім водарам*
*Апаўшае іглiц,*
*Дзе думкамі валодае*
*Маімі пах грыбніц.*
*Дзе баравік хаваецца*
*Пад верасам бароў,*
*Дзе зорка прачынаецца*
*Стазвонам камароў.*

У вершы “Пах бацькаўшчыны” паэт абяцае роднай зямельцы: “Я шчырым адплачу табе радком // За пах баравікова-чабаровы, // Які больш паўвека п’ю набгом!” І сапраўды, у зборніку чытач знойдзе багата лірычна-спавядальных вершаў, Якія чытаеш, не адрываючыся ад старонкі, як у летнюю спёку ад коўшыка са студзёнай чысцюткай крынічнай вадою, наталяючы смагу перасохшымі губамі. Да такіх вершаў можна аднесці: “…Зіхаціце, зоркі, над ракой сівою”, “…Вось і паспелі журавіны”, “…Над жытнёвым полем”, “Ялынька”, “…Вымываюцца росамі травы”, “…Знаёмы ціхі двор”, “…І зорак кранешся на Млечным шляху”, “Маўчанне”, “…Наш сон спевам птушак у лесе”, “… Ад спякоты памлелі трава і кусты!”

Амаль у кожным вершы зборніка ёсць цікавыя запамінальныя эпітэты, параўнанні, вобразы, у некаторых – фальклорныя слоўцы, а то і прымаўкі ці мудраслоўі: “Сенкосам звінеў мой залівісты смех”, “Хоць яблыню шчэ поўны цвет не песціў, ды ў марах яна квеценем жыла”, “І ляціць да вечнасці імгненнем ноч, што акунае ў росы травы”, “Дзе месячык ляцеў купацца ў расу, // Страсала што трава”, “Карацей дзе ночка, там паўней зямля”, “Не прымярацца зноў да

шчасця там, дзе ні гуку хараства”, ”Пакояў процьма нахалеру, калі няма паветра там”, “На асфальце не знойдзеш, што згубілі ў траве”, ”Горад сэрца майго Магілёў”, “О, як вясна чаромхаю запахла, ад зайздрасці растала тут зіма”, “Гонар клічаўскай старонкі на ўсё бясконцае жыццё”.

Некаторыя з вершаў вельмі ўжо блізкія да народнай песні. Такі, вось, як “…Кіну на плячо гармонік” – пра заліхвацкую беларускую польку, пра мінулую нядолю ды жаночы лёс гераіні:

*Як з лугоў нектар збірала*
*Лёгкакрылая пчала,*
*Як, пажыўшы гэтак мала,*
*Шмат чаго перажыла,*
*Як змагалася з няшчасцем*
*Неўміручае святло,*
*І, як бой прымала шчасце*
*І чаму перамагло.*

І пра вершы-песні. Яны вельмі ўжо лірычныя ды пявучыя, блізкія да народнай песні і рытмікай, і словам. Як, напрыклад, радкі з верша-песні “Як над рэчанькай”:

*Як над рэчанькай, ды над сіняю,*
*Там, дзе месячык п’е ваду,*
*З адзінокаю арабінаю*
*Дзеліць ночачка бяду.*

*Як над рэчанькай штосьь туманіцца*
*Там, дзе месячык воду п’е.*
*Гэта ж явару ночка жаліцца:*
*Ой, ці прыдзе дзень па мяне!*

Кранаюць сэрца чытача словы вершаў-песень “Вальс маладосці”, “…Ой, каціліся годы”, “Магілёўскі хлеб” ды іншыя.

Увогуле ж, зборнік Валянціны Габрусевай “Водар бацькоўскай зямлі” – падзея на паэтычным небасхіле магілёўскага краю. Новыя творы сведчаць пра ўзросшае паэтычнае майстэрства аўтара. У паэта ў паўсядзённай творчасці такі дэвіз: “Думаць! Верыць! Кіраваць увысь палёт душы!”

*Красавік – май 2015 г.*

# СЁМАЯ КНІГА ГАЛІНЫ САЙКО

**Якая ёсць!**

Паэт Галіна Сайко нарадзілася недалёка ад Уральскіх гор. У Магілёве скончыла школу № 8 і педагагічны інстытут. Сорак гадоў шчыравала настаўніцай рускай мовы і літаратуры. Вершы друкавала ў газетах "Магілёўская праўда" і "Знамя юности", у шэрагу калектыўных зборнікаў. Выдала зборнікі паэзіі: "Небо пресветлое" (2002), "Какая есть!" (2006), "В согласии с собой" (2008), "От первого лица" (2013), "Слияние с сияюшей природой" (2013), "Наедине с собой" (2014). Яна лаўрэат прэміі "Паэт года – 2014" Расійскага саюза пісьменнікаў, з 23 красавіка 2014 года член гэтага саюза (білет № 4526).

Яшчэ ў водгуках на першыя яе кнігі пісьменнік Іван Аношкін сказаў: "Народныя матывы гучаць у многіх вершах Г. Сайко. У яе свой голас, свой стыль, свая манера пісьма".

Хаця Г. Сайко ў большасці сваіх твораў карыстаецца не вельмі папулярнай сёння дзеяслоўнай рыфмай, але іх паэтычныя радкі настолькі лірычныя і шчырыя, што з першых старонак кнігі бяруць у палон душу чытача:

*В камышах ни журчанья, ни всплеска.*
*Прикорнула в кустах тишина.*
*И закат до прощального блеска*
*возвестил – страсть дотла сожжена!*

**Вяртанне да сябе**

Сёмая кніга Г. Сайко "Возвращение в себя" ўбачыла свет сёлета ў Мінску ў выдавецтве "Белпрынт" і ўмясціла пад сваёй вокладкай 262 вершы. "Войти в себя – душе вернуться в дом", – гаворыць аўтар. Гэта азначае: паглыбіцца ў свой унутраны свет, разабрацца ў сваіх пачуццях, заглянуць у сваё сэрца. Карацей кажучы – гэта споведзь перад чытачом і людзьмі. У новай кнізе ў поўны голас жывым, трапяткім радком загучалі грамадзянскія матывы:




*Лира моя, не молчи.*
*Плачь, возвращайся, кричи!*
*Выйди со мной на дорогу, –*
*Брось белый халат, бей тревогу!*

У вершы “Седьмая книга” аўтар запэўніла чытача, што ў яе цяпер “С себя гораздо строже спрос”, што яе радкі “искренни, честны” і піша яна “по совести, от правды, дай Бог от зрелого ума”. Крэда паэта: “Видеть, а не при-ду-мы-вать! // Слышать – не подражать! // Дурь недостойна умного, // Ум должен опережать”.

**Водгук Вялікай Перамогі**

2015 год – гэта год 70-годдзя Перамогі над фашызмам. Вядома, Г. Сайко не магла мінуць такой даты. Пра што і сведчаць яе вершы: “На этой лесополосе”, “Всем по делам вашим”, “Напоминание”, “…Скажи, кто твой”, “Вина на тех!”, “На боевом посту” і іншыя. У вершы “И выбора тут нет” набатам гучаць радкі: “А мой отец – погиб, и я ли стану на ту войну смотреть со стороны”.

Свята Перамогі над фашызмам – вялікае і вечнае. І новаяўленым фашыстам, як яны ні пыжацца, перапісаць гісторыю не ўдасца ніколі:

*А 70 – святая дата*
*Сквозь толщу прожитых веков!*
*Мы помним, сберегаем свято*
*Завет погибшего солдата! –*
*Его наказ нам был таков:*
*– Не сдай свой край на поруганье,*
*Кто б этого ни захотел!*

**Антымайдан**

Як ва ўдзячнага патомка славянскіх народаў, у Г. Сайко баліць душа за крывавую бойню на Украіне. У Адэсе, Славянску, Краматорску, Данецку, Луганску і многіх іншых гарадах і сёлах некалі працвітаючай украінскай зямлі па віне фашысцкіх алігархаў з Кіева загінулі і паранены многія тысячы ні ў чым не павінных жанчын, дзяцей, старых людзей. Паэт лічыць, што не бандыцкі майдан, не кучка фашысцкіх алігархаў павінны вырашаць лёс Украіны, а сам украінскі народ. Пра гэта сцвярджаюць радкі вершаў: “Самозванцам”, “Святотатство”, “…Всё, что могу”, “Разгул демократии”, “Противостояние”, “На суд Божий”, “Карачун”, “Всем по делам вашим” і іншыя.

Ледзяняць душу радкі пра Славянск, які дашчэнту разбурылі фашысцкія карнікі: “Не в цветенье черёмух он тонет… // В клубах дыма от взрывов! // Снаряд угодил “невзначай” в детский сад. // Избирателен выбор мишени: // чтобы крови побольше, лишений. // Устрашение – главная цель! // Лжи побольше – поди там проверь.”

**Вечныя тэмы**

Скразной ніткай праз усе кнігі Г. Сайко праходзяць вершы пра каханне і прыроду. У сёмай кнізе іх меней, але яны лірычныя, душэўныя.

Кранаюць сваёй салаўінай песеннасцю і шчырасцю радкі гераіні з верша “Всё во имя любви”: “Жизнь отдам, чтобы тебя спасти!” Шматгадовай мудрасцю свецяцца радкі верша “Бесценна любовь – бесценна”.

*Бесценна любовь – бесценна!*
*Тем более коротка.*
*Только ей тесны стены!*
*Гостит она изредка!*

Вершы пра прыроду свецяцца, зіхацяць перлінкамі, наталяюць смагу чытача свежым водарам лясоў, лугоў і хлебных ніў. Напрыклад, “Вдали, на горизонте, – облака! // Туда они плывут влекомы волоком. // И розовыми кажутся стога, // стога оказывались после белым облаком, // а мокрого подзола пар, //как дым, // дурманом сладким душу обволакивал”.

**Роздум**

Амаль ці не большасць вершаў Г. Сайко напісаны як бы для сябе: гэта роздум пра жыццё і смерць, неба і зямлю, час і прастору, дабро і зло, а нярэдка – проста бытавыя замалёўкі. Не ўсе яны раўназначныя: адны ўдаліся на славу, другія ціхія, нягучныя, а то і філасофскія, – яны не столькі для сябе, як гэта здаецца спачатку, колькі для роздуму назіральнага, удумлівага чытача. І кожны чытач сярод іх знойдзе свой верш, які адпавядае яго пачуццям, яго сумленню, яго настрою. Сярод такіх вершаў ёсць прысвечаныя Пушкіну і Блоку, Янку Купалу і Якубу Коласу, знакамітай алімпійскай чэмпіёнцы Дар’і Домрачавай, франтавіку палкоўніку Асмалоўскаму:

*Когда читаю Пушкина,*
*Мне так легко дышать!*
*И дни уныло-тусклые,*
*Как говорят, – на ять!*

У многіх вершах паэт задае пытанне, каб чытач задумаўся, як, напрыклад, у вершы “Как там им?”:

*Ветер хлопает мокрыми крыльями*
*Под бортом кучевых облаков.*
*Всё разгадываю: покорили мы*
*Ту вершину – загадку веков?*

«Адчуваю адказнасць за выхаванне моладзі – гэта галоўная справа майго жыцця!» – не адзін раз казала аўтар. І яна пастаянна турбуецца пра маладое пакаленне:якім яно вырасце? Якія каштоўнасці будзе спавядаць? Што возьме ў сваё жыццё? Як настаўніца, яна дае маладым свой запавет у вершы “Наказ”: “Вы счастливо живите! // Не враждуйте! // И не ищите мелочных причин. // Вы как о маме, // об Отчизне думайте и // оставайтесь в звании мужчин! // “Честь имею!” – ныне говорим. // С детства мы войной навечно ранены. // За участие вас благодарим. // Ваш ориентир – он вам понятен? // – Это – Мир! – // дороже всех наград. // Вот война – достойна всех проклятий. // И об этом Майский наш Парад”.

**Майстэрства паэтычнага радка**

У Галіны Сайко ёсць шэраг крэда, якіх яна строга трымаецца ў сваёй творчасці. Паэта і сябе яна бачыць такім:

*И подвиг его рассчитан, –*
*Что в слове он не соврёт.*
*Чудо для меня*
*Есть Слово?*
*Слово, что возносит*
*До Небес!*
*Захотелось быть самой собой,*
*Но притом, чтобы перо было заточено*
*И чтоб строчка не давала сбой.*
*Пусть слова, словно парус упругий,*
*Обретают и запах и цвет.*

І гэта ўсё ёсць, як мы пераканаліся, у яе творах. У яе вершах словы сапраўды вылежваліся, як яблыкі ў садзе: “Слова, как яблоки! – // Румяны и крепки. // Я их вынянчиваю, как умею, // а те, что недоступно высоко, // почувствую душой // и – о-н-е-м-е-ю!”

Багата якім чатырохрадкоўем, а нярэдка і адным радком, у вершы робіцца выразны шматколерны малюнак:

*Ранняя заря на зимним небе,*
*На берёзе стайкой – снегири.*
*Гроздь рябининок на белом снеге,*
*Словно на морозе кровь, – горит!*
……………………………………
*Журавли кричали грустно-грустно*
*И как будто звали за собой.*

*Облака вослед, под ними русло*
*С прежде полноводною рекой.*

А вось яшчэ: “Ельник сбегает по сочной траве”, “Облаком юность реет”, “Облака уж снегом запахли, и прохладой дохнуло в ноч”, “Мир, обновляясь, прорастает новью”, “Свет зари купается в Днепре”, “В настоящем будущность живёт”, “Здесь в зарослях мяты купается утро”, “Истина – пробный камень. // Истину можно гнать. // Но даже в море канув, // будет со дна сиять”. Такіх радкоў не злічыць…

Мне верыцца, што Галіна Сайко яшчэ не раз парадуе прыхільнікаў сваёй паэзіі новымі творамі. Яшчэ наперадзе ў яе галоўная кніга жыцця!

*Красавік – май 2015 г.*

# ПІСЬМЕННІК І КНІГІ

## КУЛЬТУРА ЧЫТАННЯ ЯНКІ БРЫЛЯ

### Дамашняя бібліятэка пісьменніка



Яшчэ ў 70-х гадах мінулага стагоддзя ведаў я, што выдатны беларускі празаік Янка Брыль мае дамашнюю бібліятэку, якой няма роўных у Беларусі. Пазнейшым часам, больш уважліва чытаючы яго творы і нататкі ў перыядычным друку, убачыў, што і чытача кніг лепшага, чым Іван Антонавіч, таксама няма. Чакаў, што навукоўцы і студэнты сталічнага ўніверсітэта культуры абавязкова зацікавяцца гэтай тэмай і зробяць навуковую працу. Чакаў доўга. Не дачакаўся. І, як прафесійны бібліятэкар-кнігазнаўца, пачаў рабіць выпіскі з кніг пісьменніка і з яго публікацый у газетах і часопісах.

А яшчэ раней, не меней двух дзясяткаў гадоў, збіраў я тэксты ў кнігу “Вянок Аляксею Пысіну”. Тэкстаў Янкі Брыля ў “Вянок…” было нават некалькі. І ў 2000-м годзе я звярнуўся з лістом за парадай да самога аўтара, што з іх выбраць, а заадно спытаў і пра яго дамашнюю бібліятэку. У канверт паклаў тэкст аднаго са сваіх артыкулаў пра А.В. Пысіна. Ліст паслаў 30 ліпеня, а ўжо 5 жніўня Іван Антонавіч адгукнуўся. Ён падказаў мне, якія яго радкі ўкласці ў кнігу пра паэта Пысіна, а яшчэ даў звесткі пра сваю дамашнюю бібліятэку. Вось некаторыя радкі з ліста:

“Што да маёй бібліятэкі. Яна была б вялікай ды па-свойму цікавай – на мовах роднай, рускай, украінскай, польскай – каб усе кнігі былі сабраны ў адным месцы. Аднак я лічу, што кніга, перш за ўсё павінна працаваць (вылучыў Янка Брыль. – *В. А.*), чытацца. Значную колькасць кніг на польскай і ўкраінскай мовах я гадоў некалькі

таму назад падараваў у бібліятэку Скарынаўскага фонда, частку падараваў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў, многа кніг пакінуў сыну і ўнукам, калі мы з жонкай адсяліліся ад іх (на вуліцу Дразда, а не Драздова, як вы напісалі), а зноў жа многа кніг з аўтографамі перадаў я ў дзяржаўны архіў-музей і ў навуковую бібліятэку Акадэміі навук, у іх ёсць спецыяльныя фонды, дзе такія кнігі захоўваюцца. Сабе ў нашу з жонкай двухпакаёўку я ўзяў самыя дарагія, любімыя і неабходныя для выкарыстання ў працы".

Нават з гэтых нешматслоўных радкоў яскрава бачна, якая ўнікальная дамашняя бібліятэка Янкі Брыля. Каб даведацца, наколькі вялікай была яго бібліятэка, я пазваніў у Мінск яго пляменніцы Лідзе Мікалаеўне Карамазавай. Яна сказала, што кніжны фонд брылёўскай бібліятэкі налічваў болей за 20 тысяч асобнікаў. І я падумаў, што сабраць такую ўнікальную бібліятэку мог толькі інтэлігентны, высокаэрудзіраваны, мудры і светлы чалавек, якім і быў Іван Антонавіч.

Пісьменнік Янка Брыль чытаў кнігі ўдумліва, наталяючы смагу набыцця новых ведаў, уражанняў. Пры чытанні ў яго ўзнікалі канкрэтныя думкі, якія ён занатоўваў і потым абразкамі-перлінкамі ўключаў ў апавяданні і нататкі. Сведкам, як чытаў кнігі пісьменнік Янка Брыль, з'яўляецца яго сябар, таксама выдатны беларускі празаік, Віктар Карамазаў. Па маёй просьбе ён даслаў згадку, і яна друкуецца ўпершыню.

**Янка Брыль як чытач**



Тваё пытанне да мяне: што ведаю, што думаю – якім быў чытачом наш выдатны пісьменнік? Што чытаў і як чытаў?

Адразу, пачуўшы гэтае пытанне, бачу Брыля ў прасторы свайго рабочага пакоя за пісьмовым сталом: рукі на стале, буйныя, сваёй спрацаванасцю падобныя на рукі селяніна, аратага ці лесаруба, у руках – кніга. Чую і голас Брыля ў адказ на думку знаёмага літоўскага паэта – ехаць, адышоўшы ад службовай пасады, на дачу і там сталярыць, каб не страціць ад беспрацоўя розум. Брыль: "Я адыходжу не ў сталярку, а зноў ды зноў у добрую кнігу, у працу літаратурную, якая ў мяне не які-небудзь адыходні промысел ці славутае хобі, але адзіная справа жыцця". Сказаў гэта шчыра, упэўнена, годна.

Брыль за сваім сталом. Вось ён адрывае вочы ад кнігі, глядзіць перад сабой у акно, далёка некуды, не заўважаючы насупраць высозныя дамы, праз іх, за імі бачыць, усміхаючыся, штосьці знаёмае, тое, магчыма, што бачыў калісьці і забыў, згубіў у памяці за ліхаманкай дзён, гадоў, цяпер успомніў з чужою кнігай у руках. Алоўкам падкрэсліў прачытанае ў кнізе, на белым полі ў ёй паставіў птушачку і слоўка з кнігі выпісаў у блакнот, які таксама пад рукой, на службе.

А я стаю ў яго за спіной каля прыадчыненых у пакой дзвярэй разгублены: як мог прыйсці без папярэдняга званка, калі пісьменнік за сталом, працуе?

Ён раптам адкінуўся плячыма да спінкі крэсла і зарагатаў непрымусова, вольна, нібы ў радасці, яму падараванай кнігаю. З ёю ў руках падняўся з-за стала, мяне заўважыў – кажа:

– Вось… ты паслухай, што піша гэты чалавек…

Чытаў Брыль шмат. Найперш ці не ўсё беларускае, на роднай мове, класіку і не класіку, сяброў па літаратуры і незнаёмых аўтараў, маладых і пачаткоўцаў, не толькі мастацкае, але і гістарычнае, краязнаўчае, выдатна ведаў літаратуру расійскую і польскую, украінскую, літоўскую, латышскую, эстонскую, грузінскую і малдаўскую, усе еўрапейскія літаратуры. Калі паспяваў чытаць? Ды проста ні дня не мог пражыць без кнігі цікавай і карыснай. Здзіўляла і тое, што на ўсё прачытанае меў свой водгук, які пакідаў у блакнотах, дзённіках, выказваў у лістах да аўтараў, у тэлефонных размовах з сябрамі па літаратуры. Многае з прачытанага трымаў у памяці: вобразы, дэталі, свежыя думкі, словы. Жыў кнігаю і выпрацоўваў у сяброўстве з ёю выдатную культуру чытання. Пра гэта, што і як чытаў, Брыль шмат сказаў у сваіх кнігах “Пішу як жыву”, “З людзьмі і сам-насам”, у сваіх шчырых дзённіках.

Вось раскрываем яго кнігу, не выбіраючы, што цікавей, чытаем:

“Славак Дамінік Татарка. Па-польску.

Тры ўзоры сапраўднай прозы, асабліва апавяданне “Пеўнік у агоніі”, сведчыць пра значнасць гэтага, як ён сам кажа пра сябе, “карпацкага пастуха, які абагаўляе ўсё, што праўдзівае”, пра яшчэ адно для мяне радаснае адкрыццё.

А яшчэ прыемна было на прыкладзе гэтага славака думаць, як гэта важна – клопат пра родную мову.

І блізка нам тое, што ён гаворыць французу Наэлю:

“Гэта страшна – спісванне ў страты малых народаў. Для каго ён небяспечны, такі малы народ, у якога свая культура, свае традыцыі і памкненні? Вы ведаеце, гэта сапраўды драматычна”.

Гэтак ад прачытанага ў славака, заўважым, па-польску (Брыль выдатна ведаў польскую мову), наш пісьменнік паглыбляецца ў заклапочаны роздум пра лёс свайго народа, пра лёс сваёй мовы. Тут і яго роздум пра славакаў, і трывога за беларусаў: што з намі будзе?

Далей – тры зорачкі. Пад зорачкамі – новае захапленне:

«Байкал» Валянціна Распуціна. Учора пачаў, толькі што закончыў. Увесь час адчуваю розніцу паміж рускім і "рускамоўным". І не "расавасць" тут, як крычаць з-за мяжы і дома іхнія падпявалы, а законная арганічнасць. Яна адчуваецца, калі гаварыць пра рускіх, апроч Распуціна, у Казакова, Бялова, Астаф'ева…" І следам… такая думка ішла: гэта ж не выхад – перакантоўвацца ў тую, гатовенькую літаратуру, як гэта робяць некаторыя нашы "рускамоўнікі", спадзеючыся, што ад гэтага і яны будуць значна большыя самі".

Вунь куды сягае заклапочанасць Брыля, чытаючы Распуціна. У надзвычай сур'ёзную для нас, беларусаў, праблему арганічнасці слова ў сваім ужытку, у мастацкім творы, адсутнасці гэтай арганічнасці ў рускамоўных творах, напісаных беларусамі, адарванымі ад расійскага ладу жыцця.

Далей – зноў тры зорачкі, на той самай старонцы дзённіка – ужо новая кніга на стале ў Брыля:

"Чытаю "Вороненка" Юры Тууліка, падарунак з аўтографам. Зноў прыемнае адкрыццё, зноў сапраўднае слова… законнае шчасце быць самім сабою?..

Як жа гэтага не хапае нам, беларусам!.."

Той самы клопат Брыля пра сваё, беларускае, пра святое права нашай літаратуры быць арганічнай, самабытнай, ні на якую іншую, нават і самую багатую, непадобнай, кожным словам сцвярджаць сябе, сваё.

Гэты клопат пра сваё, хоць і ў падтэксце, нават і тут, далей, дзе ўжо пра Гогаля:

"Нехта напіша: увайшоў чалавек, і не верыцца, а Гогаль напіша: увайшоў чорт – і верым".

Зноў тыя ж тры зорачкі. А што далей? Далей, да трох наступных зорачак, у Брыля ўсяго пяць радкоў:

"Разгарнуў пад вечар таміну "Жизнь животных. Птицы", трапілася на жаваранка, пачаў чытаць пра яго, і стала так добра, журботна на душы.

Колькі ўсяго непазнанага, і не пазнаеш як след, пакуль прыйдзецца ўсё пакінуць…"

Не дагаварвае да канца. Вядома, ведаючы, што мы і тут яго зразумеем, як прагнуў ён ведаў, ведаць свет, як быў удзячны ў гэтым кнізе, якое шчасце было яму жыць з кнігай кожны дзень, і як тужліва было яму ад таго, што шчасце гэтае не вечнае.

Тут нам дарэчы згадаць, што Янка Брыль не вучыўся ні ў якіх інстытутах, універсітэтах, акадэміях, нават у каледжах ды тэхнікумах, жыццё дало магчымасць павучыцца ўсяго тры гадкі хлапчуком у вясковай школцы, што чалавекам вялікіх ведаў, вялікай культуры, выдатным пісьменнікам яго зрабіла кніга.

Як Брыль любіў кнігу, як з ёю жыў, як чытаў, пра гэта ён шмат сказаў у сваіх дзённіках, эсэ, блакнотных запісах, разважаннях сам-насам і для ўсіх, хто хоча вырасці і жыць чалавекам годным, разумным, культурным, шчасліва далучаным да выпрацаванага светам і нашым родным краем багатага жыццёвага вопыту і духоўнай красы. Ён любіў свой народ, верыў у яго светлую будучыню і таму, у гэтай любові і веры, бачыў сваіх нашчадкаў у сяброўстве з разумнай кнігай, вечнай крыніцай не толькі духоўных, але і матэрыяльных, праз духоўнае, набыткаў. Усім сваім багатым жыццёвым вопытам ён ведаў, што чалавек, адлучаны ад кнігі, мала на што здольны і мала каму цікавы.

*27 красавіка 2015 г.*

**Радасць чытання**



**Васіль Вітка, Янка Брыль, Іван Чыгрынаў...**

А цяпер мае занатоўкі з кніг Янкі Брыля і з яго нататак у часопісы і газеты. У іх пра сябе, як пра чытача, Іван Антонавіч гаворыць сам. Іх змест як пацверджанне народнай мудрасці: «Хто чытае, той думае», а яшчэ таго факта, што самаадукацыя – а яна немагчымая без кнігі – гэта галоўная крыніца ведаў.

*Янка Брыль. Жменька. – Літаратура і мастацтва. – 2001. – 5 студзеня. – С. 5.*

У добрай кнізе І.Б. Канапацкага і А.І. Смолкіна “Гісторыя і культура беларускіх татар” цікава было сустрэць і такое: “Агульнавядома,

што першае ўказанне, якое было дадзена Усявышнім Алахам Прароку Мухамеду (Мір Яму і Міласць Усявышняга) адным словам – Чытай“.

У гэтым сэнсе і я даволі магаметаністы вернік.

Над старонкамі серба Міларук Павіча яго аповесці “Пейзаж, нарисованный чаем», думалася, што чытаючы добрую кнігу і сам, здаецца, робішся разумнейшым, таленавіцейшым.

А чытаючы рускага Юрыя Палякова, аповесці ў томе “Сто дней до приказа”, думаў, як гэта добра – быць самому вясёлым, і весяліць сваім словам другіх!..

*Янка Брыль. Толькі бліжэй. – Літаратура і мастацтва. – 1985. – 4 студзеня. – С. 10–11.*

Як бы я ні ўзброіўся жыццёвым вопытам, якім бы ні стаў падрыхтаваным чытачом, усё роўна са светлай журбой успамінаю сваё маладое чытанне. Скажам, “Братоў Карамазавых”. Вясной трыццаць сёмага года, калі я араў, баранавааў і ад яснага рання не мог дачакацца вечара, дакладней кажучы – ночы, каб чытаць далей...

Толькі са шчасцем, пакутліва чыстым шчасцем першай закаханасці чытанне тое і параўнаеш. Нават больш там было, бо іншая закаханасць, бывае, праходзіць, а гэтая – не. Іменна з першага позірку і назаўсёды.

Яшчэ адна радасць чытання – ведаць, што старонкі, якімі ты захапляешся, радавалі і тых, што чыталі гэта да цябе, што над імі плакаў ад смеху Пушкін, задумваўся Талстой…

*Янка Брыль. Пішу, чытаю, жыву. // З лірычных запісаў. Дзевяноста дзявяты. – Полымя. – 2000. – № 1. – С. 48–84.*

Адчуванне меры Талстой, што я нядаўна перачытаў у запісах Макавіцкага, лічыў для літаратара першаступенным абавязкам.

Можна дадаць: ва ўспамінах – таксама.

Нават на юбілеях і паніхідах (С. 50).

* * *

А чаму мне трэба чытаць усё падрад, якая ў гэтым добрасумленнасць, перад чым ды перад кім? Асабліва, калі ведаеш літаратурныя магчымасці таго ці іншага маэстра, які вось зноў надрукаваўся, тоўста ці крыху танчэй. Няўжо так многа вольнага часу, а ў перспектыве –дзён, гадоў жыцця?

Сёння, пачаў дзень з Разанава (успаміны яго дачкі ў “Литературнай газете”) і Дзюранмата (“Аварыя” у “Крыніцы”, у выдатнай Сёмухавай падачы), падумалася так, згадаўшы часопісную прозу тых, каго лепш не называць (С. 52).

* * *

Паэзію Пушкіна я любіў заўсёды. Вось перачытваю "Анегіна", у прыкуску два пераклады, Куляшова і Тувіма, час ад часу заглядваючы ў арыгінал. І адчуваецца – не перачытваю, а чытаю зноў як новае, з дакорам самому сабе, што не так, як належыцца, чытаў гэта, хоць і неаднойчы, але не ўчытваўся ў глыбіню (С. 55).

* * *

…Плачу ад Танінай закаханасці, ужо з дарослай унучкай, з яе чыстай красою параўноўваючы тую, душой паэта народжаную барышню, якая сутыкаецца юнай душой з суровай ды глыбокай, мудрай пяшчотнасцю нянінай народна-жаночай душы, якую Пушкін даваў нам, напэўна ж, бачачы сваю Арыну Радзівонаўну. Недзе чытаў я, што Радзівонаўна была беларускай, што зусім верагодна ў тым этнічным паграніччы. А памятаючы яшчэ і пра эфіопскае паходжанне А. С., чытаючы цяпер яго на трох мовах адразу, хораша адчуваецца агульналюдскае… (С. 56).

Гэтымі днямі перачытваў "Крейцерову сонату" і "Казкі жыцця".

У Коласа, дзе розум сэрца, там найлепш. Шчасце любавання роднай прыродай, якая натуральна наводзіць аўтара на высокія, вечныя думкі. Адхіленні ў палітыку і літаратурнасць, якіх – на шчасце – мала, пагоды не робяць. А паэзіі ў гэтай прозе больш, чым у натужным ці распрэжаным рыфмаванні апошніх паэм і вершаў, Мова, дзе яна – пераважна – не "гарадская", не "вучоная", а па-народнаму, па-сялянску простая, чыстая, дакладная, з жывінкамі гумару, там чытаецца, можна сказаць, з асалодай.

Над Талстым – зноў здзіўленне сілай і дакладнасцю падачы слова. Закарэлымі струпамі на толькі што адкрытым лобе бачацца, адчуваюцца евангельскія эпіграфы і перад гэтай аповесцю, і перад "Дьяволом". Аўтар – такі заўсёды самастойны – тут як бы хрысціцца, то на каленях, то пластом, і адхрысціцца не можа, бо позна. А іншыя рэчы, у тым самым томе, "Смерть Ивана Ильича", "Хозяин и работник", "Отец Сергий", не менш глыбока значныя, да якіх можна было б падабраць святыя эпіграфы, абыходзіцца без іх. А яшчэ і недаўменне, што да балючапалкай "Крейцеровой сонаты" патрэбна растлумачальнае пасляслоўе, перачытваць якое не захацелася (С. 58).

* * *

Калі чытаеш цікавую, таленавітую рэч, дык і жыццё мае разумны сэнс.

Як у мяне цяпер, чытаючы ў "Крыніцы" незнаёмага дасюль немца Зюскіода – "Басэтля" (С. 68).

* * *

Тупіковыя моманты, калі становіцца ясна, што ты не ўсё прачытаў, што варта прачытаць, што можа быць цікавым і патрэбным у пажыццёвай вучобе, абавязковай для літаратара.

Так я, каб не пакутваць ад пустаты душы, успомніў прывезеныя Хрысцяй Лялько экземпляры яе часопіса "Наша вера", уступна ды павярхоўна прагледжаныя ў тыя дні, калі ў мяне сабралася многа чаго чытаць, і пастаўлены на паліцы, на "крыху пазней". Успомніў перш за ўсё артыкул Уладзіміра Конана пра ксяндза Адама Станкевіча. З цікавасцю прачытаў яго, успамінаючы Валянціна Таўлая.

Бывае і так, што нешта ў часопісе або ў газеце апускаеш таму, што здаецца неабавязковым для прачытання. Так з двух апошніх "ЛіМаў", прывезеных разам, я прачытаў артыкул Гардзея, а цяпер, апынуўшыся ў даўно знаёмым стане чытацкага тупіка, пачаў і гэта чытаць, а ўчытаўшыся, і задумаўся пра Віктара, сёе-тое прыгадаўшы. Скажам, тое, як я, чытаючы ў Калеснікаў, па Валодзевай рэкамендацыі чытаў Гардзеевы вершы.

Раніца мая нечакана запоўнілася цікавым чытаннем, з якога вартым светлай памяці ўбачыліся святар і паэт у адным выпадку і два паэты ў другім (С. 82).

**Янка Брыль. Радыёўспамін. 1995 год.**

…Сёння, ідучы сюды (на Беларускае радыё, каб сказаць слова пра Пысіна. – *В. А.*), узяў чырвоны двухтомнік Аляксея, падараваны мне з сяброўскім надпісам, і паглядзеў вершы. Ёсць такі звычай, чытаючы, у іншым месцы, дзе асабліва нешта ўразіць, падабаецца, акрэсліць ці нават паставіць клічнікі. Сёння я аглядаў гэтыя клічнікі, праз пятнаццаць гадоў пасля першага чытаня.

Пысін (…) будзе заўсёды, пакуль будзе Беларусь. І чым далей – будуць пазнаваць яго сапраўдныя знаўцы… Можа, не тое слова: «знаўцы», бо калі малады чалавек, хлопец ці дзяўчына, з чыстай душой захоплена чытае паэзію, то гэта яшчэ не знаўца, гэта душэўны кантакт. Гэты кантакт заўсёды будзе адчувацца ў нашым народзе, і ўсе, хто мае права сказаць: «Я ведаю беларускую паэзію, – будуць мець сапраўдную асалоду ад сустрэч з яго словам, словам Аляксея Пысіна».

**Янка Брыль. Старонкі чытацкага дзённіка**

(Брыль Я. Выбраныя творы ў 3-х тамах. – Т. 3. – Мн.: Маст. літаратура. – 1993. – 654 с.).

Прачнуўся я з вершам Сурначова "У стоптаным жыце". Ад Колі Аўрамчыка пачуў, калі і дзе напісаны гэты верш, – у сорак першым, у дні трагічнага адступлення, але чамусьці не з Колем гэта спалучалася, а з Пысіным (С. 604).

Перачытаў яго, устаўшы, аднак не адразу ў арыгінале, а ў перакладах Дзімы Кавалёва і Твардоўскага.

Тады яшчэ ў Твардоўскага перачытаў "Я знаю, никакой моей вины…" Ягонае "но всё же… всё же, всё же…" часта апошнімі днямі абуджаецца ў душы. Калі гляджу фільмы з дакументальнымі кадрамі, калі чытаю, слухаю праўду вайны, усё болей уяўляю яе маштабы.

А тут узнагароды тым, што засталіся, каму пашэнціла выжыць, дажыць, высокія ўзнагароды – навалам… (С. 605).

* * *

Прыгожае, высокае, глыбокае – тое, што не вельмі дакладна завецца класікай – успрымалася мною на пачатку жыцця з выключнай сілай свежасці. Чытанне чаргавалася з сялянскай, хлебнай працай, краса слова, што ўражала мяне, – з красой прыроды, сярод якой я жыў. І гэта ачышчала душу высокародствам. На свежую галаву, на чыстае сэрца (С. 628–629).

**Пасляслоўе**

І гэта далёка не ўсё, што пакінуў нам таленавіты пісьменнік пра кнігі, пра сваё чытанне і перачытванне іх. Ды нават з гэтых ягоных нататак яскрава бачны Янка Брыль – чытач у поўны рост, што дае права назваць яго чытачом нумар адзін у Беларусі, і не толькі. Чытанне ім кніг на роднай, на рускай, на польскай, на ўкраінскай мовах вельмі ўжо ўзрасціла і абагаціла моўны запас пісьменніка. Таму мова яго твораў бліскучая, як промні сонца, чысцюткая, як ранішняя раса, яна наталяе смагу чытання, як у летнюю спякоту смагу вандроўніка наталяе празрыстая і чыстая крынічная вада. Таму брылёўская проза і сёння з'яўляецца ўзорам для маладых пісьменнікаў.

Іван Антонавіч меў паўсядзённы клопат і трывогу аб захаванні і ўзбагачэнні роднай мовы. Пацверджаннем мною сказанага з'яўляюцца яго радкі з нататкі **"Толькі бліжэй"**, надрукаванай у газеце "Літаратура і мастацтва" ад 4 студзеня 1985 года на старонках 8 і 11. І радкі гэтыя

гучаць як запавет патрыярха беларускай літаратуры сённяшнім маладым творцам:

“Нам трэба літаратурная мова. Як у рускіх – “великий, могучий, правдивый и свободный русский язык!” Пішам. Хто адкуль сюды, у цэнтр нашай зямлі, прыйшоў, прынёс сваю мову, мову родных мясцін. Куды і цяпер ён часта вяртаецца да мовы сваёй. У прозе – па добраму прыкладу Івана Мележа. Узбагачайма яе, нашу літаратурную мову, голлем, лісцем, кветкамі, пладамі, насеннем мясцовых гаворак, але ж памятайце, дбайма і пра ствол і пра карэнне дрэва нашай роднай літаратурнай мовы”.

“Днямі зноў думалася пра крыніцу – матчыну мову, якой служу і буду служыць як першааснове выхаду ў агульналюдское. І не таму, што без гэтага мяне не будзе, а таму, што толькі так, толькі кожны ад свайго, ад сыноўнай любасці, ад мудрай пашаны да свае крыніцы, да свайго карэння па-сапраўднаму выходзяць да ўсіх людзей”.

Вядомы літаратурны крытык Варлен Бечык напісаў мне ў адным з аўтографаў: “Кнізе патрэбен чытач – разумны, шчыры, апантаны жаданнем расці, багацець маральна, духоўна”. Менавіта такім чытачом быў Янка Брыль. Кніга дапамагала яму разумець сябе, людзей, свет, а ягоная душа заўсёды была сам-насам з кнігай і неразлучная з ёй.

Спадзяюся, што маё міні-даследванне пра культуру чытання Янкі Брыля – гэта першая ластаўка, і вучоныя кнігазнаўцы-мінчукі працягнуць пошукі і зробяць ужо навуковыя даследванні як пра дамашнюю бібліятэку пісьменніка, так і па тэме “Янка Брыль – чытач”.

*Сакавік – красавік 2015 г.*

# АЎТОГРАФЫ

## ЯК ПАВЕТРА, ЯК ХЛЕБ І СОНЦА

Кніга – гэта архіў слоў і мастацтва, гэта акно ў свет і падмурак культуры, яна як паветра, як хлеб і сонца, яна вечная крыніца ведаў.

Так сцвярджаюць вялікія вучоныя, так сцвярджаюць мудрыя людзі – пісьменнікі ўсіх краін свету. Так гавораць нашы вядомыя літаратары. Яшчэ на зары беларускага кнігадрукавання Францішак Скарына паведаў свету, што ў кнігах "сабрана мудрасць, як моц у каштоўным камяні, як золата ў зямлі, як ядро ў арэху". Народны пясняр Янка Купала прызнаваўся, што кнігі разбудзілі ў ім фантазію, а Якуб Колас нагадаў нам, што беларуская кніга павінна выхоўваць у вучняў любоў да чалавека і яго працы, павінна вучыць правільна гаварыць і пісаць. Максіму Танку любы дом без кніг здаваўся цёмным і сумным. А для Петруся Броўкі кнігі – акіян бяздонны. Паэт і грамадскі дзеяч Беларусі Цішка Гартны ёмка адзначыў: "Кніжка, кніжка, кніжка! На ёй трымаецца культура, а на культуры – усё іншае".

У канцы сямідзясятых і амаль ўсе васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя я пастаянна ладзіў сустрэчы магілёўцаў з беларускімі пісьменнікамі. Разам з іншымі пытаннямі мяне цікавілі думкі літаратараў пра кнігу і яе ролю ў нашым жыцці. Гэтыя выказванні-экспромты, запісаныя іх уласнай рукой, я збіраў у якасці аўтографаў. Іх аказалася некалькі дзясяткаў. Збольшага з іх прапаную чытачам свайго зборніка. Друкуюцца ўпершыню.

**Аўтографы пісьменнікаў**

Кніга – гэта шчаслівае імгненне адкрыцця свету і сябе ў гэтым свеце як істоты, якая можа адчуць і зразумець незвычайнае, прыгожае.

Кніга – гэта магчымасць заўсёды перажыць узрушанасць, радасць далучэння да вялікага, нібы зноў адкрытага свету, у якім ты зноў нараджаешся, сталееш, жывеш.

*15 студзеня 1978 г. Аляксей ПЫСІН*

З кнігі, з бібліятэкі пачынаецца навука. А без навукі немагчымы прагрэс чалавечага грамадства, у тым ліку развіццё цывілізацыі.

*17 верасня 1978 г. Іван ЦІШЧАНКА*

Так, кніга – гэта святло, але разам з тым яна, на жаль, часта і цемра. Колькі шкоды прыносяць хлуслівыя, непраўдзівыя кнігі!

*20 кастрычніка 1978 г. Кастусь ЦВІРКА*

Хочаш мець сабе мудрых настаўнікаў і дарадчыкаў – напішы някепскаую кніжку. І будуць вучыць…

*2 лютага 1979 г. Фёдар ЯНКОЎСКІ*

Успамінаецца і такое – хата без кнігі, што галава без розуму. Хачу, каб кніга прыбаўляла кожнаму і розум і асалоду.

*4 красавіка 1979 г. Павел КАВАЛЁЎ*

Самае каштоўнае дасягненне чалавецтва – добрая кніга… Разумная кніга вядзе чалавецтва да новага, духоўнага, культурнага і тэхнічнага прагрэсу.

*6 красавіка 1979 г. Мікола ГРОДНЕЎ*

Для мяне кніга – не толькі крыніца ведаў, пазнання свету і жыцця, але і настаўнік, і натхніцель, якія зрабілі і робяць мяне літаратарам, пісьменнікам, журналістам. Кніга і чытанне для мяне як паветра, як сонца і само жыццё…

*7 мая 1979 г. Сцяпан КУХАРАЎ*

Бібліятэка пачынаецца не там, дзе ёсць будынак і кніжны фонд, а там, дзе застаюцца сам-насам кніга, бібліятэкар і душа чытача. Душа…

*24 мая 1979 г. Даір СЛАЎКОВІЧ*

Пра кнігу я скажу адно – яна ў шырокі свет акно.

*25 мая 1979 г. СЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ*

…Мы, людзі, чытачы, – абавязаны паважаць кнігу як найвялікшы чалавечы цуд. Каштоўнасць кнігі ў тым, што яна “збірае” чалавека, факусіруе яго светапогляд.

*22 кастрычніка 1979 г. Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ*

Змест кнігі – унутраны змест самога аўтара.

*22 мая 1980 г. Іван ШАЛЬМАНАЎ*

Самая мудрая кніга тая, якая адкрывае чытачам чалавека і ўзвышае яго. Адкрываць жа людзям людзей можна бясконца.

*15 жніўня 1980 г. Васіль ЯКАВЕНКА*

Кожны новы чалавек, кожная сустрэча з чалавекам, знаёмства з яго біяграфіяй – як новая найцікавая кніга. Але перавага ад знаёмства з кнігай у тым, што мы маем магчымасць пазнаёміцца з выдатнымі людзьмі, біяграфіямі – за адзін-два вечары. З чалавекам – каб пазнаць яго, засвоіць яго вопыт, яго думкі, – трэба пражыць гады. У гэтым – цудоўная місія кнігі на зямлі.

*24 кастрычніка 1980 г. Анатоль ШАЎНЯ*

Лёс кнігі залежыць часта не толькі ад аўтара. У значнай ступені яшчэ і ад шчырага прапагандыста літаратуры.

*21 лістапада 1980 г. Алесь ШАШКОЎ*

Кніга – найвялікшая скарбніца ведаў. Яна даступна ўсім. Але не ўсім дадзена карыстацца ёю.

*17 студзеня 1981 г. Яўген ВЕРАБЕЙ*

Кнізе патрэбен чытач – разумны, шчыры, апанаваны жаданнем расці, багацець маральна, духоўна. Чытачу патрэбна кніга разумная, вартая яго, такая, каб дапамагала глыбей разумець сябе, людзей і свет. Хай будуць такія чытачы і такія кнігі.

*17 лютага 1981 г. Варлен БЕЧЫК*

Жыве ў сэрцы радасць – гэта кніга, натхненне ад прыгажосці свету – гэта кніга: веданне бездані вякоў і адчуванне іх – Кніга.

*17 лютага 1981 г. Вольга ІПАТАВА*

Кніга – першая, моцная, нязменная – на ўсё жыццё любоў мая… І сам пішу, каб у людзей было як мага больш такіх сяброў.

*17 лютага 1981 г. Артур ВОЛЬСКІ*

І ў наш век радыё і тэлебачання кніга застаецца незраўнаным дарадчыкам, субяседнікам і другам. У адрозненне ад сваіх сучасных элек-

тронных гаваркіх канкурэнтаў кніга ўмее змаўкаць і ў патрэбны момант зноў уступаць у гутарку-размову з чытачом. У гэтым яе сіла духоўнага кантакту, яна – незаменная.

*27 мая 1981 г. Уладзімір КАЛЕСНІК*

Чалавек заўсёды марыць, імкнецца да мэты. У імкненні да мэты – сэнс і шчасце жыцця. Кніга, добрая кніга, дапамагае нам набліжаць запаветныя мэты, здзяйсняць нашы мары аб шчасці і рабіць нас шчаслівымі.

*31 мая 1981 г. Якуб УСІКАЎ*


Кніга для мяне – я
свята і натхненне, аса
кніга цікавая і разум
Адчуваю, што нават бы
дарэмна пражыты дзен
калі б не звярталася д
паэзіі, да прозы, якія з
сёды выклікаюць і сва
асабістыя адносіны да
жыцця, да чалавека. Любіц
кнігу мала. Трэба пом-
ніць яе, каб не паўтараць
памылак.

Яўгенія Янішчыц
17.VI.1981 г.

Кніга для мяне – як свята і натхненне, асабліва кніга цікавая і разумная. Адчуваю, што нават быў бы дарэмна пражыты дзень, калі б не звярталася да паэзіі, да прозы, якія заўсёды выклікаюць і свае асабістыя адносіны да жыцця, да чалавека. Любіць кнігу мала. Трэба помніць яе, каб не паўтараць памылак.

*17 чэрвеня 1981 г. Яўгенія ЯНІШЧЫЦ*

Малады чалавек і кніга. Я б не рызыкнуў адбіраць такому чытачу кнігі па тэматыцы, яму патрэбна кніга высокамастацкая, таленавітая і хай абміне кніга пустая, без адзнакі таленту. Сёння, мо як ніколі раней, патрэбна кніга, якая б змагалася за маладую душу, за яе чысціню і вышыню.

*22 кастрычніка 1981 г. Віктар КАРАМАЗАЎ*

Шчаслівы чалавек, які любіць кнігу… Яна – наш верны сябар, разумны, шчыры і добры спадарожнік.

*16 лютага 1982 г. Мікола МАЛЯЎКА*

Кніга – хараство жыцця!

*25 лютага 1982 г. Алесь СТАВЕР*

У кнігу чалавек можа глядзецца, як у люстра, можа, як з крыніцы, чэрпаць асалоду жыцця.

*25 лютага 1982 г. Мікола ГАМОЛКА*

Кніга – гэта радасць.
Кніга – гэта сум.
Праз жыццё я ў сэрцы
Кнігу пранясу…

*20 сакавіка 1982 г. Віктар ШЫМУК*

Кніга – вялікі цуд чалавечага розуму, скарбонка мудрасці. Хай у кнігі будзе добры чытач!

*12 мая 1982 г. Леанід ЛЕВАНОВІЧ*

Для мяне кніга з'яўляецца галоўным дарадчыкам у жыццёвых дарогах. Да кнігі адношуся з любоўю і пашанай.

*13 мая 1982 г. Яраслаў КЛІМУЦЬ*

З кнігай у мяне звязана біяграфія, ці – наадварот. Я вельмі разумею Твардоўскага, які звяртаўся да маладых аўтараў: "Братцы, рабіце біяграфіі!"

*30 чэрвеня 1982 г. Аляксей КАРПЮК*

Чытаю ўвесь час, кожную хвіліну. Кніга для мяне стала неабходнасцю. Як хлеб. Без добрай кнігі не ўяўляю жыцця, свайго жыцця.

*17 лютага 1983 г. Алег САЛТУК*

…З самага ранняга дзяцінства я ўвайшоў у свет кнігі. І застаўся ў ім…

*24 сакавіка 1983 г. Казімір КАМЕЙША*

Кніга – гэта вечна новы свет, у якім чалавек заўжды застаецца ўсемагутным і бессмяротным. Чытаць – значыць пранікаць у гэты дзівосны свет.

*21 красавіка 1983 г. Яўген РАДКЕВІЧ*

Паэзія – святло, якім хочацца падзяліцца з людзьмі.

*1985 г. Нэла ТУЛУПАВА*

Прыгожае, высокае, глыбокае – тое, што не вельмі далікатна завецца класікай – успрымалася мною на пачатку жыцця з выключнай сілай свежасці. Чытанне чаргавалася з сялянскай, хлебнай працай, краса слова, што ўражвала мяне, – з красой прыроды, у якой я жыў. і гэта ачыш-

чала душу высакародствам. На свежую голаву, на чыстае сэрца.

*1985 г. Янка БРЫЛЬ*



Прыгожае, высокае, шыро-
кае — тое, што не вельмі да-
кладна завецца класікай —
ўспрымалася мною на пачат-
ку жыцця з вялікаю сілай
свежасці. Чытанне чаргавалася з
сялянскай, хлебнай працай, краса
слова, што ўражвала мяне, — з кра-
сой прыроды, у якой жыў. І гэта
ачышчала душу высакародствам.
На свежую голаву, на чыстае
сэрца.

Янка Брыль

1985

Мастацкая літаратура абудзіла маю душу, асвятліла яе, надзяліла верай у высакародныя ідэалы ў чалавеку.

Кніга была маім адзіным верным спадарожнікам, дарадчыкам, сябрам і выхавацелем. Без кнігі я вырас бы дзікуном.

Класікі мастацкай літаратуры гэта богі, чарадзеі, якія сеюць дабро і надзею, любоў і праўду; якія абараняюць прыніжаных, абяздоленых, слабых, ранімых. Слава творцам мастацкага слова!

*12 снежня 1985 г. Эдуард ВАЛАСЕВІЧ*

Няхай заўсёды гучыць на зямлі Беларусі мужная і шчырая паэзія Аляксея Пысіна – сапраўднага паэта!

*12 ліпеня 1988 г. Рыгор БАРАДУЛІН*

Кажуць, кніга можа знікнуць у наш камп'ютарны час. Але сапраўдная, мастацкая і праўдзівая – не, пакуль будзе жыць чалавецтва і яго прага справядлівасці і праўды.

*11 красавіка 1989 г. Эрнэст ЯЛУГІН*

Я не ўяўляю жыццё без кнігі, асабліва, калі гаворка заходзіць аб духоўным і культурным свеце чалавека.

Кніга – духоўны пачатак.

*14 сакавіка 1990 г. Віктар ХАЎРАТОВІЧ*

Кніга – вялікі цуд чалавечага розуму, скарбонка мудрасці… Хай у кнігі будзе добры чытач!

Кніга – адно з самых выдатных знаходак чалавецтва, якая прыносіць асалоду, веды і шчасце.

*25 мая 2000 г. Радзім ГАРЭЦКІ*

"Вянок" М. Багдановіча, "Матчын дар" А. Гаруна, "Шляхам жыцця" Я. Купалы, "Ад родных ніў" Л. Геніюш – вось мае літаратурныя ўніверсітэты, прыступкі, па якіх я падымаўся ў храм Беларушчыны.

*19 кастрычніка 2000 г. Міхась СКОБЛА*

У кнізе ёсць нешта містычнае – мы ж дасюль не ведаем, адкуль узяліся літары. І ёй быць заўсёды!

*27 красаваіка 2001 г. Вольга ІПАТАВА*

Кніга ў маім бачанні – гэта жывое лучво чалавека з Вышнім светам, адкрыццё сябе ў Вечнасці.

*17 лютага 2003 г. Антаніна ХАТЭНКА*

Кніга – гэта мастацтва, гэта гісторыя, архіў, гэта слова, гэта код нацыі.

*19 чэрвеня 2003 г. Зміцер ГЕРАСІМОВІЧ*

Вялікая справа ў жыцці напісаць Кнігу. Вялікая справа – напісаць Кнігу Жыцця паэта. Напісанае Віктарам Іванавічам пра Аляксея Пысіна не пакіне раўнадушным наступнае пакаленне беларусаў. Дзякуй Вам вялікае.

*30 ліпеня 2004 г. Таццяна ХОМІЧ*

Дарагі Віктар Іванавіч!

З хваляваннем і душэўнай радасцю пішу ў Вашай кнізе гэтыя радкі ўдзячнасці, глыбокай пашаны да выдатных людзей нашай Беларусі – Аляксея Васільевіча Пысіна, Валянціна Іванавіча Ермаловіча. Дзякуй слаўным людзям за роднае слова, за цеплыню і шчырасць, за высокі талент!

Дзякуй і Вам за ўспаміны, за памяць, за сардэчнасць!

*3 красавіка 2005 г. Сяргей ЗАКОННІКАЎ*

*Студзень 2005 г.*

## ШЭСЦЬ АЎТОГРАФАЎ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

Сёлета, у верасні, мог бы святкаваць сваё 90-годдзе Фёдар Янкоўскі – вядомы ў Беларусі і ва ўсім славянскім свеце мовазнавец, які даследаваў фанетыку, арфаэпію, лексіку, лексікаграфію, граматыку беларускай народнай і літаратурнай мовы, яе гісторыю. «Беларускае літаратурнае вымаўленне», «Сучасная беларуская мова», «Гістарычная граматыка беларускай мовы», «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеа-

лагізмы», «Дыялектны слоўнік» (тры выпускі) – гэтыя і іншыя навуковыя працы, яго неаднаразова перавыдаваліся, прынеслі яму не толькі званне доктара філалагічных навук, але і вялікую рэпутацыю сярод славістаў.



Па-народнаму глыбока і мудра засведчыўся ён у зборніках прозы і літаратурпых мініяцюр «Абразкі», «І за гарою пакланюся», «Само слова гаворыць». Ён меў вялікі аўтарытэт не толькі як слынны навуковец, але і як цікавы чалавек – суразмоўца, як былы партызанскі разведчык.

Не помню дакладна, у 1960-м ці ў 1961 годзе, працаваў я на той час метадыстам Магілёўскай абласной бібліятэкі. Стрыечны брат, выкладчык беларускай мовы Магілёўкага педагагічнага інстытута Мікалай Сяргееў сказаў мне: «Ты любіш прыказкі і прымаўкі. Напішы ў газету, што няма ў кнігарнях ніводнай кніжкі з беларускімі прыказкамі і прымаўкамі, а яны ж вельмі карысныя і патрэбныя людзям». І расказаў, што ў Мінску жыве і працуе яго добры прыяцель Фёдар Янкоўскі. Некалькі гадоў таму ён выдаў кніжку беларускіх прыказак і прымавак, але яе ўжо нідзе сёння не знойдзеш. Аўтар звяртаўся ў выдавецтва, каб зрабіць другое, дапоўненае выданне, але там адмовілі, сказалі, што такое выданне не вельмі актуальнае.

– Падтрымай яго, Віктар, – сказаў брат.

І я напісаў адпаведны ліст, здаецца, у «ЛіМ». Яго надрукавалі. На жаль, публікацыя ў мяне не захавалася. Праз нейкі час Мікалай Якаўлевіч перадаў мне ўдзячнасць пісьменніка і добрую вестку ад яго: другое, дапоўненае выданне ўключана ў план выдавецтва. А ў канцы студзеня 1962 года мяне напаткала радасць: паштальён прынёс бандэроль. На ёй зваротны адрас: Мінск-5, Чырвоная, 16-24, Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Зняў абгортку. На вокладцы кніжкі назва – «Пытанні культуры мовы». На тытульным аркушы зялёнымі чарніламі аўтограф: «Віктару Іванавічу Арцем’еву з падзякаю, з пашанаю. Ф. Янкоўскі 14 студзеня 1962 года». Я, бібліятэкар, меў ужо некалькі кніг з аўтографамі (Аляксея Пысіна, Антанаса Венцлавы, Івана



Шамякіна і інш.), але і гэты быў мне дарагі. Праз Сяргеева перадаў шчырую падзяку Фёдару Міхайлавічу. Не скончыўся год, а я атрымаў другую кніжку – «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы». На тытульным лісце зверху новы аўтограф. Абедзьве гэтыя кніжкі ой як спатрэбіліся мне, бо часта выкарыстоўваў іх для допісаў у мясцовыя і рэспубліканскія газеты, для напісання бібліятэкарам вобласці рэкамендацый, абагульнення вопыту іх працы.

У 1965 годзе паступіў вучыцца на завочнае аддзяленне бібліятэчнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута. На перапынку паміж лекцыямі падышоў да мяне незнаёмы, крыху за мяне старэйшы, з лагоднай усмешкай мужчына і загаварыў на чысцюткай беларускай мове. Калі ён назваўся, то я радасна ўсклікнуў:

– Дык я добра ведаю Вас! Вы мне дзве кніжкі з аўтографам падарылі!

І мы з таго дня, як я прыязджаў на сесію, часта сустракаліся, гутарылі. Гаворка была найбольш пра жыццё. Мне падабалася, што Фёдар Міхайлавіч – вучоны, прафесар, загадчык кафедры мовазнаўства, вядомы пісьменнік – падае мне руку, звяртаецца да мяне як даўні сябра, уважліва слухае, шчыры, адкрыты, просты і сціплы. Студэнты такіх любяць і паважаюць. Я па-добраму зайздросціў тым, хто слухаў яго лекцыі, хто ў яго вучыўся. Фёдар Міхайлавіч пытаўся пра знаёмых у Магілёве, цікавіўся, як мне працуецца. У апошні год майго навучання Фёдар Міхайлавіч падарыў мне новую кніжку – «Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне». На фарзацы надпіс: «З пажаданнем усяго добрага Віктару Арцем’еву. Ф. Янкоўскі. Мінск. 20.6.1969».

Пасля не бачыліся амаль дзесяць гадоў. У верасні 1978 года я паслаў Фёдару Міхайлавічу віншавальную паштоўку з нагоды яго 60-годдзя. Неўзабаве атрымаў ад яго запрашэнне на юбілейнае пасяджэнне Савета філалагічнага факультэта педінстытута. У Мінск я не ездзіў. За некалькі тыдняў да новага, 1979 года, я паслаў Фёдару Міхайлавічу навагодняе віншаванне, пажадаў яму добрага здароўя і плёну ў творчасці, а ў канцы дадаў: «Я рады, што Вы ёсць!» Відаць, маё віншаванне запала ў сэрца пісьменніка, бо ў адказ ён напісаў: «Дарагі Віктар Арцем’еў! З Новым годам Вас, Вашых родных, блізкіх! Мне і сёння цёпла на душы – атрымаў Ваша слова віншавання, пажадання. Рады, што Вы ёсць. Рады, што не змяншаецца на Беларусі народ, хто не хлебам адзіным жыве чалавек.

Будзьма! Шчыра. Ф. Янкоўскі».

А недзе праз месяц наведаўся я па розных справах у сталіцу і пазваніў па тэлефоне Фёдару Міхайлавічу. Ён з радасцю адгукнуўся, але з сумам адзначыў, што прастуджаны, і вечарам сустрэцца мы не можам. Але зможам заўтра ў інстытуце, куды ён прывязе новую кніжку. І мы сустрэліся, цёпла павіталіся. Шыя ў яго была абвязана шарсцяной хусткай.

– Моцна хвароба мяне прыхапіла, але ўжо праходзіць, – сказаў ён.

Пасля дастаў з партфеля кніжку «Абразкі» і сваім прыгожым каліграфічным почыркам падпісаў: «З пажаданнем здароўя і плёну ў працы на ніве роднай асветы Віктару Арцём’еву. Шчыра. Ф. Янкоўскі. 2.2.79 г.».

Упершыню мы вялі гаворку доўга, не меней гадзіны. І не толькі пра жыццё, як было раней, але і пра мову і літаратуру. Узгадалі некаторых пісьменнікаў (я працаваў па сумяшчальніцтве карэспандэнтам-арганізатарам бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў). У мяне быў з сабою альбом пісьменніцкіх аўтографаў, і я паказаў яго суразмоўцу. Фёдар Міхайлавіч зацікавіўся запісамі і даў згоду пакінуць свой аўтограф. На адну-дзве хвіліны задумаўся, а потым загадкава ўсміхнуўся і не спяшаючыся акуратна напісаў: «Хочаш мець сабе мудрых настаўнікаў і дарадчыкаў – напішы някепскую кніжку. І будуць вучыць… Ф. Янкоўскі. 2.2.79 г.» Я прачытаў. Мне тут не ўсё было ясна, але я змаўчаў. Ды Фёдар Міхайлавіч, тонкі псіхолаг, паглядзеўшы на мяне, патлумачыў:

– Аднаго разу ў «ленінцы» сустрэў Івана Мележа ў кепскім настроі. Ён паскардзіўся, што яго настырна павучаюць пісьменнікі, якія самі не напісалі нічога талковага. «Вось толькі што N. сказаў мне, што каб я Ганну аддаў замуж за Васіля, то раман «Людзі на балоце» быў бы яшчэ лепшы…» Бачыш, напішы добрую кнігу, і пачнуць цябе вучыць…

Больш нам сустрэцца не выпала. Вестка, што Ф. Янкоўскі пайшоў у свет іншы, балюча прайшлася па струнах майго сэрца. Беларусь страціла выдатнага сына, таленавітага «золаташукальніка» і прапагандыста роднай мовы, цікавага апавядальніка, мудрага педагога, светлага чалавека. Ды суцяшае, што багата жыве яго вучняў, якія доўжаць яго

асветніцкую справу. А яшчэ жывуць яго творы, яны і сёння служаць і доўга будуць служыць людзям, каб наша родная мова гучала на ўсю моц у кожнай хаце і ва ўсім свеце.

З некалькіх соцень аўтографаў пісьменнікаў, якія ў мяне ёсць, гэтыя шэсць Фёдара Янкоўскага вельмі дарагія і памятныя. Нярэдка бяру ў рукі зборнікі, зірну на бездакорны каліграфічны почырк аўтара – і перад вачыма паўстае велічная постаць пісьменніка, вучонага і блізкага мне чалавека.

*Лістапад 2008 г.*

## ПЯЦЬ ЛІСТОЎ А. В. ПЫСІНА

Знаёмства маё з Аляксеем Васільевічам Пысіным адбылося вясной 1955 года: ён працаваў рэдактарам Чэрыкаўскай раённай газеты "Сацыялістычная перамога", а я – загадчыкам аддзела культуры райвыканкама. У 1957 і 1958 гадах я працаваў у Магілёве ў абласным упраўленні культуры інспектарам па бібліятэках. Паэт А.В. Пысін у гэтыя гады вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

**Ліст першы**

Дарагі Віктар Іванавіч!

Перад самым ад'ездам да мяне завітаў Аляксей Іванавіч Пячорын[1]. Мы з ім на скорую руку адзначылі і сустрэчу, і 40 год савецкай улады. Ён сказаў, што вы з ім паслалі мне віншавальную тэлеграму. Сёння, 14 лістапада, я атрымаў яе і ад шчырага сэрца дзякую за добрыя пажаданні. У Чэрыкаве быў 10 дзён, з 3 па 13 лістапада. Там усё па-ранейшаму. Лугаўцоў[2] убіўся ў ласку да начальства і не хоча ні з кім знацца, задраў нос вышэй коміна. Ліха з ім. Тады-сяды на вочы мне трапляе "Літаратура і мастацтва" і я чытаю твае матэрыялы, і адначасова радуюся, што ты, як і раней, актыўны і бадзёры.

Пра сябе, здаецца, асабліва чаго няма расказаць. Другі год вучуся, куды пасля – не ведаю, можа, у Магілёў, можа, у Мінск ці ў які-небудзь іншы Чэрыкаў. Будзе відаць. Летам сустрэнемся.

---

[1] Пячорын Аляксей Іванавіч – інжынер-паліграфіст абласнога ўпраўлення культуры, А.В. Пысіна і мой сябра.

[2] Лугаўцоў Валерый Канстанцінавіч у Чэрыкаве ў пачатку 1956 года замяніў мяне на пасадзе загадчыка аддзела культуры райвыканкама.

Здаў зборнік вершаў у Мінск і ў Маскву, пакуль нічога станоўчага не адказваюць. Усе выдавецтвы забіты пісанінай паэтаў, празаікаў, крытыкаў.

Віктар Іванавіч, калі можаш, вышлі мне Дняпро, бо прасіць нашу магілёўскую рэдакцыю – дарэмная справа, Пячорын абяцаў мне прысылаць: адзін прышле ён, другі – ты. Навошта два? Прасіў мяне Даніленка[3] з Гомеля, добры хлопец, каб яму – на памяць.

Прывітанне табе ад усіх нас, беларусаў, што тут вучацца на курсах і ў літаратурным інстытуце: усе мы пад адным дахам, у былым доме Герцэна. Калі табе што патрэбна – давай даручэнне, зраблю.

Перадай сардэчнае прывітанне Аляксею Іванавічу. Як яго камандзіроўка ў Чэрыкаў?

Жадаю добрага здароўя і поспехаў у тваёй асветніцкай дзейнасці.

14. XI-1957 г. Твой Аляксей

**Ліст другі**

Дарагі Віктар!

Шчыра табе ўдзячны за ўсё добрае, што ты зрабіў для мяне. 25-га прыплыло “Дняпро”, а сёння пісьмо.

Куранты толькі што прабілі дванаццаць. У пакоі цеплыня і святло, а на двары мароз, і ладны. Гэтыя дні бегаю, як перад нейкім кросам. У Чэрыкаве ж амаль нічога няма, і вось трэба ўсё знаходзіць тут, і паштовым “экспрэсам” накіроўваць сям’і: як-ніяк бацька трох дзяцей. Учора, напрыклад, гадзіны дзве парыўся ў чарзе за рукавічкамі.

Васіль Лук’янчык[4] можа і праў, што крытыкуе мой верш, але ён чапляецца не за тое. У Чэрыкаве, напрыклад, наборшчыцы, не гледзячы на ўсе прагрэсіўныя, перадавыя бязграначныя метады, стаяць за наборнымі касамі цэлымі начамі, А калі б не так, дык, думаеш, Аношкін[5] надрукаваў бы верш? Я яму неяк прачытаў, яму спадабалася і ён папрасіў, каб я пакінуў верш. Хай цяпер ён скажа, што, наборшчыцы ў яго працуюць толькі днём! “Наборшчыц”, напэўна, надрукуе часопіс “Беларусь”, абяцалі даць мой цыкл у бліжэйшых нумарах. Ці чытаў вершы ў “Беларусі” № 7 за гэты год? У “Маладосці” мае вершы будуць у № 2 за 1958 год. Штосьці павінен даць “Вожык”, абяцае надрукаваць тое-сёе “ЛіМ”. Быў верш у “Вясёлцы” № 8, але я сам не бачыў гэтага нумара.

[3] Даніленка Міхась, беларускі пісьменнік. У А.В. Пысіна з ім былі прыязныя адносіны і ў апошнія гады жыцця.

[4] Васіль Лук’янчык, журналіст, паэт з Мсціслава.

[5] Аношкін Іван Архіпавіч, беларускі пісьменнік, на той час працаваў рэдактарам Чэрыкаўскай раённай газеты. А.В. Пысін паважаў ягоную шчырасць і сумленнасць.

Заходзіў у Чэрыкаўскую бібліятэку. Фонкац[6] ператварыла яе ва ўстанову, у якой амаль не пахне культурна-асветніцкай работай. Усё на паперы. Сядзяць, менцяць языкамі, навадняюць Чэрыкаў рознымі чуткамі. А газет падшыць няма каму. Калі будзеш у Чэрыкаве, пацікаўся ты работай гэтай хвалёнай бібліятэкі. (…)

Назіраю цікавую з'яву: у Чэрыкаве ўсе ранейшыя "сябры" адварочваюцца ад мяне, нібыта ніколі і не ведалі, і ўжо сябруюць з …Чарняком[7]. (…)

Яшчэ месяц – і зімнія канікулы дзён на 40, калі не прыўрочаць іх да экскурсіі ў Ленінград. Шукаю для Аляксея Іванавіча шкларэз і паяльную лямпу: трэба, відаць, ехаць некуды на ўскраіну Масквы, у нядзелю ці ў другі які-небудзь свабодны дзень. Зборнік у Маскве плануюць на 1959 год. Самаадчуванне добрае, настрой бадзёры. Сумую толькі па сям'і.

Вось пакуль і ўсё. Моцна пацiскаю тваю чэсную руку, жадаю добрага здароўя і ўсяго найлепшага. Прывітанне, самае цёплае, Аляксею Іванавічу. Ад усіх маскоўскіх беларусаў.

28.XI-1957 г. Твой Аляксей

**Ліст трэці**

Дарагі Віктар Іванавіч!

Удзячны і ўсхваляваны з выпадку першамайскага вітання і добрых пажаданняў. Сёння, 9 мая, толькі прычаліў да Тварскога бульвара, прычаліў, таму што плыў поездам цэлыя суткі: бабруйскі аўтобус чамусьці забаставаў і не хоча ездзіць.

Улічваючы наш горкі вопыт[8] у дзень Савецкай Арміі, калі мы глядзелі салют з маленькага акенца праз двор Тварскога бульвара, сёння пайду раней на Красную плошчу і не буду пытацца ні ў якіх міліцыянераў. Гэта, калі хадзіў глядзець на Пушкінскую плошчу спутніка, дык адны глядзяць на поўнач, другія на поўдзень, А хтосьці нават звярнуўся да міліцыянера:

---

[6] Фонкац Рахіль Саламонаўна – загадчык Чэрыкаўскай раённай бібліятэкі.

[7] Чарняк Іван Захаравіч – інструктар Чэрыкаўскага райкама партыі. Яго інфармацыі ў газетах (і нататкі ў даклады начальству таксама) былі залішне хвалебныя і далёкія ад рэчаіснасці. На адной з нарад я сказаў пра яго: «Дыверсант савецкай прэсы». Не азваўся, у суд не падаў. А. В. Пысін пацiснуў мне руку і сказаў: «Ты хоць раз ды добра агрызнуўся».

[8] «Горкі вопыт…». 23 лютага 1958 г. , будучы ў Маскве на месячных курсах культасветработнікаў, заходзіў да А.В. Пысіна ў госці ў дом Герцэна, дзе ён жыў у час вучобы на Вышэйшых літаратурных курсах. Было багата аб чым гаварыць і мы не пайшлі глядзець салют на Красную плошчу, а любаваліся праз акно ў двор. Бачылі мала чаго…

– Ці праходзіў ён?

– Хто? – насцярожыўся паставы.

– Ды спутнік!

– На маім участку нічога не адбылося!!!

Апошняя фраза – гэта амаль па Чэхаву. А што пыталіся вось так, дык я чуў сваімі ўласнымі вушамі.

Віншую горача цябе з Днём Перамогі, адзначыць гэта свята ніколі не позна.

На адкрыццё Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі мае прыбыць Васіль Матэвушаў[9]. Я гаварыў з ім па тэлефону з Чэрыкава. Я вельмі заклапочаны, каб наладзіць яму дастойную сустрэчу на Беларускім вакзале.

Сідаровіч Мікола тады ж па тэлефоне – яму званіў Сёмкін – папрасіў, каб я сумесна з Сёмкіным напісаў матэрыял аб чэрыкаўскім лубіне. Дастатковых фактаў не было, і мы аказаліся ў цяжкім становішчы, але штосьці напісалі. Я прасіў Сёмкіна, каб замест майго прозвішча даў псеўданім: Віктар Івановіч. Прасачы там за «Магілёўскай праўдай» і прышлі мне выразку. Загаловак – «Дзе чэрыкаўскі лубін?»

Як вы з Аляксеем Іванавічам адзначылі дзень друку? Шчырае прывітанне Аляксею Іванавічу і яго сям’і. Ці купіў ён сабе туфлі?

Усяго найлепшага. Аляксей

9.V-1958 г.

**Ліст чацвёрты[10]**

Дарагі Віктар Іванавіч!

Пішу на хаду, дакладней на бягу – з вакзала. Еду ў Слаўгарад у камандзіроўку.

Дасылаю здымкі. Два здымкі аддаў Аляксею Іванавічу.

Жадаю добра адпачыць і набрацца новых сіл.

Усяго найлепшага.

1.IX-1958 г. Аляксей
Магілёў, вакзал.



**Віктар Арцем’еў і Аляксей Пысін. 1958 г.**

[9] Васіль Матэвушаў – паэт, адказны сакратар Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР.

[10] Апошнія два лісты (чацвёрты і пяты) адрасаваны на санаторый «Есентукі». Перад маім ад’ездам туды мы сфатаграфаваліся. Аляксей Васільевіч даслаў мне той здымак.

**Ліст пяты**

Дарагі Віктар Іванавіч!

У мяне ўсё па-ранейшаму. Зноў еду ў камандзіроўку, напэўна, у Крычаў, гэта значыць у Чэрыкаў з другога боку. Таму пісьмо маё будзе кароткае, дасылаю нумар газеты з паласой, якую рабіў у Слаўгарадзе.

Жыву без кватэры, як бяздомны жабрак, і проста свет робіцца няміла.

Жадаю табе добра адпачыць і набрацца новых сіл. Шчыра дзякую табе за пісьмо.

Прывітанне ад Пячорына.

Усяго найлепшага.

9. IX-1958 г. Аляксей
г. Магілёў.

Больш лістоў А.В. Пысіна ў мяне няма. Толькі некалькі паштовак у старых паперах. Жылі ў адным горадзе, бачыліся даволі часта. У апошнія пяць-шэсць гадоў сустракаліся ледзь не штодня.

## ЛІСТЫ І ПАШТОЎКІ ЯНКІ БРЫЛЯ



З першага прачытання ў пачатку пяцідзясятых гадоў аповесці “У Забалацці днее” маладога празаіка Янкі Брыля, ён стаў для мяне на ўсё жыццё любімым пісьменнікам. Яго проза праўдзівая і чыстая, як крынічная вада і ранішняя раса. Ды й мова яго твораў чысцютка народная, беларуская. Як ні ў каго іншага з пісьменнікаў, у радках ягоных твораў назапашана афарыстычнага мудраслоўя, маральнай чысціні і духоўнасці, любові да роднай зямлі і яе людзей. Яго творы з жыцця і яны вучаць жыццю. Лічу, што Янка Брыль быў і ёсць, поруч з Якубам Коласам, Патрыярхам беларускай літаратуры.

Пра Івана Антонавіча мне часта расказваў Аляксей Пысін. Яны сустракаліся на пасяджэннях праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, а яшчэ і літаратурныя вандроўкі ў іх былі сумесныя.

У сямідзясятых і на пачатку васьмідзясятых гадоў я колькі разоў бачыў Янку Брыля ў калідорах Дома літаратара, калі прыязджаў у Мінск у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР са справаздачай аб сустрэчах у Магілёве пісьменнікаў з чытачамі. Але пагутарыць ні разу не давялося. Аднаго летняга дня ўсё ж наважыўся папрасіць аўтограф у альбом "Пра кнігу і бібліятэку". І толькі хацеў падысці да яго, ды апярэдзіў мяне паэт Кастусь Кірэенка. Яны пра нешта загаманілі. Я адышоў у бок і стаў чакаць…А яны ўсё нешта абмяркоўваюць і абмяркоўваюць: 10, 15, 20 і ўжо амаль паўгадзіны. А я на цягнік у Магілёў спазняюся. Так і пайшоў…

У 90-х гадах я настойліва ўзяўся за "Вянок Аляксею Пысіну". У 2000-м годзе пачаў набор тэкстаў. Трэба было ўкласці колькі радкоў Янкі Брыля, а іх некалькі варыянтаў. Надумаў параіцца з ім. 30 ліпеня паслаў пісьмо і ў канверт паклаў нататку пра апошнія дні А.В. Пысіна. Іван Антонавіч адгукнуўся надзіва хутка і шчыра. Так пачалося наша ліставанне, якое доўжылася пяць з паловай гадоў. Па першым часе я звяртаўся да яго з пытаннямі, а як даведаўся ад Віктара Карамазава, што ў пісьменніка на сэрцы стымулятар, тады ўжо стаў пазбягаць лішніх яму клопатаў і віншаванні пасылаў толькі да вялікіх свят, ведаючы, што Іван Антонавіч чалавек абавязковы і не пакідае без адказу аніводнага ліста ды яшчэ, каб адразу ж паслаць, хаця б і некалькі радкоў.

Усе да аднаго лісты і паштоўкі Янкі Брыля – гэта і аўтографы, бо напісаны ад рукі. Друкуюцца яны па арыгіналу і без скарачэнняў упершыню.

5.08.2000 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

З цікавасцю прачытаў Ваша слова пра чалавека і паэта, блізкага і мне – Аляксея Пысіна. Добра, што Вы занялісяч "Вянком", і дай Бог, каб гэтая высакародная праца завяршылася выданнем кнігі.

Чытаў я тое, што Вы пісалі пра бібліятэку Аляксея Васільевіча, гэта таксама хочацца і трэба ведаць пра пісьменніка, якога цэніш, любіш.

Мне, вядома ж, прыемна, што ў "Вянку" знайшлося месца і для майго слова пра Пысіна. Пішу Вам не з Мінска, а з роднага Карэліцкага раёна, дзе ў мяне дамок на ўзгорку Налібокскай пушчы, на беразе Нё-

мана. Учора ўвечары сын прыехаў са сталіцы, прывёз пошту, у тым ліку і Ваша пісьмо, а заўтра здасць у Мінску гэтае маё. Такім чынам, у мяне няма тут магчымасці ўбачыць, ведаць, што з маіх выказванняў пра Пысіна Вы ўзялі, а што я мог бы падказць Вам узяць. Паглядзіце, калі ласка, у маім трохтомніку раздзел лірычных запісаў "Свае старонкі", – у 1981-м годзе, ці крышку пазней ёсць запіс пра нашу апошнюю сустрэчу з Аляксеем, калі ён, развітваючыся сказаў: "Хочацца ўнукаў панянчыць". Пісаць штосьці новае па заказу ці просьбе – гэта крыху не тое, чым запісанае па ўласнаму жаданню, і я згодзен на тое, каб Вы ўзялі, няхай сабе нямнога, але тое, што запісана ў свой час.

Што да маёй бібліятэкі. Яна была б вялікай ды па-свойму цікавай, – на мовах роднай, рускай, украінскай, польскай, – каб усе кнігі былі сабраны ў адным месцы. Аднак я лічу, што кніга, лепш за ўсё павінна працаваць, чытацца (вылучыў Янка Брыль. – *В. А.*).

Значную колькасць кніг на польскай і ўкраінскай мовах я гадоў некалькі таму назад падараваў у бібліятэку Скарынаўскага фонда, частку падараваў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў, многа кніг пакінуў сыну і ўнукам, калі мы з жонкай адсяліліся ад іх (на вуліцу Дразда, а не Драздова, як Вы напісалі), а зноў жа многа кніг з аўтогроафамі перадаў у дзяржаўны архіў-музей і ў навуковую бібліятэку Акадэміі навук, у іх ёсць спецыяльныя фонды, дзе такія кнігі захоўваюцца. Сабе, у нашу з жонкай двухпакаёўку, я ўзяў самыя дарагія, любімыя і неабходныя ў працы.

Жадаю Вам усяго добрага і дзякую за пісьмо і слова пра роднага нам Чалавека[11]. Янка Брыль

Крынічнае, 9.09.2000 г.

Паважаны Віктар Іванавіч! Дзякую за пісьмо і цікавыя дадаткі[12]. Гэтым разам мой адказ не дойдзе да Вас так хутка, як папярэдні, бо сын завітае сюды ажно 16 г(этага) м(есяца). Дзякую таксама за вашы адносіны да зробленага мною, гэта – шчырае слова падтрымкі – патрэбна і ў старасці.

Прыемна, што Вы знаёмы з Фёдарамі Міхайлавічам Янкоўскім, які жыве ў маёй памяці, як адзін з найбліжэйшых… Ведаў я таксама і Пятра Майсеевіча Шчарбакова, можна сказаць, што мы сябравалі, знаёмства пачаўшы ў студзені 1961 года. Мой брат Міхась, старэйшы за мяне на тры гады, працаваў тады ў Карэлічах старшынёй "Міжкалгасбуда",

[11] А.В. Пысіна.

[12] Аўтограф Ф. Янкоўскага з маім каментарыем і мой васьмірадковы экспромт, прысвечаны А. В. Пысіну.

ён нас і пазнаёміў. На жаль, Міхася няма з 1966-га, а Пётр Майсеевіч памёр некалькі гадоў таму назад. Канец жыцця ў яго быў невясёлы і ў сям'і, і са здароўем, і мы сустракаліся і пісалі адзін аднаму значна менш, чым у весялейшыя гады.

Тэкст, што Вы выбралі для свайго альбома[13], я пастараўся перапісаць як мага "прыгажэй", а лісток прышлося крыху абрэзаць, да памеру канверта, бо большага тут у мяне няма. Прабачце, калі што не так.

Усяго Вам добрага!

Янка Брыль

18.12.2000 г.

З Новым годам, паважаны Віктар Іванавіч, і самыя добрыя пажаданні!

Пісьмо Ваша атрымаў. Дзякую.

Янка Брыль

25.12.2001 г.

Шчыра дзякую, паважаны Віктар Іванавіч, за віншаванне і добрыя пажаданні.

І я жадаю Вам і Вашым родным усяго найлепшага!

З цікавасцю чытаў у "ЛіМе" Ваша пра І. Чыгрынава і В. Астаф'ева з А. Пысіным.

З Новым годам!

Янка Брыль

26.05.2002 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзякую за пісьмо, высланае Вамі 6.05, а мною атрыманае ўчора. Рэч у тым, што з 7.05. я не ў Мінску, а на дачы, у сваім Карэліцкім раёне, за 100 км ад сталіцы. Пошту мне пакідаюць у аддзеле дастаўкі, да запатрабавання, а сюды да нас з жонкай нашы маладыя, дзеці або ўнукі, прыязджаюць раз у тыдзень, а то і ў два тыдні, з газетамі і пісьмамі, што сабраліся за гэты час.

На майскія віншаванні ўжо запозна, і я проста хачу павіншаваць Вас з усім дабром, пажадаць, каб яго было як найбольш, а таксама шчыра падзякаваць за прыхільныя адносіны да мяне, да маёй працы ў роднай літаратуры

[13] Мой альбом "Аўтографы пісьменнікаў пра кнігу…"

Хораша бачыцца Ваша дружба з выдатным паэтам і чалавекам Аляксеем Пысіным, Вашы адносіны да яго светлай памяці[14].

Добрага Вам здароўя!

Янка Брыль

9.08.2002 г.

Дарагі Віктар Іванавіч!

Шчыра дзякую за віншаванне і добрыя пажаданні.

Жадаю Вам і Вашым блізкім усяго найлепшага!

Янка Брыль

21.08.2002 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзякую Вам за яшчэ адно слова пра нашага незабыўнага сябра. І ад душы жадаю ўсяго найлепшага[15].

Янка Брыль

30.10.2002 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Выконваю Вашу просьбу[16] і, разам з тым, жадаю Вам усяго найлепшага.

Янка Брыль

5.12.2002 г.

Паважаны Віктар Іванаваіч!

З цікавасцю прачытаў Ваша слова пра Пысіных[17]. Прыемна было таксама пачуць пра сябе, як чытача, у “лімаўскай” анкеце. Двойчы дзякую.

Пра вершы і паэмы[18] Аляксея Васільевіча гаварылася ў дакладзе на пленуме Саюза пісьменнікаў, і не толькі пра яго. Не менш адкрыта, шчыра выказваў я свае меркаванні пра Мележа з яго эпапейнасцю. І ад гэтага яны, Пысін і Мележ, не паменьшалі, і адносіны паміж намі і надалей засталіся сяброўскімі.

Усяго Вам добрага!

Янка Брыль

[14] Водгук на мае нататкі пра А. В. Пысіна.

[15] Нататка Ул. Бардзілоўскага “Тэлеграма ў Крэмль” пра А. В. Пысіна, у якой ён спасылаўся на мае словы.

[16] Іван Антонавіч даслаў мне аўтограф да 1-га тому свайго пяцітомніка збору твораў.

[17] “Пысіны: ад прадзедаў да праўнукаў” (радавод).

[18] Я. Брыль ухваліў вершы А. Пысіна і крытычна азваўся наконт паэм.

27.12.2002 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзякую за віншаванні і добрыя пажаданні.

І я шчыра віншую Вас, жадаю ўсяго найлепшага, у першую чаргу – добрага здароўя.

На развітанні з Сяргеем Грахоўскім і мне было што сказаць пра яго.

Памятаецца светла і Пятро Шчарбакоў…[19] А лёс яго бібліятэкі мне невядомы.

Янка Брыль

2.07.2003 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Днямі, прыехаўшы са сваёй далёкай дачы ў Мінск, сустрэўся з Віктарам Карамазавым і многа пагаварылі. Мне прыемна было пачуць ад яго добрыя словы пра Вас. Віктар – зяць не мой, а майго старэйшага брата, мы з ім ведаемся і сябруем з 1959 года, сустракаючыся то ў Мінску, то ў маім родным Загор'і, а то і ў Крынічным, на дачы, куды ён, жыва помніцца, прыязджаў аднойчы з незабыўным Міхасём Стральцовым. А я ў сваю чаргу бываў і ў Крычаве, і ў Чэрыкаве, і ў Ліменьскай пушчы, у Віктаравай радні. Чалавек ён цікавы, таленавіты, сумленны. З ім добра гаворыцца пра жыццё, пра наша запаветнае – літаратуру.

Анатоля Сербантовіча я ведаў найбольш па вершах, сустракаліся мы мала і выпадкова, але яго заўчасная смерць засмуціла і мяне...

Гэта добра, высакародна – Ваша ўвага і да Пысіна, і да іншых землякоў.

Дзякую за віншаванне з вызваленнем, са спазненнем, але таксама шчыра віншую і Вас, ад душы жадаючы ўсяго добрага!

Янка Брыль

16.09.2003 г.

Паважаны Віктар Іванаваіч!

Дзякую шчыра за Ваша сяброўскае спачуванне[20] і жадаю ўсяго добрага.

Янка Брыль

---

[19] Старшыня калгаса "Зара" Карэліцкага раёна П. М. Шчарбакоў, які меў выдатную дамашнюю бібліятэку і сябраваў з многімі пісьменнікамі.

[20] Спачуванне ў сувязі са смерцю яго жонкі Ніны Міхайлаўны.

17.12.2003 г.
Добрага здароўя і светлага настрою ўжо ў надыходзячым годзе!
Янка Брыль

26.02.2004 г.
Паважаны Віктар Іванаваіч!

Дзякую за пісьмо і прывітанні праз Карамазава. Ён і сам перадаў мне яго, перад атрыманнем мною Вашага пісьма, наведаўшы мяне, балазе жывём мы непадалёку. Нямала добрага гаварыў мне пра Вас, з пашанай і прыхільнасцю, што і мне прыемна ведаць.

Правільна хваліце яго, пісьменнік ён сур'ёзны, таленавіты, няўрымслівы і вечна ў творчых пошуках. Нядаўна я закончыў чытаннем яго аповесць пра мастака Г. Вашчанку, надрукаваную ў 6 і 7 нумарах часопіса "Дзеяслоў". Добра! Наогул мы чытаем адзін аднаго і даўно, і пастаянна.

А пра няўдачу з сустрэчай ва ўніверсітэце[21] ён успамінае, вядома ж, з прыкраю…

Усяго Вам добрага!
Янка Брыль


13.V.04
Паважаны Віктар Іванавіч!
Дзякую за віншаванні і добрыя пажаданні. З цікавасцю прачытаў Вашы артыкулы. Віктар Філімонавіч заходзіў па фотаздымкі. Згадвалі Вас добрым словам. Жадаю Вам усяго найлепшага!
Брыль

13.05.2004 г.
Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзякую за віншаванні і добрыя пажаданні. З цікавасцю прачытаў Вашы артыкулы. Віктар Філімонавіч заходзіў па фотаздымкі. Згадвалі Вас добрым словам. Жадаю Вам усяго найлепшага!
Янка Брыль

4.07.2004 г.
Дзякую, дарагі Віктар Іванавіч, за віншаванне і добрыя пажаданні.
І Вам – усяго найлепшага!
Янка Брыль

[21] У студзені 2004 года я дамовіўся ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А.А. Куляшова на сустрэчу студэнтаў-філолагаў з Віктарам Карамазавым. Калі мы прыйшлі ў прызначаны дзень і час, нам адмовілі ў сустрэчы, не патлумачыўшы прычыны. Толькі пагадзя даведаўся я, што кіраўніцтва – універсітэта ці літфака, не ўдакладняў, знарок знайшло выйсце, каб яна не адбылася.

4.01.2005 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзякую шчыра за Новагодняе віншаванне і добрыя пажаданні. Прыміце такое ж і ад мяне, у першую чаргу – добрага здароўя і светлага настрою.

Поспехі ў працы ў Вас маюцца, пра што сведчыць і прысланае Вамі[22], дык хай жа іх будзе яшчэ больш!

Дзякую таксама за добрае слова і пра мяне, побач са слаўнымі хлопцамі, Пысіным і Карамазавым. Віктар недзе на дачы, калі вернецца – пазнаёмлю яго з Вашым пісьмом.

З Валянцінам Ермаловічам я знаёмы, ведаю яму цану і падзяляю смутак з усімі, хто яго ведае…

Яшчэ раз – усяго добрага!

Янка Брыль

3.05.2005 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзякую за пісьмо, газетныя старонкі і тэкст майго выступлення[23]. Я яго крыху паправіў, на выпадак, калі Вы захочаце яго неяк выкарыстаць.

На здымку, які прашу прыняць ад мяне на добры ўспамін, злева направа – Анатоль Кудравец, Анантоль Бутэвіч, мая нябожчыца жонка Ніна Міхайлаўна, я і Уладзімір Ліпскі, – нашы госці на лецішчы ў родным Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці.

Добра гэта, высакародна, што Вы так плённа клапоціцеся пра памяць Аляксея Пысіна.

Я толькі што вярнуўся з бальніцы, дзе быў прафілактычна 2 тыдні, з сэрцам, якое на стымулятары, і даўно хворымі нагамі. І таму прашу прабачэння, што пішу коратка.

Са святам Перамогі!

Янка Брыль

14.11.2005 г.

Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзяую Вам за пісьмо з добрымі пажаданнямі і выразку з “Весніка Магілёва”, дзе зноў пра нашага Аляксея Васільевіча. Публікацыя добрая, наводзіць на ўспаміны пра Яго, паэта і чалавека з незабыўных…

[22] Згадкі пра Пысіна і Карамазава,.пра артыста Ермаловіча, пра паэта Яўгена Крупеньку.

[23] Выступленнне – гэта радыёўспамін пра Пысіна ў 1995 годзе на Беларускім радыё. Тэкст яго я выкарыстаў у артыкуле “Янка Брыль і Аляксей Пысін” у раздзеле “Незабыўныя сустрэчы” гэтага зборніка.

Віктару Карамазаву я прачытаў па тэлефоне тое, што з Вашага пісьма, што датычыцца яго, і ён сказаў, што неўзабаве звяжацца з Вамі.

У сувязі з перайменаваннем некаторых вуліцаў адрас мой крыху змяніўся, цяпер ён такі: Праспект Машэрава, 78, кв. 40. Пакуль што і адрасаваныя на вуліцу Дразда таксама даходзяць.

Усяго Вам найлепшага!

Янка Брыль

2.12.2005 г.

Паважаны Віктар Іванавіч! Дзякую за "Урокі Аляксея Пысіна". Прачытаў з цікавасцю, успамінаючы Яго, і другіх нашых з ім сяброў, а таксама добра думаючы пра Вашу шчырую адданасць дружбе з гэтым цудоўным чалавекам і літаратарам.

Віктар Філімонавіч, які быў у мяне ўчора з Вашым падарункам, цікава, хораша расказваў пра Вашу з ім сустрэчу.

Усяго найлепшага!

Янка Брыль

28.12.2005 г. (Апошняе)

Паважаны Віктар Іванавіч!

Дзякую за віншаванні і добрыя пажаданні.

Дай Бог і Вам усяго найлепшга ў Новым годзе і як найдалей!

Янка Брыль

## ЗМІТРОК МАРОЗАЎ НА СПОВЕДЗІ

На пачатку 2014 года тонкаму лірыку, які выдаў амаль трыццаць кніг паэзіі, сярод якіх першы ў Еўропе ды і ў свеце вянок вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы", Змітраку Марозаву споўнілася 60 гадоў. Ды яго паэзія ў самым росквіце, яна ўзнялася ў зеніт. Яго "Святлом навеяны радок // Глыбока ў сэрцы песняй западае".

З яго вершамі знаёміўся, калі ён быў яшчэ пачаткоўцам. Чытаў у рукапісах разам з паэтам Аляксеем Пысіным, які быў яго настаўнікам. Потым год за годам са светлай зайздрасцю сачыў за росквітам ягонага таленту, прагна чытаў кожную кніжку паэзіі, якая трапляла мне на вочы. Таму, што змест твораў маладога паэта, іх вобразнасць, паказ

праўды жыцця, асэнсаванне дабра і зла былі сугучны маёй душы, ліліся ў сэрца нібыта бальзам і як сонца асвятлялі дарогі майго жыцця і лёсу.

Напярэдадні юбілею Змітрака Марозава мне закарцела даведацца збольшага аб пэўных таямніцах ягонай творчасці. І я паслаў яму анкету, распрацаваць пытанні ў якой мне дапамагла настаўніца з Круглага Святлана Мілеўская.

Хаця ў Дзмітрыя Дзмітравіча было навалам клопатаў з нагоды падрыхтоўкі да вечарыны паэзіі ў Мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы ды й заміналі хлопаты да юбілейных урачыстасцяў, адказы на пытанні я атрымаў змястоўныя і цікавыя, упэўнены, што не толькі для мяне. Ды яшчэ і прадмоўка кароткая да іх. І ўсё як на споведзі ў храме:

“Шаноўны Віктар Іванавіч!

Зазначу, што ў мяне няма вопыту рыхтаваць адказы на анкетныя пытанні. А тут яны тычацца маёй творчасці. Пастараюся на іх адказаць. Хоць перакананы, што творчасць кожнага сапраўднага паэта – таямніца. І чым глыбейшы светапогляд творцы, тым складней разгадаць гэту таямніцу чытачу, крытыку, даследчыку творчай асобы. Таму адразу папярэджваю, што мае адказы на дадзеныя пытанні толькі невялічкія штрыхі-адценні да майго светапогляду на жыццё і чалавека ў жыццёвым асяроддзі. Астатняе павінен дадумаць, убачыць унутраным позіркам сваёй душы чытач, крытык, даследчык, які пазнаёміўся з маімі творамі. Для пачатку адкрыю невялікі свой сакрэт для разгадкі творчасці паэта:

*Ёсць словы вечныя, як свет,*
*Ёсць мовы музыка жывая…*
*Хто вершы піша – не паэт,*
*Паэт, – хто сэрцам іх спявае.*

Гэты верш напісаны мной дзесьці на пачатку 80-х гадоў мінулага веку. Вось і думай, шаноўны чытач, хто вершы піша, а хто іх спявае сэрцам… Але гэта ўжо іншая тэма. Таму пераходжу да пытанняў. ”

1. – *Ёсць даты, пераступіўшы праз якія, пачынаеш задумвацца пра мінулае (пражытае). Што галоўным было ў Вашым жыцці?*

– Само жыццё. Падзея майго прыходу ў гэты трывожны, няўстойлівы і вельмі прыгожы свет, адчуванне сябе ў гэтым свеце жывой істотай, спасціжэнне і імкненне да спасціжэння жыццёвых з’яў, прыродных катаклізмаў, чалавечых лёсаў праз прызму ўласнай душы, сэрца, праз магчымасць выказаць свае пачуцці вершаваным радком.

*Я з вайны.*
*Маланкамі мечаны,*
*Вечнасць*
*Узняў я на плечы свае…*
*Я з вёскі.*
*Я свойскі,*
*Язбоўскі…*
*Адсюль і трывогі мае.*

2. – *Праца паэта не зусім звычайная. Што Вы лічыце галоўным у працы паэта?*

– Часткова я ўжо адказаў на дадзенае пытанне. Дапоўню радкамі нашага выдатнага Магілёўскага паэта Аляксандра Мельнікава:

*Поэзия – души работа*
*При свете совести живой.*

Пры жаданні, гэтыя думкі можна адшукаць і ў маіх творах.

3. – *Што Вас зараз хвалюе як паэта, пра што пішаце сёння?*

– Як і раней, асноўная тэма – вёска, з яе клопатамі, трывогамі і праблемамі:

*Сявец падаўся ў еўрапейцы,*
*Бо не ў пашане хлебароб.*
*І ўжо залётныя карэйцы*
*На вёсцы ладзяць расцяроб.*

Другая тэма – горад, урбанізацыя, духоўнае збядненне моладзі:

*Дыпламаваны хам пануе спрэс,*
*Ён перасеў з каня на “Мерсэдэс”.*
*…………………………………*
*У сукенцы бэзавай жанчына*
*Па бульвары з песняю ішла,*
*Прэч ад нашай мітусні мышынай,*
*Ад зняваг, зайздрасці і зла.*
*“Не сябруе з галавой, нябога…” –*
*Кінуў хтось…*
*Ды падалося мне:*
*У яе з людзей няма нікога –*
*Мо й таму душой да Бога мкне?*

Прачытыйце яшчэ вершы: “Бабулька з іконай на брудным асфальце”, “Дзяўбуць ламамі лёд жанчыны на тратуарах брудны лёд”, “У прыгараднай электрычцы” і інш.

4. – *Паэты звычайна імкнуцца да спасціжэння глыбіннага зместу, патаемных ісцін быцця. А з чаго Вы зыходзіце: чалавек ёсць прадукт свайго лёсу ці ад яго самога поўнасцю залежыць выбар шляху жыцця?*

– У наш час чалавек разумны – гэта складаная інфармацыйна-энергетычная сістэма, узброеная апошнімі дасягненнямі ў свеце электронікі, інфарматыкі, энергетыкі і г. д. Таму сёння ён не можа цалкам вызначыць свой шлях. Акрамя гэтага ёсць яшчэ і грамадства, дзе ён існуе і павінен падпарадкоўвацца існуючым законам і нормам жыцця.

*Не жывём па законах прыроды,*
*Беспрытульныя дзеці яе.*
*У пагоні за ўяўнай свабодай*
*Запрыгоньваем душы свае.*

Цытую па памяці радкі з ранняга верша. Гэтыя ж думкі, пры жаданні, вы знойдзеце і ў маіх апошніх зборніках. Іншая справа, што ў сённяшніх абставінах жыцця ўсё цяжэй выжыць творцу, сапраўднаму творцу…

5. – *У Вашым зборніку "Вяртанне да цішыні"(2006) ёсць верш "Пад сяброўскай праведнай маскай…" У ім радкі: "Назаўжды развітаюся з "маскай", // З тым, хто сябрам лічыўся маім." Што або каго Вы падразумеваеце пад "маскай"?*

– Гэты верш, як і ўсе іншыя на дадзеную тэматыку, не "высмактаны" з пальца. Шкада, што з узростам вакол сябе адчуваеш усё меней і меней сапраўдных і надзейных людзей. А, можа, гэта адбываецца з нагоды больш высокай меркі і патрабавальнасці да паводзінаў у адносінах да цябе тваіх знаёмых, сяброў, родзічаў? Можа, не трэба падыходзіць да іх з прынцыпам: "Мне з вамі не ў адну дарогу бо"… бачу ўсё часцей замест сэрцаў кашалькі ў блізкіх мне людзей?..

*Дзіцячы розум, быццам пласцілін,*
*Трывожуся не толькі я адзін,*
*Калі з анёлка лепяць прайдзісвета…*
*Вось ён ужо купляе-прадае…*
*Чаго яму, скажыце, не стае?*
*Мне не дае спакою думка гэта:*
*Як жыць на белым свеце без душы?*

*6. – Які зборнік твораў або твор Вам асабліва дарагі і чаму?*

– Першы зборнік вершаў "Пад небам буслiным", які быў выдадзены ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1982 годзе. А яшчэ вянок вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы", які пабачыў свет у 1991 год-

зе. Чаму самы дарагі? Таму, што – гэта першы твор дадзенага жанру ў еўрапейскай літаратуры.

*Радкі “Вянка…” нашчадкам запаветы,*
*Якіх не возьме смутных дзён іржа.*

*7. – Вянок вянкоў санетаў “Апакаліпсіс душы” – гэта Ваш самы адметны, знакавы твор. Вы яго прысвяцілі светлай памяці Анатоля Сербантовіча, майго земляка. Чаму менавіта яму?*

– Анатоль таленавіты паэт. Ён добра ведаў псіхалогію вясковых людзей, тонка адчуваў прыроду, ствараў вельмі вобразныя вершы і, галоўнае, даў працяг жыццю санетаў. Ён нават паставіў перад сабой задачу напісаць вянок вянкоў санетаў, гэта значыць пятнаццаць вянкоў. Чаго не рабілі да яго. Але паспеў зрабіць толькі тры. На астатнія не хапіла жыцця. І калі я ў 1989–1990 гадах следам за ім стаў ствараць санеты, то падумаў зрабіць як бы працяг яго велічнай задумы: не паспеў зрабіць ты – зраблю я! Таму і прысвячэнне на яго імя.

*8. – А чаму менавіта санеты вырашылі Вы пісаць?*

– Відаць, быў такі час, выспела такая нагода. Да вянка вянкоў санетаў я стварыў некалькі дзясяткаў санетаў, напісаў з паўтузіна вянкоў санетаў. А яшчэ пачала разбурацца вялікая краіна – Савецкі Саюз. Я не мог маўчаць. І толькі праз гэты маштабны твор я змог выказаць свае адносіны да падзей канца 80-х і пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя.

*Вянок санетаў – летапіс дарог,*
*Занатаваны ў строгія каноны…*
*У кожнага паэта свой аблог,*
*Дзе ён шчыруе, мараю натхнёны.*

Дарэчы за апошнія 15 гадоў некаторыя творцы выдалі таксама вянкі вянкоў санетаў і нават па некалькі. А я вось не здолеў напісаць нават ніводнага санета. Відаць, усяму свой час.

9. *– А гэта выпадковасць ці заканамернасць, што менавіта Вы сталі аўтарам унікальнага вянка вянкоў санетаў, першага ў дадзеным жанры ў еўрапейскай паэзіі?*

– На гэтае пытанне збольшага я ўжо адказаў. Для мяне галоўнае, што вянок вянкоў санетаў “Апакаліпсіс душы” – першы ў еўрапейскай паэзіі і створаны менавіта беларускім паэтам. За бягучы прамежак часу ён выдаваўся 6 разоў, у тым ліку ў перакладзе на рускую мову – 2 разы. Пра мастацкую вартасць твора пісалі вядомыя даследчыкі і крытыкі В. Рагойша, А. Марціновіч, Л. Дайнека, А. Карлюкевіч і інш.

*Санет маёй сумленна служыць ліры,*
*Ён ключ, якім я адмыкаю свет.*

10. – *Ваш вянок вянкоў санетаў мае назву “Апакаліпсіс душы”. Што значыць “апакаліпсіс” для Вас асабіста?*

– “Апакаліпсіс” у перакладзе з грэчаскай мовы азначае “откровение”. А для мяне шчырая споведзь устрывожанай і ўсхваляванай падзеямі ў свеце таго часу душы.

*Я ў родным полі – сейбіт і салдат,*
*Народа боль усёй душой прымаю.*
*Як акіян, хвалюецца народ,*
*Зноў кроў цячэ. На жыта недарод.*
*Усе мы на мяжы самазнішчэння.*

11. – *У вянку вянкоў санетаў “Акапаліпсіс душы” ёсць такія радкі:*

*Няўжо аслеплі розум і душа*
*І забыцця халодная іржа*
*Людскія сэрцы точыць прагавіта?..*

– На пытанне, якое пастаўлена ў дадзеных радках, і на сённяшні час адказу няма. Можа, не будзе і да самага скону?.. Па памяці працытую радкі, здаецца, з кнігі “Ачышчэнне сяўбой” (1992):

*Сумненні, вечныя сумненні –*
*Бацькі бяссоніц і пакут,*
*На вас адточваю сумленне,*
*Нібыта нож на асялку.*
*Ці так сказаў? Ці тое слова*
*Я ўратаваў ад нематы?*
*А мо пачаць усё нанова?. .*
*Я сумняваюся… А ты?*

12. – *Чаму галоўны дэфіцыт цяпер – сумленне? Што азначае сумленне для Вас?*

– Адказ на гэтае пытанне знойдзеце ў маіх творах. І ўсё ж адкажу словамі Мікалая Забалоцкага: “Нет на свете печальней измены, // Чем измена себе самому”.

13. – *Паэзія і вера – дзве сястры. А чаму так, на Вашу думку?*

– Вера ў лепшае, светлае, праўдзівае, сумленнае, шчырае не можа існаваць без нябеснай узнёсласці, якая ўласціва сапраўднай паэзіі. І наадварот.

*Пануе ў сёлах немач і здзічэнне.*
*Ды не змарнее жытняе насенне.*
*Пакуль жыве паэзіі святло.*

14. – *Ідэі правяць светам ці любоў? Якая Ваша думка наконт гэтага?*

– Дакладнага адказу на гэтае пытанне ў мяне няма (гэта вы ўбачыце і ў маіх творах). І ўсё ж, калі свет трымаецца на трох кітах, то адзін з іх – Паэзія. А паэзія без любові да ўсяго жывога пераўтварылася б у набор жалезабетонных фраз, ідэй, лозунгаў…

*Ды ёсць Купала, Гётэ, Пушкін, Блок.*
*Святлом дабра навеяны радок*
*Глыбока ў сэрца песняй западае.*
*Пакуль жыве паэзіі святло,*
*Не згіне мова – маці ў забыццё.*
*Тваё святло, старонка дарагая.*

15. – *У санетах Вы не адзін раз упамінаеце жар-птушку. Вось і ў гэтым трохрадкоўі:*

*Шчаслівы той, хто ўзняцца змог над бытам,*
*З крывёю здзёршы путы дабрабыту,*
*Схапіў сваю жар-птушку за крыло.*

– *Дык якая яна Ваша асабістая жар-птушка?*

– Мая жар-птушка ў маёй душы, у маім сэрцы. Яна неабдымная, як свет. І галоўнае, яе ніхто не бачыць… Яна казачная, “няўлоўная, як зорнае святло”.

*22.02.2014 г.*

# ПОГЛЯД У БУДУЧЫНЮ

## МАГІЛЁЎСКАЯ АБЛАСНАЯ БІБЛІЯТЭКА Ў ПАЧАТКУ XXII СТАГОДДЗЯ

На левабярэжжы Дубравенкі ўзвышаецца яркі высотны будынак Цэнтра кнігі і інфарматыкі, з верхніх паверхаў якога бачны ўвесь Магілёў. Будынак у нечым напамінае сённяшнюю Нацыянальную бібліятэку ў Мінску, але істотна адрозніваецца, асабліва на высотных паверхах. Там промнямі зіхацяць крылы сонечных батарэй, якія з'яўляюцца крыніцай энергазабеспячэння па ацяпленню памяшканняў і дзейнасці электрапрыбораў і электронікі. Ёсць і паралельнае энергазабеспячэнне на вадародным паліве.

Побач з асноўным будынкам размешчаны гаспадарчыя пабудовы: шмат'ярусны гараж для лятаючых люлек абанентаў Цэнтра кнігі і інфарматыкі, дзіцячы сад з пляцоўкай, кафэ, музычны цэнтр, чытальня для адпачынку наведвальнікаў, саўна з басейнам, трэнажорамі, там жа медыцынскі пост, у штаце якога псіханеўролаг-рэабілітатар.

Кнігасховішча невялікае, тут у асноўным кнігі XVIII, XIX, XX-га і першай чвэрці XXI-га стагоддзяў. Кожная кніга мае электронны штрых-код, які ўведзены ў сетку электронных каталогаў. Запатрабаваная чытачом кніга ў лічаныя хвіліны па аўтаматычнай лініі паступае да аператара. Кожная старонка кнігі вельмі ўжо тонкая з надзвычай трывалай сінтэтычнай масы. Таму кнігі сталі налічваць да дзвюх-трох тысяч старонак, хаця іх таўшчыня засталася ранейшай, а вага зменшылася.

У чытальных залах Цэнтра чытач можа паглядзець любы кінафільм любой краіны свету. Пры гэтым, па яго жаданні – на мове арыгіналу або з сінхронным перакладам на мову, на якой ён жадае слухаць. Ёсць магчымасць паслухаць любую песню любога народа і ўбачыць яе выканаўцаў.

Метадыстам Цэнтра не абавязкова выязджаць у той ці іншы раён, у той ці іншы філіял інфарматыкі вобласці. Дастаткова падключыць відэаманітор, націснуць адпаведную кнопку – і ён стане відавочцам абслугоўвання чытачоў у тым ці іншым філіяле інфарматыкі. А яшчэ можа ўступіць у размову з інфарматарам: задаць тое ці іншае пытанне, атрымаць параду. Такім жа чынам візуальна можна прысутнічаць на прэм'еры кнігі, на канферэнцыі чытачоў у Краснаполлі, Горках, Шклове і г.д. Калі аўтар кнігі не меў магчымасці наведаць бібліятэку, то з ім можна звязацца па электроннай пошце. Ён з Мінска дасць адказ на пастаўленыя чытачамі пытанні, скажа сваё слова. Удзельнікі канферэнцыі ўбачаць яго на экране, а ён на сваім дысплеі будзе бачыць і чуць чытачоў.

Падобным чынам кіраўнікі розных рангаў, спецыялісты народнай гаспадаркі могуць прысутнічаць на сходзе, на калегіі, на лекцыі. Настаўнікі ўбачаць адкрыты ўрок у школе, урач-хірург – складаную аперацыю. Ёсць магчымасць (інфармацыя захоўваецца) праглядзець гэтыя матэрыялы і праз год, два, дзесяць... Згадзіцеся, што гэта шмат для каго цікава і павучальна. А яшчэ электронную інфармацыю можна з поспехам выкарыстаць на вучэбных занятках у школе, каледжы, універсітэце...

Чытачы электроннага Цэнтра маюць магчымасць, знаходзячыся ў кабіне-чытальні, рабіць захапляючыя падарожжы па раёнах сваёй вобласці, па рэках і азёрах, гарадах і раёнах Беларусі, адправіцца ў падарожжа ў краіны бліжняга і дальняга замежжа. Прычым, малюнак будзе не чорна-белы, а каляровы: захапляючае, уражлівае відовішча!

У кожнага чытача ў кватэры ёсць манітор, падключаны да электроннага Цэнтра культуры і інфарматыкі, ёсць малафарматны экран, ёсць свой сайт. Дома можна чытаць прынесеныя электронныя кнігі, а яшчэ па электроннай пошце паслаць заказ на іншыя кнігі і атрымаць іх тэкст на ўласны сайт.

Чытачу не абавязкова з прачытанага рабіць выпіскі, ён можа зрабіць кнігу і электронку, або занесці інфармацыю ў запісную электронную кніжку. Усё залежыць ад яго жадання і фінансавых магчымасцей. Такім чынам, чытач пачатку XXII стагоддзя, як і чытач пачатку XXI, мае хатнюю бібліятэку. Толькі яна не кніжная, а кніжна-электронная, з перавагай электронікі.

Камп'ютары пачатку XXII стагоддзя па сваіх тэхнічных характарыстыках на некалькі парадкаў вышэй, чым камп'ютары канца про-

шлага стагоддзя. Яны заносяць інфармацыю ў электронную памяць не клавішамі з тэксту, а непасрэдна з голасу. Пры гэтым могуць рабіць паралельна пераклад на некалькі моў. Больш таго, яны агучваюць тэкст на той мове, якая зададзена праграмай. На пераклад кнігі, якая мае дзветры тысячы старонак, патрабуюцца лічаныя хвіліны.

І яшчэ некалькі навінак, якія сёння лічацца фантастыкай.

Назапашванне ведаў у сне. У зручнае крэсла садзіцца чытач, медык-педагог падключае датчыкі, і з навушнікаў льецца ціхая прыемная мелодыя супакайваючай музыкі, пад якую ён засынае. І тады пачынаецца ўрок той ці іншай вучэбнай дысцыпліны – аўтаназапашванне ведаў па той ці іншай навуцы. Патрэбныя веды электроніка заносіць у падсвядомасць чытача аўтаматычна ў неабходнай колькасці і за кароткі прамежак часу. Скажам, тое што сёння ў студэнцкай аўдыторыі засвойваецца за семестр, тут набываецца за адзін сеанс.

У ліку наведвальнікаў электроннага чытання цяпер можна ўбачыць людзей са стратай зроку, слыху, а ў высокакваліфікаваных медыцынскіх клініках пад скуру на галаве ў адпаведных месцах ушыты мініяцюрныя датчыкі – чыпы. Кожны такі чытач мае індывідуальны электронны прыбор, які дазваляе пачуць, убачыць і падаць свой голас. Такім чынам, ранейшыя інваліды сталі паўнацэннымі членамі грамадства і жывуць паўнацэнным жыццём.

Вялікай папулярнасцю сярод наведвальнікаў Цэнтра кнігі і інфарматыкі карыстаюцца сеансы колератэрапіі і лячэбнай музыкі. Яны праводзяцца ў салярыі пад наглядам урача. Гэтыя сеансы здымаюць стрэс, карэкціруюць аўру чалавека, нармалізуюць дзейнасць унутраных органаў. Такія сеансы да мінімуму зводзяць захворванні, павышаюць фізічную і разумовую дзейнасць чалавека, увогуле, амаладжваюць арганізм. І такім чынам доўжаць жыццё людзей.

*2005, 2015 гг.*

# ЗАМЕСТ БІЯГРАФІЧНАЙ ДАВЕДКІ

## ПІШУ З ЖЫЦЦЯ І ПРА ЖЫЦЦЁ



Нарадзіўся я ў беларускай сям'і сялян-сераднямкоў 21 сакавіка 1927 года ў Шклоўскім раёне на хутары з шасці двароў – Чарэйцаў Круг.

Бацька Арцем'еў Іван Лукіч і маці Маўра Мітрафанаўна (у дзявоцтве Глушанкова) займаліся земляробствам, а з 1929 года працавалі ў калгасе. Хутар месціўся ў маляўнічым кутку ўздоўж лесу Вардашчына ў трох кіламетрах ад вёскі Ордаць і за кіламетр ад вёскі Радзішына.

Дзіцячыя гады запомніліся спевамі жаўрукоў і посвістам шпакоў, зменамі пор года і прывабнымі малюнкамі прыроды. Літаральна ўсё лета з суседскімі хлапчукамі бавіўся ў лесе. Зімовымі вечарамі зачаравана слухаў бываліцы, якія агучвалі ў нашай хаце на пасядзелках суседзі-хутаране. Бабуля Хадора радавала казкамі і народнымі песнямі. Мае старэйшыя сёстры Надзея і Марыя вучылі на памяць вершы Пушкіна, Някрасава, Якуба Коласа і іншых паэтаў. Яны яшчэ да школы запалі ў маю душу і пазней сталі любімымі пісьменнікамі. Бацька Іван Лукіч рана прывучыў мяне да сельскай працы: у пяць гадоў я пасвіў карову, а ў шэсць – на пары ціхмяных коней баранаваў загон для ільну на калгаснай ніве.

У дзяцінстве ды й пазней самым любым маім заняткам было чытанне кніг. Цяга да кнігі вызначыла пазней мой шлях да прафесіі бібліятэкара-бібліёграфа вышэйшай кваліфікацыі. У вайну доўгімі зімовымі вечарамі перачытаў бібліятэчку (сундук з кнігамі) нашага зяця Паўла Ефіменкі. У ёй былі хрэстаматыі па літаратуры, некалькі падручнікаў і творы рускіх класікаў з праграмы педінстытута, што значна папоўніла мой багаж ведаў.

Яшчэ ў Радзішынскай пачатковай школе настаўніца Лук'янава Вольга Рыгораўна прыахвоціла мяне да нататак ў насценную газету. З тае пары ў

Ардацкай сямігодцы і ў Магілёўскім культасветвучылішчы рабіў насценную газету. Настаўнікам-журналістам стаў для мяне сакратар Парыцкай газеты «Ленінская перамога», у якой я працаваў паўгода, Сяргей Прач – шчыры краязнаўца і вельмі мудры і добры чалавек. А ў 60-я гады багата карысных парад даў Алесь Махнач, пісьменнік, журналіст «ЛіМа».

У 1955 годзе ў Чэрыкаве пачалося сяброўства з паэтам Аляксеем Пысіным, якое доўжылася чвэрць века. У канцы сямідзесятых гадоў з удзелам Аляксея Васільевіча мне штомесяц кожны тыдзень даводзілася ладзіць літаратурныя сустрэчы магілёўцаў з пісьменнікамі, што паспрыяла знаёмству з многімі выдатнымі літаратарамі. Меў сустрэчы з Іванам Шамякіным, Іванам Чыгрынавым, Рыгорам Барадуліным, Віктарам Карамазавым, Сцяпанам Гаўрусёвым, Эдуардам Валасевічам, Міколам Аўрамчыкам, Раісай Баравіковай, Нілам Гілевічам, Адамам Русаком, Авяр'янам Дзеружынскім, Анатолем Грачанікавым, Уладзімірам Скарынкіным, Алесем Ставерам, Алегам Салтуком, Уладзімірам Гніламёдавым, Яўгеніяй Янішчыц, Анатолем Вярцінскім, Леанідам Левановічам, Яўгенам Крупенькам, Міколам Маляўкай, Віктарам Шымуком, Кастусём Цвірка і яшчэ з многімі іншымі паэтамі, празаікамі, крытыкамі. Некалькі гадоў меў ліставанне з Янкам Брылём. Маю звыш трохсот аўтографаў пісьменнікаў, з іх больш за паўтары сотні – на кнігах.

Усё гэта паспрыяла зрабіць зборнік «Пісьменнікі і кнігі», які стаў галоўнай кнігай майго жыцця. Лічу, што змест многіх яе старонак мае культурную і гістарычную каштоўнасць.

Сяброўства з А. Пысіным і В. Карамазавым, сустрэчы з многімі літаратарамі – гэта мой універсітэт прыгожага беларускага пісьменства.

У дзевяностых гадах, калі быў ужо на пенсіі, напоўніцу аддаўся творчай працы: у газетах і часопісах надрукаваў больш за сотню артыкулаў і малых нататак пра жыццё і творчасць паэта Аляксея Пысіна. А ў наступным дзесяцігоддзі з іх вырасла Пысініяна з пяці зборнікаў, сярод якіх найбольш значны «Вянок Аляксею Пысіну». Пазней зрабіў «Вянок...» паэту-аднавяскоўцу Анатолю Сербантовічу.

У Вялікую Айчынную вайну (яна застала мяне 14-гадовым хлапчуком) жыў у вёсцы Радзішына на часова акупаванай ворагам тэрыторыі.На свае вочы бачыў, як ішлі франты з захаду на ўсход і з усходу на захад, а яшчэ



**Віктар Арцем'еў ля валуна-помніка К. Сіманаву на Буйніцкім полі**

зведаў усе жахі нямецка-фашысцкай акупацыі. Тыя крывавыя падзеі мной адлюстраваны ў аповесці «Выгнаннікі», у зборніках кароткіх апавяданняў «Радзішанскі летапіс вайны», «Вайна на свае вочы» і «Франтавыя дарогі палкоўніка Асмалоўскага». Ды й у газетах і калектыўных зборніках апублікавана болей за два дзясятка нарысаў пра воінаў-франтавікоў.

Яшчэ трохгадовым хлапчуком бацька браў мяне на калгасныя сходы. Ведама ж, тады не ўсё разумеў, але мяне вабіла жывая сялянская гаворка, характары вяскоўцаў, якія часам вялі гарачыя спрэчкі. А калі стаў школьнікам (пайшоў вучыцца з сямі гадоў), заўсёды гарнуўся туды, дзе гутарылі мудрыя дзяды і прагна запамінаў паданні, легенды, здарэнні. І гэта ў сталыя гады з'явілася маёй крынічкай для стварэння кніжачак краязнаўчых апавяданняў: «Чарэйцаў Круг», «Радзішына», «Цячэ рэчка Бася», «Слоўцы-адмыслоўцы», «Шчодрасць душы».

У 1952 годзе скончыў вячэрні ўніверсітэт марксізму-ленінізму пры Мінскім гаркаме КПБ. А ў 1965–1969 гадах вучыўся ў Мінскім педінстытуце імя М. Горкага. Пашэнціла трапіць на лекцыі да прафесара літаратуры Алега Жакава, які стаў маім літаратурным настаўнікам. У гэты ж час, і яшчэ крыху пазней, былі кароткія сустрэчы з выдатным мовазнаўцам-літаратарам Фёдарам Янкоўскім. Пад іх уплывам паспрабаваў пісаць невялікія рэцэнзіі на творы пісьменнікаў. Пазней гэта дапамагло паспрабаваць пяро крытыка. Паэт Іван Пехцераў, з якім было шчырае сяброўства, даў шмат парад аб паэтычным майстэрстве, і ў мяне пайшлі рэцэнзіі на зборнікі паэзіі.

У пісьмовым стале ёсць напрацоўкі да выдання зборнікаў: «Творчасць Івана Пехцерава», «Вайна ў кожнага свая» (нарысы пра франтавікоў). Але здаць іх у друк з уласнай пенсіі – справа пакуль што непад'ёмная.

Мае творы з жыцця і пра жыццё, у большасці сваёй мастацка-дакументальныя, краязнаўчыя. Стараюся пісаць пра тое, што іншыя абыходзяць увагай. Пішу, бо ведаю, што праз паўсотні-сто гадоў надрукаванае будзе запатрабавана яшчэ больш, чым сёння.

У 2008 годзе мяне прынялі ў ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі»: празаік, публіцыст, крытык, краязнаўца. Лаўрэат прэміі імя Якуба Усікава Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі». Маю нагрудны знак «Ганаровы ветэран Беларускага грамадскага аб'яднння ветэранаў». З'яўляюся літкансультантам Магілёўскага літаратурнага аб'яднання «Ветэран». Прымаю ўдзел у працы Магілёўскага гарадскога і Ленінскага раённага саветаў ветэранаў.

Жыву ў Магілёве.

*Май 2015 г. Віктар АРЦЕМ'ЕЎ*

ПАКАЗАЛЬНІК
ІМЁН ПІСЬМЕННІКАЎ, ПРА ЯКІХ У ЗБОРНІКУ
ЗМЕШЧАНЫ АРТЫКУЛЫ ЦІ НАТАТКІ

## ПАКАЗАЛЬНІК
## ІМЁН ПІСЬМЕННІКАЎ-ЗЕМЛЯКОЎ, НА КНІГІ ЯКІХ У ЗБОРНІКУ ЗМЕШЧАНЫ КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

# З М Е С Т

